ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2010/8
(272)
жнівень

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
"РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**"Беларуская мова
і літаратура ў школе"**)

Галоўны рэдактар

**Зоя
ПАДЛІПСКАЯ**

**WWW.RS.UNIBEL.BY**



Над нумарам працавалі

рэдактары:

**Андрэй Грыгаровіч** (*Міністэрства адукацыі прапануе; Методыка і вопыт:* Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу, У дапамогу настаўніку, Рыхтуемся да алімпіяды; *Калі закончыўся ўрок:* Скарбонка мудрасці),

**Аляксандр Канановіч** (*Нацыянальная і сусветная культура:* Свята народнай творчасці),

**Вольга Крукоўская** (*Калі закончыўся ўрок:* Да Дня беларускага пісьменства),

**Крысціна Пучынская** (*Міністэрства адукацыі прапануе; Літаратура і час:* Нацыянальны вобраз свету, З юбілеем!, Пошукі і знаходкі, Літаратурнае пабрацімства, Паэтычная старонка, *Нацыянальная і сусветная культура:* Скарбніцы мудрасці; Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён, Крыжаванка),

**Ларыса Сагановіч** (*Мовы рысы непаўторныя:* Асобы, Мова мастацкіх твораў, Гістарычны слоўнік распавядае, Скарбы мовы; *Методыка і вопыт:* Новае ў правапісе),

**Мікола Трус** (*Літаратура і час:* У энцыклапедыю "Максім Багдановіч"),

**Наталля Шапран** (*Нацыянальная і сусветная культура:* Музейны квартал, Вяртанне да вытокаў, Дыялог з карцінай),

намеснік галоўнага рэдактара **Марыя Кныш,**
адказны сакратар **Аляксандр Канановіч,**
дзяжурны рэдактар **Крысціна Пучынская,**
літаратурныя рэдактары **Ніна Ваніцкая, Вольга Крукоўская,**
вядучы рэдактар літаратурны **Алена Салахітдзінава,**
тэхнічны рэдактар **Канстанцін Лісецкі,**
галоўны бухгалтар **Валянціна Ракіцкая,**
загадчык прыёмнай **Вольга Барздова.**

# Змест



Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь
для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).

У 2010/11 навучальным годзе для арганізацыі і правядзення факультатыўных заняткаў па вучэбным прадмеце "Беларуская літаратура" рэкамендуецца выкарыстоўваць зацверджаныя навукова-метадычнай установай "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наступныя вучэбныя праграмы.

Людміла ЦІТОВА

# *"БРАМУ СКАРБАЎ СВАІХ АДЧЫНЯЕМ…"*

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ V КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праграма факультатыўнага курса "Браму скарбаў сваіх адчыняем…" скіравана на ўзнаўленне, паглыбленне і сістэматызацыю ведаў, уменняў і навыкаў, атрыманых пяцікласнікамі ў працэсе спасціжэння асноўнага курса беларускай літаратуры, а таксама на развіццё пазнавальнай актыўнасці і творчых здольнасцей вучняў. Прапанаваная праграма цалкам суадносіцца з праграмай па беларускай літаратуры для V класа. Курс роднай літаратуры ў V класе займае асобнае месца ў сістэме школьнага навучання – ён з'яўляецца пераходным ад пачатковай школы (літаратурнага чытання) да сістэматычнай літаратурнай адукацыі (літаратурнага навучання). У пяцікласнікаў фарміруецца ўяўленне пра літаратуру як чалавеказнаўства і як мастацтва слова, якому ўласцівы адметныя спосабы вобразнага адлюстравання жыцця; вучні пазнаюць жыццё і чалавека праз мастацкае, эстэтычнае адлюстраванне рэчаіснасці і праз маральна-этычную ацэнку падзей і паводзін герояў. Мастацкі твор, яго жыццёва-пазнавальныя, мастацка-эстэтычныя, каштоўнасна-ацэначныя якасці – галоўны аб'ект увагі на ўроках літаратуры і на факультатыўных занятках. Пяцікласнікі спасцігаюць мастацкую прыроду, жанравае і тэматычнае багацце фальклорных і літаратурных твораў, авалодваюць культурай чытання (набываюць чытацкі вопыт, уменні бегла чытаць і аналізаваць творы розных жанраў) і маўленчай культурай (уменні эстэтычнага ўспрымання, выразнага чытання, маўлення, пісьма).

Сучасная праграма па літаратуры арыентуе настаўнікаў на выпрацоўку ў вучняў неабходных тэарэтычных ведаў па выразным чытанні і фарміраванне ў іх пэўных практычных уменняў, разлічаных на павышэнне чытальніцкага майстэрства, чытацкай і маўленчай культуры ў цэлым. Аднак для дасягнення гэтых мэт недастаткова школьных урокаў. Факультатыў па роднай літаратуры дапаможа настаўніку вучыць школьнікаў выразна чытаць мастацкія творы розных жанраў, перадаваць голасам лагічную і сінтаксічную мелодыку мовы, рытм верша, будову паэтычнай і празаічнай мовы.

Каб удасканаліць уласнае чытальніцкае майстэрства, вучню неабходна авалодаць цэлым комплексам спецыяльных уменняў (выпрацаваць фанацыйнае дыханне, правільнае вымаўленне, дасканалую дыкцыю, валоданне голасам; навучыцца эмацыянальна адгукацца на твор, узнаўляць малюнкі і карціны, створаныя пісьменнікам, разумець пачуцці герояў і суперажываць ім, арыентавацца ў сістэме вобразаў, спасцігаць аўтарскую пазіцыю, правільна вызначаць мэту чытання, каб перадаць неабходныя думкі і пачуцці, дапамагчы слухачам зразумець твор мастацтва і атрымаць ад яго асалоду).

Падчас факультатыўных заняткаў развіваюцца і ўдасканальваюцца ўменні пяцікласнікаў аналізаваць мастацкія творы, адказваць на пытанні, выконваць заданні, чытаць і пераказваць літаратурны тэкст з максімальнай перадачай яго ідэйнай задумы, жанравых асаблівасцей, разуменнем пазіцыі аўтара і выяўленнем уласнай ацэнкі.

**Мэты факультатыўных заняткаў:**

• дапамагчы пяцікласнікам спасцігнуць тэматычную разнастайнасць, паэтыку і жанравую спецыфіку фальклорных і літаратурных твораў, асноўныя сродкі мастацкага выяўлення;

• развіваць эмацыянальную сферу, вобразнае мысленне вучняў, паглыбляць першаснае ўспрыманне мастацкага твора, вучыць разумець агульны пафас твора, узнаўляць вобразы, суперажываць выказаным пачуццям;

• удасканальваць практычныя ўменні школьнікаў (чытаць, пераказваць і аналізаваць мастацкія творы, супастаўляць іх па жанрах, тэмах, сюжэтах, вобразах, выяўленчых сродках мастацкай выразнасці, свабодна выказваць думкі, рабіць самастойныя вывады, абгрунтоўваць свае адносіны да герояў і падзей);

• сістэматызаваць і паглыбіць набытыя на ўроках мовы і літаратуры веды пра культуру

маўлення, тэхніку выразнага чытання, спрыяць паступоваму авалоданню майстэрствам выразнага чытання і расказвання, удасканальваць маўленчую культуру вучняў;

• абуджаць у пяцікласнікаў цікавасць да літаратурнай творчасці, паглыбляць іх уяўленне пра віды творчых прац па літаратуры, методыку іх падрыхтоўкі;

• падтрымліваць і развіваць цікавасць школьнікаў сярэдняй ступені да розных відаў мастацтва (тэатра, музыкі, жывапісу), выхоўваць іх мастацкі густ;

• пашыраць чытацкую культуру пяцікласнікаў, фарміраваць цікавасць да літаратуры як да школьнага прадмета і да працэсу навучання ў цэлым.

Методыка арганізацыі факультатыўных заняткаў надзвычай багатая і разнастайная: практыкуюцца тэарэтычныя і практычныя заняткі, розныя віды чытання твораў, разнастайныя творчыя работы па літаратуры: пераказ (падрабязны, сціслы, вольны, выбарачны, творчы – з працягам або са зменай апавядальніка), адказы на праблемныя пытанні і выкананне творчых заданняў (замалёўка, паведамленне, сачыненне-мініяцюра з элементамі апісання і разважання, характарыстыка героя або параўнальная характарыстыка, міні-даследаванне, завочная экскурсія, літаратурная гульня і інш.), інсцэніраванне.

Праграма арыентавана на эстэтычны і творчы характар успрымання школьнікамі прапанаванага матэрыялу, на індывідуальна-асобасны падыход да навучання і ўлічвае ўзроставыя асаблівасці і інтэлектуальныя магчымасці пяцікласнікаў. Змест і структура раздзелаў праграмы факультатыўных заняткаў адпавядаюць раздзелам праграмы курса літаратуры для V класа. Праграма факультатыўных заняткаў прапануе фальклорныя і літаратурныя творы розных жанраў і анатацыі да іх, асноўныя звесткі па тэорыі літаратуры, а таксама акрэсленую сістэму творчых работ вучняў.

Праграма факультатыўных заняткаў разлічана на 35 гадзін. Яна прапануе прыкладнае размеркаванне вучэбнай нагрузкі па акрэсленых тэмах. Настаўнік можа скарэкціраваць аб'ём тэарэтычнага і практычнага матэрыялу і пераразмеркаваць гадзіны, вызначыць віды і колькасць творчых заданняў па пэўнай тэме зыходзячы з канкрэтных абставін. На факультатыўных занятках можна дадаткова скарыстаць творы, прапанаваныя праграмай па літаратуры для пазакласнага чытання, а таксама – абраныя настаўнікам або вучнямі (са згоды настаўніка). Пажадана выкарыстоўваць тэхнічныя сродкі навучання: дыктафон або магнітафон для запісу і праслухоўвання чытання вучняў і дэманстрацыі гуказапісу майстроў мастацкага слова, відэамагнітафон для прагляду асобных сцэн з тэатральных спектакляў і кінафільмаў і інш.

## ЗМЕСТ КУРСА

(35 гадзін)

### I. Роднае слова

(4 гадзіны)

***Асновы выразнага чытання***

*Літаратурная творчасць: адказы на пытанні, вуснае выказванне, вуснае сачыненне з элементамі разважання.*

**Уводзіны. Багацце беларускай мовы. Культура маўлення асобы.** Беларуская мова – нацыянальнае духоўнае багацце народа. Самабытнасць і арыгінальнасць беларускай мовы. Роля мовы ў жыцці грамадства. Беларускія пісьменнікі пра родную мову.

**Якуб Колас. "Слова – радасць, слова – чары…"; Пятрусь Броўка. "Багата, родная ты мова…"; Пімен Панчанка. "Родная мова"; Ніл Гілевіч. "Тут, між гэтых пагоркаў, у гэтых барах і дубровах…"; Анатоль Грачанікаў. "Мова…".** Родная мова – захавальніца нацыянальнай патрыятычнай свядомасці, крыніца натхнення паэтаў. Заклапочанасць аўтараў яе лёсам. Замілаванне багаццем, хараством, змястоўнасцю і эмацыянальнай выразнасцю беларускай мовы, перададзенае праз арыгінальная эпітэты, параўнанні, метафары. Экспрэсіўнасць выказванняў. Мастацкая дасканаласць паэтычных вобразаў, інтанацыйнае багацце вершаў.

*Аналіз і выразнае чытанне вершаў. Аналіз уласнага і чужога чытання паводле захавання арфаэпічных нормаў.*

### II. Вусная народная творчасць

(12 гадзін)

***Асновы культуры маўлення***

*Літаратурная і мастацкая творчасць: складанне плана, пераказ, выразнае чытанне па ролях, інсцэніраванне, складанне загадак і казак, вуснае сачыненне-мініяцюра паводле прыказкі, ілюстраванне.*

**Прыказкі.** Паэтычнае асэнсаванне жыцця ў творах беларускага фальклору. Увасабленне мудрасці, адлюстраванне шматвяковага жыццёвага і працоўнага вопыту, псіхалогіі, светапогляду, маральна-этычных і эстэтычных ідэалаў народа. Ідэйна-тэматычны змест, абагульненасць, павучальнасць, асацыятыўнасць, пераносны сэнс прыказак. Іронія як істотная прыкмета прыказак. Мастацкая дасканаласць прыказак: сцісласць і выразнасць, адметная будова, ёмістасць і яркасць мастацкіх вобразаў, лаканічнасць, трапнасць і выразнасць мовы. Народная педагогіка ў прыказках.

*Калектыўная праца па падрыхтоўцы сачынення з элементамі разважання паводле прыказкі.*

***Нормы літаратурнага вымаўлення. Тэхніка маўлення.*** Арфаэпія. Асноўныя арфаэпічныя нормы беларускай мовы. Голас (дыяпазон, вышыня, тэмбр, сіла, палётнасць). Дыкцыя. Значэнне выразнай дыкцыі ў вусным маўленні. Дыханне і яго роля ў вусным маўленні, маўленчае дыханне.

*Практыкаванні па артыкуляцыі (чысціня і выразнасць гукаў). Практыкаванні па дыкцыі. Практыкаванні па дыханні. Падзел тэкстаў прыказак на маўленчыя часткі. Складанне партытуры чытання. Выразнае чытанне прыказак.*

**Загадкі.** Паходжанне і тэматычнае багацце загадак. Паэтычнае асэнсаванне свету ў загадках. Будова загадак па прынцыпе супастаўлення прадметаў рэчаіснасці паводле іх знешніх і ўнутраных якасцей (па форме, колеры, гуку, выніках дзеяння, паводзінах, характары руху і інш.). Іншасказальны характар загадак. Літаратурныя загадкі. Мастацкая дасканаласць і выразнасць формы, лаканізм, дасціпнасць і мудрасць загадак. Роля загадак у развіцці фантазіі, мастацкавобразнага мыслення, назіральнасці, кемлівасці, знаходлівасці чалавека.

*Загадванне і адгадванне загадак, калектыўнае складанне загадак.*

***Логіка маўлення. Лагічная паўза. Лагічны націск.*** Маўленчыя такты. Сродкі лагічнай выразнасці маўлення (націск, паўзы, мелодыя). Паўза, мелодыя і знакі прыпынку. Лагічныя паўзы. Паўзы, звязаныя з вершаванай мовай. Працягласць паўзаў. Графічнае абазначэнне паўзаў. Лагічны націск – ключ для разумення фразы. Графічнае абазначэнне лагічнага націску.

*Падзел тэкстаў загадак на маўленчыя часткі, расстаноўка паўз, вызначэнне лагічнага націску.*

**Прыкметы і павер'і.** Увасабленне ў прыкметах і павер'ях вопыту і мудрасці народа. Спасціжэнне чалавекам навакольнага свету і ўсведамленне свайго месца ў ім. Дарадчая, перасцерагальная, забаронная функцыі прыкмет і павер'яў, іх скіраванасць на паляпшэнне дабрабыту працоўнага чалавека. Трапнасць, афарыстычнасць мовы прыкмет і павер'яў, іх блізкасць да загадак, прыказак.

*Калектыўная творчая работа (вуснае сачыненне-мініяцюра з элементамі апісання) па прыкметах і павер'ях.*

***Інтанацыя.*** Інтанацыя пры знаках прыпынку. Мелодыка маўлення. Інтанацыя апавядальная, пытальная, клічная. Перадача сродкамі інтанацыі асаблівасцей розных канструкцый сказаў. Графічнае абазначэнне элементаў выразнага чытання. Роля інтанацыі ў вусным маўленні. Залежнасць інтанацыі і сілы голасу ад мэты выказвання.

*Падзел тэкстаў прыкмет і павер'яў на маўленчыя часткі, расстаноўка паўзаў, вызначэнне лагічнага націску, аналіз інтанацыі.*

**Легенда "Лебядзёўка".** Гісторыя паходжання вёскі Лебядзёўка. Старадаўнія традыцыі мясцовых жыхароў, іх стаўленне да лебедзяў, што жылі на возеры. Лебедзі як сімвал гордасці, мудрасці, працавітасці. Вобразы Варажбіткі і Нічыпара – лайдака і прайдзісвета. Фантастычнае і чароўнае ў народнай легендзе. Лаканічнасць і мастацкая выразнасць мовы твора.

*Вызначэнне асноўных эпізодаў, складанне плана, вусны пераказ легенды.*

**Народныя казкі.** Асаблівасць зместу, сістэма вобразаў, характэрныя прыёмы мастацкага адлюстравання ў народных казках. Шырыня ахопу жыццёвых з'яў, глыбіня абагульнення, яркасць вобразаў. Супрацьстаянне дабра і зла – пастаянны матыў народных казак. Павучальны сэнс народных казак. Мастацкая выдумка ў казках. Віды народных казак: чарадзейныя, бытавыя, казкі пра жывёл.

**Казка "Чаму барсук і лісіца ў норах жывуць".** Асноўная калізія казкі – выбар ляснымі жыхарамі сабе хвастоў. Казачныя персанажы – леў, барсук, ліса, мядзведзь, вавёрка, куніца, конь, лось, заяц і інш. Кампазіцыйная завершанасць казкі, рыфмаваная і рытмізаваная мова, шырокае ўжыванне трапных выслоўяў. Разгорнуты дыялог.

**Чарадзейная казка "Андрэй за ўсіх мудрэй".** Захапляльнасць, напружанасць, дынамізм сюжэта, нечаканасць яго паваротаў. Вобраз Андрэя – цікаўнага і спагадлівага хлопца. Станоўчыя і адмоўныя персанажы. Мастацкая гіпербала як сродак характарыстыкі герояў. Чароўныя і цудадзейныя прадметы. Казачная паэтыка.

*Выразнае чытанне казкі, складанне плана, падрабязны пераказ. Калектыўнае складанне чарадзейнай казкі (з выкарыстаннем знаёмых казачных сюжэтаў і вобразаў) і спроба мастацкага расказвання казкі.*

**Бытавая казка "Як Сцёпка з панам гаварыў".** Займальнасць сюжэта. Выяўленне мудрасці, кемлівасці, дасціпнасці ў вобразе мужыка Сцёпкі. Роля выдумкі і фантазіі, характар канфлікту. Адметнасці стылю і вобразнай сістэмы бытавой казкі. Індывідуалізацыя мовы персанажаў. Дыялог як сродак характарыстыкі герояў. Мараль у бытавой казцы. Гумар у казцы і яе падабенства да анекдота.

*Чытанне казкі па ролях, інсцэніроўка фрагмента казкі.*

***Эмацыянальна-вобразная выразнасць маўлення.*** Аснова эмацыянальна-вобразнай выразнасці маўлення – перадача пры чытанні вобразаў, думак і эмацыянальна-валявых памкненняў чытача. Сродкі выразнасці: сіла гуку, вышыня гуку, тэмбр, тэмп, тон маўлення. Павышэнне і паніжэнне тону.

*Практыкаванні па тэхніцы і логіцы маўлення, па развіцці творчага ўяўлення, уменні звяртацца да слухачоў з мэтай перадачы сваіх думак, эмоцый, пачуццяў. Формы зносін з аўдыторыяй.*

**III. Літаратурныя казкі**

(4 гадзіны)

*Літаратурная і мастацкая творчасць: творчы пераказ з працягам, вуснае выказванне, вуснае сачыненне з элементамі разважання, ілюстраванне.*

**Міхаіл Савіцкі. "Прыгоды Муркі" (урывак).** Рэальна-жыццёвая аснова літаратурнай казкі, займальнасць сюжэта. Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы вобразаў, псіхалагізм у раскрыцці вобраза кошкі Муркі. Прырода ў творы. Вобраз апавядальніка.

*Выразнае чытанне асобных эпізодаў казкі, складанне плана, творчы пераказ (з працягам казкі).*

**Ханс Крысціян Андэрсен. "Ёсць жа розніца!".** Алегарычна-філасофскі змест казкі. Маральна-этычныя праблемы ў творы. Фанабэрыстасць, легкадумнасць яблыневай галінкі, яе стаўленне да звычайных раслін. Сонечны прамень як увасабленне мудрага, разважлівага стаўлення да жыцця. Вобразы маладой графіні і старой бабулі, іх адносіны да кветак. Сродкі мастацкай выразнасці ў казцы. Аўтар-апавядальнік у творы.

*Вольны пераказ казкі, характарыстыка яблыневай галінкі, ілюстрацыі да твора.*

**IV. Выразнасць мастацкага слова**

(6 гадзін)

*Літаратурная і мастацкая творчасць: вуснае маляванне словамі, творчы пераказ, вуснае калектыўнае сачыненне па карціне, вуснае сачыненне з элементамі апісання.*

**Янка Купала. "Дуб"; Пімен Панчанка. "Красавіцкая навальніца"; Хведар Жычка. "За ягадным лесам"; Янка Сіпакоў. "Чым пахне дождж"; Еўдакія Лось. "Мінулагодні ліст"; Вера Вярба. "Схіляецца ніва да самай зямлі…"; Кузьма Чорны. "На схіле восені".** Майстэрства аўтараў у перадачы колеравай і гукавой гамы навакольнага свету. Замілаванне харастве родннай прыроды. Тонкасць паэтычнага светаадчування. Адухоўленасць карцін прыроды. Эмацыянальная пранікнёнасць, цеплыня, задушэўнасць выказванняў, даверлівасць інтанацыі. Вобразнасць, выразнасць і пластычнасць мовы твораў.

*Аналіз рэпрадукцый карцін беларускіх мастакоў (Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Паўла Масленікава, Эдуарда Рымаровіча, Уладзіміра Сулкоўскага, Уладзіміра Савіча, Міколы Купавы або іншых пейзажыстаў – на выбар настаўніка).*

*Параўнальны аналіз пейзажу ў літаратурным творы і ў жывапісе. Вуснае калектыўнае сачыненне па карціне.*

***Аналіз і выразнае чытанне прыродаапісальных лірычных твораў.*** *Вызначэнне ўсіх кампанентаў твора (настраёвасць, аўтарскія пачуцці і перажыванні, вобразы, будова). Падрыхтоўка партытуры, удакладненне выканальніцкай задачы, выразнае чытанне вершаў. Вуснае маляванне.*

***Аналіз і выразнае чытанне прыродаапісальных эпічных твораў.*** *Аналіз, складанне партытуры, выразнае чытанне пейзажнай празаічнай замалёўкі. Пераказ паводле апісання. Вуснае сачыненне-мініяцюра з элементамі апісання.*

**V. Літаратурны твор – складанае і непадзельнае мастацкае адзінства**

(7 гадзін)

*Літаратурная і мастацкая творчасць: выразнае чытанне, пераказ, адказы на пытанні, вуснае сачыненне з элементамі разважання, ілюстраванне.*

**Вячаслаў Адамчык. "Сонечны зайчык".** Гісторыя кошкі, значэнне гісторыі ў раскрыцці ідэі апавядання. Напружанасць сюжэта. Гуманістычны пафас твора. Ідэя дабрыні і міласэрнасці да прыроды. Псіхалагізм у раскрыцці лёсу няшчаснай жывёлы. Асоба аўтара-апавядальніка ў творы.

*Пераказ асобных эпізодаў, адказы на праблемныя пытанні, вуснае сачыненне з элементамі апісання і разважання пра свайго хатняга гадаванца.*

**Янка Маўр. "Шчасце".** Рэальна-жыццёвая аснова апавядання. Адкрытасць, даверлівасць хлопчыка. Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы душэўнага стану героя. Мяккі лірызм аповеду. Роля пейзажу ў творы.

*Вусная замалёўка пра аўтара-апавядальніка.*

**Янка Брыль. "Маці".** Трагічнае гучанне твора. Кантраснасць і эмацыянальная сугучнасць карцін прыроды і стану душы маці. Прыёмы абмалёўкі характараў маці і сына Сцяпана. Драматызм, напружанасць сюжэта. Роля заключнага эпізоду ў раскрыцці тэмы.

***Аналіз і выразнае чытанне эпічных твораў.*** *Вызначэнне тэмы і ідэі, месца і часу дзеяння, ха-*

*рактарыстыка вобразаў, сродкаў іх стварэння (апісанні прыроды, інтэр'еру, знешняга выгляду; аналіз учынкаў і перажыванняў, матывацыя паводзін), высвятленне пазіцыі аўтара, ацэнка твораў вучнямі.*

**VI. Прыгоды**
(2 гадзіны)

*Літаратурная і мастацкая творчасць: выразнае чытанне, творчы пераказ, інсцэніраванне, вуснае выказванне з абгрунтаваннем уласнай ацэнкі, калектыўнае складанне прыгодніцкага твора.*

**Міхась Лынькоў. "Прыгоды Міколкі з дзедам Астапам" (урывак з аповесці "Міколка-паравоз").** Прыгодніцкі характар твора. Займальнасць сюжэта. Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы характараў Міколкі і дзеда Астапа. Раскрыццё характараў праз дыялогі. Роля гумарыстычных элементаў у выяўленні аўтарскіх адносін да герояў.

*Вуснае выказванне з абгрунтаваннем уласнай ацэнкі твора.*

*Конкурс на найлепшага чытальніка (1 гадзіна).*

**Прагназуемыя вынікі**

Пяцікласнікі павінны **ведаць**:

• аўтараў, назвы і змест разгледжаных твораў;

• асноўныя жанравыя ўласцівасці фальклорных твораў – прыказак, загадак, прыкмет і павер'яў, народных казак і легендаў;

• асноўныя жанравыя ўласцівасці мастацкіх твораў – літаратурных казак, лірычных вершаў, апавядання, аповесці;

• асноўныя сродкі мастацкай выразнасці.

Пяцікласнікі павінны **ўмець**:

• выразна, у правільным тэмпе і з захаваннем адпаведнай інтанацыі чытаць фальклорныя і літаратурныя творы розных жанраў, разумеючы іх агульную настраёвасць, асэнсоўваючы пафас, разумеючы пазіцыю аўтара і выяўляючы свае адносіны да прачытанага;

• узнаўляць мастацкія карціны і вобразы;

• умець падрабязна, сцісла, вольна, выбарачна або творча пераказваць апавядальны твор ці ўрывак з яго;

• характарызаваць героя па яго паводзінах і ўчынках ці ў святле пастаўленага настаўнікам пытання; параўноўваць герояў аднаго або розных твораў;

• даваць маральную ацэнку ўчынкам і паводзінам героя і выяўляць яе пры чытанні, пераказе, адказе на пытанне;

• рыхтаваць вусныя замалёўкі, паведамленні, сачыненні з элементамі апісання і разважання на зададзеную тэму;

• асэнсоўваць свае ўражанні, эмоцыі, пачуцці і апісваць іх;

• інсцэніраваць фрагмент п'есы, казкі, эпізод з апавядання або аповесці, прадумваючы рэплікі і дыялогі герояў, аўтарскія рэмаркі, дэкарацыі, касцюмы, музычнае суправаджэнне.

**Літаратура**


1. **Артоболевский, Г. Б.** Художественное чтение / Г. Б. Артоболевский. – М., 1978.
2. **Буяльский, Б. А.** Искусство выразительного чтения : книга для учителя / Б. А. Буяльский. – М., 1986.
3. **Выкладанне беларускай мовы і літаратуры** / пад рэд. М. А. Лазарука. – Мінск, 1983.
4. **Завадская, Т. Ф.** Искусство чтения в художественном развитии подростка / Т. Ф. Завадская. – М., 1968.
5. **Калеснік, У.** Вусная мова і выразнае чытанне / У. Калеснік, Ф. Янкоўскі. – Мінск, 1962.
6. **Каляда, А. А.** Мастацкае чытанне ў школе / А. А. Каляда. – Мінск, 1992.
7. **Ладыженская, Т. А.** Живое слово / Т. А. Ладыженская. – М., 1986.
8. **Лазарук, М. А.** Навучанне і выхаванне творчасцю / М. А. Лазарук. – Мінск, 1994.
9. **Лаўрэль, Я. М.** Навучанне сціcламу пераказу / Я. М. Лаўрэль // Народная асвета. – 1985. – № 2. – С. 34 – 39.
10. **Лаўрэль, Я. М.** Выбарачны пераказ і методыка яго правядзення / Я. М. Лаўрэль // Народная асвета. – 1986. – № 5. – С. 37 – 42.
11. **Лаўрэль, Я. М.** Пераказ з творчымі заданнямі / Я. М. Лаўрэль // Народная асвета. – 1986. – № 8. – С. 43 – 48.
12. **Ленсу, А. Я.** Вывучэнне тэорыі літаратуры ў школе / А. Я. Ленсу. – Мінск, 1985.
13. **Ляшук, В. Я.** Вывучэнне эпічных твораў / В. Я. Ляшук. – Мінск, 1987.
14. **Методика выразительного чтения** / под ред. Т. Ф. Завадской. – М., 1977.
15. **Методыка выкладання беларускай літаратуры** / пад рэд. В. Я. Ляшук. – Мінск, 2002.
16. **Никольская, С. Т.** Техника речи / С. Т. Никольская. – М., 1978.
17. **Протчанка, В. У.** Роднае слова – крыніца развіцця асобы, духоўнасці асобы / В. У. Протчанка // Адукацыя і выхаванне. – 1994. – № 12.
18. **Рагойша, В. П.** Гутаркі пра верш : Метрыка, рытміка, фоніка / В. П. Рагойша. – Мінск, 1979.
19. **Рагойша, В. П.** Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – Мінск, 1979.
20. **Роднае слова захапляе, узбагачае, выхоўвае** / склад. М. Б. Яфімава. – Мінск, 1991.
21. **Смыкоўская, В. І.** Развіццё мовы вучняў на ўроках літаратуры / В. І. Смыкоўская. – Мінск, 1988.
22. **Туркевіч, В. М.** Творчасці зярняты залатыя / В. М. Туркевіч. – Мінск, 1985.
23. **Урок літаратуры ў школе** : кніга для настаўніка / пад рэд. М. А. Лазарука і В. У. Івашына. – Мінск, 1995.
24. **Цітова, Л. К.** Асаблівасці ўспрымання лірыкі вучнямі V – VIII класаў / Л. К. Цітова. – Мінск, 1993.
25. **Яленскі, М. Г.** Развіццё вуснай мовы вучняў / М. Г. Яленскі. – Мінск, 1985.
26. **Янкоўскі, Ф. М.** Беларускае літаратурнае вымаўленне / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1970.
27. **Янкоўскі, Ф. М.** Само слова гаворыць / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1986.
28. **Яфімава, М. Б.** Гучыць жывое слова / М. Б. Яфімава. – Мінск, 1983.

Людміла ЦІТОВА

# *“СЛОВА – РАДАСЦЬ, СЛОВА – ЧАРЫ…”*

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ VI КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праграма факультатыўнага курса “Слова – радасць, слова – чары…” скіравана на пашырэнне і сістэматызацыю ведаў, уменняў і навыкаў, атрыманых шасцікласнікамі ў працэсе спасціжэння асноўнага курса беларускай літаратуры, і развіццё іх творчых здольнасцей. Праграма распрацавана з улікам зместу курса беларускай літаратуры для VI класа і прапануе комплекс спецыяльных заняткаў па развіцці эмацыянальнай сферы вучняў, авалоданні вопытам літаратурнай і мастацкай творчасці. Факультатыўны курс “Слова – радасць, слова – чары…” мае завершаны характар, разам з тым ён пабудаваны ў цеснай пераемнасці з факультатывам “Браму скарбаў сваіх адчыняем…” для V класа.

Праграма па беларускай літаратуры для VI класа прадугледжвае набыццё вучнямі пэўных тэарэтычных ведаў і выпрацоўку практычных уменняў, разлічаных на павышэнне чытацкай і маўленчай культуры школьнікаў. Авалоданне ўменнямі эмацыянальна ўспрымаць і аналізаваць мастацкія творы розных жанраў з’яўляецца асновай для духоўнага ўзбагачэння вучняў, спасціжэння імі літаратуры як чалавеказнаўства і мастацтва слова. На ўроках літаратуры падлеткі таксама набываюць асобныя тэарэтычныя веды і элементарныя практычныя навыкі па авалоданні майстэрствам аповеду, мастацкага расказвання, інсцэніравання. Аднак трэба пашырыць тэарэтычны і практычны досвед шасцікласнікаў у літаратурнай творчасці, удасканаліць аналітычныя ўменні і творчыя магчымасці, у пэўнай ступені развіць акцёрскія здольнасці. Факультатыўны курс “Слова – радасць, слова – чары…” дапаможа настаўніку вырашыць гэтыя праблемы. Праграма курса скіравана на фарміраванне ў падлеткаў шэрагу спецыяльных уменняў па прадмеце, на развіццё літаратурнай і мастацкай творчасці шасцікласнікаў.

Зместавую частку факультатыўнага курса складаюць мастацкія творы розных жанраў, разглядаюцца асобныя пытанні тэорыі літаратуры, падаюцца тэарэтычныя і практычныя звесткі пра спецыфіку літаратурнай творчасці. Школьнай праграмай па літаратуры прадугледжваецца эмпірычнае спасціжэнне шасцікласнікамі мастацкай прыроды эпічных, лірычных і драматычных твораў, іх жанравай і тэматычнай разнастайнасці. Таму на факультатыўных занятках у VI класе асноўная ўвага вучняў засяроджваецца на розных спосабах паказу рэчаіснасці і чалавека ў літаратуры. Вучні змогуць удасканаліць свае ўменні бегла і выразна чытаць і аналізаваць мастацкія творы, супастаўляць іх па тэмах, праблемах, настраёвасці, спосабах адлюстравання жыцця, выпрацоўваць уменні разважаць, свабодна выказваць свае думкі і рабіць высновы. У падлеткаў таксама будзе магчымасць паспрабаваць сілы ў літаратурнай і мастацкай творчасці: разгледзець праблемныя пытанні, падрыхтаваць вусныя паведамленні, пераказы розных відаў, вусныя замалёўкі, аповеды, сачыненні паводле літаратурнага твора, мастацкага палатна або ўласных назіранняў, водгукаў на творы літаратуры, музыкі, жывапісу, калектыўныя мінідаследаванні, стварыць літаратурна-музычныя кампазіцыі і сцэнарыі, падрыхтаваць літаратурныя вечарыны, інсцэніраванні, праілюстраваць асобныя фрагменты тэкстаў, наведаць тэатры, праслухаць і абмеркаваць аўдыязапісы з чытаннем літаратурных тэкстаў пісьменнікамі, майстрамі мастацкага слова, самімі вучнямі і інш.

Пажадана разнастаіць методыку правядзення факультатыўных заняткаў, актыўна выкарыстоўваць у працы тэхнічныя сродкі навучання: дыктафон або магнітафон для запісу і праслухоўвання вучнёўскага чытання і інтэрпрэтацыі літаратурных тэкстаў майстрамі мастацкага слова, відэамагнітафон для прагляду асобных сцэн з тэатральных і тэлевізійных спектакляў, кінафільмаў па літаратурных творах.

**Мэты факультатыўных заняткаў:**

• удасканальваць уменне школьнікаў аналізаваць мастацкі твор з улікам яго жанравых асаблівасцей, аўтарскай канцэпцыі жыцця і асобы;

• развіваць эмацыянальную сферу шасцікласнікаў, іх творчыя магчымасці, цікавасць да спасціжэння “таямніц” майстэрства выразнага і мастацкага чытання, літаратурнай творчасці;

• удасканальваць маўленчую культуру вучняў, пашыраць іх чытацкі вопыт, усебакова пад-

трымліваць і развіваць цікавасць да розных відаў мастацтва (тэатр, музыка, графіка, жывапіс і інш.).

Праграма факультатыўных заняткаў прадугледжвае развіццё і паглыбленне досведу шасцікласнікаў у падрыхтоўцы да розных відаў вуснага выказвання: пераказу (падрабязнага, вольнага, сціслага, выбарачнага, творчага – са зменай апавядальніка і з працягам), аповеду, апісання, разважання, сачынення (з элементамі апісання ці разважання), успамінаў, імправізацыі на аснове асабістых назіранняў і ўражанняў, а таксама літаратурных крыніц.

Навучанне шасцікласнікаў пераказу, аповеду, мастацкаму расказванню павінна быць планамерным, сістэмным, узыходзіць па ступенях цяжкасці ад элементарнага, простага да больш складанага. Вуснае маўленне школьнікаў – не толькі змястоўнае і зразумелае чытанне або выказванне, яно абавязкова павінна быць эмацыянальным, вобразным, цікавым, пераканальным. У працэсе публічнага чытання або расказвання асаблівую значнасць набывае індывідуальнасць прамоўцы: яго выканальніцкія здольнасці, валоданне нормамі літаратурнага вымаўлення, багацце слоўнікавага запасу, змястоўнасць, лагічнасць, выразнасць і эмацыянальнасць выказвання. Каб зацікавіць слухачоў, прымусіць іх суперажываць і хваляваццa, на факультатыўных занятках школьнікі будуць працаваць над уласнай манерай расказвання, аналізаваць заўвагі настаўніка і аднакласнікаў, вучыцца выказваць уласныя погляды і аргументавана адстойваць сваю пазіцыю. Адначасова падлеткі будуць вучыцца ўважліва слухаць іншых, асэнсоўваць і ацэньваць пачутае, удзельнічаць у абмеркаваннях і дыскусіях. Развіццё ўвагі да мастацкага слова, авалоданне чытацкай і маўленчай культурай дасць плён.

**Задачы факультатыўных заняткаў:**

• удасканаліць практычныя ўменні вуснага маўлення школьнікаў (чытаць, пераказваць і аналізаваць мастацкія творы, супастаўляць іх па жанрах, тэмах, сюжэтах, вобразах, выяўленчых сродках мастацкай выразнасці, рабіць самастойныя вывады, доказна і лагічна абгрунтоўваць свае адносіны да герояў і падзей, будаваць звязныя выказванні);

• на аснове найлепшых літаратурных узораў развіваць вобразнае мысленне вучняў, іх пазнавальныя інтарэсы, літаратурныя схільнасці і творчыя здольнасці;

• выхоўваць эстэтычны густ вучняў, фарміраваць у іх устойлівую патрэбу ў эстэтычнай дзейнасці (мастацкае і выразнае чытанне з'яўляюцца найбольш даступнымі і пашыранымі відамі эстэтычнай дзейнасці школьнікаў);

• пашыраць чытацкі вопыт, павышаць чытацкую культуру, агульнакультурны і інтэлектуальны ўзровень шасцікласнікаў.

Прапанаваная праграма прадугледжвае спасціжэнне школьнікамі агульначалавечых духоўных і маральных каштоўнасцей, эстэтычны і творчы характар успрымання прапанаванага матэрыялу, індывідуальна-асобасны падыход да навучання. Праграма пабудавана з улікам узроставых асаблівасцей і інтэлектуальных і творчых магчымасцей шасцікласнікаў.

Праграма факультатыўных заняткаў разлічана на 35 гадзін (адна гадзіна на тыдзень на працягу навучальнага года). Прапануецца прыкладнае размеркаванне вучэбнай нагрузкі па пэўных тэмах, аднак настаўнік можа скарэкціраваць змест і аб'ём тэарэтычнага і практычнага матэрыялу, выбраць для разгляду іншыя творы зыходзячы з уласнага густу і канкрэтных абставін, самастойна вызначыце віды і колькасць творчых вучнёўскіх заданняў па пэўнай тэме.

## ЗМЕСТ КУРСА

(35 гадзін)

### I. Слова прамаўляе…

(3 гадзіны)

**Генадзь Бураўкін. "Край мой"; Янка Сіпакоў. "Дружа мой!.."; Сяргей Законнікаў. "Зямля мая…".** Апяванне прыроды роднага краю як выяўленне патрыятычных пачуццяў аўтараў. Гонар паэтаў за сваю Радзіму, захапленне яе краявідамі, удзячнасць лёсу за шчасце жыць на роднай зямлі. Шанаванне багатай духоўнай спадчыны сваіх продкаў, сцвярджэнне найвышэйшых маральных каштоўнасцей чалавека. Глыбокі лірызм у перадачы пачуццяў, шчырасць і даверлівасць інтанацыі. Вобразнасць, пластычнасць, выразнасць, эмацыянальная насычанасць мовы. Гукавая інструментоўка вершаў.

*Літаратурная і мастацкая творчасць: выразнае чытанне вершаў, вуснае сачыненне з элементамі апісання і разважання паводле літаратурных твораў, аналіз рэпрадукцый пейзажных жывапісных палотнаў і супастаўленне іх з вершамі, напісанне ўласных вершаў і інш.*

### II. Слова заварожвае…

(6 гадзін)

**Міфы. Анатоль Бутэвіч. "Перуновага племені дзеці" (скарочана).** Узнікненне вобразнага, мастацкага слова. Міфы як этап культурнага развіцця народа. Паэтычнае асэнсаванне рэчаіснасці нашымі продкамі. Класіфікацыя міфаў: пра паходжанне і ўласцівасці аб'ектаў і з'яў прыроды; пра паходжанне чалавека; пра ўзнікненне сусвету; пра багоў і міфічных істот і

інш. Пантэон славянскіх і іншых багоў (Сварог, Пярун, Дажбог, Ярыла, Лада, Жыжаль, Вялес і інш.), міфічных істот (Дамавік, Палявік, Лесун, Балотнік, Русалка, Вадзянік, Ваўкалак і інш.). Пераход міфалагічных вобразаў і матываў у народныя легенды, казкі, замовы, павер'і, паданні, абрадавыя песні, мастацкія творы.

*Літаратурная і мастацкая творчасць: вуснае маляванне, творчы пераказ, вуснае сачыненне з элементамі апісання, ілюстраванне і інш.*

**III. Слова захапляе…**

(3 гадзіны)

**Людміла Рублеўская. "Янук – рыцар Мятлушкі".** Міфалагічная аснова п'есы-казкі. Фантастычнае і чароўнае ў творы. Паэтызацыя прыгажосці, душэўнай чысціні, вернасці ў каханні. Маральная перавага Мятлушкі над Даратэяй. Раскрыццё характараў герояў праз дыялогі, рэплікі, аўтарскія рэмаркі. Лексіка-сінтаксічныя адметнасці мовы.

*Літаратурная і мастацкая творчасць: выразнае чытанне па ролях, вуснае выказванне з абгрунтаваннем уласнай ацэнкі герояў, ілюстраванне, інсцэніраванне і інш.*

**IV. Слова распавядае…**

(4 гадзіны)

**Якуб Колас. "Даль"; Ханс Крысціян Андэрсен. "Садоўнік і гаспадары".** Алегарычна-філасофскі змест казкі "Даль" Якуба Коласа. Вобразы старой ліпы і яе нашчадкаў – маладога насення, якое не цэніць сваёй зямлі і імкнецца ў чужы край па прывіднае шчасце. Сувязь літаратурнай казкі з вуснай народнай творчасцю.

Алегарычны змест казкі "Садоўнік і гаспадары" Ханса Крысціяна Андэрсена, яе філасофскі падтэкст. Вобразы сціплага і працавітага садоўніка і фанабэрыстых, прыдзірлівых гаспадароў. Асоба аўтара-апавядальніка ў творы, яго стаўленне да сваіх герояў. Сувязь паэтыкі казкі з фальклорам.

*Літаратурная творчасць: складанне плана, пераказ, адказы на пытанні, вуснае выказванне з абгрунтаваннем уласнай ацэнкі твора, вуснае сачыненне з элементамі разважання і інш.*

**V. Слова чаруе…**

(5 гадзін)

**Аркадзь Куляшоў. "Пра восень"; Пімен Панчанка. "Красавіцкая навальніца"; Аляксей Пысін. "Не адчувае лес зямлі…"; Язэп Пушча. "Раніца"; Васіль Вітка. "Верасы".** Паэтызацыя прыроды ў вершах. Захапленне прыгажосцю і гармоніяй прыроды. Шматфарбнасць карцін, багацце вобразаў. Тонкасць паэтычнага светаадчування. Эмацыянальная пранікнёнасць, цеплыня, задушэўнасць выказвання, даверлівасць інтанацыі. Вобразнасць, выразнасць і пластычнасць мовы. Мастацкая роля тропаў у выяўленні хараства навакольнага свету.

*Літаратурная і мастацкая творчасць: вуснае маляванне, творчы пераказ, вусная замалёўка з элементамі апісання на падставе завочнай экскурсіі на прыроду, вуснае калектыўнае сачыненне па карціне, супастаўленне літаратурнага твора з рэпрадукцыяй пейзажнай карціны і інш.*

**VI. Слова хвалюе…**

(7 гадзін)

**Карусь Каганец. "Скрыпач і ваўкі"; Васіль Вітка. "Трывога ў Ельнічах"; Васіль Быкаў. "Сваякі".** Тэматычнае багацце твораў. Мастацкая праўда ў паказе жыццёвых падзей у апавядальных творах. Пісьменнікі як знаўцы чалавечай душы і псіхалогіі: тонкая назіральнасць, увага да жыццёвых падрабязнасцей, унутранага стану герояў, раскрыццё матываў іх учынкаў і паводзін. Прыёмы псіхалагічнай абмалёўкі характараў. Гуманістычны пафас твораў. Разнастайнасць сюжэтаў (казачны, жыццёва-рэалістычны, трагічны), іх дынамізм і драматычная напружанасць. Адметнасці будовы апавяданняў. Асоба апавядальніка ў творах.

*Літаратурная творчасць: складанне плана, пераказ, адказы на пытанні, вуснае выказванне з абгрунтаваннем уласнай ацэнкі герояў, вуснае сачыненне з элементамі разважання, падрыхтоўка вуснага (або пісьмовага) аповеду на падставе ўласных назіранняў і інш.*

**VII. Слова ўражвае…**

(4 гадзіны)

**Уладзімір Шыцік. "Настаўнік"; Анатоль Бутэвіч. "Прыгоды віруса Шкодзі" (урывак).** Фантастычныя падзеі як аснова сюжэтаў твораў, іх незвычайнасць, прыгодніцкі характар, займальнасць. Патрыятычны пафас апавядання "Настаўнік" Уладзіміра Шыціка, гуманістычнае гучанне твора. Захапленне вучняў космасам. Вобраз настаўніка.

Вобраз віруса Шкодзі, яго стасункі з іншымі персанажамі. Імкненне віруса Шкодзі да ўлады над жыхарамі Сеціва. Алегарычная аснова твора.

*Літаратурная і мастацкая творчасць: творчы пераказ з працягам, вусная характарыстыка героя, водгук на самастойна прачытаны твор, калектыўнае і індывідуальнае складанне фантастычнага твора і інш.*

**VIII. Слова ўсміхаецца…**

(2 гадзіны)

**Кандрат Крапіва. "Кукарэку"; Алесь Звонак. "Гарбуз".** Разнастайнасць сюжэтаў баек, іх алегарычны змест. Багацце вобразаў і сродкаў

абмалёўкі характараў у байках розных аўтараў. Асуджэнне ў байках чалавечых заган і недахопаў. Мараль у байцы як выяўленне аўтарскай пазіцыі.

*Літаратурная і мастацкая творчасць: выразнае чытанне па ролях, вуснае выказванне з ацэнкай герояў, інсцэніраванне, ілюстраванне, калектыўнае напісанне байкі і інш.*

*Конкурс на найлепшага апавядальніка (1 гадзіна).*

**Прагназуемыя вынікі**

Шасцікласнікі павінны **ведаць**:

• аўтараў, назвы і сюжэты прааналізаваных твораў, змест апавядальных тэкстаў, настраёвасць і рух паэтычнага пачуцця ў лірычных творах;

• асноўныя адметнасці лірычных і эпічных тэкстаў, вершаванай і празаічнай мовы;

• міфалагічных багоў і духаў, сутнасць міфалагічных вобразаў у літаратуры;

• жанравыя асаблівасці лірычнага верша, байкі, апавядання і аповесці;

• моўныя выяўленчыя сродкі мастацкай выразнасці і іх ролю ў тэксце.

Шасцікласнікі павінны **ўмець**:

• выразна, у правільным тэмпе і з захаваннем патрэбнай інтанацыі чытаць мастацкі тэкст з улікам жанравай спецыфікі, асэнсоўваючы яго пафас і выяўляючы свае адносіны да адлюстраванага; перадаваць пры чытанні і пераказе спецыфіку аўтарскага апісання, разважання, аповеду, маналогаў, дыялогаў герояў з захаваннем стылю пісьменніка і агульнага пафасу твора;

• падрабязна, сцісла, выбарачна або творча пераказваць апавядальны твор ці ўрывак з яго;

• узнаўляць мастацкія карціны і вобразы;

• разумець ролю эпізоду ў ідэйным змесце твора;

• устанаўліваць прычынна-выніковую сувязь паміж падзеямі і ўчынкамі герояў;

• характарызаваць героя ў святле пастаўленага настаўнікам пытання, параўноўваць герояў аднаго ці некалькіх твораў;

• даваць маральную ацэнку ўчынкам і паводзінам героя і выяўляць яе пры чытанні і ў вусным выказванні;

• асэнсоўваць свае ўражанні, эмоцыі, пачуцці і ўмець апісаць і выказаць іх;

• ствараць уласны аповед на аснове мастацкага твора, выяўляючы аўтарскую пазіцыю і свае адносіны да прачытанага;

• інсцэніраваць п’есу, байку ці эпізод празаічнага твора, пераўтвараючы дыялогі ў рэплікі, аўтарскую мову ў рэмаркі; прадумаць дэкарацыі, касцюмы, музычнае суправаджэнне і інш;

• ацэньваць літаратурны твор і творы іншых відаў мастацтва, разумеючы іх жанравую спецыфіку.

**Літаратура**


1. **Буяльский, Б. А.** Искусство выразительного чтения : книга для учителя / Б. А. Буяльский. – М., 1986.
2. **Выкладанне беларускай мовы і літаратуры** / пад рэд. М. А. Лазарука. – Мінск, 1983.
3. **Каляда, А. А.** Мастацкае чытанне ў школе **/** А. А. Каляда. – Мінск, 1992.
4. **Ладыженская, Т. А.** Живое слово / Т. А. Ладыженская. – М., 1986.
5. **Лазарук, М. А.** Навучанне і выхаванне творчасцю / М. А. Лазарук. – Мінск, 1994.
6. **Лаўрэль, Я. М.** Навучанне сціcламу пераказу / Я. М. Лаўрэль // Народная асвета. – 1985. – № 2. – С. 34 – 39.
7. **Лаўрэль, Я. М.** Выбарачны пераказ і методыка яго правядзення / Я. М. Лаўрэль // Народная асвета. – 1986. – № 5. – С. 37 – 42.
8. **Лаўрэль, Я. М.** Пераказ з творчымі заданнямі / Я. М. Лаўрэль // Народная асвета. – 1986. – № 8. – С. 43 – 48.
9. **Ленсу, А. Я.** Вывучэнне тэорыі літаратуры ў школе / А. Я. Ленсу. – Мінск, 1985.
10. **Ляшук, В. Я.** Вывучэнне эпічных твораў / В. Я. Ляшук. – Мінск, 1987.
11. **Методика выразительного чтения** / под ред. Т. Ф. Завадской. – М., 1977.
12. **Методыка выкладання беларускай літаратуры /** пад рэд. В. Я. Ляшук. – Мінск, 2002.
13. **Протчанка, В. У.** Роднае слова – крыніца развіцця асобы, духоўнасці асобы / В. У. Протчанка // Адукацыя і выхаванне. – 1994. – № 12.
14. **Рагойша, В. П.** Гутаркі пра верш : Метрыка, рытміка, фоніка / В. П. Рагойша. – Мінск, 1979.
15. **Рагойша, В. П.** Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – Мінск, 1979.
16. **Роднае слова захапляе, узбагачае, выхоўвае /** склад. М. Б. Яфімава. – Мінск, 1991.
17. **Смыкоўская, В. І.** Развіццё мовы вучняў на ўроках літаратуры / В. І. Смыкоўская. – Мінск, 1988.
18. **Туркевіч, В. М.** Творчасці зярняты залатыя / В. М. Туркевіч. – Мінск, 1985.
19. **Урок літаратуры ў школе** : кніга для настаўніка / пад рэд. М. А. Лазарука і В. У. Івашына. – Мінск, 1995.
20. **Цітова, Л. К.** Асаблівасці ўспрымання лірыкі вучнямі V – VIII класаў / Л. К. Цітова. – Мінск, 1993.
21. **Яленскі, М. Г.** Развіццё вуснай мовы вучняў / М. Г. Яленскі. – Мінск, 1985.
22. **Янкоўскі, Ф. М.** Беларускае літаратурнае вымаўленне / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1970.
23. **Янкоўскі, Ф. М.** Само слова гаворыць / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1986.
24. **Яфімава, М. Б.** Гучыць жывое слова / М. Б. Яфімава. – Мінск, 1983.

Таццяна ЛОГІНАВА
Таццяна МАРОЗ

# ТАЯМНІЦА ПАЭЗІІ І ЗАГАДКА ПРОЗЫ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ VII КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

У VII класе працягваецца спасціжэнне сутнасці слоўнага мастацтва, спецыфічных законаў яго функцыянавання. Увядзенне ў свет мастацкай літаратуры адбываецца праз параўнальны разгляд двух асноўных відаў мастацкай творчасці – паэзіі і прозы. Вучні павінны не толькі ўбачыць знешнія, фармальныя адрозненні паэзіі і прозы, але і зразумець самае істотнае ў гэтых відах літаратурнай творчасці. У вучняў павінна быць сфарміравана ўяўленне пра характар паэтычных і празаічных твораў, іх уплывы на жыццё. Паэзія – гэта не толькі рытмічная мова, але і мастацкая творчасць, якая абуджае моцныя перажыванні і пачуцці, выклікае асаблівую настроенасць душы пры ўспрыманні з'яў навакольнай рэчаіснасці. Галоўнае ў прозе – стварэнне пэўнай карціны жыцця, дакладнае, але пры гэтым вобразнае апісанне жыццёвага факта ці эпізоду.

Праграма факультатыўнага курса "Таямніца паэзіі і загадка прозы" прызначана для вучняў, якія захапляюцца мастацкім словам, адчуваюць яго адметнасць і прыгажосць, цікавяцца багаццем літаратурнай спадчыны. Факультатыўны курс "Таямніца паэзіі і загадка прозы" разам з урокамі беларускай літаратуры прызваны пашырыць матэрыял падручніка займальнай інфармацыяй, скіраваны на творча-практычнае замацаванне ведаў, уключэнне дзяцей у праектную і пошукавую дзейнасць, што не толькі дазволіць паспяхова арганізоўваць вучэбны працэс, але і будзе садзейнічаць развіццю эмацыянальнай сферы вучняў.

Прапанаваныя ў праграме творы дазваляюць фарміраваць у школьнікаў сістэму каштоўнасных адносін да жыцця, эстэтычныя ўяўленні, нацыянальную самасвядомасць, пашыраць мастацкі і агульнакультурны кругагляд, выхоўваць цікавасць да літаратуры як прадмета.

**Мэта курса** – пашыраць літаратурныя і культуралагічныя веды вучняў, развіваць іх эстэтычны густ і агульную культуру.

Вывучэнне прапанаванага курса мэтазгодна праводзіць комплексна: разгляд і замацаванне тэарэтычных ведаў спалучаць з сістэмай вучэбна-творчых заданняў. Засваенне тэарэтычных паняццяў пажадана канкрэтызаваць праз іх дыферэнцыяцыю, удакладненне, выкарыстоўваць метад назірання і інш. Веданне літаратуразнаўчых паняццяў, тэрмінаў дапаможа вучням свабодна арыентавацца ў праграмным матэрыяле.

Другі тып заданняў непасрэдна звязаны з развіццём навыкаў успрымання і аналізу паэтычных і празаічных твораў у іх мастацкай своеасаблівасці, выпрацоўкай агульных падыходаў да вывучэння мастацкага твора: чытанне і абмеркаванне вершаваных і празаічных твораў; правядзенне гутарак з выкарыстаннем мультымедыйных сродкаў; супастаўленне твораў розных жанраў на адну і тую ж тэму і г. д.

Серыя творчых заданняў факультатыўнага курса, разлічаных на прымяненне літаратурных ведаў, дазволіць вучням паспрабаваць сябе ў якасці акцёраў, рэжысёраў, папрацаваць над тэкстам п'есы (байкі, прозы, лірычнага верша), падрыхтаваць аналіз твора, імправізацыю, эцюд, чытанне па асобах і г. д.

У вучэбнай праграме па беларускай літаратуры ў VII класе звяртаецца ўвага на тое, што "вывучэнне літаратуры на гэтай ступені адукацыі – выхаванне ўдумлівага, дасведчанага чытача, які разбіраецца ў асноўных вартасцях мастацкіх твораў, умее ацэньваць іх змест, інакш кажучы, мае добрае адчуванне і разуменне спецыфікі літаратуры, багаты чытацкі вопыт, уласны эстэтычны густ". Факультатыўны курс дазваляе дасягнуць пастаўленай мэты за кошт нетрадыцыйнага навучання: выкарыстання асобасна арыентаваных, інфармацыйна-камунікатыўных, а таксама пошукавых тэхналогій навучання (практычныя метады – праекты, Open Space, case-study, вучэбныя гурткі і інш.).

Такім чынам, матэрыял факультатыўных заняткаў скіраваны на фарміраванне літаратурнай кампетэнцыі (веданне тэарэтычных паняццяў, жанравай адметнасці твораў паэзіі і прозы, сродкаў мастацкай выразнасці і інш.) праз развіццё ключавых кампетэнцый вучня (уменне вучыцца, самастойна набываць веды – аналізаваць, супастаўляць, шукаць адказы на пастаўленыя пытанні).

### ЗМЕСТ КУРСА
(35 гадзін)

**Асноўныя паняцці, тэрміны:** мастацтва ў жыцці народа. Талент у мастацтве. Віды мастацтва. Літаратура – мастацтва слова. Паэма як жанр (пачатковае паняцце). Пейзаж і яго роля ў мастацкім творы. Асаблівасці паэтычных і празаічных твораў. Рытм і рыфма (пачатковыя паняц-

ці). Выразнае чытанне мастацкіх твораў. Міміка. Паэзія як асаблівы від мастацкай літаратуры. Роля рытму ў паэтычных творах. Гукапіс. Codeшаскладанне. Віды стопаў і памераў у вершах. Двухскладовыя і трохскладовыя стопы (пачатковыя паняцці). Падтэкст у паэтычных творах. Мастацкая дэталь і яе роля ў апавядальных, празаічных творах. Аповед, апісанне, дыялог як спосабы раскрыцця зместу ў апавядальных творах. Віды апісанняў: інтэр'ер, пейзаж, партрэт. Проза як асаблівы тып мастацкай літаратурнай творчасці. Роля фантазіі пісьменніка. Паэтычная (лірычная) проза. Свабодны верш. Драма як род літаратуры, які прызначаны для сцэны. Інсцэніроўка. Структурныя элементы драмы і спектакля. Канфлікт (першапачатковае паняцце). Сцэнічная ўмоўнасць (развіццё паняцця).

**I. Уводзіны. Мастацтва ў жыцці народа: дзве сястры – Паэзія і Проза**

(2 гадзіны)

Разгляд асаблівасцей паэтычных і празаічных твораў з апорай на веды вучняў, атрыманыя ў папярэдніх класах. Вершаванае і празаічнае слова – магутны сродак уздзеяння на чалавека. "Усе віды мастацтва вучаць найвялікшаму з мастацтваў – мастацтву жыць на зямлі" (Б. Брэхт).

Тэма мастацтва і мастака ў вуснай народнай творчасці (казка "Музыка-чарадзей"), творчасці Янкі Купалы (паэма "Курган") і Якуба Коласа (урывак з паэмы "Сымон-музыка"), М. Багдановіча (апавяданне "Музыка"), Г. Сянкевіча (апавяданне "Янка-музыка").

*Гутарка з вучнямі па праблемных пытаннях: "Для чаго людзі чытаюць кнігі?", "Кніга толькі крыніца ведаў?". Правядзенне літаратурнай віктарыны "З якога твора словы?".*

**Практычныя заняткі** (6 гадзін, з іх 4 гадзіны – распрацоўка праектаў, 2 гадзіны – іх абарона).

*Выкарыстанне тэхналогіі "Open Space" для вызначэння праблемнага поля і фарміравання творчых груп. Падрыхтоўка праектаў на тэмы "У вершаваным слове ўсё!", "Вось яны, лёсы людскія!" (на выбар вучняў). Работа ў творчых групах або па жаданні вучняў індывідуальная з выкарыстаннем праграмных твораў (супастаўленне верша Якуба Коласа "Ручэй" і апавядання Т. Хадкевіча "Крынічка"; апавядання В. Быкава "Незагойная рана" і верша В. Зуёнка "З вайны сустрэлі мацяркі сыноў…" і інш.).*

**Абсталяванне:** "Вытокі". Хрэстаматыя для пазакласнага чытання ў VI класе. ШБ (уклад. М. Лазарук, Т. Логінава, А. Сігаева). Кнігі беларускіх пісьменнікаў. Мультымедыяпраектар, ноўтбук, CD-прайгравальнік, музычныя запісы.

**II. Таямніца паэзіі**

(4 гадзіны)

Паэзія як асаблівы від мастацкай літаратуры.

*Фарміраванне цікавасці вучняў да паэзіі, пашырэнне іх ведаў пра разнастайнасць тэматыкі паэтычных твораў (на матэрыяле праграмных). У паэтычным кантэксце слова набывае асаблівую выразнасць, становіцца ёмістым, сціслым, канцэнтраваным, шматзначным.*

*Роля паэзіі ў жыцці чалавека. Паэзія выконвае шэраг функцый: эстэтычную (задавальняе патрэбу чалавека ў прыгожым, выклікае перажыванне, фарміруе густ і ідэал); выхаваўчую (удзельнічае ў грамадска-палітычным і маральна-этычным выхаванні чалавека, дапамагае фарміраваць светапогляд); пазнавальную (фіксуе найтанчэйшыя душэўныя зрухі); камунікатыўную (наладжвае духоўныя кантакты паміж паэтам і чытачом).*

**Практычныя заняткі** (2 гадзіны)

*На практычных занятках настаўнік павінен развіваць творчыя здольнасці і слоўнікавы запас вучняў пры абмеркаванні пытанняў. Творчыя выказванні дзяцей на тэмы: "Усялякая паэзія ёсць выражэнне душэўнага стану" (А. Бергсан); "Паэзія – як жывапіс: адзін твор уражвае цябе болей, калі ты будзеш разглядаць яго паблізу, а другі – калі адыдзеш падалей" (Гарацый); "Крыніца ўсялякай паэзіі – глыбокае адчуванне невыразнага" (Ж. Арэа).*

**Абсталяванне:** зборнікі вершаў беларускіх паэтаў М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых (на выбар настаўніка), выказванні пра паэта, паэзію. Мультымедыяпраектар, ноўтбук, CD-прайгравальнік, музычныя запісы.

**III. Сродкі мастацкай выразнасці – "адзенне" паэтычнага слова**

(4 гадзіны)

Роля рытму ў паэтычных творах. Гукапіс. Вершаскладанне. Віды стопаў і памераў у вершах. Двухскладовыя і трохскладовыя стопы (пачатковыя паняцці). Падтэкст у паэтычных творах. "Тварэнне, домысел і перайманне ёсць душа паэзіі, але верш ёсць мова яе. Паэзія ёсць унутранае ў тых трох, а верш толькі вонкавае" (В. Традзьякоўскі).

*Разгляд сродкаў мастацкай выразнасці, рытміка-інтанацыйнага малюнка вершаў "Паэзія" В. Шніпа і Л. Галубовіча, "Маёвая песня" М. Багдановіча і "Матылёк" Р. Барадуліна, "Роднае слова" Д. Бічэль, "Мы – беларусы" Р. Барадуліна, "Рэквіем па кожным чацвёртым" А. Вярцінскага, "Хлеб-соль" С. Гаўрусёва, "Радзіме" А. Лойкі, "Хатынь" С. Законнікава і інш. Лінгвістычны аналіз вершаванага тэксту.*

**Практычныя заняткі** (2 гадзіны)

*Выразнае чытанне вершаў вучнямі. Стварэнне case-study на тэму "Паэзія пачалася з песні…".*

*Народныя песні валодаюць магічнымі чарамі эмацыянальнага ўздзеяння, бо яны, паводле вы-*

*казвання В. Брусава, "абточаныя акіянам народнай душы". Беларускі паэт і даследчык фальклору Ніл Гілевіч пісаў пра значэнне песеннай творчасці народа для развіцця сучаснай паэзіі: "Бясспрэчна, што паэзія нашых дзён усё больш смела выходзіць на плённы шлях… выкарыстання прынцыпаў рыфмоўкі, дасканала распрацаваных у фальклоры. Вялікія магчымасці адкрываюцца перад ёю ў гэтым кірунку. Таму і лічым, што наша запрашэнне бліжэй заглянуць у паэтычную майстэрню народа – гэта арыентацыя не назад, у мінулае, а наперад, у будучае. Якімі шляхамі ў творчасці лепш ісці – народная паэзія падкажа нам яшчэ не аднойчы"*.*

**Абсталяванне:** "Вытокі". Хрэстаматыя для пазакласнага чытання ў VI класе. ШБ (уклад. М. Лазарук, Т. Логінава, А. Сігаева). Беларускі фальклор: Хрэстаматыя: Вучэбны дапаможнік / Склад. К. П. Кабашнікаў і інш. Мультымедыяпраектар, ноўтбук, CD-прайгравальнік, музычныя запісы фальклорных песень.

**IV. Загадка прозы: пошукі ісціны**
(4 гадзіны)

*Фарміраванне "асобаснага сэнсу" вучняў пры абмеркаванні праблемных пытанняў: "Ці можа празаічны твор дапамагчы чалавеку ў складаных жыццёвых абставінах?", «Чаму Максім Горкі назваў літаратуру "чалавеказнаўствам"?» Тэматычная разнастайнасць празаічных твораў. Выразнае чытанне ўрыўкаў з твораў "На каляды к сыну" Змітрака Бядулі, "Сірочы хлеб" Янкі Брыля, "Жуль Верн" І. Навуменкі, "Горкі ліпавы мёд" А. Васілевіч і інш.*

**Практычныя заняткі** (2 гадзіны)

*Падбор прыкладаў з літаратурных твораў пра фарміраванне маральных якасцей асобы (на матэрыяле праграмных твораў). Праца ў групах. Літаратурная віктарына "Пазнай героя".*

**Абсталяванне:** мультымедыяпраектар, ноўтбук.

**V. Пісьменнік – мастак слова**
(2 гадзіны)

Мастацкая дэталь і яе роля ў апавядальных, празаічных творах. Аповед, апісанне, дыялог як спосабы раскрыцця зместу ў апавядальных творах. Віды апісанняў: інтэр'ер, пейзаж, партрэт. Проза як асаблівы тып мастацкай літаратурнай творчасці. Роля фантазіі пісьменніка. Паэтычная (лірычная) проза. Свабодны верш.

*Праца з творамі "Думкі ў дарозе" Якуба Коласа або "Шчасце не ў золаце" Змітрака Бядулі.*

**Практычныя заняткі** (2 гадзіны)

*Семінар-практыкум. Праца творчых лабараторый: 1. "Роля апісанняў у мастацкіх творах"; 2. "Фантазія пісьменніка"; 3. "Лірычная проза і свабодны верш".*

**Абсталяванне:** мультымедыяпраектар, ноўтбук.

**VI. Сцэна – другі дом: сцэнічнае жыццё літаратурных твораў**
(2 гадзіны)

Драма – род літаратуры, які прызначаны для сцэны. Інсцэніроўка. Структурныя элементы драмы і спектакля. Канфлікт (першапачатковае паняцце). Сцэнічная ўмоўнасць (развіццё паняцця).

**Практычныя заняткі** (3 гадзіны)

*Работа творчых груп. Ролевыя гульні: рэжысёр, мастак, акцёр. Падрыхтоўка сцэнарыя і інсцэніроўка праграмнага твора (урыўкаў).*

**Абсталяванне:** мультымедыяпраектар, ноўтбук, CD-прайгравальнік.

**Прагназуемыя вынікі**

Вучні павінны **ведаць**:
- змест разгледжаных літаратурных твораў;
- асаблівасці паэтычных і празаічных твораў, вершаванай і празаічнай мовы;
- тэарэтычныя паняцці, акрэсленыя праграмай.

Вучні павінны **ўмець**:
- супастаўляць блізкія па тэме паэтычныя і празаічныя творы і вызначаць іх асаблівасці ў паказе жыцця;
- адрозніваць вершаваныя памеры;
- вызначаць у тэксце ролю выяўленчых сродкаў мовы;
- знаходзіць у літаратурных творах лагічна закончаныя часткі;
- знаходзіць адрозненне і падабенства пры параўнальнай характарыстыцы двух герояў розных твораў;
- параўноўваць літаратурныя творы з творамі жывапісу, музыкі, тэатра і інш.;
- выконваць творчыя заданні (інсцэніроўкі, даклады, паведамленні);
- выкарыстоўваць набытыя веды і ўменні ў практычнай дзейнасці і паўсядзённым жыцці для:

1) выбару шляхоў свайго культурнага развіцця;
2) выражэння ўласнага меркавання пра літаратурныя творы, іх сцэнічнае ўвасабленне;
3) самастойнай мастацкай творчасці.

Літаратура

1. **Бальбуров, Э. А.** Поэтика лирической прозы. 1960 – 1970-е годы / Э. А. Бальбуров. – Новосибирск, 1985.
2. **Бахтин, М.** Эстетика словесного творчества / М. Бахтин. – 2-е изд. – М. : Искусство, 1979.
3. **Белецкий, А. И.** В мастерской художника слова / А. И. Белецкий. – М. : Высш. шк., 1989.
4. **Бельскі, А. І.** Жывая мова краявідаў : Пейзаж у беларускай паэзіі / А. І. Бельскі. – Мінск, 1997.

* **Гілевіч, Н. С.** Паэтыка беларускай народнай лірыкі / Н. С. Гілевіч. – Мінск, 1975. – С. 283 – 284.

5. **Бельскі, А.** Свет ад травы да зор : Беларуская паэзія : сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу / А. Бельскі. – Мінск, 1998.

6. **Бярозкін, Р.** Кніга пра паэзію / Р. Бярозкін. – Мінск : Маст. літ., 1974.

7. **Волков, Ф. И.** Литература как вид творчества / Ф. И. Волков. – М. : Просвещение, 1985.

8. **Дасаева, Т. М.** Паэтыка лірызму ў беларускай прозе / Т. М. Дасаева. – Мінск, 1982.

9. **Дзюбайла, П. К.** У пошуках духоўных каштоўнасцей : Беларуская проза сёння / П. К. Дзюбайла. – Мінск, 1987.

10. **Дзюбайла, П. К.** Праблемы стылю ў сучаснай беларускай прозе / П. К. Дзюбайла. – Мінск, 1973.

11. **Дрыжакова, Е. В.** В волшебном мире поэзии / Е. В. Дрыжакова. – М. : Наука, 1978.

12. **Куляшоў, Ф.** Эцюды аб прозе / Ф. Куляшоў. – Мінск, 1964.

13. **Лазарук, М. А.** Навучанне і выхаванне творчасцю / М. А. Лазарук. – Мінск : Нар. асвета, 1994.

14. **Маслова, В. А.** Филологический анализ художественного текста : учеб. пособие / В. А. Маслова. – Минск : Універсітэцкае, 2000.

15. **Медведев, В. П.** Изучение лирики в школе / В. П. Медведев. – М. : Просвещение, 1985.

16. **Рагойша, В. П.** Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – 2-е выд. – Мінск : Выш. шк., 1987.

17. **Рагойша, В. П.** Гутаркі пра верш : Метрыка. Рытміка. Фоніка / В. П. Рагойша. – Мінск : Нар. асвета, 1979.

18. **Ралько, І. Д.** Верш і мова / І. Д. Ралько. – Мінск : Навука і тэхніка, 1986.

19. **Руцкая, А.** Пазакласная праца па беларускай літаратуры : дапам. для настаўнікаў / А. Руцкая. – Мінск : Маст. літ., 2000.

20. **Смыкоўская, В.** Творчая канцэпцыя пісьменніка / В. Смыкоўская. – Мінск, 1976.

21. **Яскевіч, А.** Грані майстэрства / А. Яскевіч. – Мінск, 1974.

Вольга РУСІЛКА

# НЕЗВЫЧАЙНАЕ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА: ВЫВУЧЭННЕ ТВОРА Ў ЯГО РОДАВАЙ І ЖАНРАВАЙ СПЕЦЫФІЦЫ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ VIII КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праблема ўспрымання і аналізу твора ў яго родава-жанравай спецыфіцы з'яўляецца складанай і актуальнай для школьнай практыкі літаратурнага навучання, бо ў разуменні жанру, як падкрэсліваў акадэмік М. Лазарук, "хаваюцца вельмі важныя сакрэты мастацкай спецыфікі, характару вобразнасці, кампазіцыйнай арганізацыі твора, сістэмы выяўленчых прыёмаў і сродкаў". Прызнаючы родавыя і жанравыя асаблівасці твора асновай яго аналізу, а не мэтазгоднымі дадатковымі звесткамі, можна пераадолець адрыў формы ад зместу, недаацэнку ролі мастацкіх сродкаў, да якіх настаўнік нярэдка звяртаецца толькі ў дадатак да аналізу зместу твора.

Мастацкія творы адрозніваюцца па спосабе адлюстравання рэчаіснасці (знешні ці ўнутраны па адносінах да аўтара свет), спецыфіцы вобразнасці, мастацкай форме, аб'ёме, моўным афармленні, асаблівасцях эстэтычнага ўспрымання (перавага эмацыянальнага ці лагічнага кампанента). У адпаведнасці з гэтым метады і прыёмы вывучэння твораў розных літаратурных родаў павінны мець сваю спецыфіку. Факультатыўныя заняткі будуць дапаўняць праграму асноўнага курса літаратуры, бо менавіта прынцып "паглыблення" ў родавую і жанравую спецыфіку літаратурнага твора ляжыць у аснове канцэпцыі праграмы і падручніка па беларускай літаратуры для VIII класа.

Праграма факультатыўных заняткаў "Незвычайнае літаратуразнаўства: Вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы" прадугледжвае выкананне вялікай колькасці творчых заданняў, таму прызначаецца найперш для падлеткаў, якія маюць развітую фантазію, літаратурныя здольнасці, цікавасць да творчасці і, магчыма, самі спрабуюць пісаць творы.

Вучні могуць знаёміцца з літаратурнымі творамі, прапанаванымі для аналізу, у пазаўрочны час, тым больш што яны ўключаны ў пералік твораў для чытання і абмеркавання ці для пазакласнага чытання.

**Мэта:** паглыбіць веды вучняў пра родава-жанравую спецыфіку мастацкіх твораў, садзейнічаць развіццю творчых здольнасцей падлеткаў.

**Задачы:**

– прывіваць цікавасць да мастацкай літаратуры;

– узбагачаць веды вучняў пра эпічныя, лірычныя, ліра-эпічныя, драматычныя жанры, іх спецыфіку, сродкі стварэння характару, асаблівасці мовы і кампазіцыі, заканамернасці пабудовы сюжэта, канфлікт, вобразна-выяўленчыя сродкі;

– стымуляваць уласную культуратворчую дзейнасць вучняў;

– развіваць у вучняў здольнасць да аб'ектыўнай крытычнай ацэнкі (у тым ліку і самаацэнкі) вынікаў літаратурнай творчасці.

### ПРАГРАМА КУРСА

(35 гадзін)

**Уступныя заняткі** (1 гадзіна)

Мэты і задачы, змест факультатыўных заняткаў.

**Хто такі пісьменнік?** (2 гадзіны)

Творчая індывідуальнасць – асоба аўтара ў працэсе мастацкага перастварэння свету, яе своеасаблівае

бачанне жыцця, адлюстраванае ў змесце і форме твора. Талент. Матывы звароту да літаратурнай творчасці. Натхненне. Уплыў асабістай біяграфіі на творчы лёс мастака і эвалюцыя творчай індывідуальнасці. Тыпізацыя суб'ектыўнага вопыту ў творы.

Пісьменнікі: празаікі, паэты, драматургі, сатырыкі і гумарысты. Звесткі з аўтабіяграфій пісьменнікаў ("Як я стаў пісьменнікам"). Багацце творчых індывідуальнасцей у беларускай літаратуры (на прыкладзе раней вывучаных твораў). Вершы "Каб пісаліся вершы..." С. Грахоўскага, "Натхненне" А. Салтука.

**Творчая сустрэча-дыялог з пісьменнікам-земляком (ці прадстаўленне настаўнікам аднаго з сучасных дзіцячых пісьменнікаў)** (1 гадзіна)

**Што такое твор?** (1 гадзіна)

Мастацкі твор як адзінства формы і зместу. Тэма, ідэя. Аўтарская ўстаноўка. Будова літаратурнага твора. Фабула. Сюжэт. Кампазіцыя. Вусныя паведамленні вучняў "Твор, які мяне асабліва ўразіў" (на прыкладзе раней вывучанага).

**Агульнае ўяўленне пра роды літаратуры** (4 гадзіны)

Сінкрэтызм старажытнага мастацтва (слова, музыка, танец). Проза і паэзія. Гісторыя ўзнікнення розных родаў і жанраў літаратуры (ад паведамлення пра падзею да перадачы асабістых перажыванняў). Роды і жанры ў антычнай літаратуры.

Устойлівасць і зменлівасць паняцця "жанр". Агульныя жанравыя прыкметы ў розных відах мастацтва (музыка, жывапіс, тэатр).

Апавяданне "Рэпетыцыя" А. Федарэнкі. Спалучэнне ў адным творы элементаў эпічнага і драматычнага родаў. Вобраз старшакласніка Антона – пісьменніка-пачаткоўца. Аналіз напісаных хлопчыкам "п'есак".

*Творчая работа.* Дапаўненне апавядання А. Федарэнкі: напісанне "сцэнкі са школьнага жыцця" (ці на вольную тэму) для конкурсу школьнай самадзейнасці.

**Лірычныя жанры** (8 гадзін)

Лірыка – род літаратуры, які адлюстроўвае рэчаіснасць праз перажыванні аўтара, нясе інфармацыю пра суб'ектыўны свет асобы. Адсутнасць сюжэта, маналог ад імя лірычнага героя, сціслая афарыстычная форма, пераважна вершаваная мова, насычаная паэтычнымі тропамі, – асноўныя ўласцівасці лірычнага твора, да якога жанру лірыкі ён ні адносіўся б.

Народная песня – крыніца лірычнай паэзіі. Праслухоўванне запісаў народных песень ("Песняры. Залаты дыск", "Троіца": кампакт-дыск). Параўнанне тэксту песні "Бяроза з лістом..." і верша "Як ліст дубовы..." П. Броўкі.

*Творчая работа.* Напісанне верша (ці лірычнай мініяцюры ў прозе) "Чатырохгранная ваза прыроды" (поры года). Чытанне і абмеркаванне верша "Чатырохгранная ваза" А. Наўроцкага.

Чытанне і жанравы аналіз вершаў, якія адносяцца да грамадзянскай, філасофскай, пейзажнай, інтымнай лірыкі ("Я не га́ню землі чужыя..." Г. Бураўкіна, "Мая Бацькаўшчына" Р. Барадуліна, "Прыедзь у край мой ціхі..." Я. Янішчыц, "Як ліст дубовы" П. Броўкі, "Вечар на захадзе ў попеле тушыць..." М. Багдановіча, "Над зямлёю шугае верасень..." В. Зуёнка, "Ты мне вясною прыснілася..." М. Шушкевіча, "Ты пакліч мяне. Пазаві..." Я. Янішчыц і іншых – на выбар настаўніка). Вызначэнне жанравых адметнасцей прачытаных твораў: пафас, інтанацыя, сінтаксіс, будова твораў, спецыфіка вобраза-перажывання. Вуснае маляванне словамі карцін, якія ўзнікаюць пры чытанні вершаў.

Паняцце пра класічныя жанры лірыкі: філасофска-медытацыйныя (медытацыя, пасланне, філасофскі верш, элегія), велічальныя (ода, гімн, эпітафія, рэквіем), песенныя (раманс, песня), сатырычна-выкрывальныя (эпіграма, пародыя).

Праслухоўванне песень на творы Г. Бураўкіна, М. Шушкевіча і іншых, параўнанне іх з вершамі. Азнаямленне з творамі жывапісу, якія суадносяцца па змесце і жанры з прачытанымі вершамі.

*Творчая работа.* "Дапісванне" апошняй страфы верша "Ты яшчэ толькі намёк на чалавека..." М. Танка. Чытанне верша М. Танка, вызначэнне яго жанравых асаблівасцей.

"Цвёрдыя" страфічныя формы: санет, актава, трыялет, рандо, рандэлі, хоку (жанр японскай паэзіі). Іх гісторыя і роля ў сучаснай літаратуры. Чытанне і жанрава-кампазіцыйны аналіз вершаў "Санет" У. Шэкспіра, "Санет" і "Антысанет" М. Танка, "Трыялет" Д. Бічэль, "Нам разам трыццаць..." (актава) Н. Гілевіча. Асаблівасці рыфмоўкі твораў.

*Творчая работа.* Напісанне трыялета па двух апорных радках, санета ці хоку.

**Эпічныя жанры** (9 гадзін)

Эпас – літаратурны род, якому ўласціва падрабязнае адлюстраванне падзей, людскіх характараў і абставін дзеяння, паказ знешняга, аб'ектыўнага па адносінах да аўтара свету. Аўтарскае апавяданне як дакладнае і часта прамое выяўленне пазіцыі аўтара ў эпічным творы, у адлюстраванні падзей і характараў. Разгорнуты сюжэт, наяўнасць вобразаў-персанажаў, пераважна празаічная форма, якой не ўласціва мова метафар, – тыповыя рысы эпічнага твора. Тры асноўныя цэнтры ўвагі вучняў: падзея, героі твора, аўтар (асаблівасці яго індывідуальнага стылю). Асноўная адзінка аналізу эпічнага твора – эпізод. Разгалінаваная жанравая сістэма эпасу, што складаецца з твораў малой, сярэдняй і вялікай формы: казка, легенда, паданне, навела, апавяданне, аповесць, раман, цыкл раманаў.

Жанравы аналіз аповесці "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" А. Бадака. Аўтарская ўста-

ноўка і ідэя твора. Асноўныя эпізоды твора. Вобраз юнага паэта Сяргея Васілевіча, яго супярэчлівы характар. Героі, другарадныя, дадатковыя і выпадковыя персанажы. Сучасны васьмікласнік у творы – ці пазнаяце вы сябе? Складаная кампазіцыя аповесці. Размеркаванне фабульнай прасторы і часу ў творы, прыёмы актывізацыі ўвагі чытача: вяртанне, забяганне наперад, "шахматнае" размеркаванне часу. Партрэт, мастацкая дэталь.

Жанравы аналіз аповесці "Лёшкава каханне, або Віртуальнае дрэва рэальнасці" В. Гапеева. Асаблівасці сюжэта і мовы твора.

Жанравы аналіз аповесці "Лён-Лянок, або Кампакт-дыск ад Зялёнага Дрэйка" Р. Баравіковай. Аўтарская ўстаноўка і ідэя твора.

Адметнасць жанру фантастычнай аповесці. Фантастычнае і рэальнае ў творы. Сістэма вобразаў у творы. Вобраз астранаўта Савіча, Арцёма і фантастычнай істоты – Зялёнага Дрэйка, а таксама яго сыноў. Кульмінацыйны эпізод твора, яго напружанасць.

Аповесць "Лён-Лянок, або Кампакт-дыск ад Зялёнага Дрэйка" ў структуры "Казак астранаўта" Р. Баравіковай.

Параўнальны аналіз жанравых асаблівасцей аповесцей "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" А. Бадака і "Лён-Лянок, або Кампакт-дыск ад Зялёнага Дрэйка" Р. Баравіковай.

Чытанне і абмеркаванне апавяданняў "Венерын чаравічак" і "Касач – кветка чароўных музыкаў" ("Казкі астранаўтаў") Р. Баравіковай. Жанравыя асаблівасці апавяданняў.

*Творчае заданне*. Напісанне фантастычнай казкі-апавядання пра кветку Астру.

**Ліра-эпічныя жанры** (2 гадзіны)

Зліццё эпічнага пачатку (сюжэт, наяўнасць вобразаў-персанажаў, адлюстраванне знешняга ў адносінах да аўтара свету) з лірычным (прысутнасць аўтара, яго асабістая ацэнка падзей, эмацыянальнасць і вобразнасць мовы, вершаваная форма). Асаблівасці ліра-эпічных жанраў: паэмы, балады, байкі, прыпавесці. Чытанне і параўнальны жанравы аналіз балады "Юнак быў з-пад Слоніма родам…" А. Лойкі, байкі "Музыкальная камедыя" У. Корбана, прыпавесці "Мы, мёд і пчала" А. Вярцінскага.

*Творчае заданне*. Напісанне байкі або прыпавесці (у вершаванай ці празаічнай форме) на аснове жыццёвых уражанняў.

**Драматычныя жанры** (7 гадзін)

Драма (ад грэч. *дзеянне*) – род літаратуры, які адлюстроўвае жыццёвыя з'явы праз паказ непасрэднага дзеяння. Асноўныя драматычныя жанры – трагедыя, трагікамедыя, фарс, вадэвіль, сатырычная і лірычная камедыя, гістарычная, сацыяльная, бытавая драма і г. д. Асаблівасці драмы як роду літаратуры, прызначанага для сцэнічнага ўвасаблення: вострая канфліктнасць дзеяння, дыялагічная форма, выбарачны паказ асобных, самых напружаных эпізодаў, дзяленне на акты (дзеі) і сцэны (з'явы), наяўнасць аўтарскіх рэмарак, насычанасць мовы твора падтэкстам.

Сцэнічны час. Сцэнічная прастора. Дзеянне і контрдзеянне. Градацыя рэплік.

Жанравы аналіз камедыі "Несцерка" В. Вольскага: азнаямленне са сцэнічнай гісторыяй п'есы з выкарыстаннем альбомаў, афіш, тэатральных праграм, фотаздымкаў акцёраў у ролі; аналітычнае чытанне па ролях; складанне рэжысёрскага плана спектакля; стварэнне мізансцэн.

Параўнальны аналіз камедыі "Несцерка" В. Вольскага і п'ес "Новыя прыгоды Несцеркі" Г. Марчука, "Новыя прыгоды Несцеркі" У. Бутрамеева. Пераўвасабленне вучняў у "тэатральную трупу": сцэнарыста, рэжысёра, акцёраў, мастакоў-дэкаратараў, касцюмераў, майстроў гукавога афармлення і г. д. Падрыхтоўка да інсцэніроўкі адной з камедый.

*Творчае заданне.* Наведванне тэатра, прагляд адной з п'ес і напісанне водгуку на спектакль (ці інсцэніроўка твора на школьнай сцэне).

**Прагназуемыя вынікі**

Васьмікласнікі сістэматызуюць і паглыбяць літаратурныя веды і будуць **усведамляць**:

– прынцыповае адрозненне родаў літаратуры (эпічнага, лірычнага, ліра-эпічнага, драматычнага), іх асноўных жанраў у фальклоры і літаратуры, мастацкія асаблівасці, сродкі адлюстравання жыцця і спосабы паказу чалавека ў творах гэтых жанраў;

– багацце і асаблівасці моўна-выяўленчых сродкаў мастацкай выразнасці ў розных літаратурных творах;

– спецыфіку літаратурнай творчасці, багацце творчых індывідуальнасцей у беларускай літаратуры;

– тыпалагічныя жанравыя сыходжанні ў розных відах мастацтва.

Вучні ўдасканаляць свае чытацкія **ўменні**:

– аналізаваць літаратурны твор з улікам яго родава-жанравай спецыфікі;

– асэнсоўваць свае ўражанні, эмоцыі, пачуцці і апісваць іх;

– узнаўляць мастацкія карціны і вобразы;

– устанаўліваць прычынна-выніковую сувязь паміж падзеямі і ўчынкамі герояў, характарызаваць і параўноўваць герояў аднаго ці некалькіх твораў;

– актыўна карыстацца вобразна-выяўленчымі сродкамі мовы, аб'ектыўна ацэньваць уласнае выкананне;

– інсцэніраваць п'есу, прадумваючы рэплікі, рэмаркі, дэкарацыі, касцюмы, музычнае суправаджэнне і інш.;

– ацэньваць літаратурны твор і творы іншых відаў мастацтва, усведамляючы іх спецыфіку і разумеючы творчую манеру аўтараў.

Вучні будуць мець магчымасць **развіваць эстэтычны густ, уласныя літаратурныя здольнасці** і крытычна ацэньваць іх.

**Літаратура**


1. **Белакоз, А.** Вучу дзетак складаць вершы / А. Белакоз // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1991. – № 9. – С. 39 – 42.
2. **Бершадская, Н. Р.** Литературное творчество учащихся в школе : кн. для учителя : из опыта работы / Н. Р. Бершадская, В. З. Халимова. – М. : Просвещение, 1986.
3. **Верціхоўская, М. У.** Кніга Р. Баравіковай "Казкі астранаўта" / М. У. Верціхоўская // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 2007. – №№ 1, 2.
4. **Восприятие и изучение произведений в их родовой и жанровой специфике** // Методика преподавания литературы / под ред. О. Ю. Богдановой, В. Г. Маранцмана : в 2 ч. – М. : Просвещение : ВЛАДОС, 1994. – Ч. 2. – 288 с.
5. **Гардзіцкі, А.** Гутаркі, інтэрв'ю, дыялогі пра літаратуру / А. Гардзіцкі. – Мінск, 1988.
6. **Грыцаль, Т. М.** Тэарэтыка-метадычныя асновы фарміравання паняцця пра жанр пры вывучэнні беларускай прозы ў старэйшых класах / Т. М. Грыцаль // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 2002. – № 1. – С. 37 – 46.
7. **Лазарук, М. А.** Навучанне і выхаванне творчасцю : педагагічныя роздумы і пошукі / М. А. Лазарук. – Мінск : Нар. асвета, 1994. – 200 с.
8. **Лазарук, М. А.** Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў / М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу. – Мінск, 1983.
9. **Майсейчык, А. А.** Фарміраванне паняццяў аб родах і жанрах мастацкіх твораў / А. А. Майсейчык // Народная асвета. – 1986. – № 4. – С. 47 – 51.
10. **Молдавская, Н. Д.** Литературное развитие школьников в процессе обучения / Н. Д. Молдавская. – М., 1976.
11. **Мяжэвіч, В. А.** Класічныя (цвёрдыя) формы лірыкі ў сучаснай беларускай паэзіі / В. А. Мяжэвіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 2008. – № 5. – С. 58 – 63.
12. **Наровчатов, С.** Необычное литературоведение / С. Наровчатов. – 3-е изд. – М. : Дет. лит., 1981. – 366 с.
13. **Рагойша, В. П.** На шляху да Парнаса : даведнік маладога літаратара / В. П. Рагойша. – Мінск : Маст. літ., 2003. – 153 с.
14. **Рагойша, В. П.** Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – 3-е выд., дапрац. і дапоўн. – Мінск : Беларус. навука, 2004. – 576 с.
15. **Рагойша, В. П.** Тэорыя літаратуры ў тэрмінах / В. П. Рагойша. – Мінск, 2001.
16. **Рагойша, В. П.** Уводзіны ў літаратуразнаўства : вершаванне : курс лекцый / В. П. Рагойша. – Мінск, 2004.
17. **Русілка, В. І.** Сучасная беларуская паэзія : творчыя індывідуальнасці / В. І. Русілка. – Віцебск, 2005. – 101 с.
18. **Рыбникова М. А.** Очерки по методике литературного чтения / М. А. Рыбникова. – М. : Просвещение, 1985. – 288 с.
19. **Тычко, Г. К.** Асновы літаратурна-мастацкай творчасці / Г. К. Тычко. – Мінск : БДУ, 2005. – 175 с.
20. **Цітова, Л. К.** Аналіз эпічнай творчасці ў сярэдніх класах / Л. К. Цітова // Урок літаратуры ў школе : кніга для настаўніка / пад рэд. М. А. Лазарука, В. У. Івашына. – Мінск : Нар. асвета, 1995. – С. 74 – 79.
21. **Цітова, Л. К.** Лірыка на ўроку (асаблівасці ўспрымання пейзажнай лірыкі школьнікамі сярэдніх класаў) / Л. К. Цітова // Урок літаратуры ў школе : кніга для настаўніка / пад рэд. М. А. Лазарука, В. У. Івашына. – Мінск : Нар. асвета, 1995. – С. 37 – 73.
22. **Чернец, Л. В.** Литературные жанры (проблемы типологии и поэтики) / Л. В. Чернец. – М., 1982.
23. **Энциклопедический словарь для юношества** : Литературоведение от "А" до "Я". – М., 2001.
24. **Энциклопедический словарь юного филолога** / редкол. : Г. В. Степанов (гл. ред.) [и др.]. – М., 1987.



Вольга ПРАСКАЛОВІЧ
Вераніка КУШНЯРЭВІЧ


# *"ВЫКАЖЫСЯ, КАБ Я ЦЯБЕ ЎБАЧЫЎ!"* МАСТАЦТВА ВУСНЫХ ВЫКАЗВАННЯЎ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ IX КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

У адпаведнасці з сучаснай адукацыйнай парадыгмай пераасэнсоўваецца погляд настаўніка на ролю вучня ў працэсе літаратурнай адукацыі: з аб'екта навучання, калі тэма, праблема, ідэя, аўтарская пазіцыя разглядаліся на ўроках як нешта знешняе, адасобленае ад рэцыпіента (успрымальніка), школьнікператварыўся ў суб'ект, калі істотнымі, дамінантнымі становяцца яго асобасныя ўяўленні і веды: "я і мае адносіны да героя", "мой погляд на праблему", "маё разуменне ідэі", "мая пазіцыя і пазіцыя аўтара" і інш. Пры такім падыходзе адбываецца актыўнае ўключэнне вучняў у працэс мастацкай камунікацыі. На аснове мастацкай камунікацыі ўзнікае рэальнае ўздзеянне літаратурнага твора на асобу рэцыпіента, на яго густы і ідэалы, а праз іх – на яго паводзіны і дзейнасць.

Актуальнай у сувязі з гэтым з'яўляецца рэалізацыя ў межах выкладання факультатыўнага курса «"Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!": Мастацтва вусных выказванняў» *дзейнаснага падыходу да навучання*, што праяўляецца, па-першае, у адборы дзейнасна арыентаванага зместу матэрыялу; па-другое, у выкарыстанні актыўных формаў і метадаў навучання – навучанне спосабам дзейнасці праз саму дзейнасць.

Такім чынам, перш за ўсё прапанаваны факультатыўны курс арыентаваны на выпрацоўку спосабаў дзейнасці і фарміраванне вопыту творчай працы і мае на мэце развіццё пазнавальных інтарэсаў, індывідуальных маўленчых і інтэлектуальных здольнасцей вучняў на аснове выкарыстання дзейсных формаў авалодання майстэрствам вусных выказванняў.

Вуснае выказванне вучняў павінна адпавядаць наступным камунікатыўным якасцям маўлення: правільнасць, чысціня, фактычная і тэрміналагічная дакладнасць, лагічнасць, яснасць, дарэч-

насць, выразнасць і эмацыянальнасць. У працэсе публічнага выступлення асаблівую значнасць набывае індывідуальнасць прамоўцы – яго выканальніцкія здольнасці, валоданне нормамі літаратурнага вымаўлення, багацце слоўнікавага запасу, а таксама змястоўнасць выказвання. Слухач жа авалодвае асноўнымі спосабамі слухання (рэфлексійнае – нерэфлексійнае – эмпатыйнае), уменнем асэнсоўваць і ацэньваць пачутае, удзельнічаць у абмеркаваннях і дыскусіях.

Навучанне мастацтву вуснага выказвання павінна быць планамерным, сістэмным, узыходзіць па ступенях цяжкасці ад элементарнага, простага да больш складанага. "Практыкаванні, прапануемыя для развіцця маўленчых здольнасцей, павінны быць не механічным аб'яднаннем, а дынамічнай сістэмай варыятыўных задач, створанай па канвеерным тыпе (ад простага да складанага, ад часткова прадуктыўнага да прадуктыўнага, ад аналітычнага да эўрыстычнага і г. д.), якія забяспечваюць індывідуальны кампанент зместу адукацыі, права выбару і тым самым – актыўнае індывідуальнае развіццё асобы вучня" (М. Яленскі).

Прапанаваная вучэбная праграма факультатыўнага курса для IX класа распрацавана ў адпаведнасці з актуальнымі задачамі ўдасканалення літаратурнай адукацыі, канцэпцыяй моўнага і літаратурнага навучання ў агульнаадукацыйных установах, адукацыйным стандартам вучэбнага прадмета "Беларуская літаратура" і суадносіцца з вучэбнай праграмай па беларускай літаратуры.

Акрамя таго, дадзены факультатыўны курс забяспечвае поліаспектнае вывучэнне камунікатыўных працэсаў на аснове шэрагу сумежных дысцыплін і акумулюе веды з такіх галін філалогіі, як стылістыка, культура маўлення, тэорыя літаратуры, гісторыя літаратуры, а таксама элементы курса акцёрскага і аратарскага майстэрства, што прадухіляе перагружанасць вучняў і рацыяналізуе вучэбны час.

Сучасныя праграмы па літаратуры на II ступені навучання прадугледжваюць набыццё вучнямі пэўных тэарэтычных ведаў і выпрацоўку практычных уменняў, разлічаных на павышэнне чытацкай і маўленчай культуры школьнікаў. Асобныя тэарэтычныя звесткі па авалоданні майстэрствам вусных выказванняў вучні набываюць на ўроках беларускай і рускай моў, аднак гэтага відавочна недастаткова. Праграма факультатыўных заняткаў «"Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!": Мастацтва вусных выказванняў» якраз прапануе комплекс спецыяльных заняткаў па авалоданні вучнямі такімі спосабамі навучальнай дзейнасці, як выразнае чытанне мастацкіх твораў розных жанраў, вуснае звязнае маналагічнае і дыялагічнае маўленне, аргументацыя, майстэрства палемікі, мастацтва вусных публічных выступленняў.

**Мэта** факультатыўных заняткаў «"Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!": Мастацтва вусных выказванняў»: садзейнічаць фарміраванню літаратурнай і камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў, удасканальваць уменні тактыка-стратэгічнага праектавання камунікацыі і рэалізацыі камунікатыўных планаў у розных відах маналога, дыялога, палілога і прэзентацыі ўласных тэкстаў выказванняў у вусных і пісьмовых формах маўлення.

Дасягненне акрэсленай мэты прадугледжвае вырашэнне наступных **задач**:

- павысіць тэрміналагічную культуру вучняў і ўзровень арганізацыі дзейнасці школьнікаў па стварэнні ўласных выказванняў;
- садзейнічаць пашырэнню ў вучняў сферы псіхалагічных і этычных уменняў, неабходных для эфектыўнай камунікацыі;
- удасканаліць валоданне асобнымі камунікатыўнымі тэхнікамі (эфектыўнага чытання, слухання, аргументацыі, рэфлексіі і г. д.) і ўніверсальнымі мадэлямі апрацоўкі і падачы інфармацыі;
- выпрацоўваць уменні і навыкі вуснага і пісьмовага маўлення, лагічнага і выразнага выказвання думак, дастатковы запас маўленчых сродкаў (вербальных, паралінгвістычных, кінесічных);
- развіваць маўленчую культуру вучняў, іх творчыя здольнасці і майстэрства публічных выступленняў;
- удасканальваць вопыт аналізу мастацкага тэксту;
- пашыраць чытацкую культуру вучняў, а таксама ўсебакова падтрымліваць і развіваць цікавасць дзевяцікласнікаў да іншых відаў мастацтва (жывапіс, тэатр, музыка і інш.);
- спрыяць фарміраванню грамадзянскай, маральна-этычнай пазіцыі вучняў.

Праграма факультатыўных заняткаў часткова заснавана на выкарыстанні раней атрыманых на ўроках беларускай і рускай моў ведаў пра тэкст, тыпы і стылі мовы, іх асаблівасці, а таксама прадугледжвае актуалізацыю ведаў, атрыманых падчас вывучэння прадметаў "Руская літаратура", "Сусветная гісторыя. Гісторыя Беларусі", "Грамадазнаўства", "Музыка", "Выяўленчае мастацтва" і інш.

Методыка арганізацыі факультатыўных заняткаў надзвычай багатая і разнастайная: лекцыя з элементамі эўрыстычнай гутаркі; самастойная праца па індывідуальных заданнях; семінар; практыкум; рэфлексія вусных выказванняў (самарэцэнзаванне і ўзаемарэцэнзаванне); конкурс прамоўніцкага майстэрства; аратарскі турнір; функцыянальна-ролевыя гульні "Дэбаты", "Дыскусія", "Прэзентацыя", "Круглы стол", "Прэс-канферэнцыя", "Гасцявы ўрок" і інш.

Школьнікі вучацца, акрамя вербальных сродкаў маўлення, выбіраць адпаведныя паралінгвістычныя (інтанацыя, паўза) і кінесічныя сродкі выказ-

вання (жэсты, міміка), выпрацоўваюць уласную манеру выканання з мэтай уздзеяння на слухачоў, стварэння паміж камунікантамі атмасферы эмацыянальнага суперажывання, аргументавана адстойваць уласныя погляды і ацэнкі.

На факультатыўных занятках пажадана актыўна выкарыстоўваць тэхнічныя сродкі навучання: дыктафон або магнітафон для запісу і праслухоўвання вучнёўскіх выказванняў і інтэрпрэтацыі літаратурных тэкстаў майстрамі мастацкага слова, відэамагнітафон, мультымедыяпраектар для прагляду і рэфлексіі вусных публічных выступленняў вучняў і інш.

Праграма арыентуе школьнікаў на спасціжэнне агульначалавечых духоўных і маральных каштоўнасцей, на эстэтычны і творчы характар успрымання прапанаванага матэрыялу, на індывідуальна-асобасны падыход да навучання.

Праграма факультатыўных заняткаў прапануе алгарытм дзейнасці вучняў па стварэнні імі адукацыйных прадуктаў і супастаўленні іх з адпаведнымі культурна-гістарычнымі аналагамі. У гэтым арганізуецца прадуктыўная дзейнасць вучняў, ажыццяўляецца фарміраванне моўнага ядра асобы – маўленча-камунікатыўных здольнасцей, без якіх чалавек не можа рэалізаваць сваю грамадскую і ўнутраную сутнасць, рэалізавацца як індывідуальнасць, як камунікатыўны лідар.

Курс разлічаны на 35 гадзін на год (1 гадзіна на тыдзень). Складальнікі вучэбнай праграмы факультатыўных заняткаў «“Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!”: Мастацтва вусных выказванняў» імкнуліся як мага больш поўна прадставіць спецыфіку і асаблівасці навучання мастацтву вуснага выказвання ў агульнаадукацыйных установах. Па жаданні настаўніка тэматычнае напаўненне можа вар’іравацца. У залежнасці ад узроўню падрыхтаванасці вучнёўскай аўдыторыі могуць пераносіцца тэматычныя акцэнты, змяняцца колькасць гадзін на вывучэнне пэўнай тэмы і адпрацоўку практычнага матэрыялу. Настаўнік самастойна вызначае формы выніковай атэстацыі вучняў. Так, педагог разам з вучнямі замест прапанаванай конкурснай праграмы можа аддаць перавагу іншым відам вучэбнай дзейнасці.

## ЗМЕСТ КУРСА

### **Уводзіны** (2 гадзіны)

Прадмет і задачы факультатыўных заняткаў.

Псіхолага-сітуацыйныя адрозненні вуснага маўлення ад пісьмовага, жывога вуснага і мастацкага слова. Спецыфіка вусных выказванняў і іх роля ў фарміраванні маўленчай асобы.

***Практыкум.*** Анкетаванне вучняў з мэтай магчымай карэкціроўкі праграмы. Чытанне (праслухоўванне) і абмеркаванне найлепшых узораў вусных выказванняў знакамітых людзей.

### **Вуснае выказванне як від публічнага выступлення** (7 гадзін)

Вуснае выказванне як публічнае выступленне па акрэсленай тэме. Вызначэнне тэмы і назвы выступлення. Выбар тэмы (адпаведнасць ведам і інтарэсам выступоўцы, агульным і / або групавым інтарэсам слухачоў; актуальнасць, навізна, праблемнасць). Асноўныя патрабаванні да назвы прамовы. Прыёмы надання назве рэкламнага, інтрыгавальнага характару.

Вызначэнне мэтавай устаноўкі прамовы. Прадумванне яе папярэдняга плана. Працоўны план і яго віды.

Крыніцы вусных выказванняў (уласныя разважанні і ўспаміны, назіранні і вопыт, чытанне і інш.).

Асновы бібліяграфічнай эўрыстыкі (бібліяграфічныя дапаможнікі ў выглядзе картатэкі і электроннага каталога, спецыяльных бібліяграфічных выданняў, спісаў літаратуры пры кнігах і артыкулах і г. д.).

Правілы карэктнага і эфектыўнага цытавання.

Афарыстыка як найважнейшая крыніца сэнсавага ўзбагачэння аратарскага выступлення. Уключэнне ў выказванне афарызмаў: адзін з моцных аргументаў – “аргумент да аўтарытэта”.

***Практыкум.*** Складанне тэкстаў вусных выказванняў па абранай тэме. Праца з крыніцамі вусных выказванняў. Збор і абагульненне інфармацыі па абранай тэме вуснага выказвання.

### **Структура вуснага публічнага выступлення** (2 гадзіны)

Паняцце кампазіцыі выступлення. Элементы кампазіцыі: уступ, асноўная частка, або разгортванне, заключэнне. Правіла “залатога сячэння”, “закон краю” (“эфект мяжы”) або “правіла рамкі” ў адносінах да кампазіцыі вуснага выказвання.

Кампазіцыйнае абрамленне выступлення (элементы, іх функцыі). Разнавіднасці ўступу і заключэння: прамыя (непасрэдныя), або натуральныя; ускосныя (апасродкаваныя), або штучныя; нечаканыя. Камунікатыўныя прыёмы стварэння ўступу і заключэння.

Спосабы кампазіцыйнага разгортвання асноўнай часткі прамовы. Класіфікацыя па наяўнасці / адсутнасці і характару сэнсавай сувязі падтэм: паралельны, храналагічны (гістарычны) і лагічны спосабы разгортвання выказвання. Структурна-кампазіцыйныя прыёмы інверсіі і рэтардацыі.

Камбінаваная форма падачы матэрыялу ў выказваннях як найбольш тыповая для практыкі маўлення.

### **Слоўнае афармленне вусных выказванняў** (8 гадзін)

Культура вусных выказванняў: нарматыўная вытрыманасць і маўленчае майстэрства выступоўцы.

Стылі і тыпы маўлення.

Тропы як сродкі стварэння нагляднасці маўлення. Віды тропаў: простыя (параўнанне, эпітэт) і складаныя (метафара, увасабленне, гіпербала, літота, іронія, алегорыя, сімвал і інш.). Троп – адзін са спосабаў вобразнага пазнання жыцця, сродак узбагачэння літаратурнай мовы.

Рытарычныя фігуры маўлення і іх роля ва ўзмацненні інфармацыйнага і экспрэсіўнага бакоў выказвання. Практыка ўжывання фігур. Класіфікацыя фігур маўлення: семантычныя (антытэза, аксюмаран, градацыя і інш.) і сінтаксічныя (паўтор і яго разнавіднасці, інверсія, паралелізм і інш.).

Роля тропаў і фігур маўлення ў паэтычным тэксце; роля тропаў і фігур маўлення ў празаічным тэксце.

Змястоўнасць і нарматыўнасць вуснага і пісьмовага выказванняў. Лагічнасць і пераканаўчасць выказвання; адпаведнасць выказвання нормам сучаснай літаратурнай мовы; захаванне арфаэпічных, граматычных, стылёвых і лексічных нормаў ва ўмовах інтэрферэнцыі беларускай і рускай моў.

***Практыкум.*** Алгарытм шматаспектнага аналізу твора на прыкладзе празаічнага і паэтычнага тэкстаў. Аналіз тэкстаў прамоў (дзеячаў літаратуры і культуры) з абгрунтаваннем мэтазгоднасці ўжывання ў іх пэўных моўных сродкаў.

Моўныя штампы і клішэ ў вуснай і пісьмовай мове. Моўныя штампы – словы і выразы з аслабленым лексічным значэннем і сцёртай экспрэсіўнасцю; моўны штамп як стылістычная памылка.

***Практыкум.*** Аналіз публіцыстычных і мастацкіх тэкстаў з моўнымі штампамі, выпраўленне памылак.

**Тэхніка выканання прамовы** (4 гадзіны)

Выкананне – заключны этап працы над прамовай.

Складовыя элементы тэхнікі маўлення: дыкцыя, артыкуляцыя, дыханне, голас.

Паралінгвістычны кантэкст маўлення. Інтанацыя і паўза ў вусным выказванні. Іх роля ва ўзмацненні экспрэсіўнасці выказвання. Сэнсавая і псіхалагічная паўзы; лагічная паўза. Фарміраванне інтанацыйнай вобразнасці выказвання.

Кінесічныя сродкі маўлення (жэсты, міміка).

Метады самааналізу і самакантролю. Рэкамендацыі па пераадоленні “псіхалагічнага бар’ера”.

Праслухоўванне гуказапісу з выказваннем сваіх адносін да акцёрскага і / або аўтарскага выканання.

***Практыкум.*** Творчая сустрэча (майстар-клас, круглы стол, прэс-канферэнцыя, гасцявы ўрок) з пісьменнікамі, журналістамі, дыктарамі радыё і тэлебачання, выкладчыкамі спецыялізаваных кафедраў ВНУ (рыторыкі, стылістыкі і культуры маўлення, літаратурнага рэдагавання), з прафесійнымі артыстамі тэатра і кіно.

**Асновы палемічнага майстэрства**
(3 гадзіны)

Асноўныя формы маўленчага спаборніцтва: дыскусія, палеміка, дыспут, спрэчка і дэбаты (аналіз зместу пералічаных тэрмінаў). З гісторыі спрэчкі. Агульныя патрабаванні да вядзення спрэчкі. Культура паводзін удзельнікаў палемікі.

***Практыкум.*** Дыскусія (дыспут, дэбаты) па найбольш актуальных пытаннях літаратуры і культуры. Падрыхтоўка тэкстаў дыскусійных выступленняў з цытаваннем першакрыніц.

**Конкурс вусных выказванняў** (3 гадзіны)

Слова як жанр старажытнай літаратуры і аратарскай прозы. Тыпалагічныя асаблівасці жанру *слова.* Аналіз публіцыстычных або мастацка-публіцыстычных твораў у жанры “Слова пра…”.

Мадэль публічнай прамовы ў жанры “Слова пра…”.

Падрыхтоўка і прэзентацыя прамовы ў жанры “Слова пра…”. Крытэрыі ацэнкі вуснага выказвання.

***Практыкум.*** Конкурс на найлепшае “Слова пра…”.

**Аратарскі турнір** (5 гадзін)

Падрыхтоўка да аратарскага турніру: стварэнне аргкамітэта турніру; размеркаванне абавязкаў; складанне праграмы, інфармацыйнага ліста, папярэдняе абмеркаванне прапанаваных для маналагічных выказванняў тэм і дыскусійных пытанняў для палемікі і “рыторыкі хуткага рэагавання”.

Правядзенне вучнёўскага аратарскага турніру “Цыцэроній”, дэвіз якога: “*Poetae nascuntur, oratores fiunt*: Паэтамі нараджаюцца, аратарамі становяцца”. Турнір складаецца з наступных этапаў:

• конкурс прамоўніцкага майстэрства (выступленні ўдзельнікаў з маналагічнымі выказваннямі на абраную тэму);

• конкурс палемічнага майстэрства (публічнае абмеркаванне і абарона ўласнай пазіцыі падчас дыскусіі па найбольш актуальных ці найбольш спрэчных праблемах літаратуры);

• конкурс “рыторыка хуткага рэагавання” (дэманстрацыя імправізацыйных маўленчых здольнасцей і ўменняў выступаць экспромтам: выконваць прапанаванае маўленчае заданне, скіраванае на аператыўнасць, вынаходлівасць і арыгінальнасць вырашэння; адказваць на спрэчныя пытанні);

• падвядзенне вынікаў аратарскага турніру (вызначэнне найлепшых выступоўцаў, узнагароджанне іх дыпломамі).

**Падвядзенне вынікаў працы**
**на факультатыўных занятках** (1 гадзіна)

Формы маніторынгу факультатыўных заняткаў. Тэхналагічныя карты па адсочванні выніковасці факультатыўных заняткаў. Тэхналогіі рэфлексійнай дзейнасці: *“Рэфлексійная мішэнь”*,

*“Рэфлексійны круг”, “Ключавое слова”, “Сінквейн”, “Дыяманта”* і г. д.

**Прыкладныя тэмы для вусных выказванняў**

**I. Конкурс прамоўніцкага майстэрства.**

1. Узнікненне мастацтва слова.
2. Міф і літаратура.
3. Біблія – Кніга кніг.
4. “Промень сонечны, які прасвятліў зямлю Полацкую”.
5. Кірыла Тураўскі – выдатны красамоўца эпохі Сярэднявечча.
6. “Усяслаў-князь людзям суд судзіў, гарадамі князёў надзяляў”.
7. “Я – родам з Адраджэння, ды цяпер усім часам, прасторам я належу”.
8. “Так і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую ласку маюць”.
9. “Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы росквітам княства Літоўскага, нашага краю…”
10. Героі беларускай гісторыі ў паэме “Гражына” А. Міцкевіча.
11. “Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса?”
12. Сатырычны змест п’есы “Пінская шляхта”.
13. “Пісьмо з-пад шыбеніцы” і верш “Марыська чарнаброва, галубка мая” як запавет нашчадкам.
14. Пісьменнікі-ўдзельнікі паўстання 1863 года.
15. “Ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы”.
16. “Дудка ёсць, смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробе”.
17. “Я буду маліцца і сэрцам, і думамі…”
18. Вобраз “раскіданага гнязда” ў драме Янкі Купалы.
19. Пошукі героямі драмы “Раскіданае гняздо” шляхоў выйсця з тупіка.
20. “Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…” (філасофская лірыка М. Багдановіча).
21. “Не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб не ўмёрлі!” (Ф. Багушэвіч).
22. “Кнігі Коласа і Купалы нам калыскай і песняй былі…” (П. Броўка).

**II. Конкурс палемічнага майстэрства.**

1. Міф. Першапачатковая “навуковая” карціна свету?
2. Эксплуатацыя прыроды ці паэтызацыя прыроды? (Чалавек і прырода ў беларускай міфалогіі, творах беларускіх пісьменнікаў.)
3. Ці патрэбны сучаснаму беларусу Усяславы і Вітаўты?
4. Еўфрасіння Полацкая. Сярэднявечная манашка ці неардынарная асоба свайго часу?
5. Францыск Скарына. Асветнік, першадрукар ці паспяховы прадпрымальнік XVI стагоддзя?
6. “Песня пра зубра” – “песня пра нас” ці турыстычны даведнік пра Беларусь для італьянскага чытача XVI стагоддзя?
7. Чаму Ян Баршчэўскі пераклаў свой галоўны твор з беларускай на польскую мову, або Моўна-культурная сітуацыя ў Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя.
8. Юдзіф – Гражына – Бандароўна.
9. “Пінская шляхта”. Happy end для Кручкова ці для шляхты?
10. “Тарас на Парнасе”. Твор пра літаратуру ці даведнік пра беларускія стравы XIX стагоддзя?
11. Каму ж кепска будзе ў паэме “Кепска будзе!”?
12. Паэма “Бандароўна”. Канфлікт маральны ці сацыяльны?
13. “Раскіданае гняздо”. Рэалістычны ці сімвалічны твор?
14. Праўда Сымона і праўда Зоські ў драме “Раскіданае гняздо”.
15. Хто з герояў драмы “Раскіданае гняздо” знайшоў выйсце з тупіковай сітуацыі?
16. Ці знайшлі агульную мову Лабановіч і Саханюк?
17. Лабановіч і Ядвіся. Чаму разышліся іх жыццёвыя шляхі?

**III. Конкурс “рыторыка хуткага рэагавання”.**

1. Спачатку было Слова.
2. “Багацце духоўнае – злата дзяржавы”.
3. Каля запаленай свечкі.
4. “Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі…”
5. “Цяпер разгорнем часаў шаты…”
6. “Чуецца музыка дзіўная ў повесцях сонных імшараў…”
7. “Вобразы мілыя роднага краю…”
8. “Бо нашто каласы, калі няма васількоў?”
9. “Вось сімвал твой, забыты краю родны!”
10. “Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі…”
11. “Жывеш не вечна, чалавек. Пражыві ж у момант век!”
12. “Ты, мой брат, каго зваць Беларусам…”

**Прагназуемыя вынікі**

У выніку працы на факультатыўных занятках вучні ўдасканаляць уласную маўленчую культуру і выканальніцкае майстэрства, сістэматызуюць і паглыбяць літаратурныя веды і будуць **усведамляць**:

• асноўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў, творчасць якіх становіцца прадметам вучнёўскіх абмеркаванняў і выказванняў на факультатыўных занятках;

• змест асноўных тэарэтыка-літаратурных паняццяў, патрэбных для аналізу і ацэнкі мастацкіх твораў;

• змест літаратурна-крытычных, літаратуразнаўчых, іншых тэкстаў, да якіх звернуцца ў працэсе падрыхтоўкі ўласных вусных выказванняў;

• багацце і адметнасці моўных выяўленчых сродкаў выразнасці вусных публічных выступленняў;

• змястоўныя і структурныя асаблівасці вусных і пісьмовых выказванняў як асноўных ві-

даў работ па літаратуры ў агульнаадукацыйных установах.

У працэсе авалодання ведамі дзевяцікласнікі будуць **умець**:

• выразна, у патрэбным тэмпе і з захаваннем патрэбнай інтанацыі чытаць, пераказваць мастацкі тэкст з улікам яго жанравай спецыфікі і ствараць уласнае выказванне на аснове мастацкага твора, асэнсоўваючы яго пафас і выяўляючы аўтарскую пазіцыю і свае адносіны да адлюстраванага;

• складаць план і рыхтаваць тэзісы вуснага выказвання пра твор ці пра свае адносіны да адлюстраванага ў творы;

• аргументаваць сваю ацэнку падзей, адлюстраваных у творы, ва ўласных выказваннях;

• перадаваць змест твораў пры дапамозе розных спосабаў: маўлення, інтанацыі, лагічных націскаў, паўзаў, мімікі і інш.;

• даваць вусны або пісьмовы разгорнуты адказ на праблемнае пытанне па вывучаным творы;

• весці дыялог па прачытаных творах, улічваць іншы пункт гледжання на твор і аргументавана адстойваць сваё меркаванне;

• рыхтаваць вуснае і пісьмовае выказванне з выкарыстаннем літаратуразнаўчых крыніц;

• карыстацца даведачна-інфармацыйнай літаратурай;

• прэзентаваць уласныя вусныя выказванні падчас публічных выступленняў на аратарскіх конкурсах, турнірах, дэбатах і г. д.;

• рыхтаваць тэксты выступленняў для іх публікацыі ў школьных і грамадскіх перыядычных выданнях.

Такім чынам, у выніку працы на факультатыўных занятках «“Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!”: Мастацтва вусных выказванняў» вучні набываюць вопыт самастойнай прамоўніцкай практыкі, авалодваюць спосабамі арганізацыі вусных і пісьмовых выказванняў, рэфлексійнымі ўменнямі ўласнай аратарскай дзейнасці. Пры гэтым пашыраецца літаратурная, культуралагічная, камунікатыўная кампетэнтнасць, удасканальваецца культура маўленчых паводзін, з’яўляюцца дадатковыя магчымасці для самавыражэння і рытарычнага развіцця маўленчай асобы вучня.

### Асноўная літаратура


1. **Асновы культуры маўлення і стылістыкі :** вучэб. дапам. / У. В. Анічэнка, У. Д. Еўтухоў, В. А. Ляшчынская, Т. І. Тамашэвіч; пад рэд. У. В. Анічэнкі. – Мінск, 1992.
2. **Булыка, А. М.** Красамоўства ў Беларусі / А. М. Булыка, Л. М. Мінакова, А. А. Станкевіч. – Мінск, 2002.
3. **Введенская, Л. А.** Культура и искусство речи / Л. А. Введенская, Л. Г. Павлова. – Ростов н/Д, 1995.
4. **Далецкий, Ч.** Риторика : Заговори, и я скажу, кто ты : учеб. пособие / Ч. Далецкий. – М., 2003.
5. **Каляда, А. А.** Выразнае чытанне / А. А. Каляда. – Мінск, 1976.
6. **Каляда, А. А.** Мастацкае чытанне ў школе / А. А. Каляда. – Мінск, 1992.
7. **Ладыженская, Т. А.** Живое слово / Т. А. Ладыженская. – М., 1986.
8. **Леонов, С. А.** Речевая деятельность на уроках литературы в старших классах : методические приёмы творческого изучения литературы : учеб. пособие / С. А. Леонов. – М., 1999.
9. **Лепешаў, І. Я.** Лінгвістычны аналіз тэксту / І. Я. Лепешаў. – Мінск, 2009.
10. **Лепешаў, І. Я.** Асновы культуры мовы і стылістыкі / І. Я. Лепешаў. – Мінск, 1989.
11. **Малажай, Г. М.** Лінгвістычны аналіз тэксту / Г. М. Малажай. – Мінск, 1982.
12. **Маслова, В. А.** Лингвистический анализ экспрессивности художественного текста / В. А. Маслова. – Минск, 1997.
13. **Маслова, В. А.** Филологический анализ поэтического текста / В. А. Маслова. – Минск, 1999.
14. **Минеева, С. А.** Полемика – диспут – дискуссия / С. А. Минеева. – М., 1990.
15. **Міхневіч, А. Я.** Слоўка за слоўкам : алф. давед. па культуры бел. мовы для ўсіх / А. Я. Міхневіч, Л. П. Кунцэвіч, Ю. В. Назаранка. – Мінск, 2006.
16. **Мурына, Л. А.** Рыторыка / Л. А. Мурына. – Мінск, 1998.
17. **Никольская, С. Т.** Техника речи / С. Т. Никольская. – М., 1978.
18. **Рагойша, В. П.** На шляху да Парнаса : даведнік маладога літаратара / В. П. Рагойша. – Мінск, 2003.
19. **Рагойша, В. П.** Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – 3-е выд. – Мінск, 2004.
20. **Развивайте дар слова** : факульт. курс “Теория и практика написания сочинений разных жанров (VII – VIII кл.)” : пособ. для учащихся / сост. Т. А. Ладыженская, Т. С. Зепалова. – М., 1982.
21. **Руцкая, А. В.** Жанры творчых прац па літаратуры : рэалізацыя камунікатыўнага навучання / А. В. Руцкая // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 1. – С. 23 – 26.
22. **Савкова, З. В.** Искусство оратора : учеб. пособ. / З. В. Савкова. – 2-е изд., доп. – СПб., 2003.
23. **Юрэвіч, А. К.** Стылістыка беларускай мовы / А. К. Юрэвіч. – Мінск, 1992.
24. **Цікоцкі, М. Я.** Стылістыка беларускай мовы / М. Я. Цікоцкі. – Мінск, 1995.
25. **Цікоцкі, М. Я.** Стылістыка тэксту / М. Я. Цікоцкі. – Мінск, 2002.
26. **Язерская, С. А.** Асновы культуры маўлення / С. А. Язерская. – Мінск, 2004.
27. **Яфімава, М. Б.** Гучыць жывое слова : гурток выразнага чытання / М. Б. Яфімава. – Мінск, 1983.


### Дадатковая літаратура


1. **Абабурка, М. В.** Культура беларускай мовы / М. В. Абабурка. – Мінск, 1994.
2. **Андроников, И. Л.** Я хочу рассказать вам… / И. Л. Андроников. – М., 1962.
3. **Беларускія пісьменнікі** : даведнік. – Мінск, 1994.
4. **Верціхоўская, М. І.** Урокі літаратуры : пошук і творчасць : дапам. для настаўнікаў / М. І. Верціхоўская. – Мінск, 2008.
5. **Винокур, Т. Г.** Говорящий и слушающий : варианты речевого поведения / Т. Г. Винокур. – М., 1993.
6. **Каўрус, А. А.** Стылістыка беларускай мовы / А. А. Каўрус. – Мінск, 1992.
7. **Куліковіч, У. І.** Алімпіяды па беларускай мове / У. І. Куліковіч. – Мінск, 2007.
8. **Лабунская, В. А.** Невербальное поведение / В. А. Лабунская. – Ростов н/Д, 1985.
9. **Маров, В. Н.** Риторика – учителю / В. Н. Маров,

Д. Х. Вагапова, Т. М. Зыбина, Ю. В. Виньков. – Пермь, 1993.

10. **Опыты анализа художественного текста.** – М., 2008.

11. **Поэтика художественного текста на уроках литературы.** – М., 1997.

12. **Ревуцкий, О.** Основы коммуникативно-смыслового анализа художественного текста / О. Ревуцкий. – Мозырь, 2002.

13. **Цыбульская, С. І.** Настольная кніга настаўніка беларускай мовы і літаратуры : метад. рэкамендацыі і нарматыўныя патрабаванні / аўтар-склад. С. І. Цыбульская. – Мінск, 2007.

14. **Чертов, В. Ф.** Слово – образ – смысл : Филологический анализ литературного произведения / В. Ф. Чертов [и др.]. – М., 2007.

15. **Юрэвіч, У. М.** Слова жывое, роднае, гаваркое / У. М. Юрэвіч. – Мінск, 1998.

16. **Яскевіч, А.** Філосафы і красамоўцы Беларусі / А. Яскевіч // Беларуская думка. – 2003. – № 2. – С. 52 – 61.

17. **Творы па беларускай літаратуры для завучвання на памяць** (паэмы, вершы, проза, песні) : мастацкае электроннае выданне на 2 кампакт-дысках. – Мінск : Маст. літ., 2006 – 2007.

**Літаратура для самастойнага чытання**

1. **Булахов, М. Г.** "Слово о полку Игореве" в литературе, искусстве, науке / М. Г. Булахов. – Минск, 1989.

2. **Мельнікаў, А. А.** З неапублікаванай спадчыны / А. А. Мельнікаў. – Мінск, 2005.

3. **Мельнікаў, А. А.** Кірыл, епіскап Тураўскі / А. А. Мельнікаў. – Мінск, 1997.

4. **Старажытная беларуская літаратура** (XII – XVII стст.) / уклад., прадм., камент. І. Саверчанкі. – Мінск, 2007.

5. **Чамярыцкі, В.** Неўміручая песня Старажытнай Русі / В. Чамярыцкі // Слова пра паход Ігаравы : паэма; Гусоўскі, М. Песня пра зубра : паэма. – Мінск, 1999. – С. 5 – 19.

6. **Беларускія летапісы і хронікі** / уклад. А. Мельнікава. – Мінск, 1997.

7. **Галенчанка, Г. Я.** Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Г. Я. Галенчанка. – Мінск, 1998.

8. **Каўка, А.** Тут мой народ : Францыск Скарына і беларуская літаратура XVI – пачатку XX ст. / А. Каўка. – Мінск, 1989.

9. **Скарына і яго эпоха** / В. А. Чамярыцкі [і інш.]. – Мінск, 1990.

10. **Францыск Скарына і яго час** : энцыкл. даведнік / рэдкал. І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1988.

11. **Яскевіч, А. А.** Творы Ф. Скарыны / А. А. Яскевіч. – Мінск, 1995.

12. **Кісялёў, Г.** Радаводнае дрэва : Каліноўскі – эпоха – наступнікі / Г. Кісялёў. – Мінск, 1994.

13. **Кісялёў, Г.** Рыцар свабоды / Г. Кісялёў // Каліноўскі, К. За нашую вольнасць : творы, дакументы. – Мінск, 1999. – С. 3 – 24.

14. **Лужанін, М.** Колас расказвае пра сябе / М. Лужанін. – Мінск, 1982.

Мікалай ГРЫНЬКО
Алена РУЦКАЯ

# ПАД ВЕТРАЗЕМ СПАСЦІЖЭННЯ І ТВОРЧАСЦІ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ X КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праблема развіцця маўлення вучняў набывае ў наш час усё большае грамадскае значэнне, таму што маўленне з'яўляецца важным паказчыкам духоўнай культуры асобы. Грамадству неабходны людзі, якія валодаюць словам, умеюць абараніць свае перакананні, погляды, творча ўключыцца ў працэс міжасобаснай камунікацыі. На жаль, фарміраванню маўленчай культуры школьнікаў мала садзейнічае працэс тэхнізацыі і пасіўнае пазнаванне праз сродкі масавай інфармацыі. У гэтым плане літаратура як вучэбны прадмет стварае найспрыяльнейшыя ўмовы для развіцця і ўдасканалення маўлення. А таму і канцэпцыя літаратурнай адукацыі, і змест сучасных навучальных праграм па беларускай літаратуры адлюстроўваюць накіраванасць на рэалізацыю камунікатыўнасці навучання, у сувязі з чым у адукацыйны працэс актыўна ўкараняюцца віды працы, якія не толькі даюць пэўныя веды, але і актыўна развіваюць мысленчую і творчую дзейнасць, фарміруюць свядомыя адносіны да інтэлектуальнай працы. Таму **мэта** дадзеных факультатыўных заняткаў – паглыбіць веды вучняў праз разнастайныя віды творчых прац (водгук, эсэ, рэцэнзія). Паколькі навучанне гэтым жанрам мае складаны сінтэтычны характар, то для эфектыўнага фарміравання ў вучняў умення ствараць такія працы прадугледжваецца зварот да суправаджальных ведаў і ўменняў, актуалізацыя ведаў пра тэкст, інтэрпрэтацыю, мову мастацкага твора, а таксама пра спецыфіку цытавання ў навуковых і творчых працах. Вялікая ўвага на факультатыўных занятках аддаецца практычнай скіраванасці. Усё гэта дасць магчымасць школьнікам на належным узроўні самастойна ствараць тэксты прапанаваных жанраў.

У адпаведнасці з акрэсленай тэмай вырашаюцца наступныя **задачы**:

• паглыбіць і сістэматызаваць веды пра мастацкі тэкст, жанры;

• удасканаліць уменне аналізаваць тэкст, бачыць у ім ролю мастацкіх сродкаў;

• удасканаліць уменні і навыкі перадачы чужых выказванняў праз цытаванне;

• выпрацаваць навыкі самастойнай пабудовы тэкстаў рознай жанравай прыналежнасці;

• паглыбіць і пашырыць літаратурныя веды.

**Асноўныя формы працы на факультатыўных занятках:** лекцыя, разгорнутыя паведамленні, семінарскія заняткі, гутарка, дыскусія, аналіз, калектыўная творчая праца,назіранне на аснове схем і алгарытмаў, мадэляванне, абмеркаванне і інш.

**ЗМЕСТ КУРСА**

(35 гадзін)

| № | Назва тэмы | Прыкладная колькасць гадзін |
|---|---|---|
| 1 | Уводзіны | 1 |
| 2 | Тэкст і яго асаблівасці: мастацкі тэкст, прэцэдэнтны тэкст, цытаванне | 3 |
| 3 | Інтэрпрэтацыя як тлумачэнне літаратурнага твора | 2 |
| 4 | Праца над мовай мастацкага твора як сродак глыбокага спасціжэння літаратуры | 5 |
| 5 | Эсэ | 8 |
| 6 | Водгук | 8 |
| 7 | Рэцэнзія | 7 |
| 8 | Падвядзенне вынікаў працы на факультатыўных занятках (падагульняльны ўрок) | 1 |
| **Усяго** | | 35 |

**Тэкст.** Мастацкі тэкст. Прэцэдэнтны тэкст. Выкарыстанне прэцэдэнтных тэкстаў як сродак развіцця маўлення і папаўнення слоўнікавага запасу, узнаўлення ведаў, засвоеных папярэднімі камунікантамі. Магчымасці прэцэдэнтных тэкстаў (назва, эпіграф, выказванне, аргумент і інш.).

**Цытаванне.** Роля цытавання пры напісанні водгукаў, эсэ, рэцэнзій.

Функцыі цытат: *інфарматыўная, аргументавальная, экспрэсіўная, паясняльная, апісальная, ацэначная, адсылачная.*

Віды цытат:

• дакладнае ўзнаўленне тэксту,

• узнаўленне крыніцы з нязначнымі зменамі і дапаўненнямі,

• інтэртэкстуальнае цытаванне,

• фрагментарнае цытаванне,

• цытаванне Бібліі,

• цытаванне навуковых думак, тэорый, аўтарытэтных суджэнняў (меркаванняў).

Цытаванне як сродак аргументацыі ў вусным і публічным маўленні.

**Інтэрпрэтацыя** як тлумачэнне літаратурнага твора: спасціжэнне яго сэнсу, ідэі, кампазіцыі. Мікракантэкст як значымая адзінка тэксту. Чытач-інтэрпрэтатар.

Праца над **мовай мастацкага твора** як сродак глыбокага спасціжэння літаратуры.

*Асаблівасці мастацкай мовы.* Маўленчая арганізацыя твора. Мова мастацкай літаратуры – нацыянальная мова, апрацаваная майстрамі мастацкага слова. Два асноўныя тыпы арганізацыі мовы мастацкага твора: **вершаваны** і **празаічны.** Слова ў кантэксце мастацкага твора.

*Паэтычныя фігуры.* Гіпербала. Гратэск. Літота. Ампліфікацыя. Анафара. Эпіфара. Аксюмаран. Алегорыя. Алагізм.

*Паэтычныя тропы.* Метафара. Метанімія. Сінекдаха. Параўнанне. Эпітэт. Адухаўленне. Перыфраза.

*Паэтычная фанетыка.* Алітарацыя. Асананс. Гукаперайманне. Анаграма.

*Сінтаксіс і інтанацыя як маўленчыя сродкі літаратуры.* Парадак слоў у сказе. Інверсія. Клічныя і пытальныя знакі. Выкарыстанне сэнсавага працяжніка. Шматкроп'е. Паўза. Графічнае выдзяленне тэксту.

**Эсэ.** Яго асаблівасці. Жанравыя прыкметы. Прадмет, адрасант і адрасат у эсэ.

Віды эсэ па жанрава-стылістычнай форме:

• эсэ-нататка (блізкая да газетнага жанру),

• эсэ-мастацкая замалёўка, лірычная мініяцюра, эскіз з натуры,

• эсэ-партрэт,

• эсэ-біяграфія або аўтабіяграфія,

• эсэ-ўспамін,

• эсэ-дзённікавы запіс,

• эсэ-водгук (выказвае меркаванне, роздум, але не прэтэндуе на разгорнутую і аргументаваную ацэнку),

• эсэ-аповесць, эсэ-раман (азнаямленне ў агульных рысах з эсэістычным напрамкам у сучаснай літаратуры) і інш.

Асноўныя патрабаванні да эсэ:

• канкрэтная тэма,

• навукова-канкрэтная аснова,

• падкрэсленая суб'ектыўнасць выказвання,

• арыентацыя на жывую гутарковую мову,

• права на дадумванне, фантазію, вымысел,

• свабодная кампазіцыя,

• камунікатыўнасць, адрасаванасць іншаму чытачу,

• праблемнасць,

• арыентацыя на мэту.

Выкарыстанне цытат і прэцэдэнтных тэкстаў пры працы над эсэ.

*Практычная работа.* Назіранне і абмеркаванне ўзораў. Калектыўная праца над стварэннем эсэ. Індывідуальнае напісанне эсэ і іх абмеркаванне вучнямі.

**Водгук** як суб'ектыўнае паведамленне пра твор з элементамі аналізу без усебаковай харак-

тарыстыкі тэксту (зместу і мастацкай структуры).

Мэты водгукаў: *падзяліцца ўражаннямі, зацікавіць, пераканаць, даць ацэнку.* Структура водгукаў (спецыфіка ўступаў, асноўнай часткі, заключэння). Схема працы над водгукам: *азнаямленне → назіранне → асэнсаванне → аналіз (сінтэз) → разважанне → абгрунтаванне (доказ) → тэзіс.*

Патрабаванні да зместавага напаўнення водгукаў: *выяўленне асноўнай тэматыкі і праблематыкі, бачанне аўтарскай пазіцыі, вызначэнне ролі сюжэта, кампазіцыі, разуменне ролі мастацкіх вобразаў, бачанне ролі выяўленчых сродкаў, абгрунтаванне асабістых ацэнак, моўнае і кампазіцыйнае афармленне, наяўнасць творчага характару, пісьменнасць (граматнасць).*

*Практычная работа.* Назіранне і абмеркаванне ўзораў. Калектыўная праца над стварэннем водгукаў. Індывідуальнае напісанне водгукаў і іх абмеркаванне вучнямі.

**Рэцэнзія** як усебаковы аналіз, аб'ектыўная ацэнка мастацкага, навуковага і іншага твора, спектакля, кінафільма. Прыкладная структура рэцэнзіі: *аўтар, загаловак, тэма, яе значнасць, асноўныя вобразы, значэнне твора, крытычныя заўвагі: чым захапляе твор, што з'яўляецца спрэчным.*

Віды рэцэнзій: рэцэнзія на твор, рэцэнзія на зборнік (агульнае і адрознае), рэцэнзіі з дамінуючым кірункам, рэцэнзія на сачыненне, рэцэнзія на вусны адказ, рэцэнзія на навуковы артыкул, рэцэнзія на прагледжаны спектакль (тэлеспектакль, тэлефільм) і інш.

Знаёмства з асобнымі постацямі крытыкаў, літаратуразнаўцаў і іх асноўнымі працамі (рэцэнзіямі) (на выбар або па рэгіянальным падыходзе).

*Практычная работа.* Назіранне і абмеркаванне ўзораў. Калектыўная праца над стварэннем рэцэнзій. Індывідуальнае напісанне рэцэнзій і іх абмеркаванне вучнямі.

**Прагназуемыя вынікі**

- павышэнне ўзроўню літаратурнай адукаванасці вучняў,
- развіццё ўмення інтэрпрэтацыі мастацкага тэксту,
- удасканаленне ўмення бачыць і разумець мастацкую функцыю мовы літаратурных твораў,
- выпрацоўка ўмення доказна і аргументавана перадаваць чытацкія асацыяцыі і погляды,
- веданне асноўных прыкмет водгукаў, эсэ, рэцэнзій,
- уменне аналізаваць творчыя працы,
- пашырэнне слоўнікавага запасу вучняў,
- удасканаленне навыкаў камунікатыўнай дзейнасці,
- удасканаленне навыкаў напісання творчых прац розных жанраў,
- выпрацоўка інтэлектуальна-маўленчых уменняў,
- развіццё асобы вучня ў цэлым і яго інтэлекту ў прыватнасці, развіццё гнуткасці мыслення, самастойнасці, даследчых навыкаў.

**Літаратура**


1. **Белая, А. І.** Методыка напісання эсэ : эсэ як жанр літаратурнай творчасці і форма самавыяўлення асобы / А. І. Белая // Беларуская мова і літаратура. – 2006. – № 1. – С. 34 – 43.
2. **Введение в литературоведение** : учебник для вузов / под общ. ред. Л. М. Крупчанова. – 2-е изд., испр. – М., 2007.
3. **Лепешаў, І. Я.** Лінгвістычны аналіз мастацкага твора / І. Я. Лепешаў. – Мінск, 1982.
4. **Маслова, В. А.** Лингвистический анализ экспрессивности художественного текста / В. А. Маслова. – Минск, 1997. – 156 с.
5. **Маслова, В. А.** Филологический анализ художественного текста / В. А. Маслова. – Минск, 2000.
6. **Новиков, Л. А.** Художественный текст и его анализ / Л. А. Новиков. – М., 2003. – 304 с.
7. **Парамонова, Л. Б.** Жанры речи в курсе средней школы : практическое пособие / Л. Б. Парамонова. – Гродно, 2000. – 95 с.
8. **Рагойша, В.** Кантакты / В. Рагойша. – Мінск, 1982.
9. **Рагойша, В.** Паэтычны слоўнік / В. Рагойша. – Мінск, 2003.
10. **Рагойша, В.** Тэорыя літаратуры ў тэрмінах : дапаможнік. – Мінск, 2001.
11. **Рагойша, В. П.** Літаратуразнаўчы слоўнік : тэрміны і паняцці : для школьнікаў і абітурыентаў / В. П. Рагойша. – Мінск, 2009. – 303 с.
12. **Рагойша, В. П.** На шляху да Парнаса : даведнік маладога літаратара / В. П. Рагойша. – Мінск, 2000. – 173 с.
13. **Руцкая, А. В.** Асаблівасці падрыхтоўкі да напісання эсэ і сачыненняў / А. В. Руцкая // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 9. – С. 31 – 36.
14. **Руцкая, А. В.** Жанры творчых прац па літаратуры : рэалізацыя камунікатыўнага навучання / А. В. Руцкая // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 1. – С. 23 – 26.
15. **Руцкая, А. В.** Развіццё літаратурна-творчых здольнасцей вучняў праз напісанне водгукаў на мастацкі твор / А. В. Руцкая // Актуальныя праблемы выкладання мовы і літаратуры ў вышэйшай і сярэдняй школе : матэрыялы рэсп. навук. канф. – Гродна : ГрДУ, 2004. – С. 117 – 122.
16. **Руцкая, А. В.** Шляхі актывізацыі аналітычна-пазнавальнай і маўленчай дзейнасці ў навучанні літаратуры / А. В. Руцкая // Надзённыя пытанні лінгвістыкі (да 75-годдзя праф. П. У. Сцяцко) : матэрыялы Міжнар. навук. канф. – Гродна : ГрДУ імя Я. Купалы, 2005. – С. 344 – 348.
17. **Руцкая, А. В.** Элементы прамоўніцкіх жанраў у аўтарскім наратыўным ракурсе // Автор как проблема теоретической и исторической поэтики : сборник научных статей. – Минск, 2007. – С. 30 – 34.
18. **Словарь литературоведческих терминов.** – М., 1971.
19. **Федаровіч, Г. М.** У краіне мастацкага слова / Г. М. Федаровіч. – Мінск, 2002. – 128 с.
20. **Цікоцкі, М. Я.** Стылістыка тэксту / М. Я. Цікоцкі. – Мінск, 2002. – 223 с.
21. **Чернец, Л. В.** Введение в литературоведение. Литературное произведение : Основные понятия и термины : учеб. пособие / Л. В. Чернец, В. Е. Хализев, С. Н. Бройтман [и др.]; под ред. Л. В. Чернец. – М., 1999.

Ірына ГОЎЗІЧ
Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

# *ШУКАЕМ ШЭДЭЎРЫ!..* ВОПЫТЫ ЛІТАРАТУРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

## ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ДЛЯ ХІ КЛАСА АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

### ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Паводле канцэпцыі вучэбнага прадмета "Беларуская літаратура" на заключным этапе навучання літаратуры вялікае значэнне маюць актуалізацыя і сістэматызацыя папярэдне набытых ведаў: "Вучні павінны не толькі правільна ацэньваць канкрэтныя творы, але і характарызаваць іх у кантэксце гістарычнага развіцця культуры, мастацтва свайго народа і чалавецтва ў цэлым, умець суадносіць канкрэтныя з'явы роднай літаратуры з асноўнымі этапамі, перыядамі развіцця сусветнай літаратуры, з мастацкімі напрамкамі". Гэта дазваляе засяроджваць увагу вучняў на спасціжэнні мастацкага твора ці творчасці пісьменніка ў культуралагічным і літаратурным кантэкстах.

Адной з адметных тэндэнцый сучаснай адукацыйнай парадыгмы становіцца відавочная інтэнсіфікацыя працэсу ўключэння вучняў у актыўную пазнавальную дзейнасць. Навучанне літаратуры ў IX – XI класах грунтуецца, як вядома, на самастойным чытанні вучнямі мастацкіх твораў, крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў як абавязковай перадумовы аналітычнай работы ў класе. На заключным этапе літаратурнай адукацыі вялікая ўвага аддаецца выкананню творчых і даследчых работ: яны з'яўляюцца адначасова і сродкам кантролю, і паказчыкам творчага і інтэлектуальнага развіцця асобы.

Вучоныя, метадысты, педагогі-практыкі сёння ўсё часцей гавораць пра тое, што даследаванне можа быць актуалізавана і арганізавана на ўсіх этапах навучання літаратуры: "…пэўныя элементы даследчага падыходу школьнікі павінны засвойваць у дзіцячым і падлеткавым узросце, тады больш рэальным будзе ўздым да вышэйшага ўзроўню творчай самастойнасці" (Е. Гінгель). Даследчы падыход у навучанні дазваляе знаёміць вучняў з метадамі навуковага пазнання, спрыяе фарміраванню ў іх навуковага светапогляду, глыбокіх, трывалых, "дзейсных" ведаў, развівае мысленне, пазнавальную самастойнасць.

Пад даследчай дзейнасцю вучня па літаратуры маецца на ўвазе яго мэтаскіраванае ўзаемадзеянне з літаратурным творам, у выніку якога спасцігаюцца заканамернасці структуры тэксту, эстэтычны сэнс твора, акрэсліваюцца "спосабы чытання", што, у сваю чаргу, вядзе да ўзбагачэння эстэтычнага вопыту. Даследчая дзейнасць «уключае вучня-чытача ў дыялог з "вялікай" навукай – літаратуразнаўствам, культуралогіяй, эстэтыкай» (С. Лаўлінскі). Прычым размова пра сапраўднае даследаванне можа ісці толькі тады, калі вучань вырашае задачы з невядомым папярэдне "адказам".

Што тычыцца адзінаццацікласнікаў, даследчая дзейнасць па літаратуры павінна быць скіравана не столькі на непасрэдную падрыхтоўку іх да меркаванага паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову (хоць нельга зусім не браць пад увагу значэнне літаратурна-даследчага вопыту ў сітуацыі, калі выпускнік мусіць вызначацца з выбарам прафесіі), колькі на стварэнне ўмоў для самаразвіцця і самасцвярджэння вучняў. Даследчая работа па літаратуры прывучае старшакласніка да самастойнай працы з тэкстам, узбагачае яго чытацкі вопыт, дапамагае фарміраваць самасвядомасць, пазіцыю зацікаўленага ўдзелу ў пазнавальнай і творчай працы ўвогуле і на ўроках літаратуры ў прыватнасці.

**Мэта** факультатыўных заняткаў "Шукаем шэдэўры!..: Вопыты літаратурных даследаванняў" – дапамагчы вучням абагульніць і сістэматызаваць веды па літаратуры, замацаваць і паглыбіць уменні працаваць з мастацкімі, літаратурна-крытычнымі, літаратуразнаўчымі і іншымі тэкстамі, пазнаёміць старшакласнікаў з разнастайнымі прыёмамі самастойнага спасціжэння мастацтва слова.

Дасягненне акрэсленай мэты прадугледжвае вырашэнне наступных **задач**:

– працягваць фарміраваць кампетэнцыі вучняў: *літаратурную* (сістэматызаваць веды пра літаратуру як цэласнасць, прадстаўленую ў выглядзе паняццяў і спосабаў дзейнасці), *культуралагічную* (узбагаціць уяўленні пра літаратуру як пра сацыякультурны феномен), *камунікатыўную* (выпрацоўваць уменні і навыкі рэпрэзентацыі вынікаў даследчай дзейнасці);

– фарміраваць навыкі свабоднага аперыравання тэарэтыка-літаратурнымі паняццямі і тэрмінамі ў працэсе аналізу мастацкіх твораў;

– працягваць фарміраваць навыкі самастойнай працы з навуковай літаратурай, слоўнікамі, даведнікамі, дакументамі і г. д.;

– развіваць агульныя даследчыя ўменні і навыкі (выяўленне і пастаноўка праблемы; фармуляванне гіпотэзы; планаванне і распрацоўка гіпотэзы даследчых дзеянняў; збор інфармацыі – назапашванне фактаў, назіранняў, доказаў; аналіз і сінтэз

сабранай інфармацыі; пераасэнсаванне вынікаў даследавання падчас адказаў на пытанні; праверка гіпотэзы; фармуляванне высноў і да т. п.);

– фарміраваць уменні і навыкі стварэння ўласных навукова-даследчых работ (рэфератаў, дакладаў, даследчых праектаў);

– спрыяць фарміраванню грамадзянскай, маральна-этычнай пазіцыі вучняў;

– развіваць літаратурна-творчыя здольнасці вучняў;

– стымуляваць цікавасць вучняў да самастойнай даследчай дзейнасці.

Прапанаваная праграма факультатыўных заняткаў прадугледжвае не толькі тэарэтычную частку, якая знаёміць вучняў з этапамі навукова-даследчай працы, відамі і метадамі навуковага даследавання, але і практычную, скіраваную на актывізацыю і ўдасканаленне літаратурна-творчых здольнасцей старшакласнікаў, выпрацоўку ўменняў і навыкаў навукова-даследчай дзейнасці, развіццё іх камунікатыўнай культуры. Змест праграмы часткова заснаваны на выкарыстанні раней атрыманых на ўроках беларускай і рускай моў ведаў пра тэкст, тыпы і стылі мовы, іх асаблівасці, а таксама мае на ўвазе актуалізацыю ведаў, атрыманых падчас вывучэння прадметаў “Руская літаратура”, “Сусветная гісторыя. Гісторыя Беларусі”, “Грамадазнаўства”, “Музыка”, “Выяўленчае мастацтва” і інш.

Мэтазгодна на факультатыўных занятках спалучэнне розных формаў і метадаў навучання: семінары, круглыя сталы, вучнёўскія канферэнцыі; эўрыстычная гутарка; тэматычнае, праблемнае, гісторыка-літаратурнае, тэарэтыка-літаратурнае параўнанне твораў; параўнанне літаратурнага твора з яго інтэрпрэтацыямі ў іншых відах мастацтва; самастойная праца вучняў з мастацкімі творамі, навуковай і крытычнай літаратурай і інш.

На факультатыўных занятках, звязаных з рэалізацыяй даследчага падыходу ў навучанні, відавочна змяняецца характар узаемаадносін настаўніка і вучняў. На думку спецыялістаў, добра падрыхтаваны “даследчыцкі дыялог” становіцца трывалым грунтам для напісання самастойнай даследчай работы і ўдалай прэзентацыі яе вынікаў (напрыклад, на вучнёўскай навуковай канферэнцыі). У залежнасці ад колькасці вучняў, якія наведваюць факультатыўныя заняткі, настаўнік можа спалучаць індывідуальныя “навуковыя” кансультацыі з групавой і калектыўнай работай вучняў.

Звяртаем увагу настаўнікаў на тое, што ў змесце вучэбнай праграмы факультатыўных заняткаў “Шукаем шэдэўры!..” складальнікі імкнуліся як мага больш поўна прадставіць спецыфіку арганізацыі даследчай работы па літаратуры ў агульнаадукацыйнай установе. Суадносячы прапанаваны змест з канкрэтнай адукацыйнай сітуацыяй, настаўнік можа сканцэнтравацца на тых тэмах, тым матэрыяле, што ў найбольшай ступені адпавядаюць яго прафесійным зацікаўленням, інтарэсам, а таксама ўзроўню падрыхтаванасці вучняў. Так, настаўнік можа пераразмеркаваць колькасць гадзін, неабходных для засваення і адпрацоўкі на практыцы матэрыялу канкрэтнай тэмы. У якасці выніковага праекта прапануецца стварэнне зборніка навукова-даследчых работ па літаратуры. Аднак настаўнік разам з вучнямі можа аддаць перавагу іншаму праекту. Колькасць гадзін на правядзенне выніковай навукова-практычнай канферэнцыі можа быць павялічана – у залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў. Пры магчымасці на канферэнцыю варта запрасіць літаратуразнаўцаў, крытыкаў, краязнаўцаў, выкладчыкаў філалагічных факультэтаў ВНУ, супрацоўнікаў літаратурна-мастацкіх выданняў або выдавецтваў: іх удзел у вучнёўскім навуковым форуме будзе надзвычай карысным для адзінаццацікласнікаў – патэнцыяльных студэнтаў, частка якіх, магчыма, звяжа жыццё з прафесійнай навуковай ці літаратурнай дзейнасцю.

**ЗМЕСТ КУРСА**

**Уводзіны** (2 гадзіны)

Прадмет і задачы факультатыўных заняткаў.

Сутнасць навукова-даследчай дзейнасці, яе віды: інфармацыйна-рэфератыўны, праблемна-рэфератыўны, апісальны і даследчы. Характарыстыка вучэбна-лагічных уменняў як інструментаў пазнання: аналіз і сінтэз, параўнанне, абагульненне, вызначэнне паняццяў, доказ, вызначэнне і вырашэнне праблем.

Азнаямленне з агульнанавуковымі метадамі даследавання: назіранне, параўнанне, падлік (статыстычны метад), эксперымент, абагульненне, індукцыя і дэдукцыя, аналогія і інш. Пачатковае паняцце пра метады літаратуразнаўчага даследавання: біяграфічны, параўнальна-гістарычны, герменеўтычны і інш.

***Практыкум.*** Анкетаванне, скіраванае на выяўленне чытацкіх і даследчыцкіх інтарэсаў вучняў.

**Этапы даследчай дзейнасці** (2 гадзіны)

Дыягнастычны, прагнастычны, арганізацыйны этапы даследчай дзейнасці. Агульная характарыстыка этапаў даследчай дзейнасці: выбар тэмы; вызначэнне мэт, задач, аб’екта і прадмета даследавання; збор інфармацыі, складанне бібліяграфіі; запіс, перапрацоўка і сістэматызацыя матэрыялу; напісанне плана (тэзісаў) работы; напісанне навукова-даследчай работы; падрыхтоўка вывадаў і абагульненняў; рэдагаванне тэксту, прагназаванне найбольш верагодных пытанняў і адказаў на іх; публічнае выступленне.

***Практыкум.*** Творчая сустрэча (майстар-клас, круглы стол) з крытыкамі, літаратуразнаўцамі, спецыялістамі ў галіне літаратурнага краязнаўства.

**Тэма, мэты, задачы,**
**прадмет і аб’ект даследавання** (2 гадзіны)

*Тэма даследавання*, яе віды: інфармацыйна-рэфератыўны, праблемна-рэфератыўны, праблемны, абагульняльны, даследчы. Патрабаванні да тэмы: актуальнасць, навуковасць, праблемнасць, дакладнасць, арыгінальнасць. *Мэта даследавання*, патрабаванні да яе (адпаведнасць тэме, навуковасць, актуальнасць, удакладняльны характар у дачыненні да тэмы). Задачы навуковага даследавання (канкрэтызацыя, дэталізацыя і падзел мэты на састаўныя элементы). Паняцці *"аб'ект"* і *"прадмет"* даследавання.

***Практыкум.*** Праца над тэмай даследавання. Фармулёўка мэты і задач даследавання. Вызначэнне аб'екта і прадмета даследавання.

**Асноўныя віды навукова-даследчых работ па літаратуры** (1 гадзіна)

Агульная характарыстыка асноўных відаў даследчых работ па літаратуры. Навуковы артыкул, рэферат, даклад, праект.

***Практыкум.*** Знаёмства з узорамі навукова-даследчых работ па літаратуры.

**Збор інфармацыі па тэме даследавання** (5 гадзін)

*Крыніцы інфармацыі і іх віды.* Бібліяграфічныя даведнікі і часопісы. Электронныя бібліяграфічныя сродкі. Віды навуковых выданняў: навуковыя, навукова-папулярныя кнігі, манаграфіі, зборнікі навуковых артыкулаў, тэзісаў, матэрыялаў, дапаможнікі і падручнікі, навуковыя перыядычныя выданні, даведачная літаратура: энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі і інш.

*Работа з навуковай літаратурай як адзін з этапаў даследавання.*

Папярэдняе знаёмства з навуковай кнігай. Загаловак, падзагаловак і іх роля. Структурныя кампаненты навуковай кнігі: анатацыя, змест, уступ, заключэнне, дадаткі.

Алгарытмы вывучэння навуковай літаратуры (кнігі, артыкула): прагляд, першаснае чытанне, складанне плана тэксту, паўторнае чытанне. Формы запісу: цытаты, тэзісы, канспект.

*Цытаты* (выпіскі з крыніцы інфармацыі, пададзеныя словамі аўтара). Афармленне цытат (выкарыстанне па магчымасці закончаных частак, дакладнасць, захаванне аўтарскіх графічных вылучэнняў, афармленне з дапамогай двукосся, указанне крыніцы і інш.).

*Тэзісы* (палажэнні, якія сцісла перадаюць асноўныя думкі лекцыі, даклада, артыкула). Простыя і складаныя, кароткія і разгорнутыя, тэкстуальныя і вольныя тэзісы.

*Канспект* (перадача зместу тэксту ў лагічнай сістэме абгрунтаваных вывадаў). Віды канспекта – тэкстуальныя, вольныя, змешаныя.

Алгарытмы напісання тэзісаў і канспектаў.

***Практыкум.*** Праца з навуковай літаратурай. Збор і абагульненне інфармацыі па абранай тэме даследавання.

**Структура навукова-даследчых работ па літаратуры** (3 гадзіны)

Кампазіцыя навуковай работы: уступ, асноўная частка, заключэнне, спіс літаратуры, дадаткі (схемы, табліцы, ілюстрацыі, мультымедыйныя прэзентацыі і інш.).

*Уступ*, яго прызначэнне і структура (фармулёўка сутнасці абранай для даследавання праблемы, яе значнасць і актуальнасць; вызначэнне мэты, задач, аб'екта і прадмета даследавання; агульны аналіз выкарыстанай літаратуры; сціслы выклад структуры работы і ўказанне поўнага аб'ёму даследавання ў старонках). Віды ўступаў (біяграфічны, гістарычны, аналітычны, параўнальны).

*Асноўная частка*, яе структура (раздзелы, у якіх паступовa раскрываецца тэма, разглядаюцца яе пэўныя аспекты, выбудоўваецца сістэма доказаў). Віды доказаў (інфармацыйна-спасылачны – цытаванне, лічбы, факты, азначэнні; лагічны; эмацыйны). Парадак размяшчэння раздзелаў: храналагічны, тэматычны, па прынцыпе параўнання або кантрасту, дэдуктыўны, індуктыўны, праблемны.

*Заключэнне* (вывады, высновы) – кароткі выклад сутнасці вынікаў даследчай работы, фармулёўка магчымых перспектыў, далейшых кірункаў даследавання абранай тэмы. Адпаведнасць колькасці і зместу пунктаў заключэння задачам і зместу самой работы.

*Спіс літаратуры.*

*Дадаткі,* іх віды.

***Практыкум.*** Складанне плана навукова-даследчай работы.

**Афармленне навукова-даследчых работ** (2 гадзіны)

Спецыфіка навуковага стылю: дакладнасць, лагічнасць, доказнасць, лаканічнасць; маналагічная форма выказвання; ужыванне навуковых тэрмінаў; складаныя сказы, пабочныя канструкцыі, канструкцыі з умоўна-выніковымі, прычыннымі адносінамі; выкарыстанне безасабовых формаў, займенніка "мы" і г. д.

Афармленне тытульнага ліста, зместу, бібліяграфіі, спіса ўмоўных скарачэнняў. Афармленне і размяшчэнне дадаткаў; спасылкі на іх у тэксце работы.

***Практыкум.*** Рэдагаванне навукова-даследчых работ.

**Рэферат як від даследчай работы па літаратуры** (4 гадзіны)

*Рэферат* – кароткая перадача зместу адной ці некалькіх крыніц (кніг, артыкулаў, дакументаў) з уключэннем асноўных фактычных звестак і вывадаў. Віды (па адной або некалькіх крыніцах; прысвечаныя пытанням гісторыі і тэорыі літаратуры), структура рэферата. Патрабаванні да рэферата (дакладнасць і аб'ектыўнасць перадачы зместу крыніцы, паўната адлюстравання асноўных элементаў, даступнасць).

Алгарытм напісання рэферата.

Крытэрыі ацэнкі якасці рэферата: актуальнасць тэмы і зместу, высокі тэарэтычны ўзровень, глыбіня і паўната аналізу тэмы; інфармацыйная насычанасць, навізна, арыгінальнасць выкладу матэрыялу; структурная арганізаванасць, лагічнасць, граматычная дакладнасць і стылістычная выразнасць; пераканаўчасць, аргументаванасць, практычная значнасць і тэарэтычная абгрунтаванасць высноў.

***Практыкум.*** Напісанне рэферата на абраную тэму.

**Даклад – від самастойнай навукова-даследчай работы** (5 гадзін)

*Даклад* – від самастойнай навукова-даследчай работы, у якім аўтар раскрывае сутнасць праблемы даследавання з выкарыстаннем розных пунктаў гледжання на яе, а таксама ўласных ацэнак і назіранняў. Адрозненне даклада ад рэферата. Акадэмічны стыль даклада. Віды (праблемны, абагульняльны, параўнальны, даследчы), структура даклада. Патрабаванні да даклада (актуальнасць тэмы; змястоўнасць, глыбіня як адлюстраванне якасці ўспрымання і разумення праблемы; дакладнасць; самастойнасць высноў і палажэнняў).

Алгарытм напісання даклада.

Крытэрыі ацэнкі якасці даклада: ступень вырашанасці пастаўленых задач; арыгінальнасць падыходаў да вырашэння задач; уменне карыстацца спецыяльнай літаратурай; здольнасць да самастойнай навукова-даследчай працы; пісьменнасць; выразнасць і вобразнасць мовы; кампазіцыйная стройнасць і логіка пабудовы даклада; аргументаванасць і пераканаўчасць вывадаў.

***Практыкум.*** Напісанне даклада на абраную тэму.

**Даследчы праект як від літаратурнай дзейнасці вучняў** (5 гадзін)

*Даследчы праект,* яго віды.

Этапы працы над праектам: падрыхтоўка – вызначэнне мэты і задач праекта; планаванне – выпрацоўка плана работы, вызначэнне крыніц, спосабы збору і аналізу інфармацыі, выбар формаў справаздачы і размеркаванне абавязкаў; даследаванне – назапашванне інфармацыі, праца з літаратурай, чытанне і аналіз тэксту; аналіз інфармацыі – афармленне заданняў, фармулёўка высноў; прэзентацыя – справаздача з абаронай (часопісы, альманахі, прэзентацыі, відэафільмы і інш.); ацэнка і рэфлексія – падвядзенне вынікаў, фармулёўка высноў.

Патрабаванні да праектаў: наяўнасць праблемы; практычная, пазнавальная, навуковая значнасць вынікаў; самастойная (індывідуальная, парная, групавая) дзейнасць вучняў; выкарыстанне даследчых метадаў: вызначэнне праблемы, мэты і задач даследавання, фармулёўка гіпотэзы іх дасягнення і вырашэння, аналіз дадзеных, падвядзенне вынікаў.

***Практыкум.*** Стварэнне зборніка навукова-даследчых работ "Алхімія слова – XXI".

**Навукова-практычная канферэнцыя**
(4 гадзіны)

Падрыхтоўка да канферэнцыі: стварэнне аргкамітэта канферэнцыі; размеркаванне абавязкаў; складанне праграмы, інфармацыйнага пісьма, прэс-рэліза канферэнцыі; папярэдняе абмеркаванне прапанаваных для канферэнцыі дакладаў.

Правядзенне вучнёўскай навукова-практычнай канферэнцыі "Сусвет мастацкага слова: у пошуках шэдэўраў":

– выступленні ўдзельнікаў з навукова-даследчымі работамі (найлепшыя рэфераты, даклады);

– прэзентацыя зборніка навукова-даследчых работ "Алхімія слова – XXI";

– круглы стол (абмеркаванне найбольш актуальных ці найбольш спрэчных тэм, дакладаў, праблем, агучаных у дакладах выступоўцаў);

– падвядзенне вынікаў канферэнцыі (вызначэнне найлепшых выступленняў; узнагароджанне іх аўтараў дыпломамі) і працы на факультатыўных занятках.

**Прагназуемыя вынікі**

У выніку працы на факультатыўных занятках вучні павінны **ведаць**:

– змест, праблематыку, сістэму вобразаў, сюжэт, кампазіцыю, выяўленчыя сродкі, функцыянальнае ідэйна-эстэтычнае значэнне структурных кампанентаў твораў, якія даследуюцца;

– змест літаратурна-крытычных, літаратуразнаўчых, іншых тэкстаў, да якіх яны звяртаюцца ў працэсе падрыхтоўкі розных відаў навукова-даследчых работ, іх значэнне ў сучасным літаратурным працэсе;

– асноўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, крытыкаў, творчасць якіх становіцца прадметам даследавання вучняў на факультатыўных занятках;

– тэарэтыка-літаратурныя паняцці і тэрміны, неабходныя для ўспрымання, засваення, аналізу і ацэнкі літаратурных твораў як мастацкай цэласнасці;

– найважнейшыя асаблівасці развіцця беларускай літаратуры другой паловы XX – пачатку XXI ст. у суаднясенні з развіццём сусветнага мастацтва слова;

– асноўныя паняцці, звязаныя з навукова-даследчай дзейнасцю (яе сутнасцю, асаблівасцямі арганізацыі, спецыфікай афармлення і прадстаўлення вынікаў і г. д.);

– змястоўныя і структурныя асаблівасці рэферата, даклада, даследчага праекта як асноўных відаў навукова-даследчай дзейнасці па літаратуры ў агульнаадукацыйных установах.

У працэсе авалодання ведамі выпрацоўваюцца наступныя **ўменні** вучняў:

– успрымаць мастацкі твор як цэласнасць, вызначаць і характарызаваць асноўныя кампаненты яго зместу і формы;

– даваць самастойную ацэнку прачытаным творам і абгрунтоўваць яе, выяўляць характэрныя родавыя і жанравыя, стылёвыя асаблівасці твораў;

– суадносіць веды пра гістарычную эпоху з падзеямі, адлюстраванымі ў творы;

– суадносіць канкрэтныя з'явы беларускай літаратуры з асноўнымі эпохамі і кірункамі сусветнага літаратурнага працэсу;

– свабодна аперыраваць пры аналізе мастацкіх твораў тэарэтыка-літаратурнымі паняццямі і тэрмінамі;

– рыхтаваць рэфераты, даклады, даследчыя праекты па літаратуры, правільна іх афармляць;

– рэпрэзентаваць вынікі самастойных даследаванняў (падчас выступленняў на канферэнцыях, семінарах і г. д.), рыхтаваць іх для публікацыі.

У вучняў XI класа павінны сфарміравацца адпаведныя ўзросту і ўзроўню чытацкага развіцця **навыкі**:

– абагульнення, сістэматызацыі і супастаўлення літаратурнага матэрыялу;

– параўнання літаратурных твораў з творамі іншых відаў мастацтва (жывапісу, музыкі, тэатра і інш.);

– працы з навукова-крытычнай і даведачнай літаратурай па абранай тэме даследавання.

Такім чынам, у выніку працы на факультатыўных занятках "Шукаем шэдэўры!..: Вопыты літаратурных даследаванняў" вучань набывае вопыт самастойнай даследчай дзейнасці, становіцца аўтарам па меншай меры адной навукова-даследчай работы. Пашыраецца літаратурная, камунікатыўная кампетэнтнасць, узбагачаецца агульная культура асобы вучня, з'яўляюцца дадатковыя магчымасці для яго самарэалізацыі і далейшага самаразвіцця.

**Асноўная літаратура**

1. **Бондаревский, В. Б.** Воспитание интереса к знаниям и потребности к самообразованию : книга для учителя / В. Б. Бондаревский. – М. : Просвещение, 1985. – 44 с.

2. **Дереклеева, Н. И.** Научно-исследовательская работа в школе / Н. И. Дереклеева. – М. : Вербум-М., 2001. – 46 с.

3. **Ишкова, Л. В.** Формирование исследовательской культуры : (метод. рекомендации организаторам науч.-исслед. работы в довуз. подгот.) / Л. В. Ишкова. – Новокузнецк : Изд-во ИПК, 1997. – 35 с.

4. **Качурин, М. Г.** Организация исследовательской деятельности учащихся на уроках литературы : книга для учителя / М. Г. Качурин. – М. : Просвещение, 1988. – 173 с.

5. **Літаратурная адукацыя ў Беларусі на сучасным этапе** : новыя падыходы і тэндэнцыі : зборнік навуковых артыкулаў / уклад. А. І. Бельскі; рэдкал. : Г. У. Пальчык [і інш.]. – Мінск : НІА, 2008. – 228 с.

6. **Методико-литературный Интернет-сервер "Урок литературы". –** [Электронный ресурс]. – 2004. – Режим доступа : http//www.mils.fobr.ru. – Дата доступа : 28.05.2009.

7. **Нинбург, Е. А.** Выполнение и оформление самостоятельной исследовательской работы / Е. А. Нинбург. – Л. : Ленуприздат, 1991. – 35 с.

8. **Рагойша, В.** Тэорыя літаратуры ў тэрмінах : дапаможнік / В. Рагойша. – Мінск : БелЭн, 2001. – 384 с.

9. **Рагойша, В. П.** Літаратуразнаўчы слоўнік : тэрміны і паняцці : для школьнікаў і абітурыентаў / В. П. Рагойша. – Мінск : Нар. асвета, 2009. – 303 с.

10. **Рященко, И. Р.** Основы научно-педагогического исследования : пособие по написанию и оформлению исследования / И. Р. Рященко. – Томск : Том. гос. пед. ун-т., 1999. – 43 с.

11. **Сергеев, Н. К.** Особенности организации и содержания научно-исследовательской деятельности / Н. К. Сергеев. – М. : Просвещение, 1993. – 46 с.

**Дадатковая літаратура**

1. **Айзерман, Л.** Жаркий июнь 2006-го, или Последний месяц моего пятьдесят четвертого учительского года (Из записок словесника) / Л. Айзерман // Литература в школе. – 2007. – № 2. – С. 26 – 30.

2. **Алексеев, Н. Г.** Концепция развития исследовательской деятельности учащихся / Н. Г. Алексеев, А. В. Леонтович, А. С. Обухов, Л. Ф. Фомина // Исследовательская работа школьников. – 2002. – №№ 1, 2.

3. **Баклицкая, Е. Р.** Умения и навыки исследовательского изыскания / Е. Р. Баклицкая // Завуч. – 2000. – № 2. – С. 113 – 122.

4. **Белых, С. Л.** Управление исследовательской активностью ученика : метод. пособие для педагогов средних школ, гимназий, лицеев / под ред. А. С. Обухова; С. Л. Белых // Исследовательская работа школьников. – 2007. – 56 с.

5. **Бельскі, А. І.** Вывучэнне творчасці пісьменнікаў : класікі і сучаснікі ў школе / А. І. Бельскі. – Мінск : Аверсэв, 2005. – 352 с.

6. **Борикова, Л. В.** Пишем реферат, доклад, выпускную квалификационную работу : учеб. пособие / Л. В. Борикова, Н. А. Виноградова. – М. : Издательский центр "Академия", 2000. – 128 с.

7. **Василенко, Л. П.** Метод проекта при чтении произведений современной литературы (Литература последнего десятилетия. XI класс) / Л. П. Василенко, С. П. Белокурова // Литература в школе. – 2008. – № 11. – С. 38 – 41.

8. **Васючэнка, П. В.** Сучасная беларуская драматургія : дапаможнік для настаўнікаў / П. В. Васючэнка. – Мінск : Маст. літ., 2008. – 158 с.

9. **Гайдуль, А. В.** Организация проектно-исследовательской деятельности учащихся в профильных классах технического уровня / А. В. Гайдуль. – [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http//www.openclass.ru. – Дата доступа : 28.05.2009.

10. **Гецов, Г. Г.** Работа с книгой : рациональные приёмы / Г. Г. Гецов. – Минск : Полымя, 1989. – 176 с.

11. **Гингель, Е. А.** Организация исследовательской деятельности учащихся на уроках литературы / Е. А. Гингель. – [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http//www.sch140.omsk.edu. – Дата доступа : 27.05.2009.

12. **Донцова, О. В.** Метод проектов как одна из форм ученического исследования на уроках литературы / О. В. Донцова // Литература в школе. – 2007. – № 11. – С. 36 – 37.

13. **Колесникова, Н. И.** От конспекта к диссертации : учеб. пособие по развитию навыков письменной речи / Н. И. Колесникова. – М. : Флинта : Наука, 2002. – 268 с.

14. **Кузьмина, Л. В.** Методы исследования педагогической деятельности / Л. В. Кузьмина // Завуч. – 1999. – № 3. – С. 101 – 108.

15. **Лявонава, Е. А.** Агульнае і адметнае : Творы беларускіх пісьменнікаў XX ст. у кантэксце сусветнай літаратуры : дапам. для настаўнікаў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі / Е. А. Лявонава. – Мінск : Маст. літ., 2003. – 198 с.

16. **Прищепа, Е. М.** Ученическая исследовательская работа по литературе в гуманитарной профильной школе / Е. М. Прищепа // Литература в школе. – 2004. – № 12. – С. 25 – 28.

17. **Савенков, А. И.** Методика организации игр-исследований с младшими школьниками / А. И. Савенков // Практика административной работы в школе. – 2004. – № 1. – С. 35 – 38.

18. **Сырцева, Т. Э.** Работа учителей по развитию навыков научно-исследовательской деятельности учащихся / Т. Э. Сырцева // Дополнительное образование. – 2004. – № 2. – С. 12 – 18.

19. **Файн, Т. А.** Поэтапные действия по формированию исследовательской культуры школьников / Т. А Файн // Практика административной работы в школе. – 2004. – № 1. – С. 42 – 46.

*Нацыянальны вобраз свету*

Аляксандр ПАВІЛЬЧ

# МІЖКАНФЕСІЙНЫ ДЫСКУРС У СТАРАЖЫТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ: КАМПАРАТЫЎНЫ ПАДЫХОД ДА ВЫВУЧЭННЯ

Міжканфесійны дыскурс як праекцыя інтэрактыўных працэсаў і фактаў сацыякультурнай дынамікі складае асаблівы прадмет даследаванняў у культуралагічнай кампаратывістыцы. Адлюстраванне элементаў міжканфесійнага дыскурсу ў літаратурных помніках дазваляе выявіць адметнасці рэлігійнай камунікацыі і яе канатацыі ў межах адпаведнай гісторыка-культурнай рэчаіснасці. Подступам да цэласнага вывучэння міжканфесійнага дыскурсу з'яўляюцца рэлігійныя адрозненні, якія выдзяляюцца ў помніках усходнеславянскага пісьменства ў кантэксце супастаўлення розных культурных асяродкаў і традыцый. У якасці прадметаў суаднясення выступаюць, з аднаго боку, язычніцтва і хрысціянства ў межах славянскай сацыякультурнай супольнасці, а з другога – розныя канфесійныя тыпы культуры.

Вывучэнне міжканфесійных адрозненняў у тэкстах старажытнага пісьменства звязана з аналізам і сэнсавай інтэрпрэтацыяй найменняў, што ўказваюць на прыналежнасць да пэўнай сацыякультурнай прасторы і выяўляюць ступень камунікацыі паміж плямёнамі і народамі. Напрыклад, людзі, якія належалі да іншага сацыякультурнага асяроддзя, называліся *іншапляменнікамі, іншаверцамі, паганымі, варварамі.* Гэтыя найменні не толькі адлюстроўвалі культурныя і канфесійныя неадпаведнасці, але і выражалі ацэначную характарыстыку прадстаўнікоў розных супольнасцей.

У літаратурных помніках Старажытнай Русі – летапісных крыніцах, перакладных і арыгінальных творах царкоўнага пісьменства – адначасова з выкладам і тлумачэннем асноўных палажэнняў веры змяшчаліся элементы канфесійнай палемікі, у якой абсалютызавалася праваслаўе, выкрываліся іншыя веравызнанні. Апісальная інфармацыя, што датычыць спецыфікі разнастайных рэлігійных уяўленняў і традыцый, а таксама абумоўленых канфесійным фактарам камунікатыўных паводзін, змяшчаецца ў сярэднявечных ***хаджэннях, дзённіках*** і ***нарысах*** падарожнікаў, паломнікаў, купцоў (Павільч А. Станаўленне параўнальна-культуралагічных ведаў у помніках пісьменства // Роднае слова, 2006, № 8, с. 63 – 66). Аўтары адзначалі асаблівасці розных веравызнанняў у залежнасці ад спецыфікі той ці іншай лакальнай культуры, звярталі ўвагу на адметнасці народных павер'яў.

Асуджэнню паганства прысвечаны шматлікія творы ўсходнеславянскага рэлігійнага пісьменства, але, як адзначыў Б. Рыбакоў, рускія аўтары XI – XIII стст. у адрозненне ад заходніх місіянераў, якія наведвалі славянскія землі, не апісвалі асаблівасці паганскіх культаў, а бязлітасна ганьбавалі іх [1, с. 4]. Хрысціянскія асветнікі пастаянна перасцерагалі паству ад згубных спакус, абумоўленых памылковымі паганскімі поглядамі і недасведчанасцю людзей. Да заган царкоўныя пісьменнікі адносілі народныя прыкметы і забабоны, акультныя дзеянні і праявы спірытызму, захапленне антычнай кніжнасцю і філасофіяй, заснаванымі на паганскім светаўспрыманні. Марнаму жыццю і агідным забавам, якія адхінаюць людзей ад шляху веры і ісціны, хрысціянскія асветнікі супрацьпастаўлялі кніжныя веды і культавую дзейнасць. У гэтым і выяўлялася процістаянне царкоўнай *звышкультуры* народна-язычніцкай культуры Сярэднявечча.

Апісваючы традыцыі, вераванні, нормы сямейных і шлюбных адносін розных славян, аўтар ***"Аповесці мінулых часоў"*** ахарактарызаваў тыя плямёны як паганскія, што не *ведалі закону Божага* і вызначалі свой жыццёвы лад няпісанымі ўстанаўленнямі, дзікімі і непрыстойнымі звычаямі продкаў. Спроба выяўлення міжканфесійных адрозненняў адлюстравана ў паданні пра выбар веры, змешчаным у летапіснай аповесці, дзе распавядаецца пра візіты чужаземных паслоў да князя Уладзіміра.

У ***"Слове пра закон і благадаць"*** **мітрапаліта Іларыёна** хрысціянства асэнсоўваецца як рэлігія *новых людзей*, што ў параўнанні з іудаізмам не абмяжоўваецца адзіным абраным народам. Супрацьпастаўляючы іудаізм і хрысціянства, аўтар абвергнуў прывілеі асобных народаў перад Боскай праўдай. "Слова пра закон і благадаць" адлюстроўвае цэнтрысцкія ўстаноўкі, якія датычаць абсалютызацыі хрысціянства як дасканалага стану чалавецтва і фактару дзяржаў-

на-палітычнай інтэграцыі Русі [2, с. 19]. Дадзены яўрэям Закон аўтар атаясамліваў з адсутнасцю свабоды і недасканалай канфесійнай арганізацыяй, паколькі іудаізм як рэлігія абраных не распаўсюдзіўся на іншыя народы.

***Аляксандр Аляксандравіч Павільч*** *– даследчык літаратуры, культуролаг. Кандыдат педагагічных навук (2001). Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1997), аспірантуру Нацыянальнага інстытута адукацыі (2000). Дацэнт кафедры культуралогіі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Вывучае праблемы параўнальнага аналізу культуры, педагагічны аспект твораў рэлігійнага пісьменства эпохі Сярэднявечча, пытанні культуралагічнай інтэрпрэтацыі старажытнай літаратуры і методыкі яе выкладання.*



Ідэалагічная спрэчка з іудаізмам знайшла вобразнае адлюстраванне ў многіх помніках пісьменства, і адзін з іх – ***“Кіева-Пячэрскі пацярык”***. На прыкладзе эпізоду пра пустэльніка Нікіту, Наўгародскага епіскапа, які быў адмысловым знаўцам кніг Старога Запавету, выкрываецца і нават атаясамліваецца з д’ябальскай спакусай празмернае захапленне іудзейскім Пісаннем. Епіскапу не было роўных у валоданні кнігамі Старога Запавету, які ён увесь ведаў на памяць, але пры гэтым не меў ніякага інтарэсу да ўласна хрысціянскіх тэкстаў, іх *“не хацеў ні бачыць, ні чуць, ні чытаць і іншым не дазваляў гутарыць з сабою пра іх, з чаго ўсе зразумелі, што ён спакушаны ворагам”* [3, с. 518].

Апалагетыка праваслаўнай веры як абсалютнай гучыць у “Аповесці мінулых часоў”, што пацвярджаецца павучальным зваротам да славян, які заклікае захоўваць чысціню сваёй веры і не прымаць *“разбэшчанага”* веравучэння *лацінаў* [4, кн. 1, с. 343]. **Мітрапаліт Макарый** адзначаў, што адносіны праваслаўя да Рымскай царквы пастаянна характарызаваліся адкрытай негатыўнасцю, паколькі менавіта цяжар стэрэатыпаў вызначыў погляд на католікаў як на вераадступнікаў, раскольнікаў і ерэтыкоў, якім прыпісвалі мноства прыдуманых грахоў і за якімі замацаваліся самыя зняважлівыя эпітэты [4, кн. 4, с. 180 – 181]. Макарый лічыў, што вытокі непрыхільнасці праваслаўных да католікаў і іх узаемнае адчужэнне адносяцца да часоў Візантыйскай імперыі, чыя культура адрознівалася празмерным кансерватызмам і ізаляцыянізмам. На яго думку, стаўленне праваслаўнай царквы і расійскай дзяржавы да пратэстантызму вызначалася зусім іншымі матывамі ў адрозненне ад каталіцызму, паколькі царкоўнае акружэнне ніколі не бачыла ў пратэстантызме пагрозы для рэлігійнай свядомасці народа [4, кн. 8, с. 350].

Нават абмежаванасць у атрыманні рускай моладдзю адукацыі за мяжой амаль да пятроўскіх часоў была абумоўлена кансерватыўнымі перасцярогамі дзяржавы і царквы, якія адлюстраваліся ў адпаведных прынцыпах адукацыйнай палітыкі: *“Для навукі і звычаю дзяцей сваіх не пасылаюць у іншыя дзяржавы, баючыся таго, што, даведаўшыся веры і звычаяў тамашніх дзяржаў, пачалі б сваю веру адмяняць”* [5, с. 66]. Заходнія культурныя традыцыі заўсёды былі на Русі прадметам асаблівага недаверу і нават небяспекі, а лаціна, мова сярэднявечнай навуковай традыцыі, успрымалася як медыятар у распаўсюджванні ерэтычных ідэй і вучэнняў. Грэблівае стаўленне да лаціны абумоўлівалася своеасаблівым апалагетычным інстынктам з боку кансерватыўнай праваслаўнай традыцыі і тлумачылася тым, што з пункту гледжання царквы на ёй маглі быць напісаны толькі няслушныя забароненыя кнігі.

На абмежаванні зносін з лацінянамі акцэнтаваў асаблівую ўвагу ў пасланнях **Феадосій Пячэрскі**, і гэта была своеасаблівая рэакцыя на культурную палітыку князя Ізяслава – прыхільніка заходніх традыцый. Феадосій Пячэрскі ў ***“Пасланні вялікаму князю Ізяславу”*** моцна крытыкаваў дагматычныя і культавыя асаблівасці лацінскай веры, асабліва ўяўленне пра зыход Святога Духа ад абедзвюх іпастасей Троіцы, здзяйсненне службы на праснаках, дараванне грахоў за індульгенцыі, бясшлюбнасць каталіцкіх святароў, удзел духавенства ў справах ваеннай палітыкі і інш. [4, кн. 2, с. 191].

Феадосій Пячэрскі падкрэсліў неабходнасць дыстанцыянавання праваслаўных ад лацінян. Выкладаючы павучанні адносна дапушчальных у асяроддзі праваслаўнай культуры камунікатыўных мадэлей паводзін з іншаверцамі, аўтар лічыў усхваленне чужой веры раўназначным богазневажанню і ўпадзенню ў ерась. Феадосій, з’яўляючыся прадстаўніком артадаксальных поглядаў, прапаведаваў неабходнасць устрымання праваслаўных ад неабгрунтаваных зносін з іншаверцамі, шлюбаў з імі, побытавых кантактаў і агульных трапез, але ў той самы час заклікаў не адмаўляць ім у жыццёва важнай дапамозе.

Як і ў многіх іншых творах рэлігійнага пісьменства, у яго павучаннях адначасова з абгрунтаваннем дагматычных і культавых пераваг праваслаўя і выкрыццём заган астатніх веравучэнняў падкрэслівалася неабходнасць праяўлення павагі да ўсіх іншаверцаў. Іменем Бога, які клапоціцца пра ўсіх, хрысціянскі асветнік у сваіх павучальных зваротах заклікаў няспынна хваліць сваю веру, умацоўваць яе добрымі справамі, быць міласцівым і дапамагаць ва ўсялякай бядзе чужынцам незалежна ад таго, праваслаўныя хрысціяне яны, ерэтыкі, лаціняне ці паганцы: *“…калі ўбачыш каго-небудзь голым, ці галодным, ці ў няшчасці, будзе гэта ерэтык або лацінянін, – кожнаму даруй і выратуй ад бяды, як можаш, і ты не пагрэшыш перад Богам, які ахоўвае і*

*праваслаўных хрысціян, і неправаслаўных, і нават паганцаў і пра ўсіх клапоціцца"* [4, кн. 2, с. 192].

У пасланнях **мітрапаліта Нікіфара** (князю Уладзіміру Манамаху, князю Яраславу Святаслававічу) таксама змяшчаюцца разважанні пра недасканаласць веры і памылковыя погляды лацінян. Працягваючы традыцыі царкоўнага пісьменства, аўтар абгрунтаваў статус славянскай мовы як сакральнай мовы праваслаўя і падкрэсліў яе значнасць у культавым жыцці вернікаў. Паводле слоў аўтара, *"любой мовай можна і патрэбна хваліць Госпада, не толькі яўрэйскай, грэчаскай, рымскай, паколькі Хрыстос памёр за ўсіх, прарокі павучаюць усіх, ніводнага народа Гасподзь не пазбаўляе ад праслаўлення Яго і спеваў Яму"* [4, кн. 2, с. 216 – 217].

Апалагетыцы праваслаўя і крытыцы каталіцызму таксама прысвечаны творы **мітрапаліта Георгія** і **Максіма Грэка**, дзе даецца крытычны аналіз асаблівасцей культавага жыцця, рытуальных традыцый і звычаяў.

У прасякнутай патрыятычным пафасам ***"Песні пра зубра"*** **Міколы Гусоўскага** сцвярджаецца ідэя самабытнасці Вялікага княства Літоўскага і выражаецца глыбокае шкадаванне аб ваенных міжусобіцах, расколе хрысціянскага свету ідэалагічнымі супярэчнасцямі і знявазе разумных, канструктыўных спосабаў вырашэння палітычных і рэлігійных канфліктаў:

*Свет хрысціянства з яго хрысціянскаю верай*
*Трэснуў даўно, і расколіна ўглыб пранікае*
*Дома і ў войску, хістаюцца веры асновы!*
*Хто вінаваты? Чыёю злачыннай рукою*
*Губяцца сувязі братнія, бурацца храмы?*

Пер. з лацінскай мовы Я. Семяжона [6, с. 152].

**Францыск Скарына** ў ***прадмовах*** і ***пасляслоўях*** да выдадзеных ім біблейскіх кніг падкрэсліваў важнасць гарманізацыі прынцыпаў рэлігійнага і свецкага жыцця, адзначаў ролю кніжных ведаў у фарміраванні агульнакультурнай кампетэнтнасці і рэлігійнай талерантнасці.

Увага да асэнсавання праблем рэлігійнай ідэнтычнасці, суаднясення зместу веравучэнняў у розных хрысціянскіх канфесіях, пошуку шляхоў міжкультурнага дыялогу актывізавалася ў кантэксце канфесійнай палемікі перыяду Рэфармацыі і контррэфармацыі і адлюстравалася ў творчасці **Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Пятра Скаргі, Мялеція Смотрыцкага, Афанасія Філіповіча** і інш.

Прадстаўнікі рускай рэлігійнай філасофіі канца XIX – XX ст., падсумоўваючы гістарычны вопыт міжкультурных адносін і акцэнтуючы галоўную ўвагу на вывучэнні спецыфічных рыс праваслаўя, выяўлялі адметнасці іншых рэлігій. Цяжкасці ўнутранага збліжэння праваслаўнага і каталіцкага культурных светаў у філасофскай думцы звязваліся з вельмі павярхоўным, часцей за ўсё палітычна афарбаваным успрыманнем дадзенай праблемы. **М. Бярдзяеў** выказваў меркаванне, што паміж католікамі палякамі і праваслаўнымі рускімі пакуль не ўзнікла глыбокай патрэбы ва ўзаемным разуменні і збліжэнні. Не прапаноўваючы кардынальных шляхоў вырашэння супярэчнасцей, адзінае магчымае выйсце ён бачыў у кампрамісе, прымірэнні народных душ, узаемным дараванні іх слабых бакоў і недахопаў, у аб'яднанні хрысціянскіх сіл. Параўноўваючы рускі і польскі тыпы ментальнасці і духоўнасці, М. Бярдзяеў спрабаваў асэнсаваць прычыны іх несумяшчальнасці. Ён супрацьпаставіў простасці, шчырасці і адкрытасці рускай праваслаўнай душы арыстакратычны гонар, арганізаванасць, гатычную ўзнёсласць, індывідуалістычнасць, вытанчанасць і шыкоўнасць польскай каталіцкай душы [7, с. 412]. Паводле слоў **У. Салаўёва**, паляку-католіку бліжэй па духу заходні еўрапеец, нават пратэстант, чым праваслаўны рускі [8, с. 210].

Зварот да помнікаў пісьменства дазваляе прасачыць эвалюцыю ўяўленняў пра міжканфесійныя адрозненні, дапамагае асэнсаваць і аб'ектыўна ацаніць вытокі стэрэатыпаў. Праз аналіз міжканфесійнага дыскурсу заўважаецца неадназначнасць і супярэчлівасць адносін да прадстаўнікоў іншага канфесійнага асяроддзя. Сцвярджэнні пра перавагі і заганы той ці іншай культуры і рэлігіі не могуць грунтавацца на адзіных бясспрэчных крытэрыях, згодна з якімі вызначаецца ступень іх абсалютнасці і дасканаласці. Розныя культурныя генатыпы, абумоўленыя рэлігійнымі традыцыямі, каштоўнаснымі дамінантамі, асаблівасцямі сімвалічнага зместу культур, з аднаго боку, спрыяюць павелічэнню дыстанцыі паміж сацыякультурнымі супольнасцямі, з другога – абстрагуюць пачуццё культурнай ідэнтычнасці і рэлігійнай індывідуальнасці. Помнікі пісьменства змяшчаюць шмат разважанняў адносна забеспячэння камунікатыўнай культуры, што складае абавязковую ўмову падтрымання міжканфесійнага дыялогу, кампенсуе міжкультурную адлегласць і змястоўную супрацьлегласць каштоўнасных дамінантаў і прынцыпаў розных рэлігійных асяроддзяў.

**Спіс літаратуры**

1. **Рыбаков, Б. А.** Язычество Древней Руси / Б. А. Рыбаков. – М. : Наука, 1987. – 482 с.
2. **Павильч, А. А.** Христианская письменность в культуре и педагогической действительности восточных славян в эпоху Средневековья. – Минск : Стринко, 2005. – 104 с.
3. **Памятники литературы древней Руси.** – М., 1978. – Т. 1. – 647 с.
4. **Макарий.** История русской церкви / Макарий. – М. : Изд-во Спасо-Преображенского монастыря, 1994 – 1997.
5. **Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР** : С древнейших времен до конца XVII в. / под ред. Э. Д. Днепрова. – М. : Педагогика, 1989. – 479 с.
6. **Старажытная беларуская літаратура** : зборнік / уклад. Л. С. Курбека. – Мінск : Юнацтва, 1990. – 350 с.
7. **Бердяев, Н.** Судьба России : сочинения / Н. Бердяев. – М. : Эксмо, Харьков : Фолио, 2004. – 736 с.
8. **Соловьев, В. С.** Великий спор и христианская политика / В. С. Соловьев // Византизм и славянство. Великий спор. – М. : ЭКСМО-Пресс, 2001. – С. 198 – 324.

*У энцыклапедыю "Максім Багдановіч"*

Таццяна ВАБІШЧЭВІЧ

# ЛІРЫКА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА ВА ЎСПРЫМАННІ НАШАНІЎСКІХ СУЧАСНІКАЎ

## БАГДАНОВІЧ І "ВЫСОКІ" (ІНТЭЛІГЕНТНЫ) ЧЫТАЧ

Пытанні, звязаныя з чытацкай рэцэпцыяй беларускай літаратуры і гісторыяй функцыянавання твораў таго ці іншага пісьменніка ў асяроддзі айчыннага чытача, да сёння застаюцца аднымі з найменш даследаваных у нацыянальным літаратуразнаўстве. Так склалася, што ў ланцужку, якім можа быць схематычна акрэслены шматкроць паўтаральны (па сутнасці няспынны) і заўжды абнаўляльны "жыццёвы цыкл" літаратуры – "аўтар – твор – рэцыпіент" – апошні "элемент" на доўгі час быў пакінуты па-за межамі сур'ёзнай навуковай увагі. Чытач не разглядаўся як актыўны ўдзельнік літаратурнага працэсу, той суб'ект, патрэбы, цікавасці і эстэтычныя чаканні якога ўплываюць на фарміраванне нацыянальнага літаратурнага канона, шмат у чым абумоўліваюць творчыя шуканні пісьменнікаў, а таму апасродкавана перадвызначаюць агульнае аблічча літаратуры ў канкрэтную гістарычную эпоху.

На цяперашні момант сітуацыя кардынальна змянілася: у 1960 – 1980-я гг. у сусветнай гуманітарыстыцы адбыўся "паварот да чытача" (напрацоўкі ў галіне рэцэптыўнай эстэтыкі, крытыкі чытацкай рэакцыі, reader-activated і context-activated падыходаў, гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства, сацыялогіі чытання, псіхааналітычнага асэнсавання эстэтычнай рэцэпцыі і інш.), і стала відавочным, што "чытацкі" ракурс гледжання на літаратуру валодае багатым эўрыстычным патэнцыялам, адкрывае новыя аспекты гісторыі мастацкага слова, дазваляе выявіць раней не заўважаныя і не адрэфлексаваныя асаблівасці развіцця прыгожага пісьменства. Шырокія інтэрпрэтацыйныя магчымасці сацыялагічных метадаў і метадаў рэцэптыўнага аналізу ўжо былі прадэманстраваныя на беларускім літаратурна-мастацкім матэрыяле (гл. напр.: [8], [2, с. 39 – 101] і інш.), аднак збіранне, сістэматызацыя і асэнсаванне фактаў па асаблівасцях успрымання чытачом твораў айчынных аўтараў (а ў якасці доўгатэрміновай мэты – і напісанне грунтоўнай гісторыі рэцэптыўнага быцця беларускай літаратуры, стварэнне разгорнутай рэтраспектывы станаўлення ў Беларусі чытацкай супольнасці) усё яшчэ з'яўляюцца актуальнымі задачамі нацыянальнай літаратурнай навукі.

У будучым фундаментальным даследаванні камунікатыўна-рэцэптыўнай гісторыі беларускага мастацкага слова постаць Максіма Багдановіча зойме, без сумневу, асаблівае месца, бо ў дачыненні да гэтага творцы "праблема чытача" заўжды стаяла надзвычай востра. Ад самага прыходу М. Багдановіча ў літаратуру чытацкая арыентаванасць паэтавых тэкстаў была прадметам пастаянных гарачых спрэчак і дыскусій. Усё пачалося, як вядома, з досыць падрабязна апісанага ва ўспамінах Вацлава Ластоўскага "канфлікту інтэрпрэтацый", што ўзнік на пачатку 1909 г. у рэдакцыі "Нашай Нівы" ў сувязі з дасланымі маладым аўтарам вершамі міфалагічна-фальклорнай тэматыкі. Ядвігін Ш. "ахрысціў" тады Багдановічавы паэтычныя спробы "дэкадэншчынай" і, падкрэслім гэтую фармулёўку, "вершамі не для народа" [5, с. 192, 193]. З такой думкай пагадзіліся прадстаўнікі "верхняй" палаты рэдакцыі (браты Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў, Вітаўт Чыж, Язэп Манькоўскі), у выніку чаго "сшытачкі" з творамі М. Багдановіча не пайшлі ў друк, а былі адпраўленыя ў рэдакцыйны архіў. Мастацкую вартаснасць Багдановічавых вершаў, іх актуальнасць для дэмакратычнага нацыянальна-адраджэнскага руху беларусаў здолеў праз пэўны час давесці нашаніўцам Сяргей Палуян (яго падтрымалі В. Ластоўскі і Янка Купала, а з "верхнепалатнікаў" першым – В. Чыж, пазней – А. Луцкевіч), і прызнаныя раней "ненароднымі" (а значыць, "непатрэбнымі" і ў нейкай ступені нават "шкоднымі" для "народацэнтрычнай" беларускай літаратуры) тэксты ў рэшце рэшт атрымалі права на выхад да чытача.

Ацэнка, дадзеная Ядвігіным Ш. творам М. Багдановіча, маўклівая згода з ёю большасці асоб з рэдакцыйнага калектыву "Нашай Нівы" яскрава сведчаць, што ў 1900-я гг. у якасці асноўнага спажыўца беларускай літаратурнай прадукцыі разглядаўся шараговы селянін-беларус (якраз сялянства выступала ў XIX – пачатку XX ст. захавальнікам і найбольш рэпрэзентатыўным носьбітам беларускага моўна-культурнага кода; у грамадскай свядомасці, па сутнасці, тоеснымі былі паняцці "беларус" і "мужык"), а

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*



516 НАША НІВА. № 35 і 36

П—ім сварку. Ізноў напісалі пратакол, але ўжо на П—кго, і бадай што Земскі яго засудзіць, бо, кажуць, П кі пану Налівайку крыху такі лішніцы наліў...

*Нус.*

ЛЯСУН.

I.

Прывольная, цёмная пушча:
Вялізные ліпы, дубы,
Асінніка, ельніка гушча,
Меж хвоі апаўшэй—грыбы

Ўсё дзіка пустынна імшыцца.
Агністая сьпека стаіць.
На моху, меж сьпелай брусніцы,
Лясун адзінокі ляжыць.

Каравая моршчыцца скура,
Аброс цёмным мохам, як пень,
Трасе галавой ён панура,
Бакі выгрэвае ўвесь дзень

Гляджу на яго я уныла,—
На сэрцы і жаль, і жуда:
Ўсё знікла—і ўдаласьць і сіла,—
Прапала як дым, як вада!

II.

**Хрэсьбіны лясуна.**

Бор шумеў, навеваў зводны сон,
А у ім ціхі гул раздаваўся,—
Гэта ў небі лясун калыхаўся
На вяршынах вялізных сасон.

Яму месяц маркотны сьвяціў,
Падымалі крыжы ў неба елі,—
І у сіняй нябеснай купелі
Дўшу дзікую ёй ахрэсьціў

**Максім Б—віч.**

*Яраслаўль.*

З усіх старон.

**Пецербург.** На ткацкай фабрыцы „Малая Невка“, калі рабочы ці работніца прыпазьніцца хаця на 5 мінут, ім адлічаюць чацьвёртую частку дзеннага заработу.

= На двары Шліссэльбурскай турмы арыштанты накінуліся на двух быўшых пры іх надзірацелёў—Гавду і Смірнова; першаго зранілі малатком у галаву, а на Смірнова накінуліся і хацелі адабраць аружжэ; той выстрэліў і зраніў аднаго арыштанта,—але надбегла помач, супакоілі арыштантоў, а зраненых адвялі ў больніцу.

= На карабле страіцельнай фабрыцы паменшылі рабочым плату на пятую часць.

= На Прохороўскай фабрыцы забаставало 6 тысячоў чэлавек.

= Міністэрства ўнутрэных спраў хочэ ад новаго года прыняць ешчэ 825 паліцэйскіх, каторые мелі-б даглёд над палітычнымі ссыльнымі. На гэта пойдзе 243 тысячы 360 рублёў.

= 1 аго Сенцябра маніцца прыехаць у Пецербург прадседацель Гасударственай Думы Н. А. Хомяков. 20 Аўгуста выехаў туды сэкрэтар Гасударственай Думы. І. І. Замыслоўскі. Да гэтуль дзежурным сэкрэтаром лічыўся І. П. Сазановіч, каторы апроч пэнсіі браў за гэта па 10 руб. у дзень. Жыў ён увесь гэты час у сваім маёнтку Жлобіне і толькі разы два ў месяц даведаўся ў Пецербург.

**Пецербург.** За апошніе два тыдні ваенна-акружные суды прыгаварылі на сьмерць: у Іркуцку

дамінанту і дэтэрмінанту эстэтычных чаканняў айчыннага чытача-адраджэнца складалі ў гэты перыяд ідэйныя палажэнні народніцтва.

Яшчэ з сярэдзіны XIX ст. народніцкая дактрына з ключавой для яе канцэпцыяй народа як сялянства, народа як "людзей простых" завалодала ў Расійскай імперыі розумамі дэмакратычна настроенай інтэлігенцыі, і менавіта народніцтва, высока ўзняўшы сцяг гуманізму і роўнасці, выканала ролю галоўнага каталізатара нацыянальна-адраджэнскіх рухаў "безэлітных" (сялянскіх) народаў (украінцы, беларусы, латышы, літоўцы і інш.).

Вызначэнне нашаніўцамі вершаў М. Багдановіча як "ненародных" дае падставы сцвярджаць: у мастацка-інтэлектуальнай гісторыі Беларусі (як і Украіны, на што ўкраінскія літаратуразнаўцы ўжо звярнулі самую пільную ўвагу) народніцтва выявіла сябе не толькі як уплывовая палітычная ідэалогія, але і як адметная крытычная школа са сваёй шкалой ацэнак, а ў шырэйшым сэнсе – увогуле як "спосаб мастацкага існавання літаратуры" і "спосаб тэарэтычнага асэнсавання культуры, форма яе крытыкі, культурны дыскурс" [7, с. 27 – 28]. Галоўным прадметам мастацкай аналітыкі ў рамках народніцтва абвяшчалася праблема сялянства, што задавала для творцаў адпаведную (у сваіх межах, праўда, дастаткова багатую на варыяцыі) матрыцу пісьма. Сярод найбольш характэрных жанравастылёвых і змястоўных адзнак "народніцкай" літаратуры – "асаблівая цяга да традыцыйных, старых або аўтаномных мастацкіх структур (барока, бурлеск), да актыўнага прадукавання – з мэтаю самазахавання – рамантыка-народніцкай ідэалогіі, да засваення і замацавання дыдактычных і этнаграфічных форм творчасці, выкарыстання элементаў размоўнай (пераважна прастамоўнай), а не пісьмовай літаратурнай мовы і да г. п." [цыт. паводле: 7, с. 29]. Адхіленні ад пазначанага ідэйна-мастацкага рэчышча, як гэта відаць у выпадку з Багдановічам, адразу ж фіксаваліся рэцыпіентамі-народнікамі і сустракалі рашучы пратэст.

Ядвігін Ш., а пасля А. Уласаў і А. Луцкевіч, рэзалюцыі якіх, паводле В. Ластоўскага, стаялі на рукапісе з "крамольнымі" творамі маладога паэта, ацэньвалі Багдановічавы вершы ў першую чаргу з гледжання адпаведнасці мэтам і задачам беларускага адраджэння як своеасаблівай нацыянальна афарбаванай мадыфікацыі народніцтва: улічвалася патэнцыйная карысць мастацкіх тэкстаў для асветы (у тым ліку прыцягненне да чытання, зацікаўленне друкаваным словам), нацыянальнага абуджэння і ўвогуле паляпшэння долі "скрыўджанага" "мужыцкага" народа. Ласна мастацка-эстэтычныя крытэрыі – чысціня і прыгажосць мовы, рытміка-інтанацыйная выверанасць, арыгінальнасць тэматыкі, трапнасць і свежасць вобразаў, праяўленасць аўтарскага "я", моц сугестыўнага ўплыву і іншае – адыгрывалі пры ўспрыманні паэтычнага твора толькі другараднае значэнне.

Паказальна, што нават Янка Купала, які, па сведчанні Ластоўскага, адразу "інтуітыўна вычуў… у Максіме Багдановічу сапраўднага мастака" [5, с. 192], усё ж такі звярнуў увагу і на некаторую неадпаведнасць новага аўтара нашаніўскім стандартам. Як можна меркаваць з успамінаў, старэйшы і на той час ужо прызнаны творца актыўна падтрымаў "неадраджэнскага", "ненароднага" паэта-пачаткоўца толькі калі Багдановічавы вершы «з надзвычайным захапленнем стаў бараніць… перад Ядвігіным, а пасля перад "верхняй палатай"» С. Палуян [5, с. 193]. Пазней, ужо напрыканцы 1920-х гг., у адным з аўтабіяграфічных лістоў Купала шчыра прызнаваўся, што не мог захапіцца Багдановічам так, "як, магчыма, ён [гэтага] заслугоўваў… – вельмі ўжо па-рознаму мы пісалі…". Дакладна называлася і прычына (у нашым кантэксце зноў-такі вельмі паказальная) падобнага "халадку" ў адносінах: «…у мяне матывы грамадзянска-нацыянальныя, у яго – ледзьве не

“мастацтва для мастацтва”, за малым выключэннем» [4, с. 276].

Цвёрдая перакананасць інтэлігентаў-народнікаў у сваёй ідэйнай праваце, у велічы і гуманістычнасці той народнай справы, якой яны шчыра служылі, дазваляла ім быць просталінейнымі і адкрыта эмацыянальнымі ў ацэнках літаратурных твораў. Дакладна вызначыўшы для саміх сябе, што павінна складаць галоўны змест беларускай паэзіі як паэзіі нядаўна абуджанага да свядомага жыцця сялянскага народа, яны, фактычна, імкнуліся не проста пасіўна “спажываць” новыя тэксты, але актыўна ўплываць на развіццё літаратурнага працэсу, задаваць яго тон і напрамак, выступаючы ў ролі звышпатрабавальных чытачоў – тых рэцыпіентаў, якія згодна з вызначэннем адной з псіхааналітычных канцэпцый успрымання мастацтва “прагнуць і прэтэндуюць” [6, с. 318].

Пасля першага досыць драматычнага (хоць і са шчаслівым фіналам) “унутрырэдакцыйнага” інцыдэнту з неразуменнем і непрыманнем творчасці М. Багдановіча яго чытачамі-сучаснікамі за лірыкам-наватарам пацягнулася доўгая чарада рэцэптыўна-інтэрпрэтацыйных прэтэнзій і дакораў – у тым ліку і выказаных рэцыпіентамі, літаратурнымі крытыкамі, ацэнкі якіх наўпрост уплывалі на тыя пазіцыі, што меўся заняць паэт у нацыянальнай культурнай прасторы і гісторыі беларускай літаратуры. З рэгулярнай перыядычнасцю як у нашаніўскую пару, так і пазней (асабліва часта ў 1930-я гг., якія маглі б стаць прадметам асобнай гаворкі) на адрас М. Багдановіча гучалі імпліцытныя і эксплліцытныя абвінавачанні ў элітарнасці і “ненароднасці”, найчасцей падмацаваныя папрокамі ў індывідуалізме, эстэцтве, адарванасці ад жыцця, ігнараванні найбольш злабадзённых для Беларусі сацыяльных пытанняў і няўлічванні спецыфікі беларускай грамадска-культурнай (у прыватнасці рэцэптыўна-чытацкай) сітуацыі. Вось два паказальныя прыклады падобнага насцярожанага ўспрымання Багдановічавай лірыкі з боку беларускага чытача-інтэлігента пачатку XX ст.

Неўзабаве пасля выхаду ў свет зборніка выбраных твораў М. Багдановіча “Вянок”, у 1914 г., віленская беларускамоўная каталіцкая газета “Беларус” змясціла на сваіх старонках наступную кароткую інфармацыю пра гэтае “свежае” літаратурна-мастацкае выданне: «Новая беларуская кніжка “Вянок” – зборнік вершаў М. Багдановіча, між каторымі ёсць дужа пекныя, але наогул вершы М. Багдановіча зразумелыя толькі для вучоных і начытаных людзей» [9].

У працытаванай нататцы, на першы погляд, проста канстатуюцца факты, і яна ёсць ацэначна-нейтральным, аб’ектыўна-стрыманым паведамленнем пра з’яўленне на беларускім кніжным рынку літаратурнай навінкі. Але калі ўзяць пад увагу кантэкст эпохі (выразны народніцка-дэмакратычны і асветніцкі пафас беларускага руху і ўласна рэдакцыйнай праграмы “Беларуса”, востры запал сацыяльна-вызваленчай барацьбы, характэрны для пачатку XX ст. і г. д.), дык нельга не адзначыць тут і некаторай долі перадузятасці, а дакладней – прыхаванага расчаравання ў змесце зборніка і, цалкам імаверна, негатыву ў дачыненні да Багдановіча-лірыка, які “не туды” скіроўвае развіццё айчыннай паэзіі. Прынамсі, апошняя заўвага (“але наогул…”), пераносячы акцэнт з эстэтычных вартасцей “Вянка” на спецыфічнае чытацкае прызначэнне Багдановічавых вершаў, па сутнасці, перакрэслівае тую дастаткова прыхільную ацэнку, што дадзена кнізе ў першай частцы нататкі.

Неадступнае выкананне ўнутраных установак і нормаў беларускага культурна-адраджэнскага праекта, які ад самых сваіх вытокаў быў скіраваны ў першую чаргу на “масы”, на нізавыя – сялянска-работніцкія – слаі насельніцтва, не дазваляла рэдакцыі “Беларуса” ацаніць кнігу, даступную “толькі для вучоных і начытаных людзей”, як сапраўды значны грамадска-культурны набытак. Зборнік М. Багдановіча не меў, па перакананні рэцэнзентаў, непасрэднай карысці для асветы “цёмнага”, сілай абставін пакуль яшчэ ў пераважнай большасці слабапісьменнага беларуса-мужыка, а значыць, не адпавядаў найбольш актуальным адраджэнскім задачам і – лагічная выснова – мала спрыяў практычнаму развіццю беларускага руху і станаўленню маладой нацыянальнай культуры. Можна сцвярджаць, што аўтары нататкі следам за Ядвігіным Ш. у пэўным сэнсе паставілі пад сумнеў саму беларускасць Багдановіча, бо міжволі ці свядома падкрэслілі менавіта тую “канфліктагенную” характарыстыку вершаў маладога паэта, паводле якой ён не ўпісваўся ў звыклае, сфарміраванае творчасцю Багушэвіча, Цёткі, Купалы і Коласа ўяўленне пра “сапраўднага” беларускага “песняра”-адраджэнца. Багдановіч, такім чынам, выносіўся па-за рамкі “рэальнай” – народнай – беларускасці, пакідаўся выдаўцамі “Беларуса” недзе збоку ад жывой практыкі беларускага адраджэння.

“Напаўчужым” для беларускага нацыянальна-адраджэнскага (у тым ліку і літаратурна-мастацкага) працэсу лічыў М. Багдановіча і яшчэ адзін з паэтавых сучаснікаў – Лявон Гмырак (Мечыслаў Бабровіч). У артыкуле “Беларускае нацыянальнае адраджэнне” (1914) гэты нашанівец паставіў аўтара “Вянка” “асобна ад другіх”

беларускіх паэтаў, абгрунтаваўшы сваё меркаванне тым, што Багдановіч «шмат нам даў тыповых пробак паэзіі "штукарства для штукарства"» [1, с. 82]. Пры знешне захаваных крытыкам нейтральнасці і карэктнасці ў кантэксце артыкула падобная ацэнка ўсё ж такі расчытваецца як досыць востры крытычны выпад супраць Багдановіча-лірыка – чарговая эксплікацыя (праўда, у крыху іншым вербальным афармленні) думкі Ядвігіна Ш. пра Багдановічаву "дэкадэнскасць" і "ненароднасць".

Думаецца, паняцці "штукарства для штукарства" і "дэкадэншчына" ляжалі для Гмырака, як і для многіх іншых інтэлігентаў-народнікаў, у адной ідэйна-змястоўнай плоскасці, хоць і мелі, зразумела, пэўныя адценні сэнсу: у "мастацтве для мастацтва" з яго ігнараваннем грамадзянскай праблематыкі на першы план выходзяць формавыя шуканні, а дэкадэнцтва апрача няўвагі да сацыяльных пытанняў вызначаецца яшчэ і выразным ухілам у "шкодны", дэструктыўны для асобы і грамадства песімізм, прычым у такой сваёй скіраванасці яно, з гледжання народніцтва, ёсць куды "большае ліха", чым "нефункцыянальнае", ідэалагічна не напоўненае, але ў змястоўным плане "бяскрыўднае" "мастацтва для мастацтва".

Рэч у тым, што адразу пасля заўвагі пра "асобнае месца" М. Багдановіча ў маладой нацыянальнай літаратуры Гмырак пачынае з запалам даводзіць: "…дэкадэнцкіх настрояў, так прыкметных цяпер у іншых пісьменствах, у нас бадай не бывае", бо "патэнтаваных і патомных інтэлігентаў сярод нашых пісьменнікаў так як бы і няма" [1, с. 82]. Вынікае, што Багдановіч з яго "інтэлігенцкай" біяграфіяй ці то свядома замоўчваецца публіцыстам, ці то якраз і патрапляе як "патэнцыйны дэкадэнт" у разрад выключэнняў, крайне непажаданых для Гмыракавай канцэпцыі беларускай літаратуры як літаратуры ўзорна народнай. І самае галоўнае: згодна з Гмыракам, беларусы як "гаротны народ з гаротнай доляй" ад любых дэкадэнцкіх павеваў "дужа далёкія", а для нацыянальна-культурнага адраджэння цяпер патрэбная найперш (калі не выключна) літаратура ў духу М. Някрасава і Г. Успенскага, у чым адназначна пераконвае і вопыт суседзяў – рускага і польскага сялянства [1, с. 83]. Творы ж "дэкадэнцкіх пісакаў" [1, с. 83] не знайшлі і ніколі не знойдуць запатрабавання сярод масавага чытача (абразлівасць выкарыстанага крытыкам выразу – "дэкадэнцкія пісакі" – здымае апошнія пытанні пра сапраўдныя, далёка не прыхільныя адносіны Гмырака да "дэкадэншчыны"). Да таго ж у лістах у рэдакцыю "Нашай Нівы" адраджэнец неаднаразова рэзка выступаў супраць "глыбокомыслия" (азначэнне самога Гмырака. – ***Т. В.***) у творах беларускіх пісьменнікаў, асабліва ў тэкстах, прызначаных для апублікавання ў "папулярнай народнай газеце" [гл. пра гэта: 3, с. 16].

Калі вышэйпрааналізаванае інфармацыйнае паведамленне з "Беларуса" ці не ўпершыню выступіла аб'ектам літаратуразнаўчага разгляду, дык рэцэпцыя Багдановічавай творчасці Лявонам Гмыракам ужо атрымала ў свой час глыбокую гісторыка-літаратурную інтэрпрэтацыю з боку Уладзіміра Конана. Даследчык слушна адзначыў, што Багдановіч і яго равеснік Гмырак увасабляюць сабою "два полюсы беларускай літаратуры нашаніўскай эпохі" [3, с. 14]. Аналіз архіўных матэрыялаў і апублікаваных прац Гмырака дазволіў У. Конану паказаць, наколькі неадназначным (пры дэклараванай талерантнасці), а ў некаторых выпадках адкрыта тэндэнцыйным было стаўленне нашаніўца-народніка да спроб пашырыць тэматычна-стылёвы дыяпазон маладой літаратуры. Навуковец раскрыў аб'ектыўныя канкрэтна-гістарычныя прычыны непрымання Лявонам Гмыракам "дэкадэнцтва" і эстэтычнай літаратурнай крытыкі "a la Багдановіч" (выраз Гмырака. – ***Т. В.***) і разам з тым прыйшоў да высновы, што пры наяўнасці некаторых ідэйных разыходжанняў нашаніўскі публіцыст паважаў Багдановіча "як самаахвярнага чалавека і пісьменніка" [3, с. 15], "прымаў… як паэта нацыянальнага адраджэння" [3, с. 19].

Апошняе сцвярджэнне У. Конана, на наш погляд, усё ж такі з'яўляецца пэўнаю нацяжкай (нездарма сам даследчык пісаў пра полюснасць пазіцый Гмырака і Багдановіча, а таксама пра гіпертрафаванне публіцыстам сацыяльнай ангажаванасці літаратуры "за кошт яе мастацкай вартасці" [3, с. 20]), спробай з вышыні часу (бо гісторыя ўжо паставіла ўсё на свае месцы) прымірыць двух вельмі розных па светапоглядзе творцаў. Разгляд Гмыракавых артыкулаў як інтэртэкстуальнага цэлага, выяўленне-рэканструкцыя схаваных у падтэкст сэнсаў даюць падставы меркаваць, што верны ідэалам народніцтва адраджэнец, галоўным для якога ў літаратуры былі "сардэчнасць пачуцця", "зразуменне народа", глыбокае адчуванне "народнага гора" і рэалістычнасць [1, с. 77], не мог прыняць Багдановіча-лірыка цалкам, без шматлікіх заўваг і агаворак.

Крытык, хутчэй за ўсё, праводзіў жорсткую мяжу паміж Багдановічавымі творамі грамадзянска-патрыятычнага гучання (іх ён вітаў і ўхваляў, на што ўказвае, напрыклад, артыкул "Яшчэ аб сплачванні доўгу", дзе імя М. Багдановіча пастаўлена ў адзін шэраг з імёнамі паказальных для адраджэнскага руху Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага [1, с. 49], або

і тое ж "Нацыянальнае адраджэнне беларусаў", дзе цытуецца Багдановічаў "Краю мой родны! Як выкляты Богам…") і вершамі "сацыяльна нязначнымі", не накіраванымі непасрэдна на выхаванне і асвету беларуса-селяніна, на здабыццё народам "лепшай долі". У гэтую "незапатрабаваную" надзёнымі адраджэнскімі мэтамі групу тэкстаў траплялі найперш лірыка М. Багдановіча інтымна-асабістага і міфалагічнага зместу, творы ўскладненай формавай будовы і нетрывіяльнага ў інтэлектуальным плане напаўнення. Для падобнага кшталту "глубокомысленных" рэчаў Гмырак пакуль не бачыў месца ў моцнай сваім народным духам беларускай літаратуры і лічыў магчымым публікаваць іх у найлепшым выпадку ў выданнях "не для ўсіх", выданнях, якія збочылі з магістральнай – "яснай, простай, шырокай дарогі" адраджэння [цыт. паводле: 3, с. 17], – напрыклад, у "Маладой Беларусі", створанай адмыслова для задавальнення патрэб беларускага інтэлігентнага, пакуль вельмі малалікага, рэцыпіента [3, с. 16].

Для Гмырака існавалі, умоўна кажучы, дзве цяжка сумяшчальныя паміж сабою іпастасі Багдановіча: першая – дзейсны адраджэнец, свядомы беларус і грамадзянін, таленавіты паэт, здольны многае зрабіць для нацыянальнага абуджэння роднага краю (развіццё маладога творцы ў дадзеным кірунку неабходна ўсімі спосабамі стымуляваць і падтрымліваць); другая – чужы, небяспечны сваімі хваравіта-індывідуалісцкімі настроямі для "здаровай" сялянска-працоўнай грамады паэт-эстэт, паэт-фармаліст, зацікаўлены выключна абстрактнымі, мала звязанымі з рэальным жыццём пытаннямі (на хібнасць падобных тэндэнцый трэба як мага хутчэй звярнуць грамадскую ўвагу і ўвагу самога аўтара – каб рашуча прадухіліць магчымыя "абвастрэнні"). Як і выдаўцы "Беларуса", Лявон Гмырак, відаць, не здолеў бы адмовіць гэтаму "другому" – "спрэчнаму", "неадраджэнскаму", "несвоечасоваму" – Багдановічу ў паэтычным майстэрстве, вытанчанасці і прыгажосці мовы, але такія якасці не былі патрэбныя абяздоленаму народу "тут і цяпер" – у перыяд, калі неадкладнай увагі патрабавалі куды больш сур'ёзныя, па сутнасці, жыццёвазначныя праблемы адраджэння. Трэба меркаваць, калі б Гмырак паспеў ажыццявіць сваю задуму па напісанні рэцэнзіі на зборнік "Вянок" (у гэтым перашкодзілі нашаніўцу пачатак Першай сусветнай вайны і, у хуткім часе, гібель на фронце), у водгуку абавязкова прысутнічалі б, з аднаго боку, строгія і настойлівыя (хоць па-бацькоўску добразычлівыя) ушчуванні Багдановіча ў легкадумнай "растраце" творчых сіл на пустое і непатрэбнае "для народа" красамоўства, а з другога боку, заклікі павучанні стаць на больш годную, адпаведную адраджэнскім задачам літаратурна-мастацкую сцяжыну. Так ці іначай, але "іншасць" М. Багдановіча, зразуметая ў першую чаргу як безыдэйнасць і бяздзейснасць, не магла не адштурхоўваць і не раздражняць такога палымянага, шчыра-ідэйнага, аднак у той жа час нярэдка "па-правінцыйнаму абмежаванага" [3, с. 15] крытыка, як Лявон Гмырак.

Сёння цяжка ўявіць, але Ядвігін Ш., Гмырак і многія іншыя, згаданыя і не згаданыя вышэй нашаніўцы-народнікі з іх насцярожана-скептычным, а то і адкрыта непрыхільным стаўленнем да ўзорнай з гледжання мастацкасці, аднак найчасцей пазбаўленай ідэалагічнага (народна-дэмакратычнага) гучання паэзіі М. Багдановіча, былі выразнікамі найбольш значнай плыні беларускай грамадска-культурнай думкі 1900 – пачатку 1910-х гг. Багдановічава лірыка, хоць і была прызнаная "пекнай", не сустрэла поўнага разумення з боку тагачаснага "высокага" (яшчэ нешматлікага) нацыянальнага чытача: у пераважнай большасці адукаваныя адраджэнцы-беларусы, свядома адмаўляючыся ад уласных "інтэлігенцкіх" цікавасцей, найгалоўнейшай задачай бачылі зліццё з чытачом народным, масавым, пертварэнне сябе ў alter ego рэцыпіента-селяніна. Каб успрыманне "ненароднага" паэта змянілася, патрэбны быў пэўны час.

**Спіс літаратуры**

1. **Гмырак, Л.** Творы : Проза. Крытыка. Публіцыстыка / Л. Гмырак; уклад., падрыхт. тэксту, прадм. і камент. У. Конана. – Мінск : Маст. літ., 1992. – 239 с.

2. **Кісялёва, Л.** Маргіналіі : беларуская гумарыстычная літаратура XIX – пачатку XX ст. у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый / Л. Кісялёва. – Мінск : Медисонт, 2007. – 142 с.

3. **Конан, У.** "Хацеў ён волі для сялян…" : прадмова / У. Конан // Гмырак, Л. Творы : Проза. Крытыка. Публіцыстыка / Л. Гмырак. – Мінск : Маст. літ., 1992. – С. 3 – 24.

4. **Купала, Я.** Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. ім. Я. Купалы. – Мінск : Маст. літ., 1995 – 2003. – Т. 9, кн. 1 : Пераклады, эпістал. спадчына, дарчыя надпісы, "Расейска-беларускі слоўнік", калектыўнае, служб. і асабіст. дакументы, дадатак / рэд. М. Мушынскі, В. Скалабан; падрыхт. тэкстаў і камент. А. Гесь [і інш.]. – 2003. – 688 с.

5. **Ластоўскі, В.** Выбраныя творы / В. Ластоўскі; уклад., прадм. і камент. Я. Янушкевіча. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 1997. – 512 с.

6. **Література. Теорія. Методологія** / упоряд. і наук. ред. Д. Уліцкої; пер. с пол. С. Яковенка. – 2-ге вид. – Київ : Вид. дім "Києво-Могилянська академія", 2008. – 544 с.

7. **Павличко, С.** Дискурс модернізму в українській літератури / С. Павличко. – 2-е вид., перероб. і доп. – Київ : Либідь, 1999. – 446 с.

8. **Сучасная літаратура і чытач** / Л. М. Гарэлік, Т. К. Грамадчанка, Э. С. Гурэвіч [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1988. – 368 с.

9. Szto czuwać // Biełarus. – 1914. – 20 sak. (№ 11 – 12). – S. 7.

*З юбілеем!*

# "МНОГА-МНОГА ЗРАБІЦЬ"

## ДА 60-ГОДДЗЯ АНАТОЛЯ ВЕРАБ'Я



Юбілей наводзіць на думкі аб пражытым, пабуджае ацаніць, падсумаваць зробленае, дый спланаваць нешта на будучыню. А родныя юбіляра, сябры і калегі задумваюцца над асобай таго, з кім звёў лёс, успамінаюць, віншуюць, выказваюць шчырыя, добрыя словы. Кожны чалавек сваёй працай набывае вядомасць і сярод людзей, не знаёмых з ім асабіста, але знаёмых з яго справамі, тым, што ён робіць для грамадства. Для такога кола і бываюць найбольш цікавымі юбілейныя артыкулы, ушанаванні, успаміны.

Сёлета святкуе шасцідзесяцігоддзе Анатоль Леанідавіч Верабей – вядомы літаратуразнаўца, крытык, выкладчык, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Анатоль Верабей нарадзіўся 10 жніўня 1950 г. у вёсцы Вайнілавічы Мастоўскага раёна. Бацька Леанід Мікалаевіч і маці Афанасія Дзянісаўна – настаўнікі. Нядзіўна, што сын рана прыахвоціўся да чытання і ў школе выявіў асаблівую схільнасць да мастацкай літаратуры, добра пісаў сачыненні, захапляўся вершамі і сам спрабаваў складаць іх, як і многія ў школьныя гады. Яму не трэба было вагацца з выбарам далейшага жыццёвага шляху: толькі філфак, толькі спецыяльнасць выкладчыка беларускай літаратуры і мовы. Не пабаяўся штурмаваць галоўную вышэйшую навучальную ўстанову – адзіны тады універсітэт, БДУ, прайшоў праз немалы конкурс і паступіў. На філфаку БДУ (вучыўся з 1967 да 1972 г.) паказаў сябе дапытлівым студэнтам, схільным да аналізу літаратурных твораў. Выкладчыкі падалі думку, што ён можа праявіць сябе як літаратуразнаўца. Зноў А. Верабей прайшоў конкурс, стаў аспірантам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Прапанаваная тэма дысертацыі – "Максім Танк і польская літаратура" – спадабалася, легла на душу. З энтузіязмам і энергіяй заглыбіўся ў яе, стаў пастаянным наведвальнікам чытальных залаў бібліятэк, архіваў, асмеліўся сустрэцца і пагутарыць з тым, пра каго пісаў, – народным паэтам Беларусі Максімам Танкам. Ён не толькі падрабязна адказаў на ўсе пытанні, якія цікавілі аспіранта, але і папрасіў пачытаць дысертацыю. А прачытаўшы, выказаў заўвагі і ўхваліў. Пазней, у 1989 г., М. Танк уручыў А. Вераб'ю білет Саюза пісьменнікаў.

Каб бліжэй пазнаёміцца з польскай літаратурай і культурай, аспірант з'ездзіў у Польшчу. Праца ў бібліятэках і архівах Варшавы дазволіла глыбей вывучыць сувязі беларускай і польскай літаратур, пашырыць веды маладога даследчыка, навуковыя кантакты. Дысертацыя была паспяхова абаронена ў 1978 г., выдадзена кніжкай у 1984 г., а сам аўтар застаўся працаваць у вядучай навуковай установе рэспублікі. У Інстытуце літаратуры якраз планавалася выдаць серыю манаграфій пра пісьменнікаў сярэдняга, ці філалагічнага, пакалення. Малады даследчык атрымаў планавую тэму, якая назаўсёды звязала яго з творчасцю выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. А. Вераб'ю даручылі напісаць манаграфію пра жыццёвы і творчы шлях гэтага выдатнага пісьменніка. Ён і раней захапляўся творамі У. Караткевіча, яны адпавядалі рамантычнаму складу яго душы, звязваліся ў думках з дзяцінствам, роднымі мясцінамі, усім самым дарагім. Якраз у той час У. Караткевіч набыў вялікую папулярнасць, яго раманамі "Каласы пад сярпом тваім", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" і аповесцю "Дзікае паляванне караля Стаха" зачытваліся, іх імгненна раскуплялі ў кнігарнях.

Калі падчас працы над манаграфіяй узніклі пытанні, на якія ніхто не мог адказаць апроч самога аўтара, малады вучоны пазнаёміўся з У. Караткевічам, многа цікавага даведаўся ад яго. У 1984 г. Уладзімір Сямёнавіч падараваў яму кнігу "Чорны замак Альшанскі" з надпісам: "Дарагому Анатолю Вераб'ю з пажаданнямі многа-

многа зрабіць і на добры ўспамін – аўтар". Гэты каштоўны дарунак Анатоль Леанідавіч захоўвае як самы дарагі з усіх, якія ён мае.

А наказ "многа-многа зрабіць" надзвычай прыдаўся ў дачыненні да памяці пра самога У. Караткевіча. Клопат пра яе захаванне стаў для А. Вераб'я вызначальным на ўсё яго далейшае творчае жыццё. Планавая тэма была своечасова завершана, работа ўхвалена на вучоным савеце Інстытута літаратуры і ў 1985 г. выдадзена пад назвай "Жывая повязь часоў: Нарыс творчасці У. Караткевіча". Але і пасля А. Верабей працягваў даследаваць творчасць У. Караткевіча. Калі пісьменнік пайшоў з жыцця, літаратуразнаўца заняўся вывучэннем яго архіва, пачаў збіраць і асэнсоўваць усё, што мела дачыненне да яго спадчыны. Навукоўца многае зрабіў для выдання Збору твораў Караткевіча ў васьмі тамах (1987 – 1991), падрыхтаваў летапіс жыцця і творчасці пісьменніка, каментарыі да асобных тамоў, а таксама ўклаў першы том. Ён выдаў зборнік перакладаў "Галасы маіх сяброў" (1993) У. Караткевіча і кнігу "Творы", куды ўвайшло ўсё, што не друкавалася пры жыцці пісьменніка, напісаў сцэнарый дакументальнага фільма пра яго "Рыцар і слуга Беларусі" (1991). Ён жа стварыў радавод У. Караткевіча, якім была адкрыта кніга ўспамінаў пра пісьменніка "Быў. Ёсць. Буду" (2005). А. Вераб'ём напісана шмат артыкулаў пра творчасць слыннага беларускага літаратара, пра яе сувязі з набыткамі такіх пісьменнікаў, як Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, М. Танк, А. Пушкін, А. Міцкевіч, Г. Сянкевіч, А. К. Талстой, В. Скот і інш.

Назапашаныя матэрыялы, нязменная ўвага да творчасці У. Караткевіча, цікавыя знаходкі і адкрыцці патрабавалі выхаду на новы ўзровень асэнсавання жыццёвага і творчага шляху пісьменніка. Гэта было зроблена ў кнізе "Абуджаная памяць: Нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча", выдадзенай у 1997 г.

Анатоль Верабей заняўся таксама зборам эпісталярнай спадчыны У. Караткевіча, пошукамі яго ненадрукаваных твораў, перакладаў, малюнкаў. Ён аўтар прадмоў, уступных артыкулаў, біяграфічных нарысаў, каментарыяў да кніг, энцыклапедый, біяграфічных даведнікаў, дапаможнікаў для сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў.

Літаратуразнаўца і сёння шмат робіць для збору, выдання, асэнсавання і папулярызацыі спадчыны У. Караткевіча. У апошні час ён рупіцца пра выданне новага, значна больш поўнага Збору твораў пісьменніка ў 25 тамах, плануе быць навуковым кіраўніком і адным з укладальнікаў асобных тамоў гэтага грандыёзнага праекта.

Пра У. Караткевіча і яго творы А. Верабей не толькі піша, але і гаворыць – на лекцыях, канферэнцыях, сустрэчах з чытачамі, на радыё і тэлебачанні. Але нельга не адзначыць, што ён многа напісаў і на іншыя тэмы. Яго цікавіць як сучасная, так і даўняя літаратура, мастацкі пераклад, літаратурныя ўзаемасувязі, тэксталогія, кампаратывістыка, тэорыя і гісторыя літаратуры. Яшчэ падчас працы ў Інстытуце літаратуры ён выдаў кнігу "Беларуска-рускі паэтычны ўзаемапераклад 20 – 30 гг." (1990), брашуру "Паэзія Максіма Танка" (1983), удзельнічаў у падрыхтоўцы да друку Збору твораў П. Пестрака і зборніка "На ўзвеях дзён" У. Хадыкі (1986).

З 1990 г. Анатоль Верабей працуе на філфаку БДУ, спалучаючы працу выкладчыка з актыўнай навуковай і грамадскай дзейнасцю. Ахвотна выступае апанентам на абаронах дысертацый, на сустрэчах з пісьменнікамі, прэзентацыях кніг і рознага роду імпрэзах, якія праводзіць кафедра беларускай літаратуры і культуры. Пад яго навуковым кіраўніцтвам абаронены дзве кандыдацкія дысертацыі, на сёння ён аўтар больш чым дзвюх соцень артыкулаў па самых розных праблемах сучаснага літаратуразнаўства, рэцэнзій, тэзісаў канферэнцый, прадмоў і пасляслоўяў да мастацкіх твораў, літаратурных каментарыяў да іх. Некаторыя яго артыкулы падпісаны псеўданімам *Пашанькоў*. Гэта дзявочае прозвішча маці.

Цудоўны сябра, дарадчык, памочнік у справах, Анатоль Леанідавіч асабліва ахвотна адгукаецца, вядома, на ўсё, што звязана з У. Караткевічам. Дачуўся, скажам, што скульптар збіраецца рабіць выяву пісьменніка і шукае фотаздымкі і матэрыялы пра яго, – А. Верабей дбае, прыносіць патрэбнае. Неабходна кансультацыя пры падрыхтоўцы да выдання эсэ Алега Лойкі пра У. Караткевіча – ахвотна дапамагае. Заахвочвае сяброў праехаць па мясцінах, звязаных з жыццёвымі шляхамі У. Караткевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, А. Міцкевіча; удзельнічае ў навуковых чытаннях, прымеркаваных да Дня беларускага пісьменства. Анатоль Леанідавіч – жаданы госць у Аршанскім музеі У. Караткевіча, ён многа дапамагаў яго стваральнікам, нязменна прысутнічае на імпрэзах, якія там ладзяцца. А як захоплена апавядае ён пра Уладзіміра Караткевіча студэнтам, калі прыводзіць іх у кабінет пісьменніка ў доме па вуліцы К. Маркса! Нядаўна Анатоль Верабей узяў на сябе пачэсную справу збору і падрыхтоўкі да выдання ўспамінаў пра аднаго са сваіх настаўнікаў – Алега Антонавіча Лойку.

Наказ Уладзіміра Караткевіча "многа-многа зрабіць" хочацца паўтарыць як пажаданне юбіляру, які плённа працуе, поўны новых планаў, задум і не спыняецца на дасягнутым.

**Міхась КЕНЬКА,**
дацэнт кафедры тэорыі літаратуры
філфака БДУ.

Анатоль ВЕРАБЕЙ

# УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ І МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ

У 1965 г. Уладзімір Караткевіч да 200-годдзя вядомага дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, кампазітара і літаратара Міхала Клеафаса Агінскага напісаў эсэ "Песня з паўночных Афін" (упершыню надрукавана ў часопісе "Маладосць", 1965, № 9).

Эсэ было напісана, хутчэй за ўсё, у верасні 1965 г., калі У. Караткевіч з сябрам наведаў Залессе ў Смаргонскім раёне, дзе ў 1802 – 1822 гг. жыў М. К. Агінскі. Пра гэта сведчаць пачатковыя радкі твора: «Той асенні дзень быў цёплы і пахмурны. Лісце ляжала пад нагамі тоўстым стракатым дываном, і нам з сябрам добра было хадзіць па ім, варушыць лістоўныя сумёты нагамі і адчуваць сябе бязбожна шчаслівымі, нягледзячы на лёгкі сум. Таму што мы былі ў Залессі, былым маёнтку славутага Міхала Клеафаса Агінскага, "паўночных Афінах", як называлі гэты кут сучаснікі»*. Пра свой побыт у Залессі У. Караткевіч згадаў і ў канцы эсэ: "Мы сядзелі ля каменя, пакладзенага ў гонар Касцюшкі сярод залескага парку. Восень звінела лістотай. І ва ўсім была ледзь чутная музыка…" (150). Мы, на жаль, пакуль не ведаем, з кім У. Караткевіч быў тады ў Залессі. Для нас жа вельмі каштоўныя словы пісьменніка пра гэтую зямлю, пра М. К. Агінскага і яго славуты паланэз.

Уладзімір Караткевіч адзначыў: "Залессе – адна з самых паэтычных мясцін нашай радзімы" (146), «але колькі б ты ні слухаў паланэзы Агінскага, а асабліва вялікі паланэз ля-мінор ("Развітанне з Радзімай"), – ён застанецца блізкі і дарагі твайму сэрцу, будзе закранаць у ім самыя глыбінныя, самыя свае струны. <…> І таму, калі стаіш ля гэтага залескага дома, сэрцу ўвесь час здаецца (А можа, і не здаецца? Хіба памяць сэрца не самая найвялікшая рэальнасць?), што з палёў ляціць неўмiручае беларускае "Жніво", а з палаца адказваюць яму клавішы клавесіна. <…> Гучаць гэтай пераклічцы між песняй і клавесінам тысячы вякоў, аж да сканчэння зямных дзён, якога, трэба думаць, і не будзе» (147 – 148).

Пісьменнік, характарызуючы постаць М. К. Агінскага і яго час, напісаў: «А вось тое, што за мяжою яго слухалі Гайдн і Моцарт, тое, што інсургенты Касцюшкі ішлі ў бой і над галовамі іхнімі луналі не толькі сцягі, але і маршы Агінскага, – гэта застанецца. <…> У тыя гады Залессе і стала "паўночнымі Афінамі", месцам дзе панаваў культ музыкі, літаратуры і жывапісу» (148 – 149).

Узнёсла гучаць заключныя радкі эсэ: "Калі я слухаю паланэз ля-мінор і калі ягоная журботная музыка ў плыні сваёй даходзіць да таго месца, дзе вызвалена і грозна пачынаюць гучаць урачыстыя фанфары, – я разумею, што ён гэта ведаў.

Мір тым, хто загіне за народ і волю, слава тым, хто пераможа. Залескія дубы дадуць ім галіны для вянкоў, і самыя прыгожыя залескія дзяўчаты ўскладуць іх на галовы герояў.

Музыка абяцае гэта" (150).

Зместам і пафасам эсэ "Песня з паўночных Афін" сугучнае са словамі У. Караткевіча да паланэза "Развітанне з Радзімай" М. К. Агінскага, напісанымі для Смаргонскага ансамбля імя М. К. Агінскага. Да апошняга часу гэты тэкст быў невядомы даследчыкам. Мы знайшлі яго ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**. А. Мальдзіс, вядомы пісьменнік, літаратуразнаўца і сябар У. Караткевіча, у прыватнай размове паведаміў, што чуў у выкананні смаргонскага ансамбля паланэз "Развітанне з Радзімай" М. К. Агінскага на словы У. Караткевіча. Думаецца, што верш У. Караткевіча да славутага паланэза напісаны, а сам твор потым выкананы Смаргонскім ансамблем у верасні 1965 г. да 200-годдзя кампазітара.

Падаем тэкст аднаго з двух чарнавых аўтографаў. Хацелася б, каб гэтымі словамі У. Караткевіча да славутага паланэза зацікавіліся беларускія кампазітары і спевакі (заўвагі ў дужках і пад радкамі – Караткевічавы).

*Родны кут, Смаргонскі кут,*
*Калыска светлая мая,*
*"Бывай!" – гаворацъ мне лясы,*
*Але мяне ад іх не адарваць,*
*Як іх з гаротнага майго не вырваць сэрца.*

*Родны край, навек бывай.*
*Шлагбаўма меч над галавой…*
*Ўсё далей ад Залесся колаў стук…*
*І слёзы у вачах маіх стаяць,*
*Сінеючы, як плынь святой маёй Віллі.*

*Буду ўспамінаць [цябе]: алеяў ціхі спеў,*
*І вадаспад ніжэй млына, што бачыў нас*
*У той апошні час з каханаю маёю,*
*І магілы даўнія дзядоў,*
*Рады сівых капцоў,*

* **Караткевіч, У.** Збор твораў : у 8 т. / У. Караткевіч. – Мінск, 1991. – Т. 8, кн. 2. – С. 146. Далей эсэ "Песня з паўночных Афін" У. Караткевіча цытуецца па гэтым выданні з указаннем старонкі ў дужках.

** **ЦНБ НАН Беларусі.** – Ф. 11. – Воп. 2. – Адз. зах. 95.

*Цяжкіх не ад граніту, а ад бэзу,*
*І цёплы дом са свечкамі калон,*
*І спрэчку з танцам беларускім паланэза.*

*Ўсё далей вядзе выгнання шлях,*
*Ад ніў, дзе ты, любоў, жыла,*
*Дзе ты навекі адышла…*
*Ды прыйдзе час – насустрач дню*
*Ўваскрэснеш ты жывой з агню.*
*І я прыду і абдыму цябе,*
*Мая любоў, мая айчына.*
*(варыянт: калі патрэбныя яшчэ два склады,*
*то варыянт: Мая любоў і ты, вялікая айчына).*
*[Музыка без слоў]*
(марш)
*Чуеш крок загонаў? Крочаць легіёны***.*
*Прыйдзем мы яшчэ змагацца за цябе,*
*радзіма [свабода]****…*
*Проці ўсіх імперый і карон*
*Людзей пакліча волі звон,*
*І ў бітве пераможа ён.*

*Мір тым, хто гіне за народ,*
*А пераможцам – славы ўзлёт…*
*Няхай дзяўчаты увянчаюць іх*
*Галінамі дубоў Залескіх.*

*Але як забыць цябе,*
*Радзіма, край маіх бацькоў?*
*Павінен разлучыцца я з табой,*
*А я б памёр у бітве за цябе.*
*І загайдала бы мяне Вілля,*
*Закалыхалі беларускія дубы.*

*Буду ўспамінаць [цябе].*
*Край, навек [навек] бывай. Адзіная мая любоў.*
*Адзіная любоў. Навек бывай.*
*Нічога, добры мой, нічога.*
*Я жывы.*
*А жывы, пакуль здалёк*
*Даносіць спевы рэк і дрэў.*
*Няхай я адарваны ад цябе –*
*Я нават у чужым, чужым краю*
*Змагацца буду за цябе,*
*Мая радзіма.*

*** мільёны
**** свабода

*) Пры патрэбе больш працяглага спеву, словы, узятыя ў [ ], можна выкінуць.

*Анатоль Верабей ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

### КАСТРЫЧНІК

**1 кастрычніка –** 75 гадоў з дня нараджэння Міхася Няхая (1935 – ?), літаратуразнаўцы

**2 кастрычніка –** 75 гадоў з дня нараджэння Кіма Шастоўскага, жывапісца, графіка

**3 кастрычніка –** 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Чараднічэнкі (1930 – 1994), кампазітара

**4 кастрычніка –** 70 гадоў з дня нараджэння Анатоля Алая, рэжысёра, аператара, сцэнарыста дакументальнага кіно

**7 кастрычніка –** 245 гадоў з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага (1765 – 1833), дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, кампазітара, літаратара

**10 кастрычніка –** 70 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Тарасава (1940 – 2010), празаіка, публіцыста

**12 кастрычніка –** 145 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Анцава (1865 – 1945), кампазітара, харавога дырыжора і педагога

**13 кастрычніка –** 70 гадоў з дня нараджэння Ігара Хадоскі, кампазітара. Жыве ў Бранску

**14 кастрычніка –** 150 гадоў з дня нараджэння Ангела Багдановіча (1860 – 1907), удзельніка рэвалюцыйнага руху, публіцыста, крытыка, рэдактара

95 гадоў з дня нараджэння Усевалада Краўчанкі (1915 – 1961), празаіка, драматурга, перакладчыка

70 гадоў з дня нараджэння Леаніда Іванова, дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**16 кастрычніка –** 100 гадоў з дня нараджэння Пятра Падкавырава (1910 – 1977), кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Барыса Заборава, графіка, жывапісца. З 1980 г. жыве ў Францыі

70 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шатэрніка, скульптара, жывапісца

**17 кастрычніка –** 110 гадоў з дня нараджэння Ібрагіма Гембіцкага (1900 – 1974), графіка

80 гадоў з дня нараджэння Розы Дубар, жывапісца і графіка

**19 кастрычніка –** 120 гадоў з дня нараджэння Сяргея Палуяна (1890 – 1910), публіцыста, празаіка і літаратуразнаўцы, аднаго з пачынальнікаў беларускай прафесіянальнай літаратурнай крытыкі

**20 кастрычніка –** 160 гадоў з дня нараджэння Дуніна Альфонса Баркоўскага (1850 – 1905), жывапісца

125 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Бурбіса (1885 – 1922), дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху

90 гадоў з дня нараджэння Сямёна Дорскага (1920 – 1992), перакладчыка

90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Шуманскага (1920 – 1982), спевака, заслужанага артыста Беларусі

**21 кастрычніка –** 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая Сазонава (1895 – 1972), жывапісца

110 гадоў з дня нараджэння Фелікса Купцэвіча (1900 – 1938), пісьменніка, крытыка

90 гадоў з дня нараджэння Івана Фяцісава (1920 – 1994), жывапісца, афармляльніка, заслужанага работніка культуры Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Льва Салаўя (1925 – 1988), перакладчыка, літаратуразнаўцы, крытыка

**22 кастрычніка –** 95 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Казелкі (1915 – 1989), самадзейнага майстра-разьбяра па дрэве, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Валерыя Жыгалкі, кінарэжысёра

*Заканчэнне на с. 50.*

Мікола ТРУС

# “КНЯГІНЯ ЎКРАІНСКАЙ ДУХОЎНАСЦІ”

## ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ АКСАНЫ ЛЯТУРЫНСКАЙ



У багатай палітры ўкраінскай культуры XX ст. імя Аксаны Лятурынскай (1902 – 1970), адной з яркіх прадстаўніц “пражскай школы” ўкраінскай паэзіі, засведчана некалькімі іпастасямі творчай рэалізацыі: мастак, скульптар, пісьменнік… У канкрэтным выпадку ўмоўнай аўтарскай іерархіі розных відаў мастацтва ўласна паэтычнай творчасці А. Лятурынскай даследчыкі нязменна адводзяць месца вяршэнства, а яе прыгожае пісьменства знайшло трывалую прапіску ў даследаваннях Я. Маланюка, Ю. Шавялёва, Ю. Бойкі, М. Неврлага, А. Копач і інш. Па словах вядомага ўкраінскага літаратуразнаўцы Юрыя Бойкі, “Аксана Лятурынская – паэтка Божай міласцю, і толькі вартыя жалю эміграцыйныя ўмовы павінныя ў тым, што яна дасюль не стала слаўнаю і шырока вядомаю…” [цыт. паводле: 2, с. 1].

Вехавы этап у зборы і асэнсаванні паэтычнай спадчыны А. Лятурынскай – выхад яе кнігі “Выбранага” (1983) з прадмовай Ю. Шавялёва. Пасля гэтай падзеі для ўсіх стала відавочным: “Лятурынская – адна з найвыдатнейшых постацей украінскай паэзіі (духоўнай культуры ў цэлым), і яе імя з дастатковаю падставаю ставіцца паміж імёнамі Лесі Украінкі і Ліны Кастэнкі” [2, с. 1].

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 3. Тамсама надрукаваны і першы артыкул з аўтарскага цыкла, прысвечанага значным украінскім творцам XX ст.*

Неардынарнасць і шматграннасць асобы паэткі, пакручасты і драматычны жыццёвы шлях спрыялі працэсу міфалагізацыі яе імя.

### ДАЛУЧЭННЕ ДА МАСТАЦТВА

Аксана Лятурынская нарадзілася ў шляхецкай сям’і на Валыні, непадалёку ад Вішняўца (адзін з яе псеўданімаў – Раксана Вішнявецкая). Як адзначаюць некаторыя даследчыкі яе жыцця і творчасці, продкі паэткі не славянскага паходжання, а, хутчэй за ўсё, французскага, на што ўказвае першааснова прозвішча – Ля-Тур [5, с. 59]. Пэўны час вучылася ў дзяржаўнай гімназіі ў Крамянцы. Пасля далучэння Галіччыны і Валыні да Польшчы разам з групай моладзі з лагера інтэрнаваных паблізу Каліша трапіла спачатку на работу ў Нямеччыну, а потым без аніякіх сродкаў да існавання ў чэшскую Прагу.

Вучылася на філасофскім факультэце Карлава універсітэта, у Чэшскай вышэйшай мастацка-прамысловай школе, Украінскай студыі пластычнага мастацтва. Скульптурныя работы А. Лятурынскай былі заўважаны і адзначаны прэміямі яшчэ на студэнцкіх выставах 1930-х гг. (“Збор вінаграду”, “Рыцар”, “Змагарка”, “Кітаянка”, “Лятарская катастрофа” і інш.). У гэты час у чэшскай скульптуры дамінуе манументальны кірунак, успрыняты ад мастацтва Францыі. Ва ўмовах моцнага заходнееўрапейскага ўплыву А. Лятурынская спрабуе намацаць свой адметны стыль. Як адзначаюць мастацтвазнаўцы, “насуперак чэшскаму манументалізму з характэрнымі для яго грубымі і важкімі формамі, у працах Аксаны прыкметны больш далікатныя формы з адчуваннем элегантнасці і лёгкасці масы матэрыялу” [5, с. 61].

Творчай удачай Лятурынскай-скульптара стаў бюст Тараса Шаўчэнкі, створаны па заказе Украінскай гімназіі ў Ржэўніцах каля Прагі. Ацэньваючы вынікі працы, Уладзімір Січыньскі адзначыў: «У процівагу ўсім іншым работам, якія імкнуліся представіць усе атрыбуты “сялянскага паэта”, А. Лятурынская стварыла цалкам адметны тып аблічча. Няма тут традыцыйнага кажуха і авечай шапкі, няма вульгарызацыі і таго штучнага тыпу “казака”, чаго не маглі пазбыцца ўсе папярэднікі Лятурынскай. Мастачка стварыла тып паэта-філосафа, мысляра, засмучанага нядоляй свайго народа…» [цыт. паводле: 5, с. 63].

Асобная мастацкая дзялянка А. Лятурынскай – графічныя партрэты Т. Шаўчэнкі, І. Катлярэўскага, І. Франко, Лесі Украінкі, Аляксандра Алеся і

іншых, а таксама серыя партрэтаў гістарычных асоб пад назвай “Уладары Украінскай Дзяржавы” (князі Алег, Ігар, Святаслаў, Яраслаў Мудры, Уладзімір Манамах, гетманы Грыгорый Орлік, Багдан Хмяльніцкі, Пятро Дарашэнка і інш.).

Амаль 20 гадоў жыцця і творчай дзейнасці А. Лятурынскай у Чэхаславакіі прайшлі на творчым уздыме, але ва ўмовах матэрыяльнай нястачы і неўладкаванасці. Да ўсяго дадавалася яшчэ прагрэсаванне пасля перанесенага інфекцыйнага захворвання глухаты. Шмат яе твораў страчана. Пасля Другой сусветнай вайны паэтка самотна жыла ў ЗША.

Да вузкага кола асоб, з якімі А. Лятурынская кантактавала ў час чэхаславацкага перыяду, належалі Людміла Краскоўская і Мікола Біцінскі. Аўтару гэтых радкоў пашчасціла адшукаць асобныя лісты ўкраінскай паэткі, якія ілюструюць абставіны яе жыцця, а таксама іншых дзеячаў нацыянальнай культуры ў Чэхаславакіі пачатку 1940-х гг. З ліста А. Лятурынскай да Л. Краскоўскай: *“…такое нецікавае стала жыццё – рукі апускаюцца, і нібыта ўжо нічога не хочаш на гэтым свеце – усё абсалютна не патрэбна. Зранку заклінаешся: вось не пайду стаяць у чаргу па тое ці па тое, вось не буду чытаць таго ці таго! Але ідзеш, стаіш, чытаеш, гібееш”*; *“Тут эміграцыя старэе, хварэе, паміpae. Дзеці растуць, як грыбы. Жыццё ідзе”* [4].


Ukrainisch 31/IV-41
Дорога Людонько! Дістала твого листа і дуже зраділа. Дивуюсь, що мій так довго йшов. Засилку ще не дістала і не знаю, що ти там набідокурила. А з твоїм светром, Людо, я мов у бозька за пазухою, але подрапати тебе, — це не відмовлюся. Невже Марусько читає мої вірші? Марусьчику нещасний! Скоро зашлю другу збірку. Зараз засилаю два екземпляра Гуслі — і для Алли — хоч вона віршів не любить і мене за них завжди лаяла.

**Паштовая картка Аксаны Лятурынскай да Людмілы Краскоўскай.** 31.04.1941 г.
Са збору М. Труса. Публікуецца ўпершыню.

У пачатку 1950-х гг. А. Лятурынская перабіраецца ў Мінеапаліс (ЗША), актыўна ўдзельнічае ў працы Аб’яднання ўкраінскіх пісьменнікаў, спрычыняецца да выхаду зборніка “Слово”. Каб хоць неяк утрымліваць сябе матэрыяльна, звяртаецца да стварэння пісанак, стылёвых лялек і розных дэкаратыўных фігурак, якія шырока разышліся сярод украінскай дыяспары ЗША і Канады. “Зварот да пісанак быў адказам на покліч душы адлюстраваць народны дух ад яго найпершасных да найсучаснейшых формаў, ад прадзедаўства да рацыянальнага ўспрымання свету” [1, с. 3]. Сама мастачка неаднаразова адзначала, што пісанка – гэта нацыянальны скарб, які дастаўся ад продкаў; з даўніх часоў ён прамаўляе да кожнага пра вясну, пра перамогу дабрыні і святла.

Грамадзянскае крэда А. Лятурынскай, а таксама цэлага пакалення ўкраінскіх грамадска-культурных дзеячаў у эміграцыі выдатна ілюструюць словы паэткі, адрасаваныя А. Тэлізе: «*…не няўдача найноўшага гамункула, які ад дваццаціпяцігадовага выседжвання ў сталінскай лабараторыі стаў паўзуном, вяла яе на “камяністы верх”! Не душа найміта, не грызня за костку выгод “парыжскіх брукаў” (па словах Міцкевіча) наканавана падставіла чало Няўмольнаму. Штосьці не было ўзята пад улік, штосьці, што дазваляла толькі адчуваць, – выстаяць на “версе”, а не дзесьці задушыцца ад роспачы*» (“Неділя”, 15.09.1946).

Вельмі пранікнёна напісаў пра паэтку П. Лапата: “Гэтая жанчына не зведала ў сваім жыцці звычайнага людскага шчасця, хоць і была надзвычай адоранай асобай – яе імя як мастачкі навечна ўпісана ў гісторыю ўкраінскага мастацтва. Аднак насуперак жыццёвым перыпетыям, якімі выбрукаваны творчы шлях Аксаны Лятурынскай, яна не зраклася свайго, Богам падараванага таленту, здолела рэалізаваць сябе і ў жывапісе, і ў скульптуры, і ў кераміцы, і ў пісанкарстве, і ў паэтычнай творчасці” [5, с. 1].

**ЖЫЦЦЁ Ў ПАЭЗІІ**

З сярэдзіны 1920-х гг. А. Лятурынская актыўна публікуецца на старонках часопісаў “Літературно-науковий вісник”, “Вісник”, “Пробоєм”, аднак першая кніга паэзіі ўбачыла свет толькі напрыканцы 1930-х. Творчую скарбонку пісьменніцы складаюць паэтычныя зборнікі “Гуслі” (1938), “Княжая эмаль” (1941, 1955), “Вясёлка” (1956), вершы для дзяцей “Бедрык” (1956) і зборнік навел “Мацярынкі” (1946). Пасмяротна выйшла выданне “Оксана Лятуринська. Зібрані твори” (1983).

Пераезд А. Лятурынскай у Чэхаславакію прыйшоўся на год смерці аднаго з заснавальнікаў “пражскай школы” ўкраінскай паэзіі Ю. Дарагана (1926), аўтара адзінага зборніка вершаў “Сагайдак” (1925). Ю. Дараган адыграў выключную ролю ў станаўленні творчасці Лятурынскай, якая прысвяціла памяці свайго настаўніка “Княжую эмаль”, а зборнік “Сагайдак” берагла як найвялікшую рэліквію.

У Чэхаславакіі А. Лятурынская зблізілася з шэрагам прадстаўнікоў “пражскай школы” ўкраінскай паэзіі: Алегам Ольжычам, Алексаю Стэфановічам, Юрыем Ліпай, Яўгенам Маланюком, Аленай Тэлігай. Зблізілася найперш духоўна, паколькі кола знаёмых, з якімі паэтка кантактавала, было досыць вузкім.

Вобразная сістэма А. Лятурынскай, арсенал мастацка-выяўленчых сродкаў фарміраваліся ва ўмовах актыўнага міжкультурнага дыялогу, усведамлення сваёй працы як ахвярніцкай, падзвіжніцкай. Мастацкі вопыт, застылы ў скульптуры, жывапісных і графічных працах, меў лагічны працяг у паэзіі: і як эвалюцыя творчага пошуку, і як свайго роду квінтэсенцыя, "агучаная" гістарычная рэтраспектыва.

Паэзія А. Лятурынскай дэманструе цесную паяднанасць гарманічнай, высакароднай асобы і моцнай, суверэннай (праўда, пакуль што "віртуалізаванай") дзяржавы, духоўнай Украіны. Гэтае адзінства закліканы ўмацаваць *любоў*, *краса* і *свабода* – вызначальныя матывы творчасці паэткі. Паэтычныя зборнікі А. Лятурынскай паўставалі ў шэрагу кніг новай генерацыі ўкраінскага пісьменства як выданні «літаратурна паўнавартасныя, гістарычна важкія і нават "гісторыятворчыя"» [2, с. 2].

У аглядным артыкуле "Сучасная ўкраінская паэзія" Алег Ольжыч вылучаў для паэткі вельмі пашанотнае месца ў найноўшым нацыянальным пісьменстве: "Паэтычнае слова Лятурынскай – часам важкае, часам вытанчанае, як філігрань, але заўсёды моцнае і манументальнае. Крыніца інспірацыі Лятурынскай – перыяд княскі і даўніна паганская. Лятурынская – адзін з найсамабытнейшых талентаў у сучаснай украінскай паэзіі" [7, с. 183].

Трыкніжжа А. Лятурынскай ("Гуслі", "Княжая эмаль", "Вясёлка") стала адметнай з'явай ва ўсёй украінскай паэзіі XX ст. Гэта вялікая праца духу, выспеленыя этапы творчай эвалюцыі паэткі: ад усведамлення свайго індывідуальнага стылю ("Гуслі") да яскравага сведчання "нараджэння майстра" ("Княжая эмаль").

Аксана Лятурынская выявіла цесную паяднанасць з нацыянальнай фальклорнай традыцыяй, падключанасць сваім "феноменам красы" (Д. Віконская) да сілавога поля еўрапейскага прыгожага пісьменства. Даследчыкі вызначалі напаўмістычнасць і рэлігійную сімволіку песеннага ладу А. Лятурынскай (У. Дзяржавін). Абсяг яе часавага бачання: ад неаліту ("Пячорныя малюнкі") да сучаснасці. Гэта творчасць і "аскетычная", і "бязмежна-размаітая паэтыкай, якую паэтэса прадстаўляе як від пластыкі архітэктара", яна шмат бярэ ад рамантызму і рэалізму, "уражвае шматзначнасцю вобраза, уласцівай сімвалічнай паэзіі" (Ю. Шавялёў). Як адзначаў адзін з найбольш самавітых прадстаўнікоў "пражскай школы", паэт, літаратурны крытык Я. Маланюк, «калі б Вольга ці Яраслаўна пісалі вершы, то гэтыя вершы і былі б паэзіямі Аксаны Лятурынскай… адной з найяскравейшых "жон руських" нашай паэзіі» [цыт. паводле: 2, с. 2].



***Аксана Лятурынская.* Яраслаў Асмамысл.**
1930-я гг.

П. Кананенка назваў паэтку "княгіняй украінскай духоўнасці" і развіў сваю думку: "…дух Лятурынскай ахопліваў тысячагадовую прастору і час, а сябе і сучаснікаў яна бачыла скрозь прызму рэалій і ўрокаў Айчыны ад язычніцкай эпохі да Кіеўскай Русі і ад Гетманшчыны да XX стагоддзя" [2, с. 2].

**Спіс літаратуры**

1. **Балда, Т.** Лятуринська Оксана Михайлівна (1902 – 1970) / Т. Балда // Рэжым доступу : http://prostir.museum/persons/ua/?id=57. – Дата доступу : 15.01.2010.

2. **Кононенко, П.** Княгиня української духовності / П. Кононенко [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://poetry.uazone.net/default/pages.phtml?place=liaturyn&page=bio&alist. – Дата доступу : 05.06.2010.

3. **Ліст Аксаны Лятурынскай да Людмілы Краскоўскай ад 03.02.1940 г.** (*на ўкраінскай мове*). *Захоўваецца ў аўтара артыкула.*

4. **Ліст Аксаны Лятурынскай да Людмілы Краскоўскай ад 28.12.1941 г.** (*на ўкраінскай мове*). *Захоўваецца ў аўтара артыкула, цытуецца ўпершыню.*

5. **Лопата, П.** Мистецька діяльність О. Лятуринської в Празі (У соту річницю народження) / П. Лопата // Дукля. – 2002. – № 3. – С. 59 – 65.

6. **Лятуринська, О.** Зібрані твори / О. Лятуринська. – Торонто : Видання Організації Українок Канади, 1983. – 813 с.

7. **Ольжич, О.** Незнаному Воякові / О. Ольжич; упорядк., післямова і прим. Л. Череватенка. – Київ, 1994. – 432 с.

8. **Неврлий, М.** Празька поетична школа / М. Неврлий // Муза любові й боротьби : українська поезія празької школи; упорядк., стаття й прим. М. Неврлого. – Київ : Український письменник, 1995. – С. 3 – 19.

9. **Слабошпицький, М.** Оксана Лятуринська / М. Слабошпицький // 25 поетів української діаспори. – Київ : Ярославів Вал, 2006. – С. 240 – 265.

10. **Черниxівський, Г.** Оксана Лятуринська : життя і творчість / Г. Черниxівський, В. Черниxівська. – Кременець – Тернопіль : Малий видавничий дім, 2002. – 289 с.

Аксана ЛЯТУРЫНСКАЯ

# "АСВЕЧАНЫ ТРЫМАЮ СПІС"

* * *

Плылі, плылі караблі
да чужацкае зямлі.
Вада ў моры скаламучана,
сэрца дзеўчыны засмучана.
Не наблізіць даліну.
Шлях прамы не павярнуць.
Сэрца дзеўчыны засмучана,
доля з шчасцем не заручаны.
Плылі, лучыліся ў адно
мілы, далеч і стырно.

* * *

Шчасця згублены ключы,
як мне іх знайсці хутчэй!
Пашукаць у лесе, ў полі,
запытаць у сваёй долі:
"Ты гарою, доля, йшла,
можа, ты ключы знайшла
з залатымі абадкамі?

Каб пазнаць, што тыя самы,
там узорамі каснік
упрыгожаны з вясны.
Як я пояс папусціла?
Не інакш, то злая сіла.
Чаму дораны абруч
не трымала аберуч?"
Пасміхнецца вокам доля:
"Не відаць тут краю поля,
чарней чорнай ночы гай.
Як згубіла, то шукай!"

* * *

Адзін застаўся – сам-насам.
Няма ні крэўнага, ні друга.
Душу спавілі думкі туга,
Туга цяпер сяброўка дням.

Вось так нахлыне нечакана
удзень ці ў ранішнія росы,
і ўбачыш, як крывавіць рана,
як жах аблічча перакосіць,

знянацку як круглеюць вочы…
Дзе край надрыўнага натхнення?
Сабакам кінуць – духам ночы –
на ганьбу ворага найменні.

* * *

Ізноў не спаў. Ўсю ноч вярзлося:
бягу зацкаваны, як звер,
і след крывавіцца на росах,
і пот сцякае за каўнер.

Ізноў надзея закапана.
За мною полымя і дым.



**Аксана Лятурынская (?) у майстэрні.**
1930-я гг.
Са збору М. Труса. Публікуецца ўпершыню.

Крывавіць зарыва над станам.
Бяспраўе над дабром маім.

У ганьбе зноў стрываю ранак.
Лес ценем лёг ля ног маіх.
Ён прыйдзе – дзень доўгачаканы,
праз міг, праз міг!..

## НА ВАРЦЕ

Палеглых заклік – вякоў абрыс!
Асвечаны трымаю спіс.
Я попел бараню бацькоў,
герояў славу, сон байцоў.

Чало схіляю, вочы ніц!
Недатыкальнасць тут грабніц,
багацця, і святарны дуб,
і Уладзіміраў трызуб.

* * *

І рыне конь, як у агонь,
у высачынь
ў сваёй паходнай збруі.
І дух прыбраны ў кармазін.
І запытае святы Юрый:
– Што меў ты даражэй жыцця?
Чаго ты дасягнуў?
– Я воем быў, вось золат сцяг,
я Богу прысягнуў.

Пераклаў з украінскай **Мікола ТРУС.**



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Асобы*

## ШЧЫРЫ СЕЙБІТ РОДНЫХ СЛОЎ

### СЛОВА ПРА АЛЯКСАНДРА ПАДЛУЖНАГА



**16.08.1935 – 21.11.2005.**

У жніўні споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага моваведа, доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Іосіфавіча Падлужнага. На жаль, вучоны не дажыў да гэтага юбілею, але засталася яго багатая навуковая спадчына і памяць пра яго – светлая і ўдзячная. З яго імем звязана распрацоўка праблем фанетыкі і фаналогіі, граматыкі, правапісу і культуры мовы. Кнігі акадэміка служаць зыходнай базай пры распрацоўцы актуальных пытанняў, звязаных з арфаэпіяй, фарміраваннем, развіццём, унармаваннем і правапісам беларускай мовы.

Акадэмік А. Падлужны належаў да ліку шчырых сейбітаў родных слоў, чыё імя з глыбокай павагай праносіцца праз жыццё тымі, каму пашчасціла вучыцца і працаваць побач. Яго плённая праца на ніве беларускага мовазнаўства, багатая і шматгранная спадчына, неацэнны ўклад у справу выхавання маладога пакалення высока цэняцца сучаснікамі. Работы вучонага – прыклад удумлівых адносін да кожнага слова роднай мовы, яе гісторыі, культуры, узорнага гучання, моўных норм.

Нарадзіўся Аляксандр Падлужны 16 жніўня 1935 г. у вёсцы Залессе Мсціслаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Закончыў Мсціслаўскае педагагічнае вучылішча (1954), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1959). Некаторы час працаваў настаўнікам беларускай мовы ў Расненскай сярэдняй школе Горацкага раёна, потым вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа. Далейшая працоўная дзейнасць А. Падлужнага была непарыўна звязана з Інстытутам, роднай беларускай мовай, беларусістыкай, мовазнаўствам, Акадэміяй навук. Пачаўшы навуковы шлях з пасады малодшага навуковага супрацоўніка, ён вырас да акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў, якое ўзначальваў пяць гадоў (1997 – 2002). Дваццаць гадоў А. Падлужны кіраваў Інстытутам мовазнаўства – спачатку быў намеснікам дырэктара па навуковай рабоце, а потым дырэктарам (1989 – 2003). На любой пасадзе ўсе сілы, веды і здольнасці ўмеў скіраваць на прагрэсіўны рух навукі. Сярод кіраўнікоў заўсёды вылучаўся высокай прынцыповасцю, дысцыплінаванасцю і адказнасцю, гэтага патрабаваў і ад падначаленых. Удумлівае вызначэнне прыярытэтаў лінгвістычнай навукі пацверджана выданнем буйных, грунтоўных прац пад грыфам Інстытута мовазнаўства. Многа ўвагі аддаваў падрыхтоўцы менавіта такіх выданняў – этымалагічнага, гістарычнага, нарматыўнага, дыялектных слоўнікаў, граматык і атласаў. Спалучэнне талентаў арганізатара навукі і вучонага-даследчыка – з'ява даволі рэдкая. Творчая біяграфія А. Падлужнага – адзін з прыкладаў такога шчаслівага спалучэння.

З першых дзён працы ў Інстытуце малады даследчык звярнуўся да найбольш актуальных і малараспрацаваных у тэарэтычным і практычным плане праблем беларускага мовазнаў-

ства. З паспяховай абароны А. Падлужным кандыдацкай дысертацыі "Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы" (1967) у беларусістыцы пачаўся якасна новы этап вывучэння гукавога ладу мовы. Асабістая заслуга вучонага – разгортванне і развіццё эксперыментальнага даследавання гукавога ладу беларускай мовы ў краіне. У лабараторыі эксперыментальнай фанетыкі пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле была выканана вялікая праца па эксперыментальным даследаванні артыкуляцыі беларускіх гукаў, што дазволіла апісаць асноўныя характарыстыкі артыкуляцыйнай базы беларускай мовы, стварыць навукова абгрунтаваную артыкуляцыйна-фізіялагічную класіфікацыю гукаў беларускай мовы, параўнаць іх з тыпалагічна падобнымі гукамі суседніх славянскіх моў. Вынікі даследавання знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх працах вучонага, у тым ліку ў грунтоўных манаграфіях. Значным крокам на шляху стварэння навуковай апісальнай фанетыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы стала кніга А. Падлужнага "Гукі беларускай мовы" (1973). Характарыстыка гукаў беларускай мовы з пункту погляду акустыкі моўнага сігналу і яго ўспрымання пададзена ў манаграфіі "Нарысы акустычнай фанетыкі беларускай мовы" (1977). Па гэтай праблеме вучоны абараніў доктарскую дысертацыю "Фанетычная сістэма беларускай мовы (эксперыментальна-фанетычнае даследаванне гукавога складу)" (1981). Створаная ім арыгінальная тэорыя працэсаў успрымання мовы дазваляе і сёння вызначаць рэальныя шляхі выкарыстання фанетычных ведаў у дыягностыцы моўнай функцыі слыху чалавека, у аўтаматычным распазнаванні і сінтэзе маўлення.

Далейшая распрацоўка пытанняў беларускай фаналогіі і фанетыкі сучаснай літаратурнай мовы была ажыццёўлена ім у манаграфіях "Фанетыка слова ў беларускай мове" (1983), "Фанетыка беларускай літаратурнай мовы" (1989). Праведзеныя даследаванні фаналагічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы з'явіліся асновай распрацоўкі пытанняў правапісу і арфаэпіі, што знайшлі адлюстраванне ў раздзелах "Фанетыка" і "Арфаэпія" акадэмічнай "Беларускай граматыкі" (1985), а таксама ў нарматыўным "Слоўніку беларускай мовы: Арфаэпія. Арфаграфія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (1987). Вучоны быў членам рэдкалегіі і адным з аўтараў энцыклапедыі "Беларуская мова" (1994).

Навуковыя інтарэсы Аляксандра Іосіфавіча няўхільна пашыраліся. Істотнае месца ў яго навуковай дзейнасці займалі праблемы сучаснай беларускай мовы, нармалізацыі літаратурнага маўлення, сацыялінгвістыкі, моўнай палітыкі і ролі мовы ў жыцці суверэннай Беларусі, удасканалення правапісу. Пад кіраўніцтвам акадэміка А. Падлужнага была распачата падрыхтоўка новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", у якой многія правілы пазбаўлены выключэнняў, атрымалі сучасную трактоўку і значна спрошчаны. У кнізе "Мова і грамадства" (1997) даследчык акцэнтаваў увагу на стане, працэсе развіцця, статусе беларускай мовы ў грамадстве, а таксама на пэўных цяжкасцях, што існуюць у моўнай сферы.

Багатая творчая спадчына вучонага – яркая старонка ў гісторыі беларускага мовазнаўства. Асноўныя працы А. Падлужнага маюць прыкладны характар, адрасаваны тым, хто вывучае беларускую мову. Ён – адзін з аўтараў кнігі "Белорусский язык для небелорусов" (1973, 1978). Трэці раз дапоўненая і перапрацаваная кніга выйшла пад назвай "Белорусский язык для говорящих по-русски" (1990). Аляксандр Падлужны – навуковы рэдактар і адзін з аўтараў кнігі "Беларуская мова: Цяжкія выпадкі фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі" (1987), зборніка "Культура беларускай мовы" (1991), хрэстаматыі "Вусная беларуская мова" (1990). У сааўтарстве падрыхтаваў навучальныя дапаможнікі "Фанетыка беларускай мовы" (1984), "Практыкум па фанетыцы беларускай мовы" (1991), а таксама "Учебник белорусского языка для самообразования" (1994).

Набытымі ведамі і багатым вопытам вядомы вучоны шчодра дзяліўся са сваімі вучнямі, з якіх дванаццаць пад яго кіраўніцтвам сталі кандыдатамі філалагічных навук і адзін – доктарам навук. Клопатамі аб росце ў краіне высокакваліфікаваных кадраў была прасякнута дзейнасць акадэміка А. Падлужнага на пасадзе старшыні савета па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, які ён узначальваў з 1989 да 2005 г.

Творчая дзейнасць даследчыка атрымала высокую ацэнку, яму прысвоена вучонае званне прафесара (1989), у тым жа годзе быў абраны членам-карэспандэнтам, а ў 1994 г. – акадэмікам Акадэміі навук Беларусі. Як адзін з актыўных арганізатараў мовазнаўчай навукі ў Беларусі А. Падлужны ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1983), ордэнам "Знак Пашаны" (1986), стаў заслужаным дзеячам навукі Рэспублікі Беларусь (1999).

Аляксандр Падлужны – буйны спецыяліст у галіне сучаснай беларускай мовы, аўтар больш як 150 навуковых прац, у тым ліку 16 манаграфій. Яго навуковыя даследаванні па беларускай

фанетыцы і фаналогіі добра вядомы не толькі вучоным Беларусі, але і лінгвістам замежжа. Нязменна выклікалі цікавасць славістаў яго даклады па фанетыцы і фаналогіі на пасяджэннях Міжнароднай камісіі Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа пры Міжнародным камітэце славістаў. Але ў першую чаргу вучонага хвалявалі праблемы беларускай літаратурнай мовы ў яе пісьмовай і вуснай форме, у галіне вымаўлення, правапісу, словазмянення, словаўтварэння і словаўжывання. А. Падлужны сцвярджаў: “Мова, з’яўляючыся важнейшым сродкам зносін паміж людзьмі, аказваецца разам з там важнейшай прыкметай, якая адрознівае адзін народ ад іншых народаў. Адначасова яна забяспечвае адзінства народа, унутраную еднасць яго асобных прадстаўнікоў у цэласнасць, якая ўрэшце знаходзіць сваё выражэнне ў стварэнні нацыянальнай дзяржавы”. На рубяжы стагоддзяў, калі моўная практыка наглядна выяўляла надзвычайную варыянтнасць і складанасць пытанняў, звязаных з нормамі літаратурнай мовы, акадэмік А. Падлужны выношваў ідэю навуковага выдання новага тыпу (граматыкі і граматычных слоўнікаў у якасці дадаткаў), якімі кіраваліся б ствральнікі вучэбнай і даведачнай літаратуры, для забеспячэння адзінага выкарыстання моўных сродкаў у вучэбным працэсе, друку, дзелавой перапісцы.

Напярэдадні юбілею акадэміка А. Падлужнага калектыву паслядоўнікаў і вучняў удалося рэалізаваць навуковую задуму выдатнага вучонага. Яго светлай памяці прысвечана арыгінальнае выданне, якое складаецца з пяці кніг, дзе праблемы пісьмовай нормы зафіксаваны двума ўзаемадапаўняльнымі спосабамі арфаграфічнага апісання – пры дапамозе граматыкі: “Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. Ч. 1. Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія; Ч. 2. Сінтаксіс” (2007; 2009) і слоўнікаў: “Граматычны слоўнік дзеяслова” (2007), “Граматычны слоўнік назоўніка” (2008), “Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя” (2009). У грунтоўным даведачным комплексе, аналагаў якому пакуль не існуе ў славянскім мовазнаўстве, праблема лінгвістычнай кадыфікацыі арфаграфіі цесна пераплятаецца з лексікаграфічнай фіксацыяй слоў.

Слаўны жыццёвы і творчы шлях прайшоў Аляксандр Іосіфавіч Падлужны. Многа ім здзейснена ў імя росквіту роднай мовы, навукі і культуры беларускага народа. Важкім вынікам шматгадовай плённай дзейнасці моваведа засталіся навуковыя працы. За сваё жыццё ён нямала паvандраваў па свеце, пабываў у многіх замежных краінах, але мілей за ўсё яму была родная Беларусь, яе прырода, людзі і, вядома, родная беларуская мова, у імя якой тварыў. Усе, хто ведаў Аляксандра Іосіфавіча, працаваў разам з ім, да сёння захавалі ў сваіх сэрцах самую светлую памяць пра выдатнага лінгвіста, таленавітага кіраўніка, цудоўнага, сумленнага чалавека.

**Валянціна РУСАК,**
загадчык аддзела сучаснай беларускай мовы
Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі,
доктар філалагічных навук.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

КАСТРЫЧНІК

*Заканчэнне. Пачатак на с. 43.*

**25 кастрычніка –** 85 гадоў з дня нараджэння Льва Мірачыцкага (1925 – 2002), гісторыка-славіста, літаратара

80 гадоў з дня нараджэння Леаніда Дударэнкі, жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Паўлава, празаіка, паэта

**26 кастрычніка –** 200 гадоў з дня нараджэння Генрыка Дмахоўскага (1810 – 1863), скульптара, аднаго з кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху на Беларусі, у Літве і Польшчы

105 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Цітова (1905 – 1972), руска- і беларускамоўнага паэта, перакладчыка

**27 кастрычніка –** 135 гадоў з дня нараджэння Льва Клейнбарта (1875 – 1950), рускага крытыка і публіцыста, даследчыка беларускай літаратуры

**30 кастрычніка –** 90 гадоў з дня нараджэння Тамары Барысавай (1920 – 2000), тэатразнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Валянціна Ягорава, графіка, жывапісца

**31 кастрычніка –** 105 гадоў з дня нараджэння Марка Карпачова (1905 – 1961), крытыка, літаратуразнаўцы

80 гадоў з дня нараджэння Льва Гумілеўскага, скульптара, народнага мастака Беларусі

* * *

105 гадоў з часу заснавання Магілёўскага літаратурна-музычна-драматычнага гуртка. Існаваў да 1914 г.

85 гадоў з часу выхаду ў свет навукова-папулярнага, краязнаўчага і метадычнага часопіса “Наш край”. Выдаваўся да 1933 г. (у 1930 – 1933 гг. выходзіў пад назвай “Савецкая краіна”)

80 гадоў з часу стварэння Беларускай студыі оперы і балета. У маі 1933 г. рэарганізавана ў Дзяржаўны тэатр оперы і балета Беларусі

20 гадоў з часу заснавання “Народнай газеты”

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Мова мастацкіх твораў*

# СТЫЛІСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ РАННЯЙ ПРОЗЫ ІВАНА МЕЛЕЖА І ІХ АДЛЮСТРАВАННЕ Ў ПЕРАКЛАДАХ НА РУСКУЮ МОВУ

Даследаванні, прысвечаныя творчасці Івана Мележа, у пераважнай большасці тычацца "Палескай хронікі", якую прызнаюць галоўнай кнігай творцы. Але не менш цікавыя і раннія творы пісьменніка. "Эпічная паўната і цэласнасць узнаўлення характараў і абставін – гэтыя рысы былі ўласцівы творчасці Мележа з самага пачатку" [1, с. 49]. Так, кніга "Што ён за чалавек" (1961) змяшчае сэнсава і псіхалагічна глыбокія, эмацыйна багатыя лірычныя апавяданні і аповесці. Найбольш прыкметныя, па меркаванні самога аўтара, апавяданні "У завіруху", "Спатканне за горадам", "У гарах дажджы", "Што ён за чалавек", тры невялікія аповесці: "Гарачы жнівень", "Зямля, якую любіш", "Дом пад сонцам".

Па словах У. Гніламёдава, "ужо самыя першыя творы І. Мележа вызначаліся арыентацыяй пісьменніка на жыццёвую праўду, імкненнем да глыбіннай псіхалагічнай абгрунтаванасці чалавечых учынкаў, выразнага сацыяльнага і маральнага ўспрыняцця рэчаіснасці" [1, с. 39]. У ранняй прозе "адчуваецца, што аўтар валодае словам, паказвае жыццё ў яго шматграннасці і складанасці, умее тонка перадаць унутраны стан героя" [2, с. 341].

У належнай ступені ацаніць аўтарскае майстэрства апісання падзей, персанажаў, навакольнага свету дазваляе супастаўляльны аналіз арыгінальных і перакладных тэкстаў.

Так, апавяданне "У завіруху" ўражвае яркасцю, выразнасцю, акрэсленасцю вобразаў, якія сведчаць пра непаўторнасць аўтарскай індывідуальнай манеры пісьма. У перакладзе на рускую мову (выкананым С. Грыгор'евай) выразныя арыгінальныя азначэнні ў некаторай ступені губляюцца. Напрыклад: *Конь **здзіўлена** падняў галаву, грыва на ім заварушылася. А вецер са свістам-**гікам** ляцеў далей, гонячы перад сабой хмары снегу* [3, с. 37] – *Конь поднял голову, настороженно повел ушами. А ветер со свистом полетел дальше, гоня перед собой тучи снега* [4, с. 18]. Аўтар дае выразную характарыстыку тым істотам, з'явам, якія апісвае: конь падняў галаву *здзіўлена*, вецер ляціць са свістам-*гікам*. У перакладзе гэтыя азначэнні апушчаныя, што ідзе не на карысць рускаму тэксту.

На імкненне аўтара як мага паўней апісаць той ці іншы стан паказвае ўжыванне рада сінанімічных эпітэтаў, якія ў рускім тэксце зводзяцца да аднаго слова: *Застаяўшыся ў хляве, конь ішоў **весела**, **лёгка і праворна*** [3, с. 45] – *Застоявшаяся лошадь шла **легко*** [4, с. 28].

Псіхалагічны стан героя апавядання, які, знясілены, у моцную завіруху павінен выканаць даручэнне, І. Мележ апісвае наступным чынам: *Засмужац… упарта паўтараў сам сабе: "Дайсці. Што б ні было – дайсці… Данесці пакет… Там мяне чакаюць". Па меры таго, як расла стома, гэта думка рабілася аднастайнай; ён пачынаў паўтараць толькі адно слова, у якое нібы ўцiснуўся ўвесь сэнс яго цяперашняга жыцця: "Дайсці… Дайсці… Дайсці…"* [3, с. 38]. У рускім тэксце ад гэтага тонкага, глыбокага, псіхалагічнага апісання застаецца толькі сухая, "дзяжурная" фраза: *Весь смысл его жизни сосредоточился теперь в одном слове "дойти"* [4, с. 20].

Часам наадварот, трапныя лапідарныя аўтарскія азначэнні губляюць у рускім тэксце сваю экспрэсіўнасць праз шматслоўную іх перадачу: *У твар біў сцюдзёны вецер. Курэла* [3, с. 44] – *По-прежнему завывал ветер. В лицо била холодная снежная пыль* [4, с. 27]. Пераклад не зусім адпаведна перадае семантыку беларускага дзеяслова *курэцца* ['паднімацца ўверх, віцца, кружыцца (пра дым, туман, снег пыл і пад.)', Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т., 1977 – 1984, далей ТСБМ].

Экспрэсіўныя сродкі, што яскрава адлюстроўваюць пачуцці герояў, у перакладзе не заўсёды захаваныя. Так, сказ *Я таксама ледзь не згуляў у скрынку, **у бога душу яго**, фашыста* [3, с. 42] скарэктаваны да фразы *Я тоже чуть не сыграл в ящик* [4, с. 24].

У апавяданні "Ноччу" (пераклад на рускую мову С. Грыгор'евай) сродкі выразнасці, ужытыя аўтарам, адлюстроўваюць своеасаблівасць, непаўторнасць яго светаўспрымання. У перакладзе індывідуальныя тропы замяняюцца традыцыйнымі ці зусім апускаюцца: *У вачах, калі яна* [Маша] *заплюшчыла іх, спачатку праходзілі задумлівыя, доўгія шэрагі танклявых аснежаных бяроз, **рабілася вусцішна**. Потым бярозы валіліся, асыпаючы з веццяў снег-**пушок**, чапляючыся, нібы спрабавалі ўтрымацца, за галіны сваіх **сяброўак**…* [3, с. 48] – *Перед глазами, когда она закрыла их, плыли длинные шеренги тонких заснеженных берёз. Под ударами топоров они падали, осыпая с ветвей снег и цепляясь за ветки стоявших ещё деревьев, словно бы пробуя удержаться…* [4, с. 32].

Апушчаны эмацыйна насычаныя лексемы і ў наступных прыкладах: *Маша наблізілася да яго* [сына], *пяшчотна пагладзіла* ***любыя*** *белыя валасы. (“Зусім, як у Сямёна”, – падумала яна)* [3, с. 46] – *Маша нежно погладила его светлые волосы, подумала: “Совсем как у Семёна”* [4, с. 30]. – *Што ж ты такая сумная,* ***нявестачка****? Замарнавалася,* ***родная****?* [3, с. 47] – *Что это ты,* ***милая****, скучная такая? Замучилась?..* [4, с. 30] (пераклад у поўнай меры не передае заклапочанасці свякрухі станам сваёй нявесткі).

Аўтарскае майстэрства заўважаецца на ўзроўні выбару таго ці іншага эпітэта для апісання ўнутранага стану герояў: *Тая* [Маша] *сядзела сумная, з пачырванелымі вачыма, моцна сцяўшы* ***журботныя*** *губы* [3, с. 48] – *Та сидела грустная, с покрасневшими глазами, плотно сжав* ***сухие*** *губы* [4, с. 32]. Тут відавочная сэнсавая неадпаведнасць экспрэсіўнай беларускай лексемы *журботны* (‘які выражае журбу, уласцівы таму, каго апанавала журба’, ТСБМ) і рускай *сухой* (у значэнні ‘лишенный необходимой влаги, пересохший’, Словарь русского языка: в 4 т., 1981 – 1984, далей СРЯ). Суб’ектыўнасць, псіхалагізм, ацэначнасць, праўдзівасць мележаўскіх вобразаў у рускіх перакладах належным чынам не адлюстраваныя.

Аповесць “Гарачы жнівень”, якая, па словах пісьменніка, “і па сённяшні дзень адзін з самых мілых мне твораў” [3, с. 4], таксама церпіць значныя страты ў рускім варыянце (пераклад Л. Ракоўскага). Напрыклад: *Канчалася абедзенная* ***дрымотнасць****. Поле, што* ***пяклося маўклівае і нерухомае****, стала ажываць.* ***Загаманілі*** *жанкі, аднекуль з дарогі данеслася рассыпчатае сакатанне калёс* [3, с. 130] – *Кончалось обеденное* ***затишье****. Поле, на какое-то время* ***застывшее в томном покое****, начало оживать.* ***Заговорили*** *женщины, откуда-то с дороги донеслось рассыпчатое стрекотание телег* [4, с. 92].

Штучным выглядае ўкрапленне ў рускі тэкст лексемы *безвозмездно* ў якасці адпаведніка беларускай *бясплатна*: *Ён* [Кастусь] *згодзен хоць усё лета* ***бясплатна*** *бегаць з вузлаватай пугай за конъмі, абы-толькі дапускалі да іх* [3, с. 135] – *Он* [Кастусь] *согласен хоть все лето* ***безвозмездно*** *бегать с узловатым кнутом за лошадьми, лишь бы только допускали к ним* [4, с. 98].

Моцны адбітак суб’ектыўнага перакладчыцкага бачання падзей назіраецца ў выпадках, калі пэўныя даты “падганяюцца” пад успрыманне пэўных гістарычных падзей “са сваёй званіцы”. Напрыклад: *Гэта было* ***ў кастрычніку****, перад самым вызваленнем* [3, с. 144] – *Было это* ***в мае****, перед самым освобождением* [4, с. 110]. І далей: *Да смерці, відаць, не забудзецца той* ***кастрычніцкі дзень і тая ноч 1943 года*** [3, с. 144] – *До смерти, видно, не забудется тот* ***майский день и та ночь 1944 года*** [4, с. 110]. Аўтар вядзе аповед пра беларускія землі, і падзеі адбываюцца тут свае, у свой час. Перакладчык жа чамусьці лічыць магчымым змяніць ход падзей.

Пры перакладзе радкоў з беларускай песні *Вецер вее, ой, вецер вее, ды вецер павявае, / А маці ў доні, ой, маці ў доні дый пра долю пытае* [3, с. 149] у рускім варыянце суб’ект і аб’ект мяняюцца месцамі: *Ветер веет, ветер веет, ветер повевает, / А доченька у матери про долю пытает* [4, с. 116], да таго ж у другім радку зняты паўтор, што парушае структуру верша. Пры перадачы на рускую мову фразы *Шкоды няшмат, але затое –* ***грому****, о! Як яны закіпяць!* [3, с. 160] у пэўнай ступені сціраецца яе экспрэсіўная насычанасць: – *Вреда не много, но зато* ***эффект****, о! Как они закипят!* [4, с. 131]. Улічваючы, што тут апісана размова двух калгаснікаў, увядзенне ў перакладны тэкст лексемы *эффект* наўрад ці апраўдана.

*– Ну, падлічыў працадні? – накінулася Насця, калі Ігнат падышоў бліжэй. Яна з пагардай усміхнулася краямі тонкіх насмешлівых губ. Ігната гэтая ўсмешка апаліла, нібы варам. – Чаго* ***вышчарылася****? – адразу* ***ўскіпеў*** *ён. – Падлічыў* [3, с. 140 – 141]. *– Ну-ну, подсчитал трудодни? – накинулась Настя, когда Игнат подошел ближе. Она с презрением улыбалась краями тонких, насмешливых губ. Игната эта улыбка обожгла, словно кипятком. – Чего вы* ***окрысились****? – сразу* ***ответил*** *он. – Подсчитал* [4, с. 105]. Калі дзеясловы *вышчарыцца* (‘засмяяцца, паказаўшы зубы; // злосна крыкнуць на каго-н.’, ТСБМ) і *окрыситься* (‘в раздражении, злобе наброситься на кого-л.’, СРЯ) блізкія па сэнсавай і канататыўнай афарбоўцы, то ўвядзенне нейтральнай рускай лексемы *ответить* у якасці адпаведніка беларускай *ускіпець* неапраўданае, бо перакладны сказ не атрымлівае той сэнсавай, экспрэсіўнай напружанасці, што змяшчае арыгінальны; да таго ж у арыгінальным тэксце назіраецца сэнсавая карэляцыя дзеяслова *ўскіпець* з параўнаннем *ўсмешка апаліла, нібы варам*, што ў рускай версіі не адлюстравана.

Арыгінальныя, нечаканыя вобразы, якія надзвычай трапна перадаюць унутраны стан героя, перадаюцца ў рускім тэксце звычайнымі, прывычнымі фразамі: *Але боязь ганьбы і пакарання пасля Гардзеевых слоў,* ***як цень, усюды валаклася пры думках*** *Ігната* [3, с. 173] – *Но боязнь позора и кары после Гордеевых слов* ***не давала покоя*** *Игнату* [4, с. 148].

Сэнсавая неадпаведнасць беларускіх і рускіх лексем відавочна ў наступным прыкладзе: *Бры-*

*гадзіра* ***поўняць, хвалююць невясёлыя*** *думкі* [3, с. 162] – *Бригадира* ***волнуют обидные*** *мысли* [4, с. 134]. Па-першае, у перакладзе апушчаны эмацыйна насычаны дзеясловў *поўніць*; па-другое, рускі прыметнік *обидный* (‘досадный, неприятный’, СРЯ) сэнсава неадпаведны беларускаму *невясёлы* (‘які выклікае смутак, журбу; непрыемны’, ТСБМ).

Недапушчальная перадача беларускай лексемы *гурт* (‘натоўп, група людзей’, ТСБМ) рускай *стадо* (*разг. пренебр.* ‘большая неорганизованная группа людей’, СРЯ), прычым у дачыненні да дзяцей: *Ніякавеючы пад уважлівымі людскімі позіркамі, акружаны неадчэпным* ***дзіцячым гуртам****, Ігнат насцярожана наблізіўся да Марціна* [3, с. 117] – *Стушевываясь под внимательными людскими взглядами, окруженный неотступным* ***ребячьим стадом****, Игнат настороженно приблизился к Мартину* [4, с. 153].

Пры перакладзе на рускую мову ўрыўка *Хіба яна пасаромеецца? То такая хітрая, прывыкла ўсе* ***вяршкі*** *збіраць, – не ўтрывала Алена* [3, с. 146] назіраецца з’ява міжмоўнай аманіміі: *Разве она постыдится? Такая хитрая, привыкла все* ***вершки*** *собирать, – не удержалась Алена* [4, с. 112]. У перакладзе з беларускай мовы *вяршкі – сливки* (Беларуска-рускі слоўнік: у 3 т., 2003), рускі ж назоўнік *вершки* мае значэнне ‘внешние, поверхностные стороны какой-л. области знания, специальности и т. п.’ (СРЯ).

У структуры рускіх тэкстаў захавана празмерная колькасць беларусізмаў. Перакладчыкі пакідаюць без змен уласныя імёны *Вольга, Ганна, Микола, Кастусь*, а таксама лексемы *подлеток, хлопец, батька, тата, женка, гурт, цигарка, свитка, ветряк, крупеник, вечерять, покликать, будьте ласковы*, якія замінаюць рускамоўнаму чытачу належным чынам успрыняць мастацкі твор.

Апавяданне “Спатканне за горадам” перакладзена самім аўтарам. Пры параўнанні беларускага і рускага тэкстаў можна назіраць, наколькі арганічная, вобразная, маляўнічая мележаўская мова менавіта ў арыгінальных творах.

Некаторыя фразы, якія ў арыгінальным тэксце гучаць зусім натуральна, у перакладным падаюцца штучнымі, трафарэтнымі. Напрыклад: ***Добры ж дзянёк*** *выдаўся сёння на гэтым узлессі каля рэчкі! Нібы знарок для іх з Алечкай* ***пастаралася прырода****, каб парадаваць яшчэ раз перад тым, як пойдуць нудныя бясконцыя дажджы і раскісне слатою зямля* [3, с. 299] – ***Недурной денек*** *выдался сегодня на этой опушке возле реки! Словно нарочно для них с Алей* ***принарядилась осень****, чтобы побаловать еще раз перед тем, как пойдут скучные бесконечные дожди, и раскиснет грязью земля* [4, с. 356]. Цікава, што ў арыгінале імя гераіні апавядання зазвычай падаецца ў памяншальна-ласкальнай форме (*Алечка*), у рускай версіі ў большасці выпадкаў – *Аля*.

Унутраны стан герояў часам перадаецца ў арыгінальным і перакладным тэкстах па-рознаму: *Ён трывожыўся перад гэтай размовай. Ён баяўся яе, бо не ведаў, што скажа: ён адчуваў сябе* ***нібы падсудным****…* [3, с. 299] – *Леонид тревожился в предчувствии этого разговора, боялся его, не зная, что ответит. Он чувствовал себя* ***виноватым*** [4, с. 355]. Улічваючы, што размова мелася адбыцца з суворым бацькам гераіні, рускі варыянт сэнсава не ў поўнай меры адпавядае сітуацыі.

Штучнымі выглядаюць пачуцці героя ў рускім тэксце за кошт ужывання сэнсава і эмацыянальна неадпаведных выразаў. Напрыклад: *Ён узяў яе запрашэнне, як добры* ***знак прыязнасці****, ідучы тады па вячэрнім бязветраным шляху ў горад, ён быў, помніцца, шчаслівы,* ***узрушаны прыемнымі прадчуваннямі****…* [3, с. 302] – *Леонид принял ее приглашение как добрый* ***предвестник дружбы****. Идя по вечернему безветренному шляху в город, он был, помнится,* ***взволнован, как юноша после свидания****…* [4, с. 359]. Апошняе параўнанне зусім недарэчнае, бо герой якраз у чаканні прыемнага спаткання.

Эмацыйнасць аўтарскага тэксту ў рускіх фразах перададзена з меншай напружанасцю праз апушчэнне некаторых фразем: ***Чорт пабяры****, гэтага толькі і не хапала!* [3, с. 310] – *Этого ещё не хватало!* [4, с. 369].

Узрушанасць героя пачуццямі дзяўчыны ў арыгінальным тэксце паказана наступным чынам: *За што яна пакахала, што яна ўбачыла ў ім! Яна* ***знайшла ў ім такія цуды****, пра якія ён і сам не* ***здагадваўся*** [3, с. 302]. Перакладны сказ гэтай узрушанасці не адлюстроўвае, паколькі тут бракуе натуральнасці: *Почему она полюбила? Она* ***обнаружила в нем качества****, которых он и не* ***подозревал*** *в себе* [4, с. 360].

*Яна заўважыла, што Леанід намерыўся праводзіць яе, і* ***з нянавісцю*** *дадала: Не трэба!* [3, с. 314] – *Она заметила, что Леонид собрался проводить ее,* ***с неприязнью*** *предупредила: – Не нужно!* [4, с. 374]. Беларуская лексема *нянавісць* (‘пачуццё моцнай варожасці, непрыязнасці’, ТСБМ) утрымлівае значна больш экспрэсіі, чым руская *неприязнь* (‘недружелюбное, недоброжелательное чувство к кому-, чему-л.; нерасположение’, СРЯ).

Апавяданне “У гарах дажджы” таксама перакладзена аўтарам. Адрозненні ў стылістыцы рускага і беларускага тэкстаў палягаюць перш за

ўсё ў рознай стылёвай аснове (пісьмовай) рускай і (вуснай) беларускай мовы. Моцны адбітак накладвае і першасная, родная мова аўтара. Напрыклад: *Санлівасць адразу* ***вылецела*** *з яго* [Макоўчыка] [3, с. 338] – *Дремота сразу* ***оставила*** *его* [Маковчика] [4, с. 338]. *Удзень лягчэй будзе* ***дайсці да ладу*** [3, с. 368] – *Днём легче будет* ***управиться*** [4, с. 339]. Беларускія фразы гучаць больш проста, натуральна ў параўнанні з "прыгладжанымі" рускімі.

У наступных беларускіх і адпаведных рускіх радках адчуваецца розная ступень экспрэсіўнай насычанасці: *У незвычайна круглых, вырачаных сіняватых вачах каня* ***быў жах, нежывёльны сум*** [3, с. 377] – *В необычно круглых, вытаращенных синеватых глазах* ***было выражение ужаса, отчаяния, тоски*** [4, с. 350]. Непасрэднасць адчуванняў жывёліны (у вачах – жах) як бы змяншаецца ў перакладным варыянце за кошт увядзення лексемы *выражение*.

Нешматслоўнае заканчэнне апавядання ў рускім варыянце больш разгорнутае, але менш сэнсава ёмістае: *Выпрастаўшыся, Макоўчык тузануў каня і* ***абыякавы*** *паехаў да шасэ* [3, с. 379] – *Выпрямившись, Маковчик дернул повод. Чувствуя, как* ***им вдруг овладело равнодушие ко всему****, он поехал к шоссе* [4, с. 352]. Такія прыклады паказваюць, што І. Мележ пачуваецца свабодным у стыхіі роднай мовы і стварае пасапраўднаму вобразна разнастайную, глыбока псіхалагічную прозу.

Па меркаванні У. Гніламёдава, "выяўленчы дыяпазон стылёвай манеры Мележа з самага пачатку аказваецца даволі ёмістым, дастатковым, каб паказаць чалавека ў разнастайных абставінах і сферах жыцця. Поруч з аб'ектыўным, знешне нават бясстрасным, а ўнутрана актыўным рэалізмам яго творам уласцівы і светлы, адухоўлены лірызм, звязаны з народна-паэтычным складам душы" [1, с. 43]. У перакладах на рускую мову ранніх аповесцей і апавяданняў Івана Мележа гэтыя асаблівасці аўтарскай манеры пісьма захаваныя не ў поўнай меры.

**Спіс літаратуры**


1. **Гніламёдаў, У.** Іван Мележ : нарыс жыцця і творчасці [Для ст. шк. узросту] / У. Гніламёдаў. – Мінск : Нар. асвета, 1984.
2. **Кавалёва, М. Ц.** Іван Мележ / М. Ц. Кавалёва // Беларуская мова : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994.
3. **Мележ, І.** Што ён за чалавек : апавяданні, аповесці, нарысы / І. Мележ. – Мінск : Дзяржвыд БССР, 1961.
4. **Мележ, И.** Свидание за городом : маленькие повести и рассказы. Авториз. пер. с белорусского / И. Мележ. – М. : Худож. лит., 1966.



**Алена АСТАПЧУК,**
кандыдат філалагічных навук,
старшы навуковы супрацоўнік
аддзела сучаснай беларускай мовы
Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і
Янкі Купалы НАН Беларусі.


## ДА ЎВАГІ АЎТАРАЎ!

## Патрабаванні да афармлення матэрыялаў

Рэдакцыя прымае на разгляд матэрыялы на беларускай мове аб'ёмам да 15 старонак у электронным выглядзе. Тэкставая інфармацыя мусіць быць запісаная ў фармаце doc або rtf, дапускаецца мінімальнае фарматаванне (шрыфт Times New Roman, вылучэнні або курсівам, або паўтлустым прамым, або паўтлустым курсівам). Калі матэрыял дасылаецца па электроннай пошце, пажадана, каб і тэма ліста, і імя далучанага файла ўтрымлівалі поўную назву артыкула.

Уся нятэкставая інфармацыя на электронных носьбітах (фота, графікі і да т. п.) можа быць запісана ў любым графічным фармаце (jpg, tiff; ≥ 300 ppi), але не павінна знаходзіцца ў тэксце ў фармаце Word. Ілюстрацыі, знойдзеныя ў інтэрнэце, да публікацыі не прымаюцца. Фотаздымкі аўтараў павінны быць партрэтнага фармату, добрай якасці (ні ў якім выпадку не ксеракопіі!).

Неабходна ўказваць прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара, месца яго працы, пасаду, вучоную ступень, званне, хатні адрас, тэлефоны, пашпартныя звесткі (серыя, нумар, калі і кім выдадзены, асабісты нумар, адрас рэгістрацыі). Без гэтых звестак матэрыялы прымацца не будуць.

На распрацоўках урокаў і сцэнарыях трэба пазначаць клас, чвэрць і месяц, калі тэма вывучаецца ў школе.

*Гістарычны слоўнік распавядае*

# СЛОЎНІК МОВЫ НАШАЙ СПАДЧЫНЫ

Гістарычны слоўнік мовы – збор размешчаных у алфавітным парадку слоў, дзе раскрываецца значэнне, уласцівае ім у пэўны перыяд. "Гістарычны слоўнік беларускай мовы" прызначаны максімальна поўна адлюстраваць лексіку беларускай мовы XIV – XVIII стст.

**I. Папярэднікі слоўніка.** Першыя спробы лексікаграфічнай апрацоўкі старабеларускага слоўнікавага матэрыялу адносяцца да XVI ст. Так, Францыск Скарына ў пражскім выданні "Псалтыра" (1517) пісаў: "Также положилъ есми на боцехъ (на палях. – ***Н. П.***) некоторыи слова для людей простыхъ… И иные слова которые сѹть въ псалтыри неразумныи простымъ людемъ, наидуть е́ на боцехъ рѹскимъ ꙗзыкомъ что которое слово знаменѹеть". Першадрукар тлумачыў асобныя незразумелыя словы царкоўнаславянскай мовы адпаведнымі лексічнымі эквівалентамі тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Падобных тлумачэнняў у "Псалтыры" налічваецца 66: *геродиево – соколово, онагри – лоси, ѹтробы – почки, холми – ѹзгорки* і інш. [3, с. 120 – 122].

У 1596 г. выкладчык віленскай брацкай школы Лаўрэнцій Зізаній выдаў "Лексис сиречъ реченїя вькратъце събранны и из словенскаго языка на простый рускій дiялектъ истолкованы Л. Z." як дадатак да сваёй кнігі "Наука ку читаню и розуменю писма словенского"; другой паловай XVI ст. датуецца і "Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто", аўтарства якога да гэтага часу дакладна не вызначана; 1627 год – год выдання працы Памвы Бярынды "Лексіконъ славеноросскій и именъ тлъкованіе" (перавыдадзена ў 1653 г.).

Старабеларускае дзелавое (актавае, канцылярска-юрыдычнае) пісьменства стала аб'ектам лексікаграфічнай апрацоўкі ў другой палове XIX ст. Пасля выдання пяці тамоў "Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі" ў 1853 г. вядомаму беларускаму філолагу І. Насовічу Аддзяленнем Расійскай акадэміі навук было прапанавана падрыхтаваць слоўнік беларускіх слоў, зафіксаваных у названым пяцітомніку. Чатырохгадовая праца даследчыка завяршылася стварэннем слоўніка аб'ёмам 12 тысяч слоў пад назвай «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў, выбраных з "Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі"». Аднак даведнік, высока ацэнены акадэмікамі І. Сразнеўскім, А. Вастокавым, М. Каркуновым, выдадзены не быў і сёння захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў бібліятэцы Расійскай акадэміі навук.

Справу І. Насовіча працягнулі І. Навіцкі і М. Гарбачэўскі, аўтары адпаведна "Даведачнага слоўніка юрыдычных тэрмінаў старажытнай актавай мовы Паўднёва-Заходняй Расіі" (1872) і "Слоўніка старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і Царства Польскага" (1874) [1, с. 134 – 136].

Амаль праз 50 гадоў С. Некрашэвіч на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926) адзначыў, што ўкладанне гістарычнага слоўніка беларускай мовы – важная задача беларускага мовазнаўства, такі слоўнік будзе мець як навуковае значэнне, так і практычнае. У 1927 г. пры кафедры гісторыі беларускай мовы Інбелкульта была створана спецыяльная камісія на чале з М. Дурнаво, да 1928 г. выпісана больш за 20 000 картак-цытат з пісьмовых помнікаў. В. Воўк-Левановіч сваю канцэпцыю слоўніка адлюстраваў у артыкуле "Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы" (1929) [4, с. 82].

Падрыхтоўка паўнавартаснага "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" пачалася ў 1960 г. у сектары гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа пад кіраўніцтвам А. Жураўскага і працягваецца да гэтага часу пад кіраўніцтвам А. Булыкі.

**II. Этапы работы над слоўнікам.**

1. Вынікам першага этапу работы (1960 – 1972) над слоўнікам стала вызначэнне яго крыніц і храналагічных межаў; выпрацоўка прынцыпаў яго напісання; стварэнне картатэкі.

а) Пры вызначэнні крыніц слоўніка вучоныя інстытута карысталіся даследаваннямі бібліёграфаў і філолагаў В. Сопікава, І. Сахарава, І. Каратаева, В. Ундольскага, А. Мілавідава, Г. Зёрнавай, мовазнаўцаў А. Вастокава, Я. Карскага, І. Сразнеўскага, А. Сабалеўскага. Пасля складання поўнага (на той час) пераліку старабеларускіх помнікаў супрацоўнікі правялі вялікую пошукавую работу па іх месцазнаходжанні (найбольш інтэнсіўна – у 1960 – 1965 гг.). Пасля вывучэння атрыманых з розных архіваў і бібліятэк фотакопій і мікрафільмаў быў вызначаны канчатковы спіс тэкстаў для далейшай лексікаграфічнай працы (з ім можна азнаёміцца ў першым выпуску слоўніка). А. Жураўскі прапанаваў крытэрыі размежавання змешаных па мове твораў (у сувязі з існаваннем у старажытнай Беларусі пісьмова-літаратурнага полілінгвізму).

Так, пры адрозненні беларускіх і царкоўнаславянскіх помнікаў найбольш абгрунтаванымі з'яўляюцца колькасныя падлікі паказчыкаў на ўзроўні фанетыкі, граматыкі, лексікі ў разглядаиых тэкстах (напрыклад, суадносіны няпоўнагалосных і поўнагалосных формаў тыпу *градъ – городъ*, пачатковых спалучэнняў *ра / ла – ро / ло* тыпу *разумъ – розумъ* і інш.). Тэрытарыяльны крытэрый – асноўны пры размежаванні беларускіх і ўкраінскіх помнікаў [2, с. 15].

б) **Ніжэйшая храналагічная мяжа** "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" датуецца канцом XIV ст., **вышэйшая** – XVIII ст. Гэта адпавядае прапанаванай Р. Аванесавым сістэме слоўнікаў усходнеславянскіх моў старажытнага перыяду, паводле якой мэтазгодна стварыць адзін слоўнік старажытнарускай мовы і тры асобныя слоўнікі старарускай, старабеларускай і стараўкраінскай моў, а таксама агульнай перыядызацыі гісторыі беларускай літаратурнай мовы.

в) Трэба сказаць, што **крыніцы слоўніка** колькасна неаднолькавыя ў адносінах да яго часавых рамак. У колькасных адносінах пераважаюць помнікі XVI і XVII стст.: Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг., "Трыбунал абывацелем Вялікага княства Літоўскага" (1586), пераклады Францыска Скарыны, "Катэхізіс" Сымона Буднага, "Евангелле" Васіля Цяпінскага, "Лексіс" Лаўрэнція Зізанія, "Унія", "Апокрысіс" Хрыстафора Філалета, "Два казанні" Лявонція Карповіча, "Траянская гісторыя", "Хроніка" Мацея Стрыйкоўскага, "Хроніка ўсяго свету" Марціна Бельскага, "Дзённік" Фёдара Еўлашоўскага, "Дыярыуш" Афанасія Філіповіча, "Жыціе святых", "Пролаг", рукапісныя зборнікі павучэнняў і інш. Канец XIV ст. і першую палову XV ст. прэзентуе "Вісліцкі статут", другую палову XV ст. – "Чэцця", "Пакуты Хрыста", "Жыціе Аляксея, чалавека божага", "Аповесць аб пакланенні валхвоў", Увараўскі і Віленскі спісы летапісаў, урывак "Александрыі"; XVIII ст. – "Збор выпадкаў кароткі" (1722). Увесь храналагічны перыяд слоўніка прадстаўляюць разнастайныя дакументы са збораў археаграфічных камісій. З тэкстаў дзелавога зместу XIII – XIV стст. выкарыстоўваюцца тыя, у якіх адлюстравана лексіка, што ў далейшым стала спецыфічнай для беларускай мовы, або агульнаўсходнеславянская лексіка ў беларускім фанетычным абліччы.

г) **Картатэка слоўніка** – яго матэрыяльная база – налічвае 1 мільён 60 тысяч картак. У яе стварэнні на працягу 1960 – 1972 гг. удзельнічалі 19 супрацоўнікаў аддзела. Найбольшая колькасць картак (у тысячах) была падрыхтавана А. Жураўскім (145), З. Турцэвіч (135), І. Крамко (126), П. Вярховым (123), У. Анічэнкам (113), А. Юрэвіч (92), А. Яновіч (71), І. Шадурскім (63), А. Булыкам (51), А. Напоркай (36), Н. Кажурай (28), І. Суханам (19), А. Груцам (6).

Пры складанні картатэкі першапачаткова выкарыстоўвалася поўная выбарка (такім чынам апрацавана асноўная частка крыніц слоўніка), якая прадугледжвала выпіску на асобную картку кожнага слова помніка не менш за адзін раз. На асобныя карткі выпісвалася таксама новае адценне раней зарэгістраванага слова, яго новы фанетыка-арфаграфічны ці словаўтваральны варыянт (*второкъ – овторокъ*, *египтянинъ – египчикъ*), найбольш яркія кантэксты яго ўжывання.

На заключным этапе вялася выбарачная выпіска, пры якой занатоўваліся незафіксаваныя словы, значэнні і варыянты ўжо выпісаных лексічных адзінак. З мэтай паскарэння працэсу падрыхтоўкі картатэкі складальнікі, якія ўручную перапісвалі карткі, звярнуліся да святлодрукавання. Вялікія лісты чарцёжнай калькі разліноўваліся на прамавугольнікі па фармаце картак, у кожную клетку ўпісваліся чорнай тушшу ўрыўкі тэксту (аб'ёмам 30 – 40 слоў), справа ўнізе рабілася пашпартызацыя. Падрыхтаваныя такім чынам лісты калькі перадаваліся ў майстэрню, дзе з іх рабілася адпаведная колькасць копій. Потым копіі разразаліся па лініях на карткі, у верхнім вугле якіх запісвалася ў пачатковай форме адно са слоў з урыўка, а ў самім тэксце слова падкрэслівалася гарызантальнай рыскай. Гэтым спосабам, які аказаўся максімальна набліжаным да суцэльнай выпіскі, былі апрацаваны найбольш каштоўныя ў лексічных адносінах тэксты.

Картатэка, якая можа лічыцца нацыянальнай каштоўнасцю, з'яўлялася і з'яўляецца базай як для гістарычнага слоўніка, так і для іншых прац па дыяхранічнай і сучаснай лексікалогіі. Таму сёння бачыцца неабходнасць стварэння электроннай версіі картатэкі (яна захоўваецца ў папяровым выглядзе ў адзіным экземпляры і не мае страхавой копіі), яе пераводу на беспапяровыя носьбіты, што найперш здыме пагрозу яе фізічнага знікнення (у сувязі са старэннем паперы, выцвітаннем чарніла). Адначасова мы зможам папоўніць картатэку шляхам уключэння ў яе склад лексем з помнікаў, нядаўна ўведзеных у навуковы ўжытак, а значыць з максімальнай паўнатой прадставіць лексічны фонд беларускай мовы XIV – XVIII стст. Напрыклад, у "Кнізе запісаў" 1522 – 1552 гг., 28-м томе Метрыкі ВКЛ, выяўлены такія словы, як *бакста*, варыянт слова *башта*, *бакшта* 'абаронная вежа', *ошляхчати* 'ўводзіць у шляхецкае

саслоўе', *подорожка* 'паездка'. Электронны варыянт картатэкі значна пашырыць магчымасці яе выкарыстання, у прыватнасці праз уключэнне ў адзіны банк даных славянскіх гістарычных картак, стварэнне якога прапанавана пачаць з картатэкі старажытнарускага слоўніка (названая картатэка ўключана ў праграму ЮНЕСКА "Памяць свету").

д) **Прынцыпы падрыхтоўкі** "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" былі распрацаваны А. Жураўскім; яны падрабязна апісаны ў прадмове да першага выпуску слоўніка (1982).

**II.** З 1973 г. бярэ пачатак другі этап працы над слоўнікам – яго **напісанне**.

У кожным выпуску змяшчаецца 1000 – 1500 лексем. Слоўнікавыя артыкулы ўключаюць загаловачнае слова (загаловачнымі з'яўляюцца ўсе словы самастойных і службовых часцін мовы, засведчаныя ў помніках старабеларускага пісьменства; дзеепрыслоўныя формы ўключаюцца ў склад формаў адпаведнага інфінітыва, дзеепрыметнікі падаюцца асобным артыкулам, паколькі яны нярэдка выступаюць у значэнні назоўнікаў; пры наяўнасці некалькіх варыянтаў слова за асноўны прымаецца найбольш пашыраны), граматычную характарыстыку, г. зн. указанне на прыналежнасць слова да пэўнай часціны мовы, пры патрэбе на ступень параўнання, трыванне, лік; дэфініцыю, экземпліфікацыю, прычым яна падабрана з такім разлікам, каб паказаць ужывальнасць лексемы ў тэкстах рознай жанравастылявой прыналежнасці.

Так, пры тлумачэнні значэння слова перавага аддаецца падбору адпаведнага семантычнага эквіваленту сучаснай беларускай літаратурнай мовы:

**Колеръ, колоръ** *наз. Колер.* Китайки, колору небеского до соболей, локти дву, заплатили зол. одинадцать (ИЮМ, IX, 176, 1692); Зъ росказаня п. войта, купили сукна керновового, колеру гоздикового, локоть шесть (ИЮМ, XIII, 26, 1699).

**Поколенье, поколене, поколение** *наз. Пакаленне.* тогды ꙗвитьсѧ знаме сына чоловечъего на небе и тогды всплачутьсѧ въси поколеныꙗ земъские (Цяп., 34б); баба его и матка з жыдовского поколенꙗ идучые (Зб. 752, 492); видѣлъ сн҃ы сн҃овъ своихъ ажь до третегѡ поколѣньѧ то есть правнȣчатъ своихъ (Хран., 78).

Апісальны спосаб выкарыстоўваецца тады, калі размова ідзе пра прадметы, рэаліі, якія выйшлі з ужытку ў пазнейшы час:

**Бобровникъ** *наз. Чалавек службовага саслоўя, які займаўся лоўляй баброў і наглядам за бабровымі гонамі.* лȣзскина бобровъник пыталъ ихъ передо мною естъли бы ѡни которые сети бобровыи в себе мели (КВЗС, 96, 1533).

**Поконевшчызна** *наз. Плата за карыстанне коньмі.* Артыкулъ 2. О поконевъшчызне, листъ 88 (КПД, 100, 1554).

У мнагазначных словах вылучаюцца ўсе значэнні:

**Колода** *наз.* **1.** *Кароткае тоўстае бервяно.* вкопают в землю противко мȣрови двѣ великие грȣбие и долгие дерева… межи которыми завес ꙗт ѡнȣю колодȣ (Бельск., 218).

**2.** *Масіўныя драўляныя кайданы.* ноги мают в колодѣ замкнены (Зб. 107, 195).

**3.** *Мера мёду і некаторых іншых сыпкіх і вадкіх рэчываў.* отъ колоды меду грошъ, а за носатку меду два грошы (АЗР, I, 145, 1494).

Словы-амонімы абазначаюцца рымскімі лічбамі:

**Позрети I** *дзеясл. Пaглядзець.* Позрев же іосифъ очима виде вениамина брата своего роднаго (Скар. КБ, 80б); позрѣвши вˢ глȣбокій ров, страшного смока ѡбачил (Варл., 111).

**Позрети II** *дзеясл. Зрабіцца, стаць спелым.* Перец теж коли се родит велик бывает, але спѣкшисꙗ ѡт слонца, затрачает плод своˢ. А коли ȣже позрѣет, теды зо всѣх ѡных сторон люд ѡныˢ з печер выходꙗчы несут з собою соломȣ и хрост (Бельск., 177).

**Минута, менута, минута I** *наз.* **1.** *Мінута, 1/60 частка гадзіны.* по часточцѣ починаетъ приходити ласка Бж҃аѧ вˢ дш҃у, котораѧ вˢ одной минȣтѣ годины можеть чл҃вка очистивши досконалымъ оучинити (Мак., 333).

**2.** *Мінута, 1/60 частка градуса.* бѣгъ дн҃ь и .в҃. минутта того сатѫрнѡг (Неба, 67б).

**Минута II** *наз. Копія (як правіла, не завераная).* минуту, выписаную съ тыхъ книгъ, передъ нами вказывали (КЗ, 579, 1495).

Пры неабходнасці ў слоўнікавых артыкулах прыводзяцца ўстойлівыя слоўныя комплексы:

**Позовъ** *наз. Выклік у суд, павестка, позва.* Позовъ бискупий (господарский, дворный, духовный, земский, кгродский, надворный, подкоморский) – *віды позваў у залежнасці ад урадавай інстанцыі, з якой яны зыходзілі.* какъ мают позвы господарскими панов воевод и старостъ и иншых врадниковъ ку праву позывати (Ст. 1529, 42); тогды ѡ то самъ таковыˢ до бискȣпа … маеть быти позванъ на рокъ певъныˢ … за шесть недель позвомъ бискȣпимъ (Ст. 1588, 98); В томъ часе мел быти емȣ данъ позовъ дȣховныˢ ѡт ѡˢца Никифора Ексарха (Барк., 147).

Слоўнікавыя артыкулы падрыхтавалі 24 супрацоўнікі аддзела гісторыі беларускай мовы, найбольшую колькасць – А. Булыка, Т. Блізнюк, Р. Гамзовіч, А. Груца, З. Турцэвіч, І. Крамко, В. Мяснікова, У. Свяжынскі, А. Яновіч, Г. Ціванова, Л. Рабаданава. Рэдактары слоўніка – А. Бу-

лыка, А. Жураўскі, памочнікі рэдактара – Н. Кажура, Л. Рабаданава, З. Турцэвіч, В. Мяснікова, Г. Федарэнка.

З 1982 г. апублікавана 30 выпускаў "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы". Іх змест пацвярджае багацце і разнастайнасць лексікі арыгінальных і перакладных канцылярска-юрыдычных, свецка-мастацкіх, рэлігійных, публіцыстычных, навуковых твораў – складнікаў беларускага пісьменства XIV – XVIII стст.

Матэрыялы слоўніка запатрабаваны пры стварэнні прац, прысвечаных фарміраванню і эвалюцыі лексічнай сістэмы беларускай мовы, характарыстыцы асаблівасцей слоўніковага складу асобных старабеларускіх помнікаў, пры падрыхтоўцы спецыяльных лексікаграфічных даведнікаў (гістарычных і этымалагічных слоўнікаў славянскіх моў, гістарычных слоўнікаў асобных тэматычных груп лексікі, слоўнікаў устарэлых слоў, слоўнікаў мовы асобных твораў старабеларускага пісьменства і інш.), у выкладчыцкай практыцы (пры стварэнні падручнікаў і практыкумаў па названых дысцыплінах, пры напісанні даведачных матэрыялаў гісторыка-лінгвістычнага зместу для вучняў сярэдняй школы). Наяўнасць у слоўніку разнастайных гістарычных, юрыдычных, этнаграфічных звестках дазваляе выкарыстоўваць яго пры распрацоўцы пытанняў сувязі паміж мовай і этнасам, пры асвятленні пытанняў узаемадзеяння ўсходнеславянскіх моў і народаў, што сведчыць пра яго выключную вартасць не толькі для мовазнаўчай навукі, але і для гуманітарыстыкі ў цэлым.

Гістарычны слоўнік дае магчымасць хранагізаваць жыццё кожнага слова. Яго можна лічыць своеасаблівым захавальнікам памяці і традыцый нашага народа. Праз гістарычны слоўнік мы маем магчымасць далучыцца да той рэальнасці, нашчадкамі якой з'яўляемся.

**Спіс літаратуры**


1. **Беларуская мова** : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994.
2. **Гістарычны слоўнік беларускай мовы.** – Мінск : Навука і тэхніка, 1982. – Вып. 1.
3. **Жураўскі, А. І.** Гісторыя беларускай літаратурнай мовы / А. І. Жураўскі – Мінск : Навука і тэхніка, 1968. – Т. 1.
4. **Жураўскі, А.** Некаторыя асаблівасці беларускай гістарычнай лексікаграфіі / А. Жураўскі // Pogranicza języków. Pogranicza Kultur. Studia afiarowane Elżbiecie Smulkowej. – Warszawa, 2003. – S. 81 – 87.



**Наталля ПАЛЯШЧУК,**
загадчык аддзела гісторыі беларускай мовы
Інстытута мовы і літаратуры імя
Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.


*Скарбы мовы*

# "АМНІСТЫІ НЕ ЗНАЕ ПАМЯЦЬ…"

## ПАМЯЦЬ ЧАЛАВЕКА, ПАМЯЦЬ ПАКАЛЕННЯЎ; МІНУЛАЕ; СПАДЧЫННАСЦЬ І СПАДЧЫНА

*Але нічым – ні здзекаў намеццю, / Ніякай ласкай і хвальбой / Адбіць няможна добрай памяці, / Што ў мове точыцца жывой* (М. Лужанін. Я на руках малую гушкаю…).

*Амністыі не знае памяць, / Яна падзей мінулых склад* (А. Астрэйка. Няма амністыі пачуццям).

*А чалавечая памяць багатая. Ёй трэба насіць усё тое, чаму не трэба – чаму нельга – зноў паўтарыцца* (Я. Скрыган. Смага).

*Белай Краіне не згінуць парожняй – / абарані ад бяспамяцтва, Божа!* (А. Хатэнка. Дзедава субота).

*Будзь да канца са мной, сяброўка-памяць, / Нібы крышталь гранёны, чыстай будзь* (А. Звонак. Памяць).

*Галінка памяці / Не можа не стаць / Галінкай вечнасці!* (А. Лойка. Балада бэзавай галінкі).

*Далёкае не адгукаецца, / А блізкае – дык рэхам коціцца* (А. Астрэйка. Далёкае не адгукаецца…).

*Дзіцячай памяці ўласціва зберагаць першыя ўражанні на ўсё жыццё* (С. Грахоўскі. Зажураныя жураўлі).

*Добра жыць і памяцю пакут* (Н. Гілевіч. З кнігі "Сяміradкоўі").

*Ды лепшая памяць аб мёртвых – / ваша любоў да жывых* (А. Вярцінскі. Іх апошняя воля).

*Ды памяць, як лішні вагон, / не адчэпіш. / І без яе наперад не рушыш. / У памяці – вочы, / якіх не аслепіш. / У памяці – вушы, / якіх не аглушыш* (П. Макаль. Кажуць, даволі пра дальнія страхі…).

*Падборкі афарызмаў беларускіх пісьменнікаў, падрыхтаваныя Нінай Гаўрош і Нінай Нямковіч, друкуюцца ў "Родным слове" з 2006 г.*

*Ды патрэбна наступніку, / каб сумленнем не слеп, / Нібы воку сляза, / ачышчальная памяць* (С. Законнікаў. Нашы мары бясконцы сусвет абышлі…).

*Застаецца толькі вечнай памяць / Той зямлі, дзе нарадзіўся ты* (М. Рудкоўскі. Змянліва ўсё на белым свеце).

*Загубіцца сцежка – / забудзецца род…* (С. Панізнік. Суайчыннікам за мяжой).

*З жывым мінулым у жывых вачах / Ясней убачыш будучыні далі* (А. Лойка. Санет сыну).

*І вочы новых пакаленняў / Жыццё прадкажуць нам ці / Смерць!* (І. Багдановіч. Галасы фрэсак).

*Каб расказалі ўсё магілы, / Слёз не хапіла б на зямлі* (С. Грахоўскі. Каб расказалі…).

*Калі чалавек памірае, / Згасае яго святло, / Ды новым святлом разгараецца / Памяць аб ім* (Н. Тулупава. Калі памірае зорка).

*Капацца ў мінулым – варушыць, набліжаць будучае* (Я. Сіпакоў. Узятак з маўчання).

*Крый Бог нам абяспамяцець ізноў* (Н. Мацяш. Пяць галасоў).

*Нават кропля вады памяць мае / Літаральна пра ўсё, / Што краналася плыні калісьці* (Н. Мацяш. Збыліся).

*На дрэве памяці з кожным годам багацейшы ўраджай* (М. Танк. На дрэве памяці…).

*Нам паліць з успамінаў цяпельца, / Нам да скону ўспамінамі жыць: / Тым азерцам, / што плешчацца ў сэрцы, / Той рачулкай, / што з сэрца бяжыць* (А. Пісьмянкоў. Спавядацца бяжым да прыроды…).

*Напісанае застаецца, а ненапісанае забываецца* (Г. Марчук. Голас і слова).

*На шляхах у былое / Няма поступу ўперад* (Н. Мацяш. Галінка плюшчу).

*Не заўжды ўспаміны нам апора* (К. Кірэенка. Не, не трэба ўспамінаць…).

*Не мае Памяць межаў і граніц, / Яна пульсуе ў кожным радаводзе* (З. Марозаў. Памяць).

*Не пагарджаць святым сваім мінулым, / А заслужыць яшчэ, і вартым быць яго* (У. Караткевіч. Беларускае мінулае).

*Няма нічога благога ў тым, калі чалавек ступае на адну і тую ж сцежку двойчы і калі на яго ад гэтага находзяць успаміны* (М. Стральцоў. Падарожжа за горад).

*Няхай твае паражэнні, гузакі і мазалі глыбока схаваны ад усіх, ты пра іх абавязаны памятаць заўсёды* (М. Стральцоў. Слова ўдзячнасці).

*Пакінем спадчыну мы для патомкаў / Інакшую ад той, / Што ўзялі мы ад продкаў на абломках / Гісторыі сваёй* (Я. Купала. Безназоўнае).

*Пакліч – былое адгукнецца / Жалейкаю за хваіной; / Скраніся – і важкой хадой / Наступнае ў паход кранецца* (А. Куляшоў. На паўмільярдным кіламетры).

*Пакуль памяць жывая, ёй не трэба ставіць помнікі, яна сама – помнік* (М. Стральцоў. Ад маладзіка да поўні).

*Памяць і любоў зямная / Не знялі і сёння шынялёў* (С. Законнікаў. Памяць).

*Памяць – набытак асобы* (А. Разанаў. Зномы).

*Патрабуе чыстае сумленне / Быць неабходным хоць малым звяном / Паміж сваім і новым пакаленнем* (С. Грахоўскі. Звяно).

*Помнікам віны не загладзіш* (А. Рылько. Маці і сын).

*Раны зажываюць – віры памяці ніколі не супакояцца* (А. Вялюгін. Пад ветразем у полі).

*Род звядзецца, / Калі магіл не шанаваць* (Н. Гілевіч. Родныя дзеці).

*Самы магутны метад забыцця – змена летазлічэння* (Г. Марчук. Голас і слова.).

*Сноп апошні залатога жыта / Застаецца ў памяці палос* (А. Куляшоў. Сноп апошні залатога жыта…).

*Спадчынай валодае той, хто мае моц засвоіць яе, той жа, хто гэтай моцы не мае, у лепшым выпадку з'яўляецца яе захавальнікам* (А. Разанаў. Зномы).

*Спадчына не ў мінулым, а з мінулага: яна – вектар, які паказвае дарогу, яна – аблічча ўчалавечанага часу* (А. Разанаў. Зномы).

*Сягаючы імкненнямі высока, / Не забывай пра карані* (С. Законнікаў. Дарога ўцякае паланянкай).

*Ты падзякуй таму, / што было і што ёсць, / а то болей нічога не будзе* (Е. Лось. Не шкадую таго, што было і што ёсць…).

*Усё ўспамінам стане* (Н. Мацяш. За соснамі – мора).

*Толькі грэцца ці варта / На былым папялішчы?* (А. Пісьмянкоў. Ты ўсміхаешся горка…).

*Трэба тыя* [помнікі] *шанаваць, / Якія не забылі пра падножжа, / Дзе ім наканавана век стаяць* (А. Сербантовіч. І вось яна прыходзіць, наша сталасць…).

*Узнагарода – памяць, / Памяць – кат* (З. Дудзюк. Ці я магла б…).

*У нас добрая спадчына, паболей бы добрых спадчыннікаў* (М. Стральцоў. Спадчыннасць).

*Успаміны сэрцу не апора…* (К. Кірэенка. Не, не трэба ўспамінаць…).

Падрыхтавалі
**Ніна ГАЎРОШ, Ніна НЯМКОВІЧ.**

*Аўтары ахвяруюць ганарар на развіццё часопіса.*



# МЕТАДЫКА І ВОПЫТ

*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

## БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС У АПОРНЫХ СХЕМАХ

*Працяг. Пачатак у №№ 5 – 7.*

Увазе чытачоў прапануюцца апорныя схемы па новай рэдакцыі беларускага правапісу. Правілы падаюцца пакрокава ў выглядзе стандартных фігур рознай формы. Схемы адпавядаюць структуры правіл (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2008). Новае і тое, што патрабуе асаблівай увагі, у апорных схемах пазначана клічнікам.

### ПРАВАПІС АБРЭВІЯТУР

Схема 23-а

**Літарныя, гукавыя абрэвіятуры і абрэвіятуры змешанага тыпу звычайна пішуцца вялікімі літарамі без кропак, злучкоў і апострафаў:** *БДУ* (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), *НАН Беларусі* (Нацыянальная акадэмія навук Беларусі), *СМІ* (сродкі масавай інфармацыі), *МАЗ* (Мінскі аўтамабільны завод), *МТЗ* (Мінскі трактарны завод), *ЦУМ* (цэнтральны ўніверсальны магазін), *ААН* (Арганізацыя Аб'яднаных Нацый).

**Калі да абрэвіятуры дадаецца лічба, то яна пішацца праз злучок:** *ВАЗ-21, МАЗ-200, МТЗ-82.*

**Малыя літары могуць уваходзіць у камбінаваныя абрэвіятуры:** *ЛіМ, БелТА, УП "Белкніга", БелНДВІ* (Беларускі навукова-даследчы ветэрынарны інстытут).

**Калі абрэвіятура скланяецца, канчаткі пішуцца разам малымі літарамі:** *у нашым ЖЭСе, працаваў на МАЗе, рамонт ЦУМа, дысертацыя ў ВАКу.*
**Дапускаецца напісанне малымі літарамі агульнавядомых абрэвіятур, калі слова ўспрымаецца як простае:** *сходзіў у жэс* і інш.

## ПРАВАПІС АБРЭВІЯТУР

Схема 23-б

!

**Увага!**
**У некаторых абрэвіятурах напісанне можа не адлюстроўваць натуральнае вымаўленне:**
*ТЮГ* – Тэатр юнага гледача (вымаўляецца [ц'ух]), *РІВШ* – дзяржаўная ўстанова адукацыі "Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы" (вымаўляецца [рыўш]).

!

**Увага!**
**Запазычаныя абрэвіятуры не расшыфроўваюцца:**
*завуч* (намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце), *ЮНЕСКА* (Камісія Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры).

!

**Увага!**
**У абрэвіятурах скарочаныя часткі пішуцца так, як у адпаведных поўных словах:**
*гарвыканкам* (гарадскі выканаўчы камітэт), *інтэрпал* (інтэрнацыянальная паліцыя), *лінкар* (лінейны карабель).

## ПРАВАПІС ГРАФІЧНЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

Схема 24

**Нельга скарачаць на галосную літару, на *ь*, на *й* і на *ў*. Пры графічных скарачэннях ставіцца кропка і захоўваюцца тыя ж знакі і пачатковыя літары, якія ўласцівы поўнаму напісанню:** *В.-Д. к.* (Волга-Данскі канал), *чл.-кар.* (член-карэспандэнт).

**Пры спалучэнні дзвюх аднолькавых зычных скарачэнне робіцца пасля першай зычнай:** *насен. фонд.*

**Пры збегу дзвюх або некалькіх зычных скарачэнне робіцца на апошнюю зычную:** *народн. творчасць.*

**Стандартныя скарочаныя абазначэнні метрычных мер пішуцца без кропак:** *га* (гектар), *см* (сантыметр), *кг* (кілаграм), *км* (кіламетр) і інш.

!

**Увага! Калі імя або імя па бацьку пачынаецца з дыграфа *Дз*, то ініцыялам выступае толькі літара *Д*:** *Дзмітрый Дзмітрыевіч – Д. Д.*

# СЛОЎНІК СКАРАЧЭННЯЎ

*акад. – акадэмік* (пры прозвішчы);
*б. – былы*;
*бухг. – бухгалтэрыя*;
*в. – вёска* (пры назве);
*в. а. – выконваючы абавязкі*;
*в-аў – востраў* (пры назве);
*вобл. – вобласць* (пры назве);
*воз. – возера* (пры назве);
*г. – год* (пры абазначэнні лічбамі);
*г. – горад* (пры назве);
*гг. – гады* (пры абазначэнні лічбамі);
*г. зн. – гэта значыць* (пасля пералічэння);
*гл. – глядзі* (пры спасылках);
*гр. – грамадзянін* (пры прозвішчы);
*дац. – дацэнт* (пры прозвішчы);
*заг. – загадчык* (пры ўказанні *чаго? – аддзела, часткі, кафедры*, а не (!) *адзелам, часткай, кафедрай*);
*зб. – зборнік* (пры ўказанні *чаго? – навуковых прац, афіцыйных матэрыялаў*);
*і г. д. – і гэтак далей* (пасля пералічэння);
*і да т. п. – і да таго падобнае* (пасля пералічэння);
*і інш. – і іншае* (пасля пералічэння);
*і пад. – і падобнае* (пасля пералічэння);
*нам. – намеснік* (пры ўказанні пасады);
*напр. – напрыклад* (пры спасылках);
*н. ст. – новы стыль*;
*н. э. – наша эра*;
*параўн. – параўнай* (пры спасылках);
*п-аў – паўвостраў* (пры назве);
*праф. – прафесар* (пры прозвішчы);
*р. – рака* (пры назве);
*р-н – раён* (пры назве);
*руб. – рубель* (пасля лічбы);
*с. – старонка* (пры спасылках);
*с.-г. – сельскагаспадарчы*;
*сп. – спадар* (перад прозвішчам);
*сс. – старонкі* (пры спасылках);
*с/с – сельскі савет* (пры назве);
*ст. – стагоддзе* (пасля пералічэння);
*стст. – стагоддзі* (пасля пералічэння);
*ст. ст. – стары стыль*;
*т. – том* (пры спасылках перад лічбай ці пасля яе);
*тав. – таварыш* (перад прозвішчам);
*т-ва – таварыства*;
*т. зв. – так званы*;
*тт. – тамы* (пры спасылках перад лічбай ці пасля яе).

## ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ

Схема 25

# ПРЫСТАЎКІ

### Прыстаўка *су-* пішацца:

**У назоўніках, дзе *су-* выдзяляецца толькі гістарычна:** *сусед, сувой, сувязь, супын, супынак, сутаргі, сумятня, супастат, супоня, суткі, сутокі, суцяга, сумёт, сустаў.*

**У новых утварэннях, калі ёсць слова і без су-:** *суграмадзянін, супалімер, сукрэдытор, сукіраўнік, супастаўшчык, сучлен, суапякун, супрацоўнік, суродзіч, сунаймальнік, суспадчыннік, суадказчык, сузабудоўшчык, сувыканаўца* і інш.

!

**У словах, якія без *су-* не ўжываюцца:** *суквецце, сузор'е, суладдзе, сугучча, суглінак, супесак, сукравіца, сузіральнік, сумежжа.*

**У дзеясловах:** *суадносіць, супадпарадкоўваць, сумяшчаць, суіснаваць, сустракаць, сутыкацца, супярэчыць, супастаўляць, супадаць;*
**у прыметніках:** *сумежны, сукупны, суладны, сугучны, сучасны, сувымяральны, супольны, сумесны, суцэльны;*
**у прыслоўях:** *су́праць (супро́ць).*

Схема 26

### Прыстаўка *са-* пішацца:

**У некаторых назоўніках, дзе прыстаўка выдзяляецца толькі гістарычна:** *сасуд, савет, сабор, саюз, саслоўе.*

**У лексемах, словаўтваральна звязаных са словамі з прыстаўкай *са-*:** *саўдзел* (саўдзельнік), *саслоўны* (саслоўе), *састыкоўванне* (састыкаваць), *састаўляць* (састаў), *сашчэпка* (сашчапіць), *сапраўды* (сапраўдны) і інш.

**У запазычаннях і кальках (пераважна з рускай мовы):** *саіскальнік, сакурснік, садружнасць, сатрапезнік, сачыненне, састаў, саслужывец* і інш.

**У прыметніку** *сапраўдны* **і вытворных ад яго.**

**У дзеясловах, калі *са-* з'яўляецца варыянтам *с-* (перад збегам зычных):** *садраць* (здзяру), *сагнаць* (зганю), *саскочыць, сажмурыць, сасмажыць, саслабець, сасватаць, састроіць, сашмаргнуць, сашпіліць, саштурхнуць, сасмягнуць, сагнуць, саграшыць, сашчыкнуць, сашчапіць* і інш.

!

**Увага!**
**Напісанне прыставак *су-* і *са-* ў іншых выпадках вызначаецца па слоўніку.**

Схема 27

# НА СТЫКУ З КОРАНЕМ

**Калі апошняя зычная літара прыстаўкі і першая літара кораня супадаюць, то пішуцца абедзве літары:** *аддача, аддалены, Наддзвінне, наддаць, бяззорны, ззаду, ззелянелы, ссадзіць, ссівелы, бессардэчны, паддопытны, рассыпаць, раззлавацца, рассаднік* (тое, што з'яўляецца крыніцай чаго-небудзь), *уссаджваць, контрразведка, звышштатны, транссібірскі.*

**У некаторых выпадках, калі слова ўспрымаецца як невытворнае ў беларускай мове, літары не падвойваюцца:** *інавацыя, ірыгацыя, ірэальны, іміграцыя, акамадацыя, карэляцыя, аперцэпцыя, дысідэнт, імартэль, анігіляцыя, інервацыя, акорд, карэспандэнт.* **Напісанне такіх слоў-тэрмінаў вызначаецца па слоўніку.**

**Словы-тэрміны іншамоўнага паходжання часткова падпарадкоўваюцца гэтаму ж правілу (асабліва тады, калі ёсць словы і без прыстаўкі, а прыстаўка далучаецца і да іншых каранёў):** *сюррэалізм, аддукцыя* (рэалізм, індукцыя).

!

**Увага!**

**У словах** *расол, расольнік, расада, расаднік* (месца, скрынка для вырошчвання расады) **адбылося сцяжэнне гукаў, і таму яны пішуцца з адной літарай *с*.**

**ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ**

Схема 28

# У ПРЫСТАЎКАХ *З-, ІЗ-, УЗ-, РАЗ-, БЕЗ-, НЕБЕЗ-, АБЕЗ-, ПРАЗ-, ЦЕРАЗ-*

**Літара *з* пішацца перад звонкімі, санорнымі зычнымі і ётаванымі галоснымі (перад апострафам):** *збіць, здаць, знесці, ізноў, узняць, узбіцца, розгалас, бязмежны, небеззаганны, небязгрэшны, абезгалосець, абязгрошыць, празмерны, цераззерніца; раз'есці, раз'езд, абяз'ёдаваны, з'інець, раз'юшаны, без'языкі, бяз'ядзерны, з'ялчэць, з'явішча, уз'юрыцца.*

**У слове** *разявіць* **і вытворных ад яго, а таксама ў словах** *узлаваць* **і** *ўзлавацца* **адбылося сцяжэнне [з] – прыстаўкі і [з] – кораня.**

**Замест літары *з* пішацца літара *с* перад глухімі зычнымі:** *скінуць, схапіць, іспыты, усхваляць, раскідаць, роспіс, беспадстаўны, небескарысны, абяскровіць, абясшкодзіць, цераспалосіца, росшукі, росчырк.*

!

**Увага!**
**Калі корань слова пачынаецца з галосных *а, у, э* або ненаціскнога *і*, якое пераходзіць у *ы*, замест прыстаўкі *з-* пішацца прыстаўка *с-*:** *сарганізаваць, сумысна, сэканоміць, сыграць*;
**але:** *зымправізаваць, зыначыць.*

!

**Увага!**
**У словах, утвораных ад дзеясловаў** *ісці, хадзіць*, **прыстаўкі на *з-* пішуцца ў залежнасці ад лексічнага значэння:** *зысці – сысці, зысціся – сысціся, зыходзіць – сыходзіць, зыходзячы – сыходзячы, зыходны – сходны, сыходны, зыход – сход.*
*Сыходзіць з ганка*, **але** *зыходзіць з меркавання.*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС І ГРАМАТЫКА

## ТЭОРЫЯ І ЗАДАННІ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

*Праця́г. Пачатак у № 7.*

### 1. ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

### 1.1 ПРАВАПІС ГЛУХІХ І ЗВОНКІХ ЗЫЧНЫХ

<table>
<tr><td colspan="2">У беларускай мове звонкія зычныя на канцы і ў сярэдзіне слова перад глухімі зычнымі аглушаюцца, а глухія зычныя перад звонкімі – азванчаюцца. На пісьме такое аглушэнне і азванчэнне не адлюстроўваецца.</td></tr>
<tr><td>Для праверкі напісання звонкіх і глухіх зычных трэба падабраць аднакаранёвае слова ці змяніць слова так, каб пасля зычнага, які патрабуе праверкі, з’явіўся галосны або зычныя р, л, м, н, в: сцежка – сцяжынка, загадка – загадаць, загадваць, грыб – грыбы, грыбны, тыраж – тыражу, тыражны, бегчы – бягу, беглы, бегма, малацьба – малаціць, касьба – касец.</td><td>Правапіс слоў іншамоўнага паходжання, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца па слоўніку: айсберг, баскетбол, вакзал, футбол, экзамен, Афганістан.</td></tr>
</table>

**Заданне 1.** Прачытайце, растлумачце напісанне звонкіх і глухіх зычных.

**Варыянт 1.** Аб**в**одка, а**б**шла**г**, агля**д**, blі**з**ка, боя**з**ь, ва**д**касць, ва**к**зальны, васьміно**г**, Вялі**к**дзень, галу**б**ка, гібры**д**, е**д**кі, загрэ**б**ці, замі**г**цэць, кало**д**ка, кнігалю**б**, лё**ж**ка, ме**дз**ь, мі**г**цэць, наўзры**д**, перакла**д**, роўня**дз**ь, сюрпры**з**, укла**д**, фер**з**ь, хлебаро**б**, чарцё**ж**, э**к**зэмпляр, яр**д**.

**Варыянт 2.** А**б**клеіць, або**з**, а**б**серваторыя, аншла**г**, баоба**б**, баске**т**баліст, бікла**ж**ка, бры**д**кі, ветра**з**ь, віра**ж**, вэ**б**-старонка, гру**з**касць, драматур**г**, зава**дз**ь, засцера**г**чы, карні**з**, лё**г**кія, міжра**д**коўе, мовавe**д**, нале**дз**ь, перале**з**ці, разве**д**школа, стэла**ж**, тэхагля**д**, цу**д**, шлан**г**, э**к**зотыка, эцю**д**, ям**б**.

**Заданне 2.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх напісанне.

**Варыянт 1.** 1. Сне… ляжаў яшчэ трывала, толькі вецер зрэ…ку дыхаў мяккім цяплом (У. Рубанаў). 2. Але вось ужо схавалася за далягля… сонца і на небасхіл выплыў падобны на кавалак вышчарбленага люстэрка маладзік (Д. Нічыпаровіч). 3. Нарэшце пачало світаць, і страх нібы трошкі адлё… . Над гняздом ні…ка схілялася жыта, яно хвалявалася, настойліва пра нешта шаптала (У. Ягоўдзік). 4. Плача над сваёю хаткаю наўзры…, но…кі, ручкі складзе і залівaецца ў тры ручаі, і ў рукі не даецца, не верыць чалавечай спагадзе і дабрыні (В. Казько). 5. У твар шырокаю пру…каю хваляю дыхае вільготны з сало…кім прысмакам паўднёвы вецер (У. Ягоўдзік). 6. Звіняць капяжы, растае ўжо абрыдлы і пачарнелы сне…, і мільгаюць, коцяцца з пагоркаў уні… вясёлыя ручаіны (В. Жуковіч). 7. Успомніліся паез…кі з хлопцамі на начле…, вясёлае вогнішча, ён з пастушкамі вакол агню (В. Хомчанка). 8. Мне давялося хвілін сорак прадзірацца праз невысокі, вельмі вільготны лясок, пакуль я не выбіўся на сце…ку, зарослую і ву…кую (У. Караткевіч).

**Варыянт 2.** 1. Ніколі яшчэ так блі…ка не бачыў ён лясного веліканa. Лось, пачуўшы чалавека, не кінуўся бе…чы (А. Рыбак). 2. Звярыная сце…ка навяла зубра на дубняк, што цягнуўся кіламетры з два ўздоў… балота (В. Казько). 3. Некалькі разоў бацька вадзіў Петруся да загара…кі, дзе жывуць зубры (Т. Хадкевіч). 4. Веласіпе… забрынкаў. Зубр па…хапіў яго і ўскінуў угору (Т. Хадкевіч). 5. Заляскалі доўбні і цапы па жалезных шаломах. І пайшла мала…ьба (У. Караткевіч). 6. Я не мо… дачакацца, калі па…сохне і сагрэецца зямля, каб басано… пабе…чы па сцяжынцы, па раллі, па траве… (В. Жуковіч). 7. У траве пад ні…карослай бяро…кай спіць, шчыльна прыклаўшы вушкі да спіны, маленькае шэрае зайчанё (І. Навуменка). 8. Мядзве… лё…ка, нават грацыёзна ўскінуўся, папоў… да першых сукоў, а там як бы і пайшоў па ствале да калоды (А. Кажадуб).

**Заданне 3.** Запішыце словы, падбярыце да іх роднасныя (аднакаранёвыя) словы так, каб праверыць правапіс вылучаных зычных.

**Варыянт 1.** Бера**г**чы, блі**з**кароднасны, ва**д**касны, вернісa**ж**, даве**д**ка, даску**б**ці, дзя**дз**ька, завя**з**ь, загара**д**ка, карту**з**, кні**ж**ка, ло**д**ка, маро**з**, ме**д**сястра, непага**дз**ь, но**с**ьбіт, перале**з**ці, ро**г**, ры**б**ка, хле**б**.

**Варыянт 2.** Бара**ц**ьбіт, бензаво**з**, бязва**ж**касць, гора**д**, даскрэ**б**ці, дзе**ж**ка, дзёр**з**кі, заво**д**скі, картэ**ж**, кла**д**ка, лебе**дз**ь, ма**г**чымасць, мала**ц**ьба, ме**д**камісія, но**ж**ка, перавя**з**ка, разве**д**школа, роўня**дз**ь, сто**г**, хола**д**.

**Заданне 4.** Запішыце затранскрыбіраваныя словы ў адпаведнасці з правіламі беларускай арфаграфіі.

**Варыянт 1.** [апскака́ц’], [атк’інуц’], [ан’эгдо́т], [б’э́хчы], [блу́ска], [ло́зунх], [паўс’ц’і́], [про́з’ба].

**Варыянт 2.** [аткруц’і́ц’], [арх’іп’эла́х], [басано́ш], [б’эйзбал’і́ст], [дошч], [зага́тка], [каз’ба́], [натсы́пац’].

### 1.2 ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ *Д – ДЗ, Т – Ц*

**Заданне 1.** Прачытайце словы, растлумачце правапіс зычных *д, дз, т, ц*. Значэнне незразумелых слоў удакладніце па слоўніку.

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

Адвезці, Мацвеенка, дзвесце, індывід, дзеканне, дыван, аб вынаходніцтве, мундзір, зыходзіць, улагодзіць, ідылія, дызайнер, падвязаць, тэлегенічны, інтэрв'ю, вудзіць, білецік, дыкцыя, інтуітыўна, тэндар, дынаміт, этымалогія, у таварыстве, Тэлаві, гняздзіцца, ідыш, этыкет, дзюбель, Атэла, эдэльвейс, негатыўны, тэрыторыя, цвёрды, Дадэ, ідэнтыфікаваны, падвеяць, маладзік, у пітве, Цюрых, пластык.

**Правапіс зычных *д – дз, т – ц***

У беларускай мове чаргаванне цвёрдых зычных гукаў [д], [т] з мяккімі [дз'], [ц'] (дзеканне і цеканне) адлюстроўваецца на пісьме: перад галоснымі *е, ё, і, ю, я* замест *д, т* пішуцца адпаведна *дз, ц*: *загад – у загадзе, вада – у вадзе, малады – маладзіца, вяду – вядзём, мост – на мосце, куст – кусцік, пяты – пяцёрка*.

Гукі [д] у канцы прыстаўкі і [т] у складзе суфікса перад мяккім [в'] захоўваюцца нязменна і на пісьме перадаюцца адпаведна літарамі *д* і *т*: *адвесці, адвеку, падвялы, надвячорак, у спаборніцтве, аб грамадстве*.

Афрыката *дз* і літара *ц* пішуцца перад мяккім [в'] у корані слова: *подзвіг, дзверцы, падзвіжніца, мядзведзь, зацвердзіць, бацвінне, цвердаваты, ліцвін, ліцвінка, яцвяг, Дзвіна, Мацвей* і інш. Выключэнне: *твіст*.

У аддзеяслоўных назоўніках і ў словах, вытворных ад іх, перад мяккім [в'] пішацца *т*: *бітва – у бітве, брытва – брытве, клятва – клятве*. Літары *д* і *т* пішуцца таксама ў некаторых іншых словах: *мардва – мардве, Мардвінаў, Літва – у Літве*.

У некаторых запазычаных словах пішуцца *дз* і *ц*: *арцішок, бардзюр, дзюдо, дзюна, дзюшэс, каранцін, мундзір, нацюрн, нацюрморт, уверцюра, цітла, цюбік, цюбінг, цюль, цюльпан, цюркскі, цюфяк, эцюд*. Правапіс такіх слоў трэба правяраць па слоўніку!

У запазычаных словах і вытворных ад іх цвёрдыя *д, т*, як правіла, пішуцца нязменна: *акадэмік, дыплом, ордэн, бібліятэка, тэатр, медыкаменты, кватэра, скептык, ерэтык, дырэктыва, дыктатура*. Правапіс такіх слоў трэба правяраць па слоўніку!

У словах іншамоўнага паходжання, а таксама ў словах, утвораных ад іх, перад суфіксамі і спалучэннямі суфіксальнага паходжання *-ін-, -ір-, -ік-, -ёр-, -еец-, -ейск-* пішуцца *дз* і *ц*: *сульфіды – сульфідзін, брыгада – брыгадзір, канверт – канверцік, білет – білецёр, гвардыя – гвардзеец, гвардзейскі*.

Ва ўласных іншамоўных імёнах і назвах зычныя *д, т* або *дз, ц* пішуцца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем: *Дэлі, Дэтройт, Тэрэза, "Юманітэ", Дзяніс, Хрысціна, Цютчаў, Церак, Цюрынгія, Гаіці, Палесціна, Поці, Таіці*. Правапіс такіх слоў трэба правяраць па слоўніку!

**Заданне 2.** Запоўніце табліцу.

| *дз* і *ц* перад мяккім [в'] у корані слова | *дз* і *ц* у некаторых запазычаных словах | *д* і *т* у запазычаных словах | *д* і *т* перад мяккім [в'] |
|---|---|---|---|
| | | | |

**Варыянт 1.** Актывіст, антылопа, бардзюр, бацвінне, більярдыст, валакардзін, вестэрн, дантыст, дзве, дзюна, дыкцыя, каранцін, латынізм, ліцвін, мардвін, мярцвяк, нацюрморт, парадзіраваць, пластыка, прадзюсар, стэлаж, у бітве, у грамадстве, фільматэка, хадзячы, цвердалобы, цвік, цвілы, цітр, цюфяк, энцыклапедыя.

**Варыянт 2.** Аб выдавецтве, аметыст, антыкварыят, арцішок, біяіндыкатар, бландзінка, брытвенны, вестыбюль, галактыка, дзвесце, дзюшэс, дэбют, касцюм, ліцвінка, мядзведзь, накцюрн, негатыў, недысцыплінаваны, практыка, прэзідэнт, тэхніка, удзвюх, у мовазнаўстве, халадзільнік, счарсцвець, цвёрды, цір, цюльпан, чацвёрты, экспедытар, яцвяг.

**Заданне 3.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх зычных *д, дз, т, ц*.

**Варыянт 1.** Репетитор, Диана, гвардеец, медик, тенор, стимулировать, грандиозный, Тимофей, о народе, ветеран, громадина, индеец, отвиснуть, Леокадия, титанический, аппетит, ботва, видеосистема, подведённый, четвертак, латинский, тираж, радиация, диета.

**Варыянт 2.** Владислав, традиция, академический, ветеринар, текстиль, индианка, аудиенция, диалектный, отвозить, аптека, тир, видеотелефон, метеор, дефис, факультет, резиденция, подвезти, в битве, текучий, Людвиг, тюль, дельфинарий, идеал, тезис.

**Заданне 4.** Прачытайце прымаўкі і прыказкі. Як вы разумееце сэнс гэтых народных выслоўяў? Выпішыце з прапанаваных сказаў словы, у якіх адлюстраваліся характэрныя для беларускай мовы з'явы – дзеканне і цеканне.

Пчала на любую кветку ляціць, але не на кожную сядзе.

Дзень – бацька, а ноч – маці.

У адзін дзень сем перамен.

Сей авёс у гразь – будзеш князь.

Калі будзеш жыта па жыце сеяць, тады не будзеш ні малаціць, ні веяць.

Канюшына родзіць – ільну годзіць.

Едзеш на дзень – бяры хлеба на тыдзень.

Хто пытае, той не блудзіць.

Няма смачнейшае вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Не плюй у крыніцу: прыйдзеш па вадзіцу.

Ідзі з людзьмі, то не згубішся.

Госць першы дзень – золата, другі дзень – срэбра, а на трэці – медзь і дадому едзь.

Калі адна бяда ідзе, то й другую за ручку вядзе.

Чужой бядзе не радуйся.

Гультай ды злодзей – два родныя браты.

Хоць мякка сцеле, але цвёрда спаць.

У ціхім балоце чэрці растуць.

Хто пасее вецер, той пажне буру.

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

| Правапіс некаторых спалучэнняў зычных | | | | |
|---|---|---|---|---|
| У спалучэннях [здн], [згн], [стн], [скн], [стл], [рдн], [рдц], [лнц] зычныя гукі [д], [г], [т], [к], [л] [н] не вымаўляюцца і на пісьме не перадаюцца:<br>***здн – зн***: *праяз**ны** (праезд)*;<br>***згн – зн***: *браз**н**уць (бразгаць)*;<br>***стн – сн***: *пачэ**сны** (чэсць), кольк**асны** (колькасць), гу**сн**уць (густы), абве**сны** (абвестка), ме**сны** (змястоўны)*; тое ж і ў словах іншамоўнага паходжання: *кантра**сны** (кантраст), кампо**сны** (кампост), фарпо**сны** (фарпост)*;<br>***скн – сн***: *выпыр**сн**уць (выпырскаць), пля**сн**уць (пляскаць), трэ**сн**уць (трэскаць)*; **але**: *ві**скн**уць, наці**скн**ы*;<br>***стл – сл***: *шча**слі**вы (шчасце), бескары**слі**вы (карысць), пом**слі**вы (помста)*;<br>***рдн – рн***: *міласэ**рн**асць (сардэчнасць)*;<br>***рдц – рц***: *сэ**рц**а (сардэчны)*;<br>***лнц – нц***: *со**нц**а, со**нц**аварот.* | На канцы слоў іншамоўнага паходжання ў спалучэнні зычных *дт* [д] не вымаўляецца і на пісьме не перадаецца: *Краншта**т**, Бран**т**, Рэмбран**т**, Шмі**т**, Кло**т**, фаршта**т**.* | Спалучэнні зычных *стц* і *здч* пішуцца незалежна ад іх вымаўлення: *у чы**стц**ы, аб'е**здч**ык.* | Спалучэнні *сч* і *сшч*, якія вымаўляюцца як [шч] і [шшч], на пісьме перадаюцца літарамі *сч* і *сшч*: *пя**сч**ынка, бру**сч**атка, ра**сч**асаць, ра**сч**апіць (кручкі), ра**сшч**апіць (на дзве часткі)*, **але** *ні**шч**ымны, пя**шч**ота, ро**шч**ына, у**шч**уваць, **шч**асце.* | У корані слова могуць адбывацца чаргаванні спалучэнняў зычных [ск], [ст], [с'ц'] з [шч], якія адлюстроўваюцца на пісьме: *во**ск** – ва**шч**ыць, гу**ст**ы – гу**шч**ар, хры**сц**іць – хры**шч**оны.* |

### 1.3 ПРАВАПІС СПАЛУЧЭННЯЎ ЗЫЧНЫХ

**Заданне 1.** Прачытайце словы, растлумачце правапіс выдзеленых спалучэнняў зычных. Адкажыце, ці заўсёды адпавядае вымаўленне гэтых спалучэнняў напісанню? Пацвердзіце сваю думку правілам. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Бясшэр**сн**ы, грамоз**н**ы, бе**сч**алавечны, згу**сн**уць, спала**сн**уты, зла**сл**іва, высакаяка**сн**ы, выслі**зн**уць, бя**сш**умна, захалу**сн**ы, выпе**шч**аны, зло**сн**ік, міжведама**сн**ы, бя**сч**улы, незайздро**сн**ы, плоска**сн**ы.

**Заданне 2.** Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўце патрэбную літару. Правапіс спалучэнняў зычных растлумачце.

Бе(с, ш)чаўнаковы, ня(с, ш)чыра, на(с, ш)чышчаць, пара(с, ш)чыняць вокны, на(с, ш)чэсваць, падпі(с, ш)чык, разно(с, ш)чык, пя(с, ш)чана-гліністы, загрува(с, ш)чаны, пры(с, ш)чэплены, за(с, ш)чапіць, ра(с, ш)чараваны, пя(с, ш)чотнасць, (с, ш)чарсцвець, (с, ш)чапаць, за(с, ш)чоўкнуць, (с, ш)чэрчаны, згу(с, ш)чаць, вы(с, ш)чыпаць, (с, ш)часлівец, на(с, ш)чэпліваць, расплю(с, ш)чыць, (с, ш)чымлівы.

**Заданне 3.** Спішыце сказы, пры спісванні ўстаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары.

**Варыянт 1.** 1. Шэсць першых пасляваенных гадоў адпрацаваў Лявонік карэспандэнтам аблас…ной газеты (І. Навуменка). 2. Увечары рэчку рас…чапіла чорная, злавес…ная трэ…чына, якая проста на вачах расла, пашыралася… (У. Ягоўдзік). 3. Проста табе прыемна – і ўсё, бо …часце – гэта заўсёды нешта недасягальнае (Я. Сіпакоў). 4. Цягнік прыбыў у Мінск уранку, ледзь толькі паказалася со…нца (А. Марціновіч). 5. Усе даўно ведаюць, як лёгка, як радас…на робіцца на сэр…цы, калі схілішся да тае крыніцы (К. Кірэенка). 6. І трэба было бачыць Коласа, радас…нага, …час…лівага, калі ў спякотныя дні перападалі добрыя, спорныя дажджы (М. Лынькоў). 7. …І вось ён на панадворку дзядзькі і хрос…нага бацькі Івана (І. Навуменка). 8. Пра тое, што дзятлы вельмі карыс…ныя птушкі, ведаюць літаральна ўсе (В. Савіцкі). 9. Ужо ўзыходзіць со…нца. Лес увесь у расе, блі…чыць (Б. Сачанка).

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Варыянт 2.** 1. Біч баяўся, што яго будуць у…чуваць і лаяць. (В. Казько). 2. Потым яна глядзела, як узяліся расці памідоры, капус…ны качан, высаджаны на насенне, думала, ці добры будзе гэты год (М. Стральцоў). 3. Ня…часны той, хто пра ўзаемнасць толькі сніць, ня…часны, у каго ў душы – нуда пустэчы. Ды больш ня…часны той, чые з каханнем стрэчы ўжо ў мінулым – іх ніколі не забыць! (А. Міцкевіч). 4. Першыя зоры ўжо замігцелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залатым пажарам узнімаўся кругам блі…часты месяц (Якуб Колас). 5. Краншта… што вулей. (В. Купрэвіч). 6. Здаралася, у прыгожых кос з'яўляўся зайздрос…нік, які мог, дакрануўшыся да іх, вырваць пасмачку і кінуць на вецер, дзьмухнуўшы, тады валасы радзелі і выпадалі ("Беларуская міфалогія"). 7. І бацька бровы пасувае, пільчак чысцейшы адзявае, ідзе на двор для прывітання і для пачэс…нага спаткання (Якуб Колас). 8. Мне чамусьці да слёз радас…на і прыемна проста вось так сесці ў пракос толькі што скошанай травы і дыхаць гэтым водарам… (Я. Сіпакоў). 9. Усё менш у паветры насякомых. Знікаюць матылі-крапіўнікі, лімонніцы, капус…ніцы, мухі-жыгалкі (В. Стома).

**Заданне 4.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх спалучэнняў зычных.

**Вырыянт 1.** Областной, радостный, сцепление, Гумбольдт, расщемлять, поздний, шестнадцать, постланный, устно, контрастный, компостный, жалостный, сверхскоростной, расчёсывание, проездной, сердцебиение, маломестный.

**Варыянт 2.** Выездной, расцепить, устланный, солнечный, форпостный, костный, счастливо, крестник, наездник, хрустнуть, считывать, Рембрандт, свистнуть, милосердие, визгнуть, солнцезащитный, крепостной.

*Працяг будзе.*

Падрыхтавалі
**Дзмітрый ДЗЯТКО,**
**Наталля РАДЗІВАНОЎСКАЯ,**
**Вольга УРБАН.**

*У дапамогу настаўніку*

Вольга ПРАСКАЛОВІЧ

# "АД МАЛЕНЬКАГА ПІСЬМЕННІКА – ДА ВЯЛІКАГА ЧЫТАЧА…"

## СТРУКТУРНА-ЗМЯСТОЎНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА НОВЫХ ФАКУЛЬТАТЫЎНЫХ ЗАНЯТКАЎ ПА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Распрацаваныя факультатыўныя курсы арыентаваны на выпрацоўку спосабаў дзейнасці і фарміраванне вопыту творчай працы і маюць на мэце развіццё пазнавальных інтарэсаў, індывідуальных маўленчых і інтэлектуальных здольнасцей вучняў на аснове выкарыстання дзейсных формаў авалодання асноўнымі відамі і жанрамі літаратурнай крэатыўнасці.

Звычайна ў агульнаадукацыйных установах рэспублікі пры вывучэнні роднай літаратуры развіццё мастацкіх здольнасцей вучняў адбываецца ў пазаўрочны час. Пазакласная ж праца вучэбнай праграмай, як вядома, не рэгламентуецца і ўлічваць яе як састаўную частку працэсу літаратурнага навучання складана. Аднак трэба памятаць, што літаратурнае навучанне ў агульнаадукацыйных установах не толькі павінна даць вучням цэласнае ўяўленне пра беларускую літаратуру, яе ідэйна-мастацкае багацце, сфарміраваць сістэму ведаў, уменняў, каштоўнасных арыентацый, але і вопыт эмацыянальнай і творчай дзейнасці, зарыентаваны на пабудову для кожнага вучня траекторыі яго асобаснага развіцця. Аўтары-распрацоўшчыкі палічылі магчымым скарыстаць ідэю творчага навучання і перанесці набыццё вучнямі вопыту літаратурна-творчай дзейнасці на факультатыўныя заняткі.

Вучэбныя праграмы факультатыўных курсаў на II – III ступенях літаратурнай адукацыі распрацаваны з улікам задач па ўдасканаленні літаратурнай адукацыі, Канцэпцыі моўнага і літаратурнага навучання ў агульнаадукацыйных установах, адукацыйнага стандарту вучэбнага прадмета "Беларуская літаратура" [1, 2].

Праграмы факультатыўных заняткаў разлічаны на 35 гадзін на год (1 гадзіна на тыдзень) і пабудаваны ў адпаведнасці з вучэбнай праграмай для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання: "Беларуская літаратура. V – XI класы" [3].

Аўтары-складальнікі вучэбных праграм імкнуліся найпаўней прадставіць асаблівасці факультатыўных заняткаў па беларускай літаратуры ў агульнаадукацыйных установах. Па жаданні настаўніка тэматычнае напаўненне можа вар'іравацца. У залежнасці ад узроўню падрыхтаванасці вучнёўскай аўдыторыі могуць пераносіцца тэматычныя акцэнты, змяняцца колькасць гадзін на вывучэнне пэўнай тэмы і адпрацоўку практычнага матэрыялу. Кіраўнік факультатыву самастойна вызначае формы выніковай атэстацыі вучняў.

Праграмай факультатыўных заняткаў прапануецца прыкладнае планаванне вучэбнага матэрыялу па пэўных тэмах, аднак настаўнік можа на свой погляд размеркаваць гадзіны, скарэкціраваць аб'ём тэарэтычнага і практычнага зместу, выбраць мастацкія тэксты для вывучэння, вызначыць віды і колькасць творчых заданняў па пэўнай тэме, зыходзячы з уласнага густу і канкрэтных абставін.

У праграме факультатыўнага курса прапануецца спіс літаратуры: асноўны, дадатковы і для самастойнага чытання.

Для працы можна скарыстаць творы, прапанаваныя праграмай для самастойнага і пазакласнага чытання, а таксама тэксты, выбраныя настаўнікам або нават самімі вучнямі (са згоды настаўніка).

Методыка арганізацыі факультатыўных заняткаў надзвычай багатая і разнастайная: тэарэтычныя і практычныя заняткі; выразнае чытанне твораў і чытанне па асобах; усе віды творчых работ па літаратуры: пераказ (падрабязны, сціслы, выбарачны, творчы – з працягам або са зменай асобы апавядальніка), адказы на праблемныя пытанні і выкананне творчых заданняў, самастойныя і калектыўныя міні-даследаванні; стварэнне літаратурна-музычных кампазіцый і сцэнарыяў; наведванне тэатраў, праслухоўванне і абмеркаванне аўдыёзапісаў літаратурных тэкстаў з чытаннем аўтарамі, у выкананні аўтараў і майстроў мастацкага слова, настаўнікам і вучнямі; вусныя выказванні, паведамленні, сачыненні, конкурсы, віктарыны, аратарскія турніры, вучнёўскія канферэнцыі, функцыянальна-ролевыя гульні "Дэбаты", "Дыскусія", "Прэзентацыя", "Круглы стол", "Прэс-канферэнцыя", "Гасцявы ўрок"; выпуск насценгазет, стварэнне зборніка навукова-даследчых работ і інш.

Пажадана актыўна выкарыстоўваць тэхнічныя сродкі навучання: дыктафон або магнітафон для запісу і праслухоўвання вучнёўскага чытання (вусных выказванняў) і інтэрпрэтацыі літаратурных тэкстаў майстрамі мастацкага



***Вольга Уладзіміраўна Праскаловіч** – кандыдат педагагічных навук (2000), дацэнт кафедры рыторыкі і методыкі выкладання мовы і літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі гуманітарнай адукацыі НМУ "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Дырэктар Вучэбнага цэнтра філалагічных паслуг філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Займаецца праблемамі методыкі выкладання літаратуры, рыторыкі ў агульнаадукацыйных установах і ВНУ. Аўтар каля 100 артыкулаў у айчынным і замежным навуковым друку і шэрага вучэбна-метадычных дапаможнікаў для студэнтаў, метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, дыдактычных матэрыялаў для вучняў.*

слова, відэамагнітафон для прагляду асобных сцэн з тэатральных і тэлевізійных спектакляў, кінафільмаў па літаратурных творах і інш.

**Методыка факультатыўных заняткаў у V – VI класах** скіравана на абуджэнне і фарміраванне цікавасці да мастацтва, на выхаванне эстэтычнага густу і развіццё творчых здольнасцей, асабліва літаратурных. Тут выкарыстоўваюцца розныя віды чытання і пераказаў, праблемныя пытанні і заданні, міні-даследаванні і інш.

**Праграма факультатыўнага курса "Браму скарбаў сваіх адчыняем…"** (***аўтар – Л. Цітова***) распрацавана ў адпаведнасці з задачамі мадэрнізацыі літаратурнай адукацыі і цалкам суадносіцца з праграмай па беларускай літаратуры для V класа. Курс роднай літаратуры ў V класе займае асаблівае месца ў сістэме школьнага навучання: ён з'яўляецца пераходным ад пачатковай школы (літаратурнага чытання) да сістэматычнай літаратурнай адукацыі (літаратурнага навучання). У пяцікласнікаў фарміруецца ўяўленне пра літаратуру як чалавеказнаўства і мастацтва слова, якім уласцівы адметныя спосабы вобразнага адлюстравання жыцця; вучні пазнаюць жыццё і чалавека праз мастацкае, эстэтычнае адлюстраванне рэчаіснасці і праз маральна-этычную ацэнку падзей і паводзін герояў. Мастацкі твор, яго жыццёва-пазнавальныя, мастацка-эстэтычныя, каштоўнасна-ацэначныя якасці – галоўны аб'ект увагі на ўроках літаратуры і на факультатыўных занятках. Праграмай па літаратуры ў V класе прадугледжваецца спасціжэнне вучнямі мастацкай прыроды, жанравага і тэматычнага багацця паэтычных і празаічных літаратурных твораў, авалоданне культурай чытання (набыццё школьнікамі багатага чытацкага вопыту, выпрацоўка ўменняў бегла чытаць і аналізаваць творы розных фальклорных і літаратурных жанраў) і маўленчай культурай (выпрацоўка ўменняў слухання, выразнага чытання, маўлення, пісьма), а таксама развіццё творчых здольнасцей вучняў.

**Факультатыў "Слова – радасць, слова – чары…"** (***аўтар – Л. Цітова***) **для VI класа** можна лічыць працягам факультатыўнага курса "Браму скарбаў сваіх адчыняем" для V класа. Праграма прапанаванага факультатыву распрацавана з улікам зместу і структуры курса беларускай літаратуры для VI класа і прапануе комплекс спецыяльных заняткаў па навучанні школьнікаў літаратурнай і мастацкай творчасці.

Сучасныя праграмы па беларускай мове і літаратуры на II ступені навучання прадугледжваюць набыццё вучнямі пэўных тэарэтычных ведаў і выпрацоўку практычных уменняў, разлічаных на павышэнне чытацкай і маўленчай культуры школьнікаў. Якасна арганізаваная сістэма навучання падлеткаў выразнаму чытанню і літаратурна-крэатыўнай працы садзейнічае больш глыбокаму спасціжэнню імі твораў прыгожага пісьменства, развівае мастацкі густ, з'яўляецца эфектыўным сродкам духоўнага ўзбагачэння і эстэтычнага выхавання школьнікаў. Асобныя тэарэтычныя звесткі па авалоданні майстэрствам выразнага чытання і вопыт творчай дзейнасці вучні набываюць на ўроках мовы і літаратуры, аднак гэтага відавочна недастаткова. Існуе патрэба пашырыць тэарэтычную і практычную базу досведу шасцікласнікаў у чытацкай дзейнасці, удасканаліць іх аналітычныя ўменні, апавядальніцкае майстэрства і творчыя магчымасці, нават у пэўнай ступені развіць акцёрскія здольнасці.

Уменні выразна чытаць і аналізаваць мастацкія творы з улікам іх родавай і жанравай спецыфікі, свабодна выказвацца спрыяюць больш глыбокаму ўспрыманню вучнямі мастацкага твора, з'яўляюцца ключом для асэнсавання яго зместу і асновай для спасціжэння літаратуры як мастацтва слова.

Факультатыў "Слова – радасць, слова – чары…" скіраваны на пашырэнне і паглыбленне асноўнага курса літаратуры, на фарміраванне шырокага спектра спецыяльных уменняў па прадмеце і на развіццё літаратурных і творчых здольнасцей шасцікласнікаў.

Увядзенне ў VII класе ў свет мастацкай літаратуры працягваецца праз паралельны разгляд двух асноўных відаў (тыпаў) мастацкай творчасці – паэзіі і прозы. Таму прапанаваны **факультатыў "Таямніцы паэзіі і загадкі прозы"** (***аўтары – Т. Логінава, Т. Мароз***) дапа-

можа вучням усвядоміць асаблівасці згаданых тыпаў літаратурнай творчасці і авалодаць неабходнымі спосабамі крэатыўнай дзейнасці па ажыццяўленні ўласнага вопыту творчага характару: мастацкія замалёўкі, апавяданні, нарысы, вершы і інш.

Матэрыял факультатыўных заняткаў скіраваны на фарміраванне літаратурнай кампетэнцыі (веданне тэарэтычных паняццяў, жанравай адметнасці твораў паэзіі і прозы, сродкаў мастацкай выразнасці і інш.) праз развіццё ключавых кампетэнцый вучняў (уменне вучыцца, самастойна набываць веды – аналізаваць, супастаўляць, шукаць адказы на пытанні).

У вучэбнай праграме па беларускай літаратуры для VII класа звяртаецца ўвага на выхаванне ўдумлівага, дасведчанага чытача, які разбіраецца ў асноўных вартасцях мастацкіх твораў, умее ацэньваць іх змест, інакш кажучы, мае добрае адчуванне і разуменне спецыфікі літаратуры, багаты чытацкі вопыт, уласны эстэтычны густ. Факультатыўны курс дазваляе дасягнуць гэтага за кошт нетрадыцыйнага навучання: выкарыстання асобасна арыентаваных, інфармацыйна-камунікатыўных, а таксама пошукавых тэхналогій навучання.

Параўнальны спосаб прэзентацыі літаратурнага матэрыялу ў курсе VIII класа, які прадугледжвае супастаўленне блізкіх або кантрастных па змесце і форме твораў, садзейнічае далейшаму ўдасканаленню навыкаў аналізу твораў розных жанраў з улікам іх родавай спецыфікі, а таксама авалоданню вучнямі асноўнымі спосабамі і відамі літаратурна-мастацкай дзейнасці. У гэтым святле добра бачыцца актуальнасць прапанаванага **факультатыву “Незвычайнае літаратуразнаўства: вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы” (*аўтар – В. Русілка*)**.

Праблема ўспрыняцця і аналізу твора ў яго родава-жанравай спецыфіцы з’яўляецца складанай і актуальнай для школьнай практыкі літаратурнага навучання, бо ў разуменні жанру, як падкрэсліваў акадэмік М. Лазарук, “хаваюцца вельмі важныя сакрэты мастацкай спецыфікі, характару вобразнасці, кампазіцыйнай арганізацыі твора, сістэмы выяўленчых прыёмаў і сродкаў” [4, с. 58]. Прызнаючы родавыя і жанравыя асаблівасці твора зыходнай кропкай аналізу, а не мэтазгоднымі дадатковымі звесткамі, можна пераадолець адрыў формы ад зместу, недаацэнку ролі мастацкіх сродкаў, да якіх настаўнік нярэдка звяртаецца толькі ў дадатак да аналізу зместу твора.

Вучэбная праграма факультатыву “Незвычайнае літаратуразнаўства: вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы” прадугледжвае выкананне вялікай колькасці творчых заданняў, таму пажадана, каб ім займаліся падлеткі, якія маюць развітую фантазію, літаратурныя здольнасці, праяўляюць цікавасць да творчасці і, магчыма, самі спрабуюць пісаць творы.

Вучні могуць знаёміцца з літаратурнымі творамі, якія прапануюцца для аналізу, у пазаўрочны час, тым больш, што яны ўключаны ў пералік твораў для чытання і абмеркавання ці для пазакласнага чытання.

Ва ўмовах суцэльнай камп’ютэрызацыі і тэсціравання настаўнік сутыкаецца з праблемай, калі вучань не здольны маналагічна звязна, доказна, творча выказацца па пэўнай праблеме ні ў вуснай, ні ў пісьмовай форме. Прычым адметнасць моўнай сітуацыі тут не з’яўляецца вызначальнай. Вельмі засмучаюць вынікі конкурсаў вусных выказванняў, якія праходзяць на ўсіх этапах (школьны, гарадскі, раённы, абласны, рэспубліканскі) алімпіяд. Як вядома, алімпіяда з 2006 г. называецца “па беларускай мове і літаратуры”, традыцыйна складаецца з трох узаемазвязаных этапаў: 1) лінгвістычнага, 2) водгуку на мастацкі ці публіцыстычны твор, 3) вуснага выказвання. Пра сціплыя поспехі ўдзельнікаў трэцяга этапу – вуснае выказванне – “красамоўна” сведчаць наступныя каментарыі: “З году ў год дзеці ўсё горш і горш умеюць гаварыць, не маючы ніякага ўяўлення аб рыторыцы, якая патрабуе ад выступоўцы прамаўлення, а не чытання па запісаным”; “Адказы вучняў грашылі механічна завучанымі штампамі”; “У пераважнай большасці вусныя выказванні не ўразілі”; “Выступоўцам не хапала артыстычнасці, эмацыянальнасці, умення пабудовы выказвання, яго выразнасці, тэмпу маўлення”. Між тым, алімпіяднікі – залаты рэзерв навучальных агульнаадукацыйных устаноў!

Выхаванне высокай маўленчай культуры вучняў, фарміраванне камунікатыўных уменняў і навыкаў, што забяспечваюць эфектыўнасць чалавечых зносін у розных сферах грамадскага жыцця, – стратэгія нашай адукацыі сёння. Развітае маўленне школьніка – шлях да актыўнага самавыражэння і прызнання маўленчай асобы як у міжсуб’ектнай камунікацыі (у штодзённых стасунках з бацькамі, сябрамі, знаёмымі), так і ў дзелавой сферы (пры стварэнні вучэбных выказванняў на абсалютнай большасці ўрокаў па розных прадметах; у далейшай прафесійнай дзейнасці тых выпускнікоў агульнаадукацыйных устаноў, якія стануць прадстаўнікамі шэрага спецыяльнасцей з павышанай камунікатыўнай адказнасцю – сфера дзейнасці “чалавек – чалавек”).

Такім чынам, адзін з асноўных матываў звароту да факультатыву рытарычнай тэматыкі **“Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!: Мастацтва вусных выказванняў”** (***аўтары – В. Праскаловіч, В. Кушнярэвіч***) – жаданне задаволіць адукацыйныя запыты школы і соцыуму ў фарміраванні і выхаванні маўленчай АСОБЫ.

Прапанаваны факультатыўны курс для вучняў IX класа агульнаадукацыйных устаноў будзе садзейнічаць рэалізацыі асноўных задач Канцэпцыі моўнага і літаратурнага развіцця, арыентаваны на выпрацоўку спосабаў дзейнасці і фарміраванне вопытаў мастацка-творчага характару і мае на мэце развіццё і ўдасканаленне камунікатыўных здольнасцей школьнікаў, выхаванне паўнавартаснага грамадзяніна, асобы, здольнай да рэалізацыі творчых і жыццёвых планаў.

У працэсе публічнага выступлення асаблівую значнасць набывае індывідуальнасць прамоўцы – яго выканальніцкія здольнасці, валоданне нормамі літаратурнага вымаўлення, багацце слоўнікавага запасу, а таксама змястоўнасць выказвання. Слухач жа авалодвае асноўнымі спосабамі слухання (рэфлексійнае – нерэфлексійнае – эмпатыйнае), уменнем асэнсоўваць і ацэньваць пачутае, удзельнічаць у абмеркаваннях і дыскусіях. Праграма факультатыўных заняткаў прапануе алгарытм дзейнасці вучняў па стварэнні імі адукацыйных прадуктаў і супастаўленні іх з адпаведнымі культурна-гістарычнымі аналагамі. У гэтым арганізуецца прадуктыўная дзейнасць вучняў, ажыццяўляецца фарміраванне моўнага ядра асобы – маўленча-камунікатыўных здольнасцей, без якіх чалавек не можа рэалізаваць сваю грамадскую і ўнутраную сутнасць, рэалізавацца як індывідуальнасць, як камунікатыўны лідэр.

Змест сучасных праграм па беларускай літаратуры накіраваны на рэалізацыю камунікатыўнасці навучання, у сувязі з чым у адукацыйны працэс актыўна ўкараняюцца віды працы, якія не толькі даюць веды, але і актыўна развіваюць мысленчую дзейнасць. Напісанне водгуку, рэцэнзіі, эсэ патрабуе творчасці, выяўляе чытацкі вопыт вучня, дэманструе агульны ўзровень духоўнай і маўленчай культуры асобы, далучанасць да мастацтва, разуменне пабудовы мастацкага тэксту. У працэсе спасціжэння законаў маўленчых жанраў у рэцыпіентаў (успрымальнікаў) выхоўваецца культура чытання, мастацкі густ, павага да нацыянальнай мовы; фарміруецца культуралагічная і камунікатыўная кампетэнцыі, што і прадугледжана на занятках факультатыву, створанага для вучняў **X класа** – **“Пад ветразем спасціжэння і творчасці”** (***аўтары – А. Руцкая, М. Грынько***).

Паколькі навучанне звязнаму маўленню носіць складаны сінтэтычны характар, то для эфектыўнага фарміравання ўмення вучнямі ствараць уласныя працы прадугледжваецца актуалізацаваць веды пра тэкст, інтэрпрэтацыю, мову мастацкага твора, а таксама пра асаблівасці цытавання ў навуковых і творчых работах. Гэта дасць магчымасць школьнікам на належным узроўні самастойна ствараць тэксты розных жанраў.

Адной з адметных тэндэнцый сучаснай адукацыйнай парадыгмы становіцца відавочная інтэнсіфікацыя працэсу ўключэння вучняў у актыўную пазнавальную дзейнасць. Навучанне літаратуры ў IX – XI класах грунтуецца, як вядома, на самастойным чытанні вучнямі мастацкіх твораў, крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў як абавязковай перадумовы аналітычнай работы ў класе.

На заключным этапе літаратурнай адукацыі вялікая ўвага аддаецца развіццю аналітычных здольнасцей вучняў, фарміраванню ў іх цікавасці да навукі і асноўных спосабаў самастойнай навукова-даследчай і творчай дзейнасці. Менавіта на гэта і скіраваны змест факультатыву для XI класа **“Шукаем шэдэўры!..: Вопыты літаратурных даследаванняў”** (***аўтары – І. Шаўлякова-Барзенка, І. Гоўзіч***).

Даследчы падыход у навучанні дазваляе пазнаёміць вучняў з метадамі навуковага пазнання, спрыяе фарміраванню ў іх навуковага светапогляду, глыбокіх, трывалых ведаў, развівае мысленне, творчую самастойнасць. Што датычыцца адзінаццацікласнікаў, то даследчая дзейнасць па літаратуры павінна быць скіраваная не столькі на непасрэдную падрыхтоўку іх да магчымага паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову (хаця нельга зусім не браць пад увагу значэнне літаратурна-даследчага вопыту ў сітуацыі, калі выпускнік мусіць вызначацца з выбарам прафесіі), колькі на стварэнне ўмоў для саморазвіцця і самасцвярджэння вучняў. Даследчая работа па літаратуры прывучае старшакласніка да самастойнай працы з тэкстам, узбагачае яго чытацкі вопыт, дапамагае фарміраваць самасвядомасць, пазіцыі зацікаўленага ўдзелу ў пазнавальнай і творчай працы ўвогуле і на ўроках літаратуры ў прыватнасці.

Прапанаваная праграма факультатыўных заняткаў прадугледжвае не толькі тэарэтычную частку, якая знаёміць вучняў з этапамі навукова-даследчай працы, відамі і метадамі навуковага даследавання, але і практычную, скіраваную на актывізацыю і ўдасканаленне літаратурна-твор-

чых здольнасцей старшакласнікаў, выпрацоўку спецыяльных уменняў і навыкаў, развіццё камунікатыўнай культуры старшакласніка.

Змест факультатыўных заняткаў павінен быць часткова заснаваны на выкарыстанні раней атрыманых на ўроках беларускай і рускай моў ведаў пра тэкст, тыпы і стылі мовы, іх асаблівасці, а таксама прадугледжваць актуалізацыю ведаў, атрыманых падчас вывучэння прадметаў "Руская літаратура", "Сусветная гісторыя. Гісторыя Беларусі", "Грамадазнаўства", "Музыка", "Выяўленчае мастацтва" і інш.

На факультатыўных занятках, накіраваных на рэалізацыю даследчага падыходу ў навучанні, відавочна змяняецца характар адносін настаўніка і вучняў – у бок супрацоўніцтва. На думку распрацоўшчыкаў факультатыўнага курса, добра падрыхтаваны даследчыцкі дыялог становіцца трывалым грунтам для напісання самастойнай даследчай работы і ўдалай прэзентацыі яе вынікаў (напрыклад, на вучнёўскай навуковай канферэнцыі). У залежнасці ад колькасці вучняў, якія наведваюць факультатыў, настаўнік можа спалучаць індывідуальныя кансультацыі з групавой і калектыўнай работай.

Варта адзначыць, што ў змесце вучэбнай праграмы факультатыўных заняткаў "Шукаем шэдэўры!.." складальнікі імкнуліся як найпаўней прадставіць асаблівасці арганізацыі даследчай работы па літаратуры ў агульнаадукацыйнай установе. Суадносячы прапанаваны змест з канкрэтнай адукацыйнай сітуацыяй, настаўнік можа сканцэнтравацца на тых тэмах і матэрыяле, што ў найбольшай ступені адпавядаюць яго прафесійным інтарэсам і ўзроўню падрыхтаванасці вучняў. Так, настаўнік можа пераразмеркаваць колькасць гадзін, неабходных для засваення і замацавання матэрыялу па канкрэтнай тэме. У якасці выніковага праекта прапануецца стварэнне зборніка навукова-даследчых работ па літаратуры. Колькасць гадзін на правядзенне выніковай навукова-практычнай канферэнцыі можа быць павялічана – у залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў. Пры магчымасці на канферэнцыю варта запрасіць літаратуразнаўцаў, крытыкаў, краязнаўцаў, выкладчыкаў філалагічных факультэтаў ВНУ, супрацоўнікаў літаратурна-мастацкіх газет і часопісаў або выдавецтваў: іх удзел у вучнёўскім навуковым форуме будзе надзвычай карысным для адзінаццацікласнікаў – патэнцыяльных студэнтаў, частка якіх, магчыма, прысвеціць сваё жыццё прафесійнай навуковай ці літаратурнай дзейнасці.

Такім чынам, прапанаваная сістэма "скразных" факультатываў, арыентаваная на больш глыбокае спасціжэнне вучнямі літаратуры як мастацтва слова, на авалоданне імі асноўнымі спосабамі вучэбнай дзейнасці, на стварэнне школьнікамі ўласных адукацыйных прадуктаў, – аснова для рэалізацыі аднаго з найважнейшых прынцыпаў літаратурнай адукацыі – прынцыпу творчага навучання, абвешчанага яшчэ ў 20-я гг. XX ст. выдатным педагогам і метадыстам М. Рыбнікавай ("Ад маленькага пісьменніка – да вялікага чытача") і накіраванага на рэалізацыю адной з асноўных мэт літаратурнай адукацыі: выхоўваць асобу з выразна выяўленымі творчымі схільнасцямі, здольную ўспрымаць прыгожае.

Добра прадуманая работа на факультатыўных занятках павінна скіраваць школьніка на перачытванне тэксту, на паглыбленне ў цудоўны свет мастацкага твора, на актывізацыю творчых інтэнцый кожнага вучня.

У заключэнне адзначым, што ў працэсе падрыхтоўкі вучэбна-метадычнага забеспячэння факультатыўных заняткаў па беларускай літаратуры мы, вядома ж, не недаацэньвалі патрэбы рыхтаваць у вучню чытача, не дапускалі ілюзій адносна таго, што кожны вучань стане літаратарам. Аднак яшчэ М. Рыбнікава адзначала: *"Калі з нашых класаў выйдуць пісьменнікі і славеснікі – гэта добра, але не на гэта мы разлічваем. Наша справа – падрыхтаваць чытача, які моцна адчувае і крытычна мысліць"*.

Незалежна ад таго, ці стануць вучні вялікімі пісьменнікамі, – час, аддадзены імі ў школьныя гады літаратурнай творчасці, не пройдзе для іх марна. Яны навучацца разумець мастацтва слова і ў нейкай ступені валодаць ім, у іх жыццё ўвойдзе радасць творчасці – пачуццё, якое чалавек аднойчы зведаўшы, захавае назаўсёды, кім бы ён ні быў.

**Спіс літаратуры**

1. **Праскаловіч, В. У.** Канцэпцыя вучэбнага прадмета "Беларуская літаратура" / В. У. Праскаловіч, І. Л. Шаўлякова-Барзенка. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі. – 21 с. // Нормативно-правовые документы [Электронный ресурс]. – 2009. – Режим доступа : http: // hghtd.yandex.net / yandbtn?url = http: // www.adu.by &text. – Дата доступа : 12.06.2009.

2. **Адукацыйны стандарт вучэбнага прадмета "Беларуская літаратура" (I – XI класы)** // Роднае слова. – 2009. – № 8. – С. 96 – 100.

3. **Вучэбная праграма для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання :** Беларуская літаратура : V – XI класы. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі. – 2009. – 128 с.

4. **Лазарук, М. А.** Навучанне і выхаванне творчасцю : Педагагічныя роздумы і пошукі / М. А. Лазарук. – Мінск : Нар. асвета, 1994.

*Рыхтуемся да алімпіяды*

# КОМПЛЕКСНАЯ РАБОТА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

## ЧАЦВЁРТЫ ЭТАП XXVI РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ ШКОЛЬНІКАЎ. 2009/2010 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД. IX, X, XI КЛАСЫ

### IX КЛАС

**Заданне 1.** Хто з герояў аповесці "Як на нашы імяніны…" П. Місько крычаў гучней? Адказ абгрунтуйце, абапіраючыся на асаблівасці артыкуляцыі галосных гукаў беларускай мовы.

Максімальная колькасць балаў – 5.

1) – *А!!! – закрычаў* Коля на ўвесь голас.

2) – Ну, а цяпер будзем правярацца, ці зможаце быць лётчыкамі, – павяла іх бабуля на "Супер-8". Бабуля прытуліла Колю да сябе леваю рукою, а Толю – праваю і… паехалі-пагрукаталі, паляцелі-паляскацелі… І ўсе адразу *закрычалі*: *"У..!"*

3) Хамячок сеў, падняў пярэднія лапкі, пачаў іх вылізваць, старанна выціраць імі роцык і шчочкі.

– *О..!* Як мыецца пацешна! – *крычаў* Толя.

Абгрунтаванне: ______________________________

______________________________.

**Заданне 2.** Адрэдагуйце словазлучэнні, замяніўшы штучныя для беларускай мовы словы ў іх на тыя, што адпавядаюць характару сэнсавых адносін. Запішыце выпраўленыя словазлучэнні.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| Да рэдагавання | Пасля рэдагавання |
|---|---|
| цвятная капуста | |
| саставіцель кнігі | |
| вузы дружбы | |
| уцечка вады | |
| "уцечка" мазгоў | |
| учот тавараў | |

**Заданне 3.** Аднавіце ўстойлівыя спалучэнні па іх агульным значэнні.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| | | |
|---|---|---|
| 'паскорыць рух' | | ____________ |
| 'забяспечыць свабоду дзеяння' | | ____________ |
| 'дазволіць каму-небудзь выступіць' | даць | ____________ |
| 'хутка выканаць, зрабіць што-небудзь' | | ____________ |
| 'адолець, управіцца з чым-небудзь' | | ____________ |

**Заданне 4.** Адзначце, у ролі якой часціны мовы выступае слова *раз* у прыведзеных сказах. Укажыце, у якіх адносінах гэтыя формы знаходзяцца паміж сабой.

Максімальная колькасць балаў – 6.

| Выказванне | Часцінамоўная прыналежнасць слова *раз* |
|---|---|
| 1. Але *раз* ты наважыў дзела,<br>Ідзі станоўка, роўна, смела,<br>Ідзі, назад не аглядайся<br>І на другіх не пакладайся!<br>Якуб Колас. | |
| 2. *Раз*, два, тры, чатыры,<br>Кошку грамаце вучылі:<br>Не чытаць, не пісаць,<br>А за мышкамі скакаць. | |
| 3. Калі ў свет я ні гляну прыгожы,<br>Кожны *раз* штосьць хвалюе душу…<br>Янка Купала. | |
| 4. Міхал так думаў, сумняваўся<br>І тут астацца спадзяваўся.<br>Ды *раз* у сесію Міхася<br>К сабе ляснічы заклікае<br>Якуб Колас. | |
| **Яны знаходзяцца ў адносінах…** | |

**Заданне 5.** Аднавіце выказванні, пераклаўшы словазлучэнні ў дужках на беларускую мову.

Максімальная колькасць балаў – 5.

1. …Волеччын твар быў цяпер так падобен да твару зусім малой дзяўчынкі, якая (*подражает поступкам*) свае маці! (Кузьма Чорны). 2. Яна спынілася (*шагах в двадцати*) і пазірала на яе, сляпуючы, з-пад рукі (І. Чыгрынаў). 3. Але іх жа вунь колькі ўжо (*ухаживало за Гарпуськой*), а яна – ні прыступу (Р. Сабаленка). 4. Дастаў сякерку і свярдзёлак, / Пад паху сунуў ён аполак / На латакі і на падстаўкі / Ды вынуў (*два горшка*) з-пад лаўкі (Якуб Колас). 5. Васіль ужо не раз (*про себя*) адзначаў, што яна прыбіраецца, ідучы на спатканне, і яго гэта поўніла гонарам (І. Мележ).

**Заданне 6.** Якая са словаформаў не адпавядае логіцы і зместу аб'явы ў гарадскім пасажырскім транспарце? Прапануйце яе правільны варыянт. Выбар растлумачце.

Максімальная колькасць балаў – 4.

Паважаныя пасажыры! Пры ўваходзе ў транспартны сродак і адсутнасці праязнога білета шматразовага карыстання пракампасціруйце білет аднаразовага карыстання, не чакаючы наступнага прыпынку!

**Заданне 7.** Падкрэсліце ў сказах словы, на якіх трэба зрабіць лагічны націск для адэкватнага разумення сказа. Запішыце гэтыя словы ў пачатковай форме.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| Сказ | Пачатковая форма слова, на якое прыпадае лагічны націск |
|---|---|
| 1. У перыяд раздробленасці ўзнікаюць дыялектныя адрозненні, а ў перыяд цэнтралізацыі – згладжваюцца. | |
| 2. У адных пісьменнікаў партрэт даецца больш падрабязна, у другіх – маўленчая характарыстыка. | |
| 3. Справа мы збіралі камяні, злева – універсітэт. | |
| 4. Гогаль спачатку параўноўвае Сабакевіча з мядзведзем, а потым называе гэтым словам. | |
| 5. Канец паказвае, што кожны можа (Прыказка). | |

**Заданне 8.** Адзначце, у якім блоку (А, Б, В або Г) пералічаныя гісторыка-літаратурныя характарыстыкі, тэарэтычныя паняцці, тэкстуальныя факты поўнасцю адпавядаюць твору *"Новая зямля" Якуба Коласа*. Закрэсліце памылковыя пазіцыі ў іншых блоках.

Максімальная колькасць балаў – 5.

А) Паэма; аўтабіяграфічная аснова; адраджэнцкі пафас; Мінскі астрог; Міхал; традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча; "Падгляд пчол"; дзед Курыла; тыпізаваны вобраз-персанаж; энцыклапедыя жыцця беларускага народа; класіцызм; чатырохстопны ямб; філасофская ідэя зямлі і волі;

Б) аўтабіяграфічная аснова; нацыянальны эпас беларусаў; Мінскі астрог; дзядзька Антось, Ганна; сінтэз рэалізму і рамантызму; "Раніца ў нядзельку"; тыпізаваны вобраз-персанаж; чатырохстопны ямб; энцыклапедыя жыцця беларускага народа; 30 раздзелаў; сімвалічны сэнс назвы твора;

В) аўтабіяграфічная аснова; адраджэнцкі пафас; раман у вершах; нацыянальны эпас беларусаў; турма "Лукішкі"; Кастусь, Алесь, Юзік, Уладзя; "Малады дубок"; тыпізаваны вобраз-персанаж; сентыменталізм; энцыклапедыя жыцця беларускага народа; чатырохстопны ямб; філасофская ідэя зямлі і волі;

Г) паэма; аўтабіяграфічная аснова; адраджэнцкі пафас; Мінскі астрог; традыцыі Ф. Багушэвіча; Міхал і Антось; "Леснікова пасада"; чатырохстопны харэй; тыпізаваны вобраз-персанаж; "Леснікова гаспадарка"; энцыклапедыя жыцця беларускага народа; сентыменталізм; 30 раздзелаў; сімвалічны сэнс назвы твора.

**Правільны адказ:____________.**

**Заданне 9.** Вызначце, хто з пералічаных беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца аўтарам прыведзенага верша. Выбар абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 6

(3 – за правільны адказ, 3 – за абгрунтаванне).

**Добрыя весці**

Ах, браце родны, нясуцца весці,
Ўжо граюць маршы там на усходзе,
Над кожнай хатай, у кожным месцы
Шчабечуць птушкі нам аб свабодзе.
Усіх злучыла чароўна слова,
Жалезны вобруч скуў нам далонь.
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.
І дзед старэнькі бяжыць ў дружыну,
І ўнучак следам дзеда спяшыць.
Хлопец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах смела стаіць.
Ах, браце, крэпка сіла ў народзе!
Добрыя весці зусюль ідуць,
Бо то мільёны разам у згодзе
Да лепшай долі смела ідуць.
Ах, браце, важны момант прыходзіць,
Важну ахвяру прыйдзецца даць:
На небе сонца шчасця усходзіць,
Толькі патрэбна хмары прагнаць.

А) Янка Купала
Б) Цётка
В) Якуб Колас
Г) Максім Багдановіч

**Правільны адказ:____________.**

Абгрунтаванне: __________________________________________.

**Заданне 10.** Ніжэй прыводзіцца арыгінальны тэкст класічнай рускай літаратуры і яго пераклад на беларускую мову. У асобных радках перакладу зроблены пропускі. Пастарайцеся ўзнавіць версію перакладчыка і / або прапанаваць уласную. Пры стварэнні ўласнага варыянта (варыянтаў) дазваляецца поўнасцю змяняць радок, у якім ёсць пропуск, галоўная задача – захаваць мастацкую цэласнасць твора.

Максімальная колькасць балаў – 4

(па 1 бале за карэктна ўзноўлены радок).

| | |
|---|---|
| Кастрычнік надышоў – і гай ужо страсае | Октябрь уж наступил – уж роща отряхает |
| Апошнія лісты з __________ сваіх галін; | Последние листы с нагих своих ветвей; |
| __________________ – дарога падмярзае. | Дохнул осенний хлад – дорога промерзает. |
| Булькочучы, бяжыць яшчэ ручай за млын, | Журча ещё бежит за мельницу ручей, |
| Ды ўжо ставок застыў, на ранку выязджае | Но пруд уже застыл; сосед мой поспешает |
| Сусед мой паляваць сярод лясоў, далін, | В отъезжие поля с охотою своей, |
| І топчуць _______________ яго ліхія коні, | И страждут озими от бешеной забавы, |
| І будзіць брэх сабак дубровы ____________. | И будит лай собак уснувшие дубравы. |
| Пераклад Аркадзя Куляшова. | А. С. Пушкін. "Восень". |

**Адказы**

2-і радок:____________________
3-і радок:____________________
7-ы радок:____________________
8-ы радок:____________________

**ТЭКСТ ДЛЯ ВОДГУКУ**

**Яшчэ не прытаміліся паэты**

Дыханнем хвілі радаснай сагрэты,
Лёг на цалік паперы
Першы след.
Яшчэ не прытаміліся паэты
Метафарай дзівіць ссівелы свет.
У строфы слова льецца ціха, зычна,
Яно пульсуе, як жывая кроў.
Назоўнік выступае нестатычным,
Бярэ разгон мяцежны дзеяслоў.
"Куды,
Каму
І, перш за ўсё, навошта?" –
Пытае прагматычны новы час.
Але паэты рассылаюць пошту,
Хоць і няма спадзеву на адказ.
Забойчая сардэчная руплівасць,
Шаленства набягаючых радкоў…
З іх вечнасць пасміхаецца маўкліва,
Ды ўсё-ткі любіць гэтых дзівакоў.

Сяргей Законнікаў.

**ДАВЕДКІ**

**Заданне 1.**

Гучней за ўсіх крычаў *Коля*. Другім па гучнасці быў *Толя*. Нягледзячы на тое, што на "Супер-8" крычаць *Колю* і *Толю* дапамагала іх *бабуля*, рабілі яны гэта не так гучна, як кожны з хлопчыкаў паасобку.

Каментарый:

Калі размясціць названыя галосныя гукі на так званай шкале гучнасці, ці санорнасці, то стане відавочна, што іх утварэнне звязана не толькі з максімальным выкарыстаннем галасавых звязак. Неабходна яшчэ ўлічваць ступень адкрытасці / закрытасці маўленчага тракту пры артыкуляцыі. Чым ён вузейшы, тым меншая артыкуляцыйная гучнасць. Гэта адлюстравана ў асобнай класіфікацыйнай пазіцыі для галосных – пад'ёме.

Таму [а] як галосны ніжняга пад'ёму з максімальна адкрытым маўленчым трактам будзе самым гучным; галосны [о] займае другую пазіцыю як гук сярэдняга пад'ёму; галосны верхняга пад'ёму [у], які характарызуецца большай ступенню закрытасці маўленчага тракту, чым [а] і [о], займае па гучнасці трэцяе месца.

**Заданне 2.**

| Да рэдагавання | Пасля рэдагавання |
|---|---|
| цвятная капуста | *квяцістая капуста* |
| саставіцель кнігі | *складальнік (укладальнік) кнігі* |
| вузы дружбы | *повязі дружбы (сяброўства)* |
| уцечка вады | *выцек вады* |
| "уцечка" мазгоў | *"адток" мазгоў* |
| учот тавараў | *улік тавараў* |

**Заданне 3.**

| | | |
|---|---|---|
| 'паскорыць рух' | | *газу* |
| 'забяспечыць свабоду дзеяння' | | *дарогу* |
| 'дазволіць каму-небудзь выступіць' | **даць** | *слова* |
| 'хутка выканаць, зрабіць што-небудзь' | | *жару* |
| 'адолець, управіцца з чым-небудзь' | | рады |

**Заданне 4.**

| Выказванне | Часцінамоўная прыналежнасць слова *раз* |
|---|---|
| 1. Але *раз* ты наважыў дзела,<br>Ідзі станоўка, роўна, смела,<br>Ідзі, назад не аглядайся<br>І на другіх не пакладайся!<br>Якуб Колас. | падпарадкавальны злучнік |
| 2. *Раз*, два, тры, чатыры,<br>Кошку грамаце вучылі:<br>Не чытаць, не пісаць,<br>А за мышкамі скакаць. | колькасны лічэбнік |
| 3. Калі ў свет я ні гляну прыгожы,<br>Кожны *раз* штось хвалюе душу…<br>Янка Купала. | назоўнік |
| 4. Міхал так думаў, сумняваўся<br>І тут астацца спадзяваўся.<br>Ды *раз* у сесію Міхася<br>К сабе ляснічы заклікае<br>Якуб Колас. | прыслоўе |
| **Яны знаходзяцца ў адносінах** функцыянальнай аманіміі. | |

**Заданне 5.**

1. …Волеччын твар быў цяпер так падобен да твару зусім малой дзяўчынкі, якая *пераймае ўчынкі* свае маці! (Кузьма Чорны). 2. Яна спынілася *крокаў за дваццаць* і пазірала на яе, сляпуючы, з-пад рукі (І. Чыгрынаў). 3. Але іх жа вунь колькі ўжо *заляцалася да Гарпуські*, а яна – ні прыступу (Р. Сабаленка). 4. Дастаў сякерку і свярдзёлак, / Пад паху сунуў ён аполак / На латакі і на падстаўкі / Ды вынуў *два гаршкі* з-пад лаўкі (Якуб Колас). 5. Васіль ужо не раз *сам сабе* адзначаў, што яна прыбіраецца, ідучы на спатканне, і яго гэта поўніла гонарам (І. Мележ).

**Заданне 6.**

Каментарый:

У адпаведнасці з патрабаваннямі да праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце кожны з нас павінен або прад'явіць кантралёру праязны білет, які дае права праезду ў аўтобусе, тралейбусе, трамваі ці метро, або пракампасціраваць праязны талон. Гэтая спецыфіка і павінна быць адлюстравана ў адпаведных назоўніках, утвораных ад дзеяслоўных формаў незакончанага і закончанага трывання. Паколькі пракампасціраваным талонам нельга больш карыстацца, то гэта білет толькі *аднаразовага выкарыстання*.

Такім чынам, замена адпаведнага назоўніка, утворанага ад дзеяслова незакончанага трывання, неабходным па логіцы назоўнікам, утвораным ад дзеяслова закончанага трывання, робіць празрыстым змест паведамлення і рэгулюе нашы адносі-

ны з органамі кантролю. (*Паважаныя пасажыры! Пры ўваходзе ў транспартны сродак і адсутнасці праязнога білета шматразовага* ***карыстання*** *пракампасціруйце білет аднаразовага* ***выкарыстання****, не чакаючы наступнага прыпынку!*)

**Заданне 7.**

| Сказ | Пачатковая форма слова, на якое прыпадае лагічны націск |
|---|---|
| 1. У перыяд разробленасці *ўзнікаюць* дыялектныя адрозненні, а ў перыяд цэнтралізацыі – згладжваюцца. | *узнікаць* |
| 2. У адных пісьменнікаў *партрэт* даецца больш падрабязна, у другіх – маўленчая характарыстыка. | *партрэт* |
| 3. Справа *мы* збіралі лісце, злева – універсітэт. | *я* |
| 4. Гогаль спачатку *параўноўвае* Сабакевіча з мядзведзем, а потым называе гэтым словам. | *параўноўваць* |
| 5. Канец паказвае, *што* кожны можа. (Прыказка) | *што* |

**Заданне 8.**

Правільны адказ – Б.

Памылковыя пазіцыі ў іншых блоках:

А) Традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча; класіцызм; дзед Курыла;

В) турма “Лукішкі”, “Малады дубок”, сентыменталізм.

Каментарый:

*Раман у вершах* можа разглядацца як варыянт правільнага вызначэння жанру: асобныя даследчыкі падкрэсліваюць эпічны маштаб твора і наяўнасць разгалінаванай сюжэтна-кампазіцыйнай структуры, што дае падставы вызначыць жанр як *раман*.

Г) чатырохстопны харэй, сентыменталізм, “Леснікова гаспадарка”.

Каментарый: *Традыцыі Ф. Багушэвіча* можна разглядаць як правільны варыянт. Сапраўды, традыцыі, закладзеныя Багушэвічам, аказалі значны ўплыў на творчасць Якуба Коласа.

**Заданне 9.**

Б) Цётка.

Каментарый:

У якасці абгрунтавання ўдзельнікі алімпіяды могуць прывесці наступныя аргументы: верш эмацыянальна прасякнуты аптымізмам, верай у будучыню і перамогу, рэвалюцыйным запалам, што характэрна для паэзіі Цёткі. Малюецца карціна ўсеагульнага паўстання, барацьбы, сумеснага дзеяння розных пакаленняў. У вершы няма пейзажных апісанняў, рытарычных пытанняў, складанай сімволікі, характэрных для творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. У адрозненне ад паэзіі Максіма Багдановіча ў вершы няма апелявання ні да прыроды, ні да гісторыка-культурнай спадчыны. Асноўныя вобразы твора – абагульненыя вобразы людзей (дзед, унук, хлопец і г. д.). Агульнаму стылю творчасці Цёткі адпавядаюць вобразы “граюць маршы”, “шчабечуць птушкі аб свабодзе”, “на барыкадах смела стаіць”, “мільёны разам у згодзе”. Як паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка сцвярджае, што “важны момант прыходзіць”, у той час як асноўны матыў ранняй паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча – “Беларусь дачакаецца”, “скора загукаю”, “прыйдзе той дзень”, іначай кажучы актыўнае дзеянне суадносіцца з будучыняй, а не з цяперашнім момантам.

Зварот “браце родны” аналагічны радку “веру, братцы, людзьмі станем”. Могуць быць таксама прыведзеныя аргументы, звязаныя з асаблівасцямі мовы і паэтычнага сінтаксісу.

**Заданне 10.**

Кастрычнік надышоў – і гай ужо страсае
Апошнія лісты з *пустых* сваіх галін;
*Дыхнулі халады* – дарога падмярзае.
Булькочучы, бяжыць яшчэ ручай за млын,
Ды ўжо ставок застыў, на ранку выязджае
Сусед мой паляваць сярод лясоў, далін,
І топчуць *рунь палёў* яго ліхія коні,
І будзіць брэх сабак дубровы *ў час пагоні*.

Пераклад Аркадзя Куляшова.

## Х КЛАС

**Заданне 1.** Аднавіце радок вядомага музычнага твора па характарыстыцы гукаў, з якіх ён складаецца. Назавіце гэты твор.

Максімальная колькасць балаў – 6.

[ ] – зычны, губна-губны, змычна-праходны, насавы, санорны, цвёрды;

[ ] – галосны, сярэдняга рада, верхняга пад’ёму, нелабіялізаваны;

[ ] – зычны, губна-губны, выбухны, звонкі, мяккі;

[ ] – галосны, сярэдняга рада, сярэдняга пад’ёму, нелабіялізаваны;

[ ] – зычны, пярэднеязычны, зубны, бакавы, санорны, цвёрды;

[ ] – галосны, сярэдняга рада, ніжняга пад’ёму, нелабіялізаваны;

[ ] – зычны, язычны, дрыжачы, санорны, няпарны цвёрды;

[ ] – галосны, задняга рада, верхняга пад’ёму, лабіялізаваны;

[ ] – зычны, пярэднеязычны, зубны, фрыкатыўны, свісцячы, цвёрды;

[ ] – галосны, сярэдняга рада, верхняга пад’ёму, нелабіялізаваны.

**Гэтымі словамі пачынаецца…**

**Заданне 2.** Рашыце міжмоўныя лексічныя прапорцыі.

Максімальная колькасць балаў – 5.

__ (*бел.*) : встать (*рус.*) = __ (*рус.*) : стаміцца (*бел.*)

__ (*бел.*) : отдыхать (*рус.*) = __ (*рус.*) : пачаставаць (*бел.*)

__ (*бел.*) : басня (*рус.*) = __ (*рус.*) : байка (*бел.*)

__ (*бел.*) : белка (*рус.*) = __ (*рус.*) : вяроўка (*бел.*)
__ (*бел.*) : тыква (*рус.*) = __ (*рус.*) : кавун (*бел.*)

**Заданне 3.** Растлумачце, з якой мэтай ужываюцца прыведзеныя выказванні. Запішыце ўласны варыянт "формулы" для фіксацыі і аднаўлення "гэтага".

Максімальная колькасць балаў – 6.

Чому пінгвіни живуть зимою без своїх фантазій? (*укр.*); Кот ослу, жирафу, зайке голубые сшил фуфайки (*рус.*).

**Заданне 4.** Устанавіце адпаведнасць паміж рускімі і беларускімі фразеалагізмамі. Адказ запішыце ў форме літарна-лічбавага спалучэння.

Максімальная колькасць балаў – 5
(1 бал за правільна вызначаную пару).

| Руская мова | Беларуская мова |
|---|---|
| **А)** счастливого пути | **1)** хоць мак сей |
| **Б)** тихий ангел пролетел | **2)** як стой |
| **В)** турусы на колёсах | **3)** сáма розрух |
| **Г)** часы пик | **4)** журавель на хвойцы |
| **Д)** в момент | **5)** шчасць Божа па дарозе |
| **Літарна-лічбавая адпаведнасць:** | |

**Заданне 5.** Традыцыйна ў беларускіх народных казках героі збіраюцца ў гурт, каб зрабіць нешта разам, супольна. У прыведзеным ніжэй урыўку адной з такіх казак падлічыце колькасць герояў, абазначыўшы яе пры дапамозе прыслоўяў, утвораных ад лічэбнікаў. Выбар патлумачце.

Максімальная колькасць балаў – 5.

**Гусак, мядзведзь, воўк, лісіца, кабанец**

Жылі сабе дзедка ды бабка, і быў у іх гусак. Пайшоў гусак у Кіеў Богу маліцца. Ішоў ён, ішоў, аж бяжыць мядзведзь.

– Гусак, гусак, куды ты ідзеш?
– Пайду ў Кіеў Богу маліцца!
– Пайду і я з табой.
– Ідзі!

Вось ідуць (…). Бяжыць воўк.
– Гусак, гусак, куды ты ідзеш?
– Пайду ў Кіеў Богу маліцца!
– Пайду і я.
– Ідзі!

Вось ідуць (…). Бяжыць лісічка-сястрычка.
– Гусак, гусак, куды ты ідзеш?
– Пайду ў Кіеў Богу маліцца!
– Пайду і я з табой.
– Ідзі!

Вось ідуць (…). Бяжыць кабанец.
– Гусак, гусак, куды ты ідзеш?
– Пайду ў Кіеў Богу маліцца!
– Пайду і я.
– Ідзі!

Вось ідуць (…).

**Тлумачэнне:**________________.

**Заданне 6.** Запоўніце табліцу, аднавіўшы адносіны паміж роляй слова *як* і яго ўжываннем у пэўным выказванні.

Максімальная колькасць балаў – 4.

| Роля | Сказ |
|---|---|
| прыслоўе | |
| | А паміж буфетам і сцяной была шчыліна *як* засунуць далонь. |
| часціца | |
| | *Як* пашанцавала! |

**Заданне 7.** Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Вызначце сінтаксічны тып складанага сказа.

Максімальная колькасць балаў – 4.

Гадзіннік мой
Доля роўная ў нас
Ісці не цішачы ход
Як свой лічыць
Пазычаны час
Пакуль не сыдзе завод.

Рыгор Барадулін.

**Тып сказа:** ________________.

**Заданне 8.** Адзначце, у якім блоку (А, Б, В або Г) пералічаныя гісторыка-літаратурныя характарыстыкі, тэарэтычныя паняцці, біяграфічныя і тэкстуальныя факты поўнасцю адпавядаюць творчасці *Янкі Купалы*. Закрэсліце памылковыя пазіцыі ў іншых блоках.

Максімальная колькасць балаў – 5.

А) Творы на польскай мове; класічныя формы верша (санет); "Шляхам жыцця"; адраджэнцкі пафас; Адольф Быкоўскі і Паўлінка Крыніцкая; нацыянальны эпас беларусаў; Акопы; пераклады з беларускай мовы на рускую; народны паэт Беларусі (1926); рамантычная сімволіка як характэрная рыса мастацкай сістэмы; Сымон і Ганна; акадэмік Акадэміі навук Беларусі; "Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!.." (*цытата*);

Б) пераклады з рускай мовы на беларускую; рэдактар газеты "Наша Ніва"; "Жалейка"; паэма; камедыя; раман; Агата і Пранцісь Пустарэвічы; праца інспектарам школьнай адукацыі; індывідуальна-псіхалагічная характарыстыка вобразаў-персанажаў; акадэмік Акадэміі навук Беларусі; вучоба ў Пецярбургу; творы на польскай мове; народны паэт Беларусі (1926); "Я адплаціў народу, чым моц мая магла" (*цытата*);

В) Вязынка як месца нараджэння; класічныя формы верша (санет); "Жалейка"; паэма; драма; услаўленне духоўнага багацця мужыка-беларуса; рамантычная сімволіка як характэрная рыса мастацкай сістэмы; народны паэт Беларусі (1925); акадэмік Акадэміі навук Беларусі; Адольф Быкоўскі, Якім Сарока, Агата Пустарэвіч; "Цяпер беларускай я песні ўладар" (*цытата*);

Г) "Раскіданае гняздо"; Вязынка, Вільня, Санкт-Пецярбург, Мінск; творы на польскай мове; сентыменталізм; драматычная паэма; народны паэт Беларусі (1925); раман у вершах; пераклады на беларускую мову; рэдактар газеты "Наша Ніва"; Сымон і Зося; рамантычная сімволіка як характэрная рыса мастацкай сістэмы;

Адольф Быкоўскі, Якім Сарока, Паўлінка Пустарэвіч; “Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая!” (*цытата*).

**Правільны адказ:____________.**

**Заданне 9.** Вызначце, хто з пералічаных беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца аўтарам прыведзенага верша. Выбар абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 5
(2 – за правільны адказ, 3 – за абгрунтаванне).

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла;
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваёй адбіла.
І гімн спявае жабаў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
Узор.
І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб не ўчуць вышэй ад гор,
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

А) Янка Купала
Б) Цётка
В) Якуб Колас
Г) Максім Багдановіч
Д) Максім Танк

**Правільны адказ:____________.**

Абгрунтаванне:____________.

**Заданне 10.** Ніжэй прыводзіцца арыгінальны тэкст класічнай рускай літаратуры (фрагмент) і яго пераклад на беларускую мову. У асобных радках перакладу зроблены пропускі. Пастарайцеся ўзнавіць версію перакладчыка або прапанаваць уласную. Пры стварэнні ўласнага варыянта дазваляецца поўнасцю змяняць радок, у якім ёсць пропуск. Галоўнае – захаванне мастацкай цэласнасці, у тым ліку рытму і рыфмы.

Максімальная колькасць балаў – 5
(па 1 бале за ўзноўлены радок).

І вось, насычана знішчэннем,
Прыстаўшы з жудкага жніва,
Назад ______________ Нява,
________________ абурэння,
Кідаючы са ______________.
Сваю пажыву. ____________
З вірутнай хеўрай забіяк
Ў сяло ўварвецца, – гвалт, пагрозы:
Рабуе, крышыць; енкі, слёзы,
Трывога, крык дзяцей, бацькоў!..
І, згорблены нарабаваным,
Пагоні баючыся, спраўна
Спяшаць разбойнікі дамоў,
Губляючы ў бягу здабытак.
Вада збыла, і ___________
Адкрыўся…

Пераклад Янкі Купалы (1937).

Но вот, насытясь разрушеньем
И наглым буйством утомясь,
Нева обратно повлеклась,
Своим любуясь возмущеньем
И покидая с небреженьем
Свою добычу. Так злодей,
С свирепой шайкою своей
В село ворвавшись, ломит, режет,
Крушит и грабит; вопли, скрежет,
Насилье, брань, тревога, вой!..
И, грабежом отягощенны,
Боясь погони, утомленны,
Спешат разбойники домой,
Добычу на пути роняя.
Вода сбыла, и мостовая
Открылась…

А. С. Пушкін. “Медны коннік”.

**Адказы**

3-і радок:__________________
4-ы радок:__________________
5-ы радок:__________________
6-ы радок:__________________
14-ы радок:__________________

**ТЭКСТ ДЛЯ ВОДГУКУ**

**Сейбіт**

Трымаю зярнятка на цёплай далоні,
Прашу прабачэння, шапчу блаславенне:
“Навечна з табой развітаемся сёння…”
Яно ж – як не чуе: ні кроплі здзіўлення,
Ні слёз на збаўленне, –
Як быццам не знае,
Што ў глебу кладзецца яно й памірае.
І свеціцца толькі цікаўнае вочка:
З такімі ж спаткацца – смяротнымі – хоча…
Такое ў іх боскае наканаванне:
Не знікнуць зярняты – не быць ураджаю.
Паэт я і сейбіт – я з вечнасцю сею спатканне:
І веру жыццю – і смерць паважаю…

Васіль Зуёнак.

**ДАВЕДКІ**

**Заданне 1.**

[*м*] – зычны, губна-губны, змычна-праходны, насавы, санорны, цвёрды;

[*ы*] – галосны, сярэдняга рада, верхняга пад'ёму, нелабіялізаваны;

[*б'*] – зычны, губна-губны, выбухны, звонкі, мяккі;

[*э*] – галосны, сярэдняга рада, сярэдняга пад'ёму, нелабіялізаваны;

[*л*] – зычны, пярэднеязычны, зубны, бакавы, санорны, цвёрды;

[*а*] – галосны, сярэдняга рада, нізкага пад'ёму, нелабіялізаваны;

[*р*] – зычны, язычны, дрыжачы, санорны, няпарны цвёрды;

[*у*] – галосны, задняга рада, верхняга пад'ёму, лабіялізаваны;

[*с*] – зычны, пярэднеязычны, зубны, фрыкатыўны, свісцячы, цвёрды;

[*ы*] – галосны, сярэдняга рада, верхняга пад'ёму, нелабіялізаваны.

Каментарый:

Па характарыстыцы гукаў аднаўляецца пачатак Гімна Рэспублікі Беларусь (сл. М. Клімковіча, У. Карызны; муз. Н. Сакалоўскага):

***Мы, беларусы*** – мірныя людзі,
Сэрцам адданыя роднай зямлі,
Шчыра сябруем, сілы гартуем
Мы ў працавітай, вольнай сям'і.

**Заданне 2.**

***уста́ць*** (*бел.*) : встаць (*рус.*) = ***устать*** (*рус.*) : станіцца (*бел.*)

***адпачывáць*** (*бел.*) : отдыхать (*рус.*) = ***отпóтчевать*** (*рус.*) : пачаставаць (*бел.*)

***бáйка*** (*бел.*) : басня (*рус.*) = ***бáйка*** (*рус.*) : бáйка (*бел.*)

***вавёрка*** (*бел.*) : белка (*рус.*) = ***верёвка*** (*рус.*) : вяроўка (*бел.*)

***гарбуз*** (*бел.*) : тыква (*рус.*) = ***арбуз*** (*рус.*) : кавун (*бел.*)

**Заданне 3.**

Каментарый:

Вельмі добра сутнасць гэтага задання патлумачыў некалі Л. Дайнека, узгадваючы свае школьныя гады: «Памятаецца, у далёкія школьныя гады настаўнік фізікі навучаў нас, як назаўсёды закласці ў падсвядомасць, "зазубрыць" назвы колераў сонечнага спектра. Ён казаў: "Каждый охотник желает знать, где сидит фазан". (Для тых, у каго не было такіх дасціпных фізікаў-паліглотаў, растлумачу: тут, у гэтым сказе, зашыфраваныя назвы ўсіх колераў: красный, оранжевый, жёлтый, зелёный, голубой, синий, фиолетовый.)

Але ж свядомы чалавек павінен запамінаць вечныя ісціны і на сваёй роднай мове. Па-беларуску ўся гэта шматфарбная вясёлка гучыць так: чырвоны, аранжавы, жоўты, зялёны, блакітны, сіні, фіялетавы. Успомнілі? Вось вам два сказы… : ***Ч****акай* ***а****такі* ***ж****аўнера,* ***з****аўсёды* ***б****удзь* ***с****мелым,* ***ф****азан.* ***Ч****акаю* ***а****петытных* ***ж****абак* ***з б****еларускіх* ***с****ажалак.* ***Ф****ранцуз*» (Леанід Дайнека. Герадоцінкі).

Пры ацэнцы задання ўлічваецца аднаўленне прызначэння "формулы", дакладнасць беларускіх назваў колераў сонечнага спектра, арыгінальнасць уласнага прыкладу.

**Заданне 4.**

Правільны адказ: А5, Б2, В4, Г3, Д2.

**Заданне 5.**

Гусак і мядзведзь ідуць *удвух.*

Гусак, мядзведзь і воўк ідуць *утрох.*

Гусак, мядзведзь, воўк і лісічка-сястрычка ідуць *учацвярых.*

Гусак, мядзведзь, воўк, лісічка-сястрычка і кабанец ідуць *упяцярых.*

Каментарый:

Выбар адпаведнай формы ў беларускай мове залежыць ад лексіка-граматычнага характару назоўніка – яго родавай прыналежнасці, звязанай у гэтым выпадку з полавай прыналежнасцю казачнага героя.

Таму пры ўказанні на сумеснасць дзеяння асоб мужчынскага, жаночага полу або асоб рознага полу ўжываюцца наступныя формы:

*удвух* – у колькасці дзвюх асоб мужчынскага полу;

*удзвюх* – у колькасці дзвюх асоб жаночага полу;

*удваіх* – колькасцю ў дзве асобы (рознага полу) або істоты (ніякага роду);

*утрох* – у колькасці трох асоб або толькі мужчынскага, або толькі жаночага полу;

*утраіх* – колькасцю ў тры асобы (рознага полу) або істоты (ніякага роду);

*учатырох* – у колькасці чатырох асоб або толькі мужчынскага, або толькі жаночага полу;

*учацвярых* – колькасцю ў чатыры асобы (рознага полу) або істоты (ніякага роду);

*упяцёх* – у колькасці пяці асоб або толькі мужчынскага, або толькі жаночага полу;

*упяцярых* – колькасцю ў пяць асоб (рознага полу) або істот (ніякага роду).

**Заданне 6.**

| Роля | Сказ |
|---|---|
| прыслоўе | Толя не ведаў, *як* суцешыць брата. |
| **злучнік** | А паміж буфетам і сцяной была шчыліна *як* засунуць далонь. |
| часціца | – Мы ўжо з'елі торт! – *Як* – увесь? – здзівіўся тата. |
| **часціца** | *Як* пашанцавала! |

**Заданне 7.**

Гадзіннік мой,
Доля роўная ў нас:
Ісці не цішачы ход,
Як свой, лічыць
Пазычаны час,
Пакуль не сыдзе завод.

Рыгор Барадулін.

Тып сказа: складаназалежны з даданай акалічнаснай умовы.

**Заданне 8.**

Правільны адказ: В.

Памылковыя пазіцыі ў іншых блоках:

А) нацыянальны эпас беларусаў; пераклады з беларускай мовы на рускую; народны паэт Беларусі (1926) – *правільна 1925*; Сымон і Ганна – героі паэмы "Сымон-музыка" Якуба Коласа;

Б) раман; праца інспектарам школьнай адукацыі; індывідуальна-псіхалагічная характарыстыка вобразаў-персанажаў; народны паэт Беларусі (1926) – *правільна 1925*;

Г) сентыменталізм; раман у вершах; Адольф Быкоўскі, Якім Сарока, Паўлінка Пустарэвіч (*правільна Крыніцкая*); "Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая!" (*цытата з верша Якуба Коласа*).

**Заданне 9.**

Правільны адказ: Г – Максім Багдановіч, "Рандо".

Абгрунтаванне: Можна прывесці наступныя аргументы.

Паводле танальнасці і вобразнасці не мае заклікавасці, пабуджэння да дзеяння, не мае сцвярджальна-аптымістычнага гучання, не выказвае актыўнай пазіцыі лірычнага героя, што характэрна для паэзіі Максіма Танка і Цёткі. Для творчай манеры Янкі Купалы і Якуба Коласа характэрны

лірычны герой, які заклапочаны лёсам усяго народа, нацыянальнымі і сацыяльнымі праблемамі. У гэтым жа вершы адчуваецца індывідуальнае, нават інтымнае назіранне за зорамі і іх адлюстраваннем у вадзе, любаванне красой; менавіта сцвярджэнне красы і яе вышэйшага, боскага паходжання з'яўляецца асноўнай ідэяй верша. А гэта ўласціва паэзіі Максіма Багдановіча. Зварот да вобразаў прыроды дзеля пошуку гармоніі і красы (неба і гразь лужын "прымiраюцца" дзякуючы прыгажосці зорак) сустракаецца ў шматлікіх творах Багдановіча. Верш напісаны ў строгай класічнай вершаванай форме (рандо), што з'яўляецца адной з вызначальных прыкмет індывідуальнага стылю Максіма Багдановіча. Сустракаюцца русізмы (гарашчы, мгла).

Могуць быць прыведзеныя і іншыя аргументы, заснаваныя на асабістым успрыманні і індывідуальным чытацкім досведзе.

**Заданне 10.**

І вось, насычана знішчэннем,
Прыстаўшы з жудкага жніва,
Назад *папхнулася* Нява,
*Са свайго рада* абурэння,
Кідаючы са *зневажэннем.*
Сваю пажыву. *Злодзей так*
З вірутнай хеўрай забіяк
Ў сяло ўварвецца, – гвалт, пагрозы:
Рабуе, крышыць; енкі, слёзы,
Трывога, крык дзяцей, бацькоў!..
І, згорблены нарабаваным,
Пагоні баючыся, спраўна
Спяшаць разбойнікі дамоў,
Губляючы ў бягу здабытак.
Вада збыла, і *брук размыты*
Адкрыўся…

Пераклад Янкі Купалы (1937).

## ХІ КЛАС

**Заданне 1.** Запішыце літаратурныя формы слоў, якія ў дыялектным маўленні змяніліся пад уплывам узаемнай перастаноўкі гукаў у межах аднаго слова. Як называецца гэты фанетычны працэс?

Максімальная колькасць балаў – 6.

| | |
|---|---|
| калопні | |
| арэй | |
| радзюга | |
| весліца | |
| лапонік | |
| **Гэта з'ява называецца …** | |

**Заданне 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж запазычанымі словамі і іх беларускімі адпаведнікамі, прыведзенымі ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча (1925 г.). Адказ запішыце ў форме літарна-лічбавага спалучэння.

Максімальная колькасць балаў – 4
(1 бал за правільна вызначаную пару).

| Запазычаныя словы | Адпаведнікі да запазычанняў са слоўніка М. Байкова і С. Некрашэвіча |
|---|---|
| **А)** крэдытор | **1)** аснада |
| **Б)** медыум | **2)** павярхоўка |
| **В)** пульверызатар | **3)** павернік |
| **Г)** этажэрка | **4)** пасрэднік |
| | **5)** прыскаўка |
| **Літарна-лічбавая адпаведнасць:** | |

**Заданне 3.** Аднавіце словаўтваральнае гняздо па лексічным значэнні кампанентаў, аб'яднаных коранем *лес*. Сфармулюйце прынцып яго арганізацыі.

Максімальная колькасць балаў – 5.

***лес***

ляс______(‘які густа зарос лесам; багаты лесам’);
ляс______ (‘даглядчык, вартаўнік лесу’);
лес______ (‘яго дачка’);
лес______ (‘яго жонка’);
ляс______ (‘які мае адносіны да лесу, уласцівы яму’);
ляс______ (‘загадчык лясніцтва, спецыяліст па ляснοй гаспадарцы’);
ляс______ (‘яго жонка’);
ляс______ (‘жыхар лесу, лясны дух’).

**Прынцып арганізацыі словаўтваральнага гнязда:____________.**

**Заданне 4.** Запоўніце табліцу, устанавіўшы адносіны паміж фразеалагізмамі і іх значэннем.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| Значэнне фразеалагічнай адзінкі | Фразеалагічны адпаведнік |
|---|---|
| ‘драмаць седзячы’ | |
| | калі з роду баравік, то лезь, браце, у кошык. |
| ‘вельмі даўно’ | |
| | ні села ні пала. |
| ‘невядома калі; ніколі’ | |

**Заданне 5.** У адной з беларускіх народных песень маладая гаспадыня расказвае пра сваё жыццё ў сям'і мужа:

– Іду ў прочкі, мой татачка.
– Ад каго йдзеш, дзіцятачка?
– Ад свёкра, ад свякроўкі, ад дзевера, ад залоўкі.
Свёкар кажа: "Парыйніца",
Свякроў кажа: "Памыйніца",
Дзевер кажа: "Палятушка",
А залоўка: "Памятушка".
На што бацькі могуць толькі параіць:
– Ой, вярніся, дзіцця маё,
Ой, вярніся, дарагое,
І сумей ім адказаці:
У ___ – парыйніца,
У ___ – памыйніца,
У ___ – палятушка,

У ___ – памятушка,
А я ў хаце гаспадыня:
І натаўкла-намалола,
І ў агародзе апалола,
І бацвіння наварыла,
І сямейку накарміла.

Дапамажыце дзяўчыне, адказаўшы: калі ў хаце яна гаспадыня, то дзе *парыйніца, памыйніца, палятушка, памятушка*. Адказ абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 5.

Парыйніца – у ____, памыйніца – у ____, палятушка – у ____, памятушка – у ____.

Абгрунтаванне:__________.

**Заданне 6.** У інтэрнэце актыўна ўжываецца універсальная формула прывітання "Добрага часу сутак". Ці адпавядае яна гэтай разнавіднасці маўленчага этыкету? Адказ аргументуйце. Прапануйце вядомыя Вам беларускія формулы прывітання, якія могуць быць выкарыстаны для адпаведнай сітуацыі.

Максімальная колькасць балаў – 5.

Абгрунтаванне:__________.

**Заданне 7.** Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Вызначце сінтаксічны тып складанага сказа.

Максімальная колькасць балаў – 5
(па 1 бале – за дакладна афармлены радок, 1 – за вызначэнне сказа).

* * *

Старайся але вядома не кату
Сказаць адзіна верныя словы
Замест О Божа ды будзьце вы клятыя
Сказаць О Божа ды ўстаньце здаровы

У. Караткевіч.

**Тып сказа:**________________________.

**Заданне 8.** Адзначце, у якім блоку (А, Б або В) пералічаныя гісторыка-літаратурныя характарыстыкі, тэарэтычныя паняцці, біяграфічныя і тэкстуальныя факты з'яўляюцца характэрнымі для творчасці *Максіма Гарэцкага* і *Івана Шамякіна*. Закрэсліце памылковыя пазіцыі ў іншых блоках.

Максімальная колькасць балаў – 4.

А) Аўтабіяграфічная проза пра Вялікую Айчынную вайну; праблема маральнай чысціні і асаблівай адказнасці інтэлігента; рэалістычны спосаб мастацкага асэнсавання рэчаіснасці; сялянскае паходжанне; апавяданні, аповесці, раманы; літаратурная і грамадская дзейнасць; драма; акадэмік Акадэміі навук Беларусі; індывідуальна-псіхалагічны спосаб тыпізацыі; "гарадская" тэматыка; арыентацыя на класічныя традыцыі рускай гістарычнай прозы; лаканічнасць стылю;

Б) аўтабіяграфічная проза пра вайну; народны пісьменнік Беларусі; тэма сацыяльных пераўтварэнняў у Беларусі ў міжваенным дваццацігоддзі XX ст.; літаратурная і грамадская дзейнасць; драма; "гарадская" тэматыка; абагульнена-рамантычны спосаб тыпізацыі героя-персанажа; гістарычная тэматыка ў творчасці; апавяданні, аповесці, раманы; геаграфічная шырыня месца дзеяння мастацкіх твораў; вастрыня канфлікту; рэфлексія і самааналіз як сродак характарыстыкі героя;

В) рэалізм, аўтабіяграфічная проза пра вайну; праблема маральнай чысціні і асаблівай адказнасці інтэлігента; тэма сацыяльных пераўтварэнняў у Беларусі ў міжваенным дваццацігоддзі XX ст.; драма; рэалістычны спосаб мастацкага асэнсавання рэчаіснасці; сялянскае паходжанне; акадэмік Акадэміі навук Беларусі; апавяданні, аповесці, раманы; літаратурная і грамадская дзейнасць; індывідуальна-псіхалагічны спосаб тыпізацыі; "гарадская" тэматыка; лаканічнасць стылю; шырыня месца дзеяння мастацкіх твораў.

**Правільны адказ:**_____.

**Заданне 9.** Вызначце, хто з пералічаных беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца аўтарам прыведзеных вершаваных урыўкаў. Аргументуйце свой выбар.

Максімальная колькасць балаў – 4
(2 – за правільны адказ, 3 – за абгрунтаванне).

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне…
Вітрынамі зіяючыя крамы,
Кавярні, мора вывесак, як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне.

Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчыя рэкламы…
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы…
Грук, гоман, гул – усё ракой імкне.

А дальш – за радам кас, ламбардаў, банкаў –
Агні вакзала… павадка фурманкаў…
Віры людзей… сіпяшчы паравоз…

Зялёны семафор… пакгауз… склады…
Заводаў коміны пад цьмой нябёс…
О горада чароўныя прынады!

А) Янка Купала
Б) Цётка
В) Якуб Колас
Г) Максім Багдановіч
Д) Максім Танк
Е) Рыгор Барадулін
Ё) Ніл Гілевіч

**Правільны адказ:**__________.

Абгрунтаванне:__________.

**Заданне 10.** Ніжэй прыводзіцца арыгінальны тэкст класічнай рускай літаратуры (фрагмент) і яго пераклад на беларускую мову. У асобных радках перакладу зроблены пропускі. Пастарайцеся ўзнавіць версію перакладчыка або прапанаваць уласную. Пры стварэнні ўласнага варыянта дазваляецца поўнасцю змяняць

радок, у якім ёсць пропуск. Галоўнае – захаванне мастацкай цэласнасці, у тым ліку рытму і рыфмы.

Максімальная колькасць балаў – 7
(па 1 бале за ўзноўлены радок).

| | |
|---|---|
| Над ______ Петраградам | Над омраченным Петроградом |
| Стаяла восень лістападам. | Дышал ноябрь осенним хладом. |
| Бурліва хвалямі б'ючы | Плеская шумною волной |
| Ў краі сваіх ________, | В края своей ограды стройной, |
| Нява _______, бы ўначы | Нева металась, как больной |
| Ў пасцелі хворы неспакойна. | В своей постели беспокойной. |
| Было ўжо позна, змрок наплыў, | Уж было поздно и темно; |
| Сярдзіта ў шыбы ___________, | Сердито бился дождь в окно, |
| І вецер дзьмуў, і выў________. | И ветер дул, печально воя. |
| З гасцей _________________ | В то время из гостей домой |
| Яўгеній малады прыйшоў… | Пришел Евгений молодой… |
| Мы будзем нашага героя | Мы будем нашего героя |
| Зваць гэтым іменем. Яно | Звать этим именем. Оно |
| Гучыць прыемна; з ім даўно | Звучит приятно; с ним давно |
| Маё ____________________. | Мое перо к тому же дружно. |
| Не трэба нам яго празвання… | Прозванья нам его не нужно… |
| Пераклад Янкі Купалы (1937). | А. С. Пушкін. “Медны коннік”. |

**Адказы**

1-ы радок:___________________
4-ы радок:___________________
5-ы радок:___________________
8-ы радок:___________________
9-ы радок:___________________
10-ы радок:__________________
15-ы радок:__________________

**ТЭКСТ ДЛЯ ВОДГУКУ**

**Вітанне вясны**

Статак рагаты – арганы з латынню –
Выйшаў на поплаў траве памаліцца,
Форум збаноў паліваных на тыне
З выпасам першым вітае дайніца, –
Salve, amici!*

Холад чаромхавы – хай зберагае
Памяць зімы, ды вяртанню не збыцца!..
Лотаць вясновай паводкай шугае
Там, дзе да рэчкі збягала сняжніца, –
Salve, amici!

Неба – з пралескамі па баравінах,
Сонца ў ярах з першацветам радніцца,
Вербы ахутаны роем пчаліным –
Мёдна звіняць каташкоў завушніцы, –
Salve, amici!

Ходзяць кругамі на такавішчы
Цецерукі – аж дыміцца ігліца,
Сто салаўёў залівающца-свішчуць
Адной салаўісе ў альхоўніку ніцым, –
Salve, amici!

Чый гэта след па мураўцы зялёнай?
Кліча за вёску сцежка-хітрыца,
Сэрца вось-вось заспявае натхнёна,
Нібы жаўрук з паднябеснай званіцы, –
Salve, amici!

Васіль Зуёнак.

* Прывітанне, сябры (*лац.*)

**ДАВЕДКІ**

**Заданне 1.**

| | |
|---|---|
| калопні | *каноплі* |
| арэй | *аер* |
| радзюга | *дзяруга* |
| весліца | *лесвіца* |
| лапонік | *палонік* |

Каментарый:

Як вядома, *метатэза* (узаемная перастаноўка гукаў у межах аднаго слова) – фанетычная з'ява, якая сустракаецца ў розных мовах свету. Найчасцей яна ўзнікае пры засваенні запазычаных слоў і ў дзіцячым маўленні, бо для моўцы пры ўспрыманні новага слова важным з'яўляецца не паслядоўнасць гукаў, а іх якасць і колькасць, што лягчэй узнавіць у памяці і маўленні. *Метатэза* характэрна і для беларускага дыялектнага маўлення.

**Заданне 2.**

Правільны адказ: А3, Б4, В5, Г2.

**Заданне 3.**

***лес***

*лясісты* ('які густа зарос лесам; багаты лесам');
*ляснік* ('даглядчык, вартаўнік лесу');
*лесніко́ўна* ('дачка лесніка');
*лесніч́ыха* ('жонка лесніка');
*лясны* ('які мае адносіны да лесу, уласцівы яму; які мае адносіны да лесаводства');
*ляснічы* ('загадчык лясніцтва, спецыяліст па ляснной гаспадарцы');
*ляснí́чыха* ('жонка ляснічага');
*лясун* ('жыхар лесу, лясны дух').

Прынцып арганізацыі словаўтваральнага гнязда: сукупнасць слоў з тоесным коранем, ці словаўтваральнае гняздо, упарадкавана на падставе словаўтваральнай матывацыі, або лексіка-семантычнай і словаўтваральнай абумоўленасці.

**Заданне 4.**

| Значэнне фразеалагічнай адзінкі | Фразеалагічны адпаведнік |
|---|---|
| 'драмаць седзячы' | *акуні цягаць (табаку важыць; дзяды вадзіць; борухі вадзіць; носам вадзіць)* |
| *'распачаць якую-небудзь справу, лічачы здольным выканаць яе'* | калі з роду баравік, то лезь, браце, у кошык. |
| 'вельмі даўно' | *за дзедам шведам (за каралём Гарохам, як людзей было троху; не за нашай памяццю)* |
| *'неспадзявана, нечакана'* | ні села ні пала |
| 'невядома калі; ніколі' | *на святыя ніколі (на святыя Міколы або ніколі; на святы Адам; тады, хіба, перастане, як сарока бела стане)* |

**Заданне 5.**

Парыйніца – у *хлеве*, памыйніца – у *хаце*, палятушка – у *полі*, памятушка – у *таку*.

Каментарый:

Магчымыя варыянты адказаў, якія не супадаюць з арыгінальнымі, зафіксаванымі ў радках песні. Галоўнае, каб аўтар "убачыў", што значэнне прадмета і магчымае яго месца знаходжання трэба шукаць у спецыфіцы ўтварэння гэтых слоў, іх словаўтваральнай матывацыі, лексіка-семантычнай абумоўленасці.

**Заданне 6.**

Пры ацэнцы адказу неабходна ўлічваць, наколькі аўтар адчувае асаблівасці маўленчай сітуацыі і моўнай формы.

Так, для беларускага моўнага этыкету характэрна выразнае размежаванне паміж прывітаннем і развітаннем. Адпаведныя формулы адрозніваюцца яшчэ і на граматычным узроўні. Таму прывітанне *"Добрага часу сутак"* больш адпавядае сітуацыі развітання, для чаго традыцыйна выкарыстоўваецца форма роднага склону назоўнікаў: *Да (хуткай) сустрэчы! Да заўтра! Да пабачэння! Добрай ночы! Усяго добрага! Шчасця вам!* і інш.

Калі выкарыстоўваць гэтую універсальную формулу, якая здымае часавыя абмежаванні для ўдзельнікаў камунікацыі ў інтэрнэце, то форма *"Добры час сутак"* (хоць і яна з'яўляецца ненатуральнай, калькаванай) будзе адпавядаць сітуацыі прывітання.

У беларускім маўленчым этыкеце зафіксаваны неабходныя для гэтага маўленчыя сродкі: *Ад мяне табе ніжэйшае! (стыл.) Вітаю вас! Дабрыдзень! Дзень добры (вам) у хату! Дзень добры! Добры вечар у хату! Добры дзень (вам)! Добры ранак! Здаровенькія былі! Здаровы былі! Здароў быў! Здарова была! Здароў табе! Здароў! Маё шанаванне! Ніжэйшае шанаванне! Прывітанне! Прывітанне ў хату вам! Сардэчна вітаю!* і інш.

**Заданне 7.**

* * *

Старайся (але, вядома, не кату)
Сказаць адзіна верныя словы:
Замест: "О Божа, ды будзьце вы клятыя!"
Сказаць: "О Божа, ды ўстаньце здаровы!"

У. Караткевіч.

Тып сказа: складаны бяззлучнікавы сказ.

**Заданне 8.**

Правільны адказ: В.

Памылковыя пазіцыі ў іншых блоках:

А) аўтабіяграфічная проза пра Вялікую Айчынную вайну; арыентацыя на класічныя традыцыі рускай гістарычнай прозы;

Б) народны пісьменнік Беларусі; абагульнена-рамантычны спосаб тыпізацыі героя-персанажа.

**Заданне 9.**

Правільны адказ: Г – Максім Багдановіч, "У Вільні".

Абгрунтаванне: Можна прывесці наступныя аргументы.

У вершы апісваецца гарадскі пейзаж з рэаліямі пачатку XX ст. ("хлапцы, суюшчыя рэкламы", "разносчыкі ля кожнай брамы", "паравоз", "павадка фурманкаў"), адпаведна ён адносіцца да класічнай беларускай літаратуры. Урбаністычная лірыка характэрная найперш для Максіма Багдановіча. Яго творам уласцівыя: неўнармаванасць мовы, русізмы (для Багдановіча беларуская мова не была роднай); вобраз прыцішанага, няяркага святла (ліхтарні), які сустракаецца і ў многіх іншых творах (вобразы газніцы, свечкі, зор, месяца); вобраз неба без эмацыянальнай нагрузкі, без пафасных, як у Янкі Купалы, канатацый; аптымістычнае стаўленне, захопленасць лірычнага героя горадам і гарадскім жыццём (палярна супрацьлеглы вобраз – у раздзеле "Дзядзька ў Вільні" паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа). Паэтыка верша блізкая да імпрэсіяністычнай, бо фіксуе раптоўныя, імгненныя ўражанні і пачуцці лірычнага героя, выкліканыя рэаліямі жыцця, якія проста фіксуюцца і не ацэньваюцца. Усё гэта дае падставы сцвярджаць, што аўтарам прыведзеных радкоў з'яўляецца менавіта Максім Багдановіч.

Могуць быць прыведзеныя і іншыя аргументы, заснаваныя на асабістым успрыманні і індывідуальным чытацкім досведзе.

**Заданне 10.**

Над *спахмурнелым* Петраградам
Стаяла восень лістападам.
Бурліва хвалямі б'ючы
Ў краі сваіх *гранітаў стройных*,
Нява *стагнала*, бы ўначы
Ў пасцелі хворы неспакойна.
Было ўжо позна, змрок наплыў,
Сярдзіта ў шыбы *дождж бубніў*,
І вецер дзьмуў, і выў *з жальбою*.
З гасцей *у гэты час дамоў*
Яўгеній малады прыйшоў…
Мы будзем нашага героя
Зваць гэтым іменем. Яно
Гучыць прыемна; з ім даўно
Маё *здружылася пісанне*.
Не трэба нам яго празвання…

Пераклад Янкі Купалы (1937).

Падрыхтавалі
**Усевалад РАГОЙША,**
**Аляксандр РАДЗЕВІЧ.**

**Да ўвагі чытачоў!** У падзагалоўку плана-канспекта ўрока Алены Зяневіч (№ 7, с. 76) замест "у IX класе" трэба чытаць "у VIII класе".



# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*Скарбонка мудрасці*

## "МОМАНТ ІСЦІНЫ": РОЛЯ РОДНАГА СЛОВА Ў АДРАДЖЭННІ ДУХОЎНАСЦІ

**ЛІТАРАТУРНЫ МІНІ-ПРАЕКТ**

**Мэта праекта:** развіваць уменні вучняў даследаваць праблему, фарміраваць уласнае меркаванне; выхоўваць і стымуляваць цікавасць да роднага слова як сродку духоўнага адраджэння, да беларускай літаратуры і культуры.

### ХОД ПРАЕКТА

*Гучыць павольная музыка.*

**Настаўнік.** Роднае слова!.. Дзякуючы яму мы пазнаём жыццё, навакольны свет, вывучаем гісторыю народа, заглядваем у будучыню. Слова побач з чалавекам ва ўсіх яго стасунках з прыродай, грамадствам. Яно служыць крыніцай натхнення, дае асалоду самавыяўлення паэту, і суцяшае сэрца. Яно вядзе нас па жыцці, перасцерагае і ахоўвае. Слова – голас душы чалавека. Праз родную мову, праз слова адраджаецца душа чалавека, душа народа, душа нацыі.

Што адбылося з нашымі душамі? Чаму яны сталі санлівымі і бязбожнымі, захварэлі на хцівасць і ўпартасць, на славалюбства і чэрствасць? Як акрыліць нашы душы? Што і хто дапаможа нам? У чым паратунак? У чым ісціна? І ў чым заключаецца сапраўднае багацце чалавека? Калі душы чалавека будзе хораша і светла? Адказы на гэтыя пытанні мы паспрабуем знайсці, працуючы ў рамках нашага сённяшняга праекта, які мае назву «"Момант ісціны": роля роднага слова ў адраджэнні духоўнасці».

Удзельнікі праекта былі падзелены на групы – даследчыкаў, літаратуразнаўцаў, карэспандэнтаў, сацыёлагаў, паэтаў – і разглядалі праблему ў розных аспектах.

*На экране – словы: "На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог". Евангелле ад Іаана.*

*(Гучыць музыка. Пяць вучняў са свечкамі ў руках чытаюць словы малітвы з кнігі "Жыві сёння" Уладзіміра Ліпскага.)*

**Настаўнік.** Выратаванне душ людскіх, адраджэнне духоўнасці ў першую чаргу адбываецца ў храме. Нашы святары імкнуцца адрадзіць веру, іх намаганнямі распаўсюджваецца хрысціянская мараль, а самая галоўная задача святара, як адзначыў патрыярх Кірыл, наведаўшы Беларусь, "не даць сілам зла захапіць свядомасць людзей; і ў нашым зямным жыцці трэба сфарміраваць… чалавека, здатнага да зямнога жыцця, духоўна моцнага… які захавае ў сабе голас сумлення".

Групу "даследчыкаў" зацікавіла духоўная спадчына Уздзеншчыны. Вучні пазнаёмяць нас з вынікамі сваёй працы.

*(Выступленне вучняў з прэзентацыяй "Уздзенскі край – крыніца духоўнасці". Пасля слова бярэ айцец Аляксей, святар Свята-Мікалаеўскай царквы в. Магільна.)*

**Настаўнік.** Сапраўды, Уздзенскі край здаўна славіцца сваімі традыцыямі, багатай культурнай і духоўнай спадчынай. Усіх нас хвалююць высокія паэтычныя радкі Паўлюка Труса, Алеся Якімовіча, Пятра Глебкі, узнёслыя прызнанні ў любові да родных мясцін Алеся Пальчэўскага, Івана Гурскага, усім вядомыя творы Кандрата Крапівы, не перастаюць здзіўляць сваёй замілаванасцю і сучаснасцю творы аўтараў літаратурнага аб'яднання "Нёманец", а нашы святары яднаюць малітваю душы беларусаў, клічуць да вышынь духу, да якіх дадзена Богам узняцца чалавеку.

Адметнасць нашай нацыянальнай літаратуры ў яе высокай духоўнасці, нашы паэты, празаікі, драматургі сілай мастацкага слова ратуюць нашы душы. У першую чаргу варта ўзгадаць імёны Янкі Купалы, Пімена Панчанкі, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Васіля Быкава, Яўгеніі Янішчыц, Максіма Танка, Андрэя Макаёнка, Генадзя Бураўкіна, Віктара Праўдзіна, Георгія Марчука, Аляксея Дударава, Міхася Башлакова, Віктара Шніпа, Раісы Баравіковай, Зоі Падліпскай. Менавіта іх мы называем рыцарамі чалавечнасці, бо менавіта слова дапамагала змагацца за беларусаў і Беларусь.

*На экране – словы Васіля Быкава: "Літаратура павінна няспынна біць у свае званы, настойліва будзіць у людзях патрэбу ў высокай духоўнасці, без якой самы высокі прагрэс матэрыяльнай культуры будзе не ў радасць".*

Група “літаратуразнаўцаў” у сваёй працы звярнулася да твораў сучаснай беларускай літаратуры і цяпер падзеліцца сваімі думкамі і меркаваннямі.

*(Выступленне вучняў. Агляд твораў сучаснай беларускай паэзіі, прозы і драматургіі.)*

**Настаўнік.** Як бачым, многія героі твораў счарсцвелі, здзічэлі, у іх хворыя душы, дабро змагаецца са злом, ідзе няспынная барацьба за чалавека і чалавечнасць. Шматлікія творы сучасных аўтараў не могуць пакінуць нас раўнадушнымі, прымушаюць задумацца над сэнсам жыцця.

“Сацыёлагі” праводзілі анкетаванне сярод настаўнікаў і вучняў школы пытаннях, што хвалююць нас: як вы разумееце паняцце духоўнасці; як вырашаецца праблема духоўнасці ў сучасным грамадстве; ці можаце вы назваць творы беларускай літаратуры, у якіх раскрываецца тэма адраджэння духоўнасці; якую ролю вы адводзіце слову ў фарміраванні духоўнасці? Слова “сацыёлагам”.

*(Вучні паведамляюць вынікі даследавання і даюць слова намесніку дырэктара па вучэбнай рабоце Армоніку Сяргею Алегавічу.)*

**Настаўнік.** На старонках часопісаў і газет, па радыё і тэлебачанні таксама шырока асвятляецца тэма адраджэння духоўнасці. Наша група “карэспандэнтаў” зрабіла агляд часопісаў “Полымя”, “Маладосць”, “Неман”, “Роднае слова”, якія не толькі з’яўляюцца своеасаблівай трыбунай для выяўлення мастацкіх пошукаў пісьменнікаў, але і даюць магчымасць праз слова данесці да чытачоў высокую нацыянальную ідэю – ідэю адраджэння духоўнасці.

*(Вучні робяць кароткі агляд апошніх нумароў часопісаў, дзеляцца сваімі ўражаннямі і задаюць пытанні супрацоўнікам рэдакцыі часопіса “Роднае слова”.*

*Выступленне галоўнага рэдактара часопіса Зоі Падлiпскай.)*

**Настаўнік.** Нашы юныя паэты, члены гуртка “Жывое слова”, думаю, пагодзяцца з думкай, што наша мова, роднае слова служыць крыніцай натхнення, дае асалоду самавыяўлення творчым людзям, вядзе па жыцці. Трэба вельмі любіць жыццё, глыбока вывучаць мову, умець валодаць родным словам, каб данесці высокія думкі і пачуцці да людзей.

*(Слова аднаму з вучняў, члену гуртка “Жывое слова”. Вучні чытаюць уласныя вершы са зборніка “Роднай старонцы”, які быў адзначаны дыпломам другой ступені ў творчым конкурсе, праведзеным рэдакцыяй часопіса “Роднае слова”.*

*Гучыць музыка, вучні са свечкамі ў руках чытаюць словы малітвы з кнігі “Жыві сёння” Уладзіміра Ліпскага.)*

**Настаўнік.** Згадзіцеся, людзі павінны імкнуцца жыць па законах чалавечнасці.

*(Гучыць урывак з верша “А я малюся толькі аб адным…” Пімена Панчанкі.)*

Ці знайшлі мы адказы на пастаўленыя пытанні ў сённяшняй размове?

Што зрабілася з нашымі душамі? Чаму яны сталі санлівымі і бязбожнымі, захварэлі на хцівасць і ўпартасць, на славалюбства і чэрствасць? Як акрыліць нашы душы? Што і хто дапаможа нам? У чым паратунак? У чым ісціна? І ў чым заключаецца сапраўднае багацце?

*(Вучні адказваюць на прапанаваныя пытанні.)*

Калі душы чалавека будзе хораша і светла?

*(Члены гуртка “Жывое слова” адказваюць радкамі з твораў Ніла Гілевіча.)*

Вось ён, момант ісціны. Усё залежыць ад чалавека, ад чысціні яго душы, яго розуму. Сапраўдным багаццем з’яўляецца душа чалавека і слова. Душа – вечная, светлая, чыстая. Слова – сродак выяўлення душы чалавека, знак яго прысутнасці на зямлі, праз слова і адраджаецца душа беларуса, душа нацыі. Глыбокая думка пра сакральную сутнасць мовы закладзена ў выказванні Вацлава Ластоўскага: “Родная мова – гэта музыка душы, каторай Найвышні Стварыцель адарыў чалавека, гэта натуральны фундамент, на каторым чалавек павінен будаваць дом сваёй сілы духоўнай, свайго розуму, пачуцці дабра і зла, справядлівасці і крыўды…”

*(Словы дублiруюцца на экране.)*

Усе мы жывём на гэтай зямлі, марым, кахаем, верым у найлепшае.

Планеце, сусвету, нашым родным і блізкім патрэбны чулыя, спагадлівыя, проста добрыя людзі.

Давайце навучымся дзяліцца сваёй дабрынёй, ласкай, спагадай, міласэрнасцю.

Хай слова і вера ратуюць нас.

Памятайце, імкненне да духоўнага ўзвышэння спрадвечнае.

Хай святло гэтых свечак ачысціць вас, напоўніць вашы душы дабрынёй, любоўю і спагадаю.

Няхай множыцца скарбонка нашай духоўнасці праз глыбокую веру і вялікую любоў да Бога, да беларускага слова, бо слова – гэта адвечны голас душы!

*На экране – словы:*

*Слова – той абраз, на які павінен маліцца кожны з нас. Маліцца, бо ў красе слова хаваецца паратунак чалавечай душы, глыбокая повязь з неўвядальным і Боскім на зямлі. На пуцявінах жыцця і часу нам іншага не дадзена, як зноў і зноў пачынаць са слова, роднага слова самаахвярна ісці з ім, шукаць Святло, несці Праўду і Чалавечнасць!*

*Алесь Бельскі.*

**Любоў СОБАЛЬ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
Нёманскай дзяржаўнай агульнаадукацыйнай
сярэдняй школы імя І. Гурскага.

*Да Дня беларускага пісьменства*

# ХОЙНІКІ НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА

Традыцыя правядзення Дня беларускага пісьменства і друку бярэ пачатак у 1994 г., калі свята слова і кнігі ўпершыню прыняў Полацк. Па словах міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алега Праляскоўскага, за гэты час Дзень беларускага пісьменства стаў важнай падзеяй у культурным жыцці краіны, набыў агульнанацыянальны характар і асаблівую значнасць у кантэксце дзяржаўнай палітыкі падтрымкі беларускай мовы і літаратуры.

Сёлета першая нядзеля верасня стане незабыўнай для Хойнікаў – сталіцы чарговага Дня беларускага пісьменства. Каб атрымаць святочную эстафету, паміж гарадамі-прэтэндэнтамі існуе нават саперніцтва. Аднак аргкамітэт імкнецца прытрымліваецца справядлівага чаргавання абласцей, гарады якіх прымаюць прэстыжнае свята. Цяпер надышла чарга Гомельшчыны.

Можна сцвярджаць, што свята ў Хойніках будзе адрозніваецца ад папярэдніх. Упершыню мерапрыемства падобнага маштабу прыме Палессе – край з унікальнымі традыцыямі, асаблівай культурай і нават сваёй мовай, адрознай ад літаратурнай беларускай.

Сталіцы чарговага Дня беларускага пісьменства і друку хутка споўніцца 500 гадоў. Упершыню Хойнікі згадваюцца ў пісьмовых крыніцах пад 1512 г. як мястэчка Брагінскага павета Вялікага княства Літоўскага. А з сярэдзіны XVI ст. мястэчкам валодаюць князі Вішнявецкія, Шуйскія і Прозаравы. У першай палове XVII ст. у забалочанай пойме ракі Квеся Вішнявецкія пабудавалі замак з умацаванымі сценамі і ўязной вежай-варотамі. Аднак праіснаваў замак нядоўга – да XVIII ст. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Хойнікі як цэнтр воласці Рэчыцкага павета ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі.

У канцы XIX ст. насельніцтва Хойнікаў налічвала каля 2,7 тыс. жыхароў. Мястэчка мела 2 спіртзаводы, лесапільны і жалезаперапрацоўчы заводы, 2 вадзяныя млыны, 2 школы, 26 магазінаў, 2 гасцініцы, паштовую станцыю. У 1919 г. Хойнікі ўвайшлі ў склад РСФСР, а ў 1927 г. былі перададзены БССР. 29 верасня 1938 г. Хойнікам прысвоены статус гарадскога пасёлка Палескай вобласці. Горадам Хойнікі сталі адносна нядаўна – 10 кастрычніка 1967 г.

Развіццё горада ішло тэмпам звычайнага райцэнтра. Спакойнае і размеранае жыццё Хойніцкага краю перапыніла сумнавядомая дата – 26 красавіка 1986 г. З таго дня Хойніцкі раён стаў краем пакутлівым, а ў шматлікіх беларусаў гэтыя мясціны асацыіруюцца перш за ўсё з днём, калі выбух магутнай Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі болем ахутаў сэрцы нашых землякоў. Так сталася, што менавіта па Хойніччыне больш за ўсё прайшла хваля найбуйнейшай тэхнагеннай катастрофы мінулага стагоддзя. Мяркуйце самі: за дваццаць гадоў пасля аварыі з тэрыторыі, найбольш забруджанай радыенуклідамі, эвакуіравана больш за 20 тыс. чалавек, у выніку чаго колькасць насельніцтва раёна скарацілася ўдвая. Спынілі сваё існаванне 49 з 99 населеных пунктаў, шэраг вучэбных, медыцынскіх, культурна-асветніцкіх устаноў, пяць будаўнічых арганізацый, шэсць сельскіх саветаў, з выкарыстання выведзена 88 тыс. *га* зямлі, у тым ліку 34 тыс. *га* сельгасугоддзяў. Аднак калі яшчэ два дзесяткі гадоў таму, пасля чарнобыльскай трагедыі, людзі імкнуліся пакінуць край, то сёння ідзе актыўная будоўля горада, выдзяляюцца зямельныя надзелы – мясцовыя жыхары любяць свой край і не жадаюць з’язджаць з родных мясцін.

Прыведзеныя вышэй лічбы сваёй маштабнасцю пераўзыходзяць нават трагічныя ўспаміны пра Вялікую Айчынную вайну. Пад нямецка-фашысцкай акупацыяй Хойнікі прабылі 821 дзень – з 25 жніўня 1941 г. да 23 лістапада 1943 г., калі І Беларускі фронт вызваліў мястэчка. За час гітлераўскай акупацыі загінула каля 200 мірных жыхароў, а 26 вёсак напаткаў трагічны лёс Хатыні.

Такім чынам, Дзень беларускага пісьменства стане своеасаблівай кампенсацыяй краю за апошнюю чвэрць стагоддзя, пражытую з памяццю пра трагедыю.

Як толькі Хойнікі ўрачыста атрымалі эстафету на правядзенне Дня беларускага пісьменства ад сталіцы мінулага свята Смаргоні, у горадзе пачалася перманентная падрыхтоўка да 5 верасня, калі на Хойніччыне адбудзецца сустрэча з жывым словам, з удзельнікамі творчага працэсу па стварэнні кніг, газет, часопісаў.

Як правіла, горад, які сустракае Дзень беларускага пісьменства, упрыгожваецца-прыхарошваецца настолькі, што ледзь не цалкам мяняе сваё аблічча. Не абмінуў працэс аднаўлення і Хойнікі. Яшчэ на пачатку года кіраўнік Хойніцкага райвыканкама Аляксандр Бічан зазначыў, што горад набудзе новае жыццё. Жыхары дачакаюцца новага будынка, у якім гасцінна расчыняць дзверы гісторыка-краязнаўчы музей

і карцінная галерэя, а аматары спорту будуць захапляцца новым стадыёнам. Дададзім, што рэканструяваны таксама сядзіба XIX ст., гарадскі парк, Дом культуры і іншыя сацыяльна значныя аб'екты. У выніку, па словах кіраўніка Гомельскага аблвыканкама Аляксандра Якабсона, Хойнікі будуць непазнавальнымі, гэта будзе адзін з найлепшых райцэнтраў.

Кожны рэгіён Беларусі багаты на таленты. Не выключэнне і Хойнiччына. Самым вядомым ураджэнцам Хойніцкага раёна з'яўляецца народны пісьменнік Беларусі (1972) Іван Мележ. У яго роднай вёсцы Глінішча адкрыты літаратурны музей, імем славутага земляка названа школа. Найвялікшае творчае дасягненне пісьменніка – трылогія "Палеская хроніка", сапраўдная энцыклапедыя жыцця людзей на Палессі. За раманы "Людзі на балоце" (1961) і "Подых навальніцы" (1964 – 1965) І. Мележу была прысуджана Ленінская прэмія (1972).

У вёсцы Бабчын нарадзіўся паэт, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі. У 1998 г. паэт атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі за кнігу "Бабчын" (1996) – своеасаблівы помнік роднай вёсцы, адселенай у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Радзіме прысвечаны і зборнікі "Палескі смутак" (1991), "Хойніцкі сшытак" (1999) і інш. У Бабчыне нарадзіўся таксама этнограф і фалькларыст Часлаў Пяткевіч, які прысвяціў жыццё даследаванню матэрыяльнай і духоўнай культуры Палесся, заняткаў і павер'яў палешукоў.

Багатая на творчыя асобы вёска Вялікі Бор. Асаблівую вядомасць прыдбалі браты Сачанкі – Барыс і Іван. Барыс, старэйшы з братоў, у 1982 г. атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі за кнігу "Ваўчыца з Чортавай Ямы" (1978), у 1991 г. – Літаратурную прэмію імя І. П. Мележа за кнігу крытыкі і публіцыстыкі "Мне сняцца сны аб Беларусі…" (1990). Іван Сачанка – доктар гістарычных навук, заслужаны журналіст Рэспублікі Беларусь, даследчык публіцыстыкі беларускіх пісьменнікаў, адзін з аўтараў падручніка "Гісторыя беларускай журналістыкі" (1979). З Вялікага Бора таксама паходзяць пісьменнікі Змітро Бяспалы і Алесь Шлег.

Вёска Небытаў – радзіма паэтэсы Алы Канапелькі. Акрамя арыгінальнай творчасці яна займаецца перакладамі: на беларускую мову ёй перакладзены зборнік арабскіх казак "Тысяча і адна ноч" (1998) і асобныя творы балгарскіх пісьменнікаў. У адселенай вёсцы Ламачы нарадзіўся пісьменнік, настаўнік, журналіст Аркадзь Кандрусевіч. Вёска Партызанская – малая радзіма пісьменніка Аляксандра Сопата.

Хойнiччына падарыла краіне і мастакоў, сярод якіх вылучаецца ўраджэнец вёскі Клівы тэатральны мастак Уладзімір Гардзеенка. Ён працаваў галоўным мастаком Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, аформіў спектаклі "На ўсіх адна бяда", "Партызанская зона" (абодва – 1976), "Міколка-паравоз" (1977), "Эдзіт Піяф" (1978) і інш. У вёсцы Стралічава нарадзіўся мастак Уладзімір Зінкевіч – заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Адселеная вёска Радзін – радзіма мастака Юрыя Сергіенкі.

У вёсцы Барысаўшчына нарадзіўся скульптар Ігар Краўчанка, аўтар шэрага помнікаў савецкім воінам і партызанам, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны, а таксама бюстаў Якуба Коласа (1968, Мікалаеўшчына) і Канстанціна Заслонава (1971, чыгуначная станцыя "Заслонаў" Лепельскага раёна) і некалькіх мемарыяльных дошак у Мінску.

Адселеная вёска Баршчоўка – радзіма народнай артысткі Беларусі Раісы Кашэльнікавай. Працавала ў БДТ-2 і Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Сярод сцэнічных увасабленняў: ролі Паўлінкі ("Паўлінка" Я. Купалы), Аўгінні ("У пушчах Палесся" Я. Коласа), Клавы ("Мілы чалавек" К. Крапівы), Куліны ("Людзі на балоце" паводле І. Мележа) і іншыя.



**Хата-музей Івана Мележа на радзіме пісьменніка ў в. Глінішча.**
Фота Сяргея Халадзіліна.

На жаль, Хойніцкі край небагаты на помнікі архітэктуры. У раённым цэнтры госця зацікавіць, у першую чаргу, сядзіба, пабудаваная на мяжы XIX – XX стст. Яна ўключае сядзібны дом – помнік эклектычнай архітэктуры, і парк, засаджаны пераважна мясцовымі пародамі дрэў – асінамі, ліпамі, клёнамі. Менавіта тут 5 верасня адкрыецца экспазіцыя Хойніцкага краязнаўчага музея.



**Хойнікі. Сядзібны дом.** Фота Андрэя Дыбоўскага.

У памяць пра чарнобыльскі боль у Хойніках з'явілася Свята-Пакроўская царква, ініцыятарам будаўніцтва якой быў айцец Уладзімір. Над будынкам сямікупальнай з залатымі крыжамі святыні працавалі мастакі з Украіны і Санкт-Пецярбурга. Колькасць купалаў сімвалізуе сем таінстваў Праваслаўнай царквы. Ад старой царквы ў спадчыну засталася галоўная святыня краю – ікона Божай Маці "Благадатнае неба", падараваная царкве князем Трубяцкім у час сватання да хойніцкай князёўны, дачкі князя Шуйскага. Царква, закладзеная Трубяцкім у 1705 г., у 1922 г. была разбураная багаборчай уладай. А адбудавалася ўжо пасля чарнобыльскай трагедыі.

У Глінішчы, што за 26 *км* на захад ад Хойнікаў, варта наведаць літаратурны музей Івана Мележа.

Дзень беларускага пісьменства, як заўсёды, мяркуецца правесці тэатралізавана, з узнагародамі і ўдзелам замежных гасцей. У аснову сцэнарыя адкрыцця свята будуць пакладзены эпізоды з твораў Івана Мележа, а таксама іншых беларускіх празаікаў і паэтаў, якія ў сваёй творчасці згадвалі Палессе. Падчас мерапрыемства адбудзецца круглы стол на радзіме класіка з удзелам пісьменнікаў з Расіі, Славакіі, Казахстана, Сербіі, Чарнагорыі, Літвы, Балгарыі, Польшчы на тэму "Літаратура як сродак міжкультурнага дыялогу", а таксама навукова-практычная канферэнцыя "Хойніцкія чытанні". Месцам правядзення мерапрыемстваў стане вёска Глінішча, а цэнтрам свята – галоўная плошча горада каля будынка райвыканкама, а таксама гарадскі парк.

Творчасць Івана Мележа ў якасці асновы абрана невыпадкова. Па-першае, 8 лютага 2011 г. будзе адзначацца 90-гадовы юбілей пісьменніка, а па-другое, трылогія "Палеская хроніка" не толькі прызнаная часам энцыклапедыя палескага жыцця, але і, паводле аднаго з сацыялагічных апытанняў, самы папулярны твор сярод беларусаў. Аднак як слушна заўважыў Аляксандр Бічан, не трэба цалкам асацыіраваць Хойнікі з раманам Івана Мележа "Людзі на балоце". Цяпер там іншае жыццё! Дарогі большай часткай асфальтавыя, мабільная сувязь пакрывае ледзь не 100% тэрыторыі рэгіёна.

Сцэна летняга амфітэатра на галоўнай плошчы горада стане цэнтрам уручэння ўзнагарод пераможцам нацыянальных конкурсаў "Мастацтва кнігі-2010" і Рэспубліканскага конкурсу на лепшыя творы паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі і дзіцячай літаратуры.

Тут жа, на цэнтральнай плошчы, для жыхароў і гасцей Хойнікаў выступяць мастацкія калектывы Гомельскай вобласці, а ўвечары адбудзецца канцэрт з удзелам выканаўцаў беларускай эстрады. У гарадскім парку традыцыйна можна будзе пазнаёміцца з апошнімі дасягненнямі ў сферы выдавецкай дзейнасці, пройдуць тэматычныя выставы, выставы "Белсаюздруку", вядучых рэспубліканскіх перыядычных выданняў і выданняў Гомельшчыны. У якасці шыкоўнага дапаўнення да мерапрыемства – прэзентацыі новых кніг, спартыўная праграма на гарадскім стадыёне, свята народнага мастацтва ў Горадзе майстроў і беларускага кіно ў кінатэатры "Юбілейны".

Свята беларускага пісьменства – дзень асаблівы. Дзень, калі мы аддаём даніну павагі нашым продкам, якія заклалі фундамент адукацыі і пісьменства, усім, хто на працягу стагоддзяў шанаваў і нёс у свет цудоўную беларускую мову, хто ўпрыгожыў айчынную і сусветную культуру сваімі бессмяротнымі творамі.

Падрыхтаваў
**Аляксандр КАНАНОВІЧ.**



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ І СУСВЕТНАЯ КУЛЬТУРА

*Скарбніцы мудрасці*

Юры ЛАЎРЫК

## ЛЁС ЛЕШЧАНСКАЙ КНІЖНІЦЫ

Да праблемы вывучэння кніжных збораў пінскага Лешчанскага манастыра аўтару гэтых радкоў ужо даводзілася звяртацца раней*. Аднак за апошнія тры гады былі выяўлены цікавыя матэрыялы, якія дазволілі зірнуць на лёс лешчанскіх кнігазбораў па-новаму. Згадаем і некаторыя ўжо вядомыя факты манастырскай гісторыі.

Пінскі Лешчанскі Успенскі** манастыр (часам называны ў дакументах Лешчам) быў адным з найстаражытнейшых на Беларусі – першая згадка пра яго паходзіць з XIII ст. і звязана з асобай Войшалка, які хаваўся там ад ворагаў. Лёс манастыра досыць пакручасты. Заснаваны як праваслаўны, з часам ён, як шэраг іншых манастыроў усходняй традыцыі, далучыўся да уніі, што істотна адбілася на велічыні і складзе яго бібліятэкі. Напрыканцы першай трэці XVII ст. манастыр належаў уніятам, бо знаходзіўся пад юрысдыкцыяй Васілісы Сапежанкі, тагачаснай ігуменні віленскага Траецкага манастыра. У 1633 г. ён перайшоў у падпарадкаванне мітрапаліту кіеўскаму Язэпу Руцкаму і яго каад'ютару епіскапу пінскаму Рафаілу Корсаку; прычым у акце пазначана, што калі манахі пастановяць адлучыцца ад уніі, манастыр павінен вярнуцца ў каралеўскае распараджэнне [1, с. 12 – 13]. У сярэдзіне XVII ст. ён, здаецца, усё-ткі стаў праваслаўным, паколькі яго ігуменам значыцца Язэп Нелюбовіч-Тукальскі, праваслаўны біскуп магілёўскі і мітрапаліт кіеўскі. Але ў 1668 г. Лешч зноў грэка-каталіцкі і так да 1839 г., калі і унія, і сам манастыр скасаваныя. Кніжніца ж Лешчанскага манастыра, як адзначыў адзін з першых даследчыкаў гісторыі бібліятэк у Рэчы Паспалітай Францішак Радзішэўскі, была вывезеная: "…po skasowaniu opactwa wywieziona stąd" [2, с. 38].

Пра тое, якія кнігі зберагаліся ў Лешчы напачатку, звестак, на жаль, не захавалася. Верагодна, яны былі рукапісныя і мусілі задавальняць патрэбы манахаў у малітоўнай ды літургічнай літаратуры. Да слова, яшчэ ў XVII ст. у манастыры існаваў скрыпторый, дзе кнігі перапісваліся для ўласных патрэб і на замову. Пра гэта мы ведаем з нататкі пісальніка на зборніку царкоўных правіл Занара: *"Влѣто ѿ сътвореніѧ мира ҂ЗР҃МВ, а иже ѿ по плоти рожества Г[оспод]а Б[ог]а и Сп[а]са нашего Іс[уса] Х[рист]а ҂АХ҃ЛД [1634] м[есяц]а марта К҃В [22] днѧ написана быс[ть] сіѧ книга гл[аголе]маѧ греческимъ ѧзыкомъ Номоканонъ. нашимъ же ѧзыкомъ сказаемаѧ Законꙋ правило… Съвершиже сѧ въ Б[о]госпасаемом граде Пинску. при благочестивомъ еп[и]с[ко]е того града Рафаиле Корсакꙋ в монастырꙋ Лещꙋ. повеленіемъ настоятеля… на тот час чесного ѿца Іѡана Дубовича. и накладомъ чꙋдотворныя Лавры Жировицкіѧ…"* [3, с. 387].

Найранейшы вопіс лешчанскага кнігазбору змяшчаецца ў манастырскім інвентары 1588 г., знойдзеным З. Даўгялам у колішнім Віленскім цэнтральным архіве. Гэты інвентар публікаваўся ў 1908 г. у "Минских епархиальных ведомостях" [4, с. 244 – 253] і потым як асобная брашура [5]. Ён пачынаецца з апісання дзвюх манастырскіх цэркваў – Успення Найчысцейшай Багародзіцы і Святога Духа, – а таксама іх маёмасці. Тут мы спярша сустракаем *"Евангелие напрестольное писаное, оксамитом чорным поволочено, сребром оправлено, позлотисто и з защепками сребромыми"*, а далей пералічваюцца *"книги тых церквей"*: *"Евангелие напрестольное на паргкамене писаное, полуоксамитом чорным крытое, з чотырма евангелисты на меди со крестом медя-*

---

* **Лаўрык, Ю.** Кнігазборы пінскага Лешчынскага манастыру / Ю. Лаўрык // Наша вера. – 2007. – № 4. – С. 58 – 62; **Лаўрык, Ю.** Кнігазборы Пінскага Лешчынскага манастыру : Новыя знаходкі / Ю. Лаўрык // Берасцейскія кнігазборы : мат. міжнар. навук. канф. (Брэст, 30 – 31 кастр. 2008) [знаходзіцца ў друку].

** Пінскі Лешчанскі манастыр існаваў у XIII ст. – 1839 г. у прыгарадзе Пінска Лешча (адсюль і напісанне *Лешчанскі*, часам сустракаецца варыянт *Лешчынскі*, утвораны ад *Лешч*, або нават *Ляшчынскі*). Першапачаткова храм Лешчанскага манастыра быў асвечаны ў гонар Нараджэння Багародзіцы, аднак новы храм, пабудаваны ў 1580 – 1584 гг., стаў Успенскім. Таму можна сустрэць розныя назвы: Лешчанскі манастыр Нараджэння Багародзіцы, Лешчанскі Успенскі манастыр (гл. БелЭн: у 18 т. – Мінск: БелЭн, 2001. – Т. 12. – С. 371). – *Заўвага рэд.*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 3.*
*Тамсама апублікаваны яго артыкул "Кнігазбор Успенскага жаночага манастыра ў Куцейне" з цыкла "Скарбніцы мудрасці".*

*ным позлотистым, евангелие другое напрестольное на папери писаное, на нем крест сребра грошового, Евангелие учительное на папери писаное. Апостол в полдеста писаный. Устав, в дест на паперы писаный. Охтайки два на всю осм гласов. Прелоги два на всю дванадцать м[еся]цей. Соборник великий на двенадцать м[еся]цей. Меней дванадцать в полъдест. Трыоди две, одна цветная а другая постная. Книга лествица в полдест. Книга Исак Сирин в дест, Псалтыр в полъдест писаная – Богородичник в полъдест, Часослов в полъдест Ермолоец з знаменем. Служебников два – один старый в полъдест, а другий в четверку. Поминник в полдест*" [4, с. 247 – 249].


**Кніга Фікарыя Святагорца з надпісам, што сведчыць пра яе бытаванне ў Лешчанскім манастыры (захоўваецца ў фондах НГМ РБ).**

Як бачым, ён уключае традыцыйны набор кніг, што выкарыстоўваліся Праваслаўнай царквой у літургічнай і пастырскай практыцы. Так, Евангелле і Апостал выкарыстоўваліся для чытанняў падчас набажэнства; ва "Уставе" выкладаліся правілы богаслужэння; паводле служэбнікаў адпраўлялася літургія, а паводле "Часоўніка" – дзённае набажэнства; "Актоіхі", "Трыёдзі", "Багародзічнік" і "Ірмалой" змяшчалі рознага роду царкоўныя спевы; "Лествіца" і "Кніга Ісаака Сірына", як і Евангелле Навучальнае, уяўлялі з сябе зборнікі айцоў царквы, прыдатныя для падрыхтоўкі нядзельных казанняў і асабістага пабожнага чытання манахаў.

Яшчэ некалькі інвентароў манастырскай маёмасці перадунійнага ды раннеунійнага часу, якія ўключаюць у тым ліку і спісы кніг, апублікаваныя А. Мілавідавым у брашуры "Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря" [6, с. 10 – 15]. Ранейшы сярод іх паводле храналогіі вопіс манастырскіх кніг 1595 г., змешчаны ў дакуменце "Сдаточный инвентарь Пинского Лещинского монастыря…". Прынцыповых змен адносна прадстаўленага вышэй ён не фіксуе: зменшылася агульная колькасць пазіцый, і тое за кошт кніг пабожных. У інвентары згадваецца няўнасць наступных кніг: "*…напрестольное Евангеліе на чорномъ оксамите іест срыбромъ оправное злотыстое, защепок нет… евангеліе толковое естъ, одынъ соборникъ ест, охтаиковъ два ест, на осмъ гласовъ, апостолъ Петр естъ один, трыодъ цветная одна, устав одынъ, прелогъ одынъ Марцовый, минея общчая естъ, минея Іюневая естъ, суботникъ одынъ, псалтыр одынъ*" [6, с. 11 – 12].

У інвентары 1620 г. кніг трохі пабольшала, але ненашмат: "*На престоле евангеліе на полъ десты писаное, желизомъ оправное… въ той церкви книги Треоди две, посная и цветная, друкованые, охтаиковъ два писаных на осмигласов, апостолъ друкованый оденъ, Петръ оденъ, а другий писаный, уставъ писаный оденъ и… друкованый, трефологій списаный, миний оправныхъ деветь, десятая миния старая, служебникъ друкованый оденъ, служебникъ писаный оденъ, часовниковъ друкованыхъ старыхъ два*" [6, с. 18 – 19]. Як бачым, у абодвух выпадках прысутнічае толькі літургічна-малітоўная літаратура, і яе лік не перавышае нават двух з паловай дзесяткаў тамоў.

Далей, на вялікі жаль, мы маем прабел у інвентарах бібліятэкі ажно на два стагоддзі. Нельга сказаць, як дакладна фарміраваліся лешчанскія кнігазборы ў гэты час. Мы можам бачыць толькі вынікі гэтага працэсу – у польскамоўных матэрыялах візітацый манастыра XIX ст., што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі [7, арк. 9-9 адв., 12; 8, арк. 5-5 адв., 8 – 10].

Інвентарны вопіс 1820 г. змяшчае 2 спісы, цікавыя для нас, – кнігазбору пры манастырскіх цэрквах і ўласна бібліятэкі: "Księgi Cerkiewne" ("Царкоўныя кнігі") і "Biblioteka klasztoru Leszczyńskiego" ("Бібліятэка Лешчанскага манастыра") [8, арк. 5-5 адв., 8 – 10]. Першы з іх у значнай ступені перакрыжоўваецца з цытаванымі вышэй вопісамі XVI – XVII стст. Істотнае яго адрозненне ў тым, што дадаліся кнігі для лацінскай багаслужбы (*мшал, агенды*). Такім чынам, у спісе прысутнічае прыкладна 19 назваў у 41 томе на 3 назвы ў 5 тамах кніг польскіх ды лацінскіх – безумоўна, наколькі дакладна іх можна размеркаваць з увагі на вельмі кароткую форму апісання.



**Успенская царква Лешчанскага манастыра** (паводле: Утраченные памятники Пинщины: Комплект из 14 открыток. Пинск, 2000. © газ. "Пінскі веснік").

Аднак калі ў першым спісе пераважае літаратура кірылічная, дык у другім выпадковыя кірылічныя выданні папросту губляюцца ў масе польскіх ды лацінскіх. Гэты спіс змяшчае 183 пазіцыі ў 236 тамах, але толькі некалькі з іх кірылічныя, напрыклад *"Akafist do Swiętego Mikołaja"* (*"Акафіст св. Мікалаю"*) ці *"Ewangeliczka na niedziele i święta podług obrządku greckiego"* (*"Евангелічныя чытанні на нядзелі і святы паводле грэцкага абраду"*) – відаць, Евангелле-апракас. Інакш кажучы, уласна бібліятэка сваім складам не вылучаецца сярод тагачасных кляштарных кнігазбораў.

Іншы рэестр (1839) адлюстроўвае стан збору непасрэдна перад скасаваннем манастыра і вывазам з яго бібліятэкі. Ён, як і папярэдні, складаецца з дзвюх частак: "Księgi Cerkiewne do Nabożeństwa" ("Царкоўныя кнігі для набажэнства") [9, арк. 7 адв.] і "Biblioteka klasztorna" ("Манастырская бібліятэка") [10, арк. 9-9 адв., 12; 8, арк. 5-5 адв., 8 – 10, адв.]. Першая частка вельмі блізкая да аналагічнага спіса 1820 г. – дадалася толькі кніга *"Medytacye czyli Myśli chrześcijańskie na rok cały rozłożone"* (*"Медытацыі, або Хрысціянскія разважанні, раскладзеныя на ўвесь год"*) кс. П. Пярновіча. Пра ўласна ж бібліятэку напісана, што яна захоўваецца ў адной з закрыстыяў, называнай *скарбчыкам*, і змешчана ў шафе з падвойнымі дзверкамі на завесах.

Колькасны і сутнасны склад кнігазбору на гэты час не вельмі розніцца ад папярэдняга, але сам інвентар з бібліяграфічнага пункту гледжання арганізаваны іначай: па-першае, як неабходны элемент апісання пры кожным выданні пададзена колькасць тамоў, па-другое, кнігі ўжо не даюцца суцэльным спісам, як раней, а сістэматызаваныя паводле прадметных рубрык. У вопісе прысутнічае нумарацыя пазіцый паводле раздзелаў; адна пазіцыя, за рэдкім выключэннем, адпавядае адной кнізе. Наколькі можна меркаваць з тытулаў, пераважная большасць выданняў лаціна- ды польскамоўныя.

Распачынае спіс прадметная рубрыка, якая змяшчае найбольш аўтарытэтныя кнігі – "Pismo Swięte" ("Святое Пісанне"). Тут прадстаўлены 8 выданняў, што рэпрэзентуюць Біблію або пэўныя яе часткі (Новы Запавет, Псалтыр). З найбольш вядомых моўных версій біблійных кніг прысутнічаюць Святое Пісьмо ў польскім перакладзе кс. Якуба Вуйка і вершаваны Псалтыр Яна Каханоўскага.

Другая рубрыка спіса "Księgi Teologiczne" ("Кнігі па тэалогіі") змяшчае 18 выданняў, прычым некаторыя можна назваць тэалагічнымі, хутчэй, у шырокім сэнсе: *"Liturgia albo Opisanie Mszy S[więtey]."* (*"Літургія, або Апісанне св. імшы"*), *"Nauka dla poczynających słuchać spowiedzi"* (*"Павучэнне для тых, хто пачынае слухаць споведзі"*) кс. Вітвіцкага ці *"Institutio Juris Canonici"* (*"Асновы кананічнага права"*) Л. Фарыяры. Пераважаюць працы па агульнай, дагматычнай і маральнай тэалогіі: *"Teologia dogmatyczna"* (*"Дагматычная тэалогія"*) кс. А. Кірыята, некалькітамовы *"Apparatus Universae Theologiae Moralis"* (*"Дапаможнік па маральнай тэалогіі"*) Ратарыуса і інш.

Наяўнасць рубрыкі "Dzieła Mowcow i Poetow" ("Творы аратараў ды паэтаў"), а асабліва размяшчэнне яе на ганаровым трэцім месцы, паказвае, што пры Лешчанскім манастыры мелася школа. Тут пералічаны 26 назваў, якія рэпрэзентуюць як уласна выданні прамоў ды паэм, так і тэарэтычныя працы па рыторыцы, паэтыцы, нават этыцы; шэраг з гэтых кніг можна ахарактарызаваць як класічныя: сярод іх *"Epistolae"* (*"Лісты"*) і *"Orationes"* (*"Прамовы"*) Цыцэрона, *"Orationes seu Exercitationes oratoriae"* (*"Прамовы, або Практыкаванні ў рыторыцы"*) і *"Poesis sive Divinior modus loquiendi"* (*"Паэзія, або Натхнёны спосаб маўлення"*) Важынскага, *"Institutiones Poeticae"* (*"Асновы паэтыкі"*) і інш. Сюды трапілі і некалькі твораў, хутчэй, агіяграфічнага характару – відаць, з увагі на іх мастацкую форму: *"Jozafatidos sive de nece B. Josaphat Kuncewicz"* (*"Язафатыды, або Пра смерць блаславёнага Язафата Кунцэвіча"*) і *"Epiceum de martire Bobola"* (*"Спеў пра мучаніцтва Баболі"*).

Прамовы царкоўныя вылучаны ў асобным раздзеле "Dzieła Kaznodzieyskie" ("Прапаведніцкія творы"). Ён налічвае 19 кніг, сярод якіх славутая *"Biblioteca Concionatorum"* (*"Бібліятэка прапаведнікаў"*) Гудрыя, а таксама разнастайныя зборнікі казанняў папулярных у той час аўтараў: Высоцкага – *"Adwent z Postem"* (*"Адвэнт з Постам"*) ды *"Kazania swiąteczne"* (*"Казанні на святы"*), Пашакоўскага – *"Kazania niedzielne i świąteczne przez cały rok"* (*"Казанні на нядзелі і святы ўсяго году"*), Бальсама – *"Kazania na niedziele całego roku"* (*"Казанні на нядзелі і святы ўсяго году"*) і інш.

Як і належала чакаць, рубрыка "Dzieła Ascetyczne" ("Творы па духоўным дасканаленні") самая шматлікая – у ёй 43 пазіцыі. Кнігі прысвечаны рознага роду духоўным практыкаванням і медытацыям*, рэкалекцыям, малітве, падрыхтоўцы да смерці і г. д. Згадаем толькі некалькі: з польскіх – *"Medytacye"* (*"Медытацыі"*) Пялькевіча, *"Zbior powinnosci chrzescijanskich"* ("Збор абавязкаў хрысціяніна") Віткоўскага, "Medytacye i modlitwy" (*"Медытацыі і малітвы"*) Александровіча, з лацінскіх – *"De vanitatis mundi"* (*"Прамарнасць гэтага свету"*) Герхарда, *"Speculum homini Ecclesiastico"* (*"Люстра ўцаркоўленага чалавека"*). Безумоўна, прадстаўлены ў гэтым раздзеле і славуты трактат Тамаша Кемпійскага (папольску) *"O Naśladowaniu Chrystusa"*, без якога не абыходзілася, бадай, ніводная кляштарная бібліятэка таго часу. Сюды ж трапілі і некалькі палемічных кніг, як *"Obrona Religii Greko-Rossyjskiej, z Kościołem Łacińskim zjednoczonej"* (*"Абарона Грэка-рускага вызнання, з Лацінскай царквой з'яднанага"*).

У раздзеле "Dzieła Historyczne i Zywoty SS. Pańskich" ("Творы па гісторыі і жыцці Гасподніх святых"), як добра відаць з назвы, сабраны творы гістарычныя і агіяграфічныя, у тым ліку і свецкія: *"Zbior dziejow Polskich"* (*"Гісторыя Польшчы"*) Марціна Кромера, *"Commentarium belli adversus Turensis Hungariae"* (*"Нататкі пра вайну з туркамі ў Венгрыі"*). Тут базыльянскі характар кнігазбору праяўляецца, бадай, найяскравей: праз наяўнасць такіх кніг, як *"Żywoty świętych Pańskich płci obojej Z. S. B. W."* (*"Жыцці Гасподніх святых абодвух палоў чыну святога Базыля Вялікага"*) або *"Cedr mistyczny S°. Bazylego W°"* (*"Кедр містычны св. Базыля Вялікага"*), а фаліянт, азначаны *"Żywoty Świętych na cały rok rozłożone"* (*"Жыцці святых, раскладзеныя на дні ўсяго года"*), з пэўнай ступенню верагоднасці можа з'яўляцца кірылічным пралогам ці чэццямі-мінеямі.

І завяршае інвентар бібліятэкі рубрыка "Dzieła rozmaite" ("Творы рознай тэматыкі"), якая змяшчае літаратуру, што не ўвайшла ў іншыя раздзелы.

Тут прысутнічаюць творы, што адлюстроўваюць базыльянскую канцэпцыю манаства (у тым ліку некалькі зборнікаў правіл манаскага жыцця Базыля Вялікага), шмат мовазнаўчых выданняў (слоўнік Кнапіуса і Вагнера, падручнік Альвара і інш.), а таксама кнігі па праве, геаграфіі, філасофіі, ветэрынарыі і інш. Асобна стаяць два дапаможнікі, як гнаць гарэлку: адзін аўтарства Брэйтэнбаха, другі – Меймера, а таксама кніга пра ўжываны ў Гданьску спосаб яе ачысткі.

Так у агульных рысах выглядала лешчанская кніжніца непасрэдна перад вывазам яе з манастыра. Але ці захавалася хоць штосьці з яе фонду сёння? Ці ўсё было знішчана ў полымі на загад Іосіфа Сямашкі, калі пасля скасавання уніі багатыя базыльянскія кнігазборы з усёй Беларусі звозіліся ў Жыровічы і спальваліся там у манастырскіх печах [11, с. 496 – 497]?

Пошук у спецыяльнай літаратуры і кнігасховах буйных бібліятэк ды музеяў паказаў, што не ўсё загінула. На сёння выяўлена з паўдзесятка кніг, тым ці іншым чынам звязаных з Лешчам.

Перш за ўсё гэта перапісаны лешчанскім іераманахам Нікадзімам Казіцкім у 1634 г. на замову Жыровіцага манастыра "Номаканон". Кніга пісана паўуставам на 854 старонках фарматам in folio. З Жыровічаў манускрыпт паступіў у Віленскую публічную бібліятэку, а сёння захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (F19 – 242). Да рэвалюцыі яго апісаў Ф. Дабранскі [3, с. 387], а ў наш час вывучаў М. Нікалаеў [12, с. 203, 206, 225].

Адзінае вядомае сёння кірылічнае старадрукаванае выданне, якім некалі карысталіся ў Лешчанскім манастыры, захоўваецца ў калекцыі "Старадрукаваныя кнігі" Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь (КП 10278/33). Гэта выдадзены ў Вільні ў 1620 г. Свята-Духаўскім праваслаўным брацтвам "Вертаград душэўны" Фікарыя Святагорца. Згаданы асобнік асабліва цікавы тым, што мае на аркушах 3 – 5 у ніжнім полі запіс: *"Сию Книжку позволилемъ зажывати // В отцъ[х] Капитону на тотъ час инокови / монастыра Лещынского… (зрэзана) // Eusebi Wąsiacki O[rdinis] M[agni] B[asilii] y B[ISKU]P"*. Шматлікія кінаварныя адзнакі ў розных месцах кнігі (напрыклад, *"в Н[е]д[е]лю Рано."* *"чести Бл[а]гоговейно."*) паказваюць, калі і як тыя ці іншыя малітвы меліся чытацца, – неацэнныя звесткі для будучых даследчыкаў беларускай літургікі.

Некалькі лацінскіх кніг з лешчанскімі пазнакамі захоўваюцца сёння ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, і аўтар гэтых радкоў, карыстаючыся магчымасцю, выказвае шчырую падзяку Таццяне Рошчынай, якая дапамагла выявіць іх у шматтысячным фондзе.

Перш за ўсё сярод гэтых кніг назавем апублікаваную ў 1653 г. у Рыме працу *"De bello belgico"*

---

* **Медытацыя** – ад 'роздум, самапаглыбленне'. – *Заўвага рэд.*

("Пра бельгійскую вайну") Фаміяна Страды [13]. Асобнік апраўлены ў пажоўклы пергамін на кардоне, без аздаблення. Аправа нагадвае тагачасныя заходнееўрапейскія. Кніга мае некалькі інскрыпцый, якія праліваюць святло на яе бытаванне. На форзацным аркушы прысутнічае ўладальніцкі надпіс Лешчанскага манастыра: *"Ex Libris Samuelis Joannis Wierzbicki"* (*"З кніг Самуэля Яна Вярбіцкага"*), а таксама некалькі разоў паўтораная спроба пяра: *"Joannes Joannes Joannes… Josafat"*. На тытульнай старонцы – уладальніцкі надпіс, пакінуты бібліятэкарам-базыльянінам: *"Bibliotheca Monasterij Leszczyniensis"* (*"Бібліятэка Лешчанскага манастыра"*).

З гэтага можна меркаваць, што першым ці адным з першых уладальнікаў кнігі быў Самуэль Ян Вярбіцкі. Прозвішча на Беларусі даволі пашыранае; на жаль, у генеалагічнай літаратуры не знайшлася інфармацыя пра такую асобу. У надпісе таксама адсутнічаюць звесткі, якія бліжэй характарызавалі б Самуэля Яна, указвалі б на прыналежнасць да духоўнага або свецкага стану ці да пэўнага закону (ордэна). Аднак тое, што ў спробах пяра імя *Ян* суаднесена з імем *Язафат* – а культ св. Язафата Кунцэвіча быў пашыраны ў той час як у Грэка-каталіцкай царкве наагул, так і ў базыльянскім законе ў прыватнасці, – схіляе да думкі, што аўтар інскрыпцыі грэка-каталік і, магчыма, базыльянін.

Такая трактоўка гэтых надпісаў дае гіпатэтычны адказ адразу на два пытанні: якім шляхам выданне трапіла на Беларусь і чаму кніга апынулася ў лешчанскай бібліятэцы? Па-першае, прадстаўнікі закону св. Базыля Вялікага нярэдка атрымлівалі адукацыю ў Рыме, а значыць названае выданне магло быць куплена ўладальнікам у час вучобы ў Італіі. Па-другое, зборы памерлых базыльянаў зазвычай пераходзілі ва ўласнасць закону, такім чынам і дадзены паасобнік мог трапіць у манастырскую кніжніцу. Паколькі названы тытул не значыцца ў інвентарах манастырскай бібліятэкі ні ў 1620-м [параўн.: 6, с. 18 – 19], ні ў 1820-х гг. і да 1839 г. [параўн.: 7, арк. 9 – 12; 8, арк. 8 – 10 адв.; 9, арк. 9 адв. – 12], кніга знаходзілася ў Лешчы, а потым пакінула яго кнігасховы ў перыяд між датамі: 1620-м і 1820-мі гг. (на жаль, раскідка даволі шырокая – ажно 200 гадоў!).

Другая кніга з уладальніцкім надпісам Лешчанскага манастыра – "*Speculum homini ecclesiastico*" [14] супрасльскага выдання 1741 г. На вечку аправы гэты паасобнік (як і тыя, што мы будзем апісваць ніжэй) мае экслібрыс Фундаментальнай бібліятэкі Мінскай духоўнай семінарыі з шыфрамі захоўвання (Ч. I A № 460 № 9:), а на тытульнай старонцы ды наступным ненумараваным аркушы – дзве падобныя між сабой інскрыпцыі: *"Bibliothecae Monasterij Leszczyn[ensis]"* і *"Bibliothecae Monasterij Leszczynensis"*. Кніга прысутнічае ў вопісах бібліятэкі 1820 г. [8, арк. 9] і 1839 г. [9, арк. 10 адв.] (у апошнім яна аднесена да раздзела "Dzieła Ascetyczne", дзе стаіць пад № 3). Прысутнасць на аправе экслібрыса дае нам магчымасць не толькі прасачыць шляхі гэтай кнігі, але і зрабіць пэўныя высновы адносна лёсу ўсёй лешчанскай бібліятэкі. Так, можна сцвярджаць, што названая бібліятэка не была цалкам знішчана – прынамсі частка яе перайшла ў фонды Мінскай духоўнай семінарыі, тагачаснай вядучай праваслаўнай навучальнай установы Беларусі. У 1918 г. Мінская духоўная семінарыя была ліквідаваная бальшавікамі, а яе маёмасць нацыяналізавана.

Вядома, што семінарыйныя кнігазборы агульнай колькасцю каля 15 тыс. тамоў у 1920-я гг. перададзены ў Дзяржбібліятэку БССР [15, с. 200], хоць, на вялікі жаль, дакументаў, дзе пра гэта гаворыцца, не захавалася: немцы, вывозячы культурныя каштоўнасці ў час вайны, знішчалі ўсю звязаную з імі дакументацыю. Такім чынам былі вывезены ў Германію і фонды Дзяржбібліятэкі, якія пазней вярнуліся ў Мінск часткова, у колькасці ўдвая меншай, чым да вайны [параўн.: 15, с. 199]. Лёс іншых кніг невядомы: яны маглі загінуць у пажары вайны, рассеяцца па ўсёй Еўропе, а пры вяртанні ў Савецкі Саюз патрапіць не ў Мінск. Таму сёння можна сустрэць семінарыйныя кнігі, у тым ліку і з Лешчанскага манастыра, ці не ў кожнай буйной бібліятэцы былога СССР, сярод якіх размяркоўваліся прывезеныя з Германіі культурныя багацці, або за мяжой.

Трэцяя кніга з лешчанскімі надпісамі – гэта яшчэ адно айчыннае базыльянскае выданне *"Apparatus Universae Theologiae Moralis"* (*"Дапаможнік па маральнай тэалогіі"*) Ратарыуса, апублікаванае ў 1771 г. у Вільні [16]. На тытульным аркушы знаходзіцца ўладальніцкі надпіс манастыра: *"Bibliothecae Monasterij Leszcze[nensis]"*, а на пустым аркушы ў пачатку кнігі прысутнічае дарчы запіс: *"Hic Liber Applicatus est Bibliothecae Leszczyniensi a R[everendissim]o D[omi]no Samueli Nowicki Or[do]. S[ancti]. B[asilii]. M[agni]: Protoconsulatore Generali Utriusq[ue] Provinciae"* (*"Гэтая кніга перададзена лешчанскай бібліятэцы найвялебнейшым панам Самуэлем Навіцкім ЧСВВ, генеральным протакансулятарам абедзвюх правінцый"*).

Чацвёртая кніга, якая змяшчае, бадай, найбольш інфармацыі, што нас цікавіць, – "*Annus apostolicus*" Захарыя Лясэльвы, апублікаваная ў 1749 г. у Кёльне [17]. Гэты асобнік таксама мае некалькі інскрыпцый. На тытульным аркушы знаходзіцца ўладальніцкі надпіс манастыра: *"Bibliothecae M[onasterii] Leszczynen[sis]"*, а на форзацным аркушы – купчы запіс аднаго з настаяцеляў Цыпрыяна Булгака: *"Hic Liber Emptus*

*Tynfonis 8 ½ S per me Intrascriptum Applicatus Monasterio Leszczoviensis AєD: 1763 D. 29 Iunii in fidem Cyprianus Bułhak O.S.B.M: Abb[as]: Leszcz[oviensis]: mmp*" ("*Гэтая кніга набыта за 8½ тынфаў мною, ніжэй падпісаным, і падорана Лешчанскаму манастыру 29 чэрвеня 1763 г. ад Нараджэння Хрыстова. Верны ў Богу Цыпрыян Булгак ЧСВВ, настаяцель лешчанскі, рукою ўласнаю*"). Такі самы запіс – толькі са слоўнай расшыфроўкай лічбаў – паўтараецца на аркушах пачынаючы з тытульнага.

Названая кніга прысутнічае ў вопісах бібліятэкі 1820 г. [8, арк. 9] і 1839 г. [9, арк. 10, адв.] (у раздзеле "Dzieła Kaznodzieyskie"). Такім чынам, мы даведваемся, калі дакладна кніга паступіла ў фонд – у 1763 г. Таксама з цытаваных надпісаў вынікае, што адным са спосабаў камплектавання бібліятэкі ў гэты час былі падарункі – калі б кніга набывалася за манастырскія грошы, інскрыптар не ўказваў бы так настойліва сваё імя і суму, якую ён за яе заплаціў. Знойдзеныя кнігі і інскрыпцыі на іх дапамагаюць нам, хоць і фрагментарна, запоўніць лакуну ў інфармацыі па перыядзе, не ахопленым інвентарамі, і такім чынам мы можам больш поўна меркаваць пра фарміраванне бібліятэчнага фонду манастыра ў цэлым.

Урэшце, пятая кніга – гэта кішэннага фармату лацінскі трэбнік ("*Rituale Sacramentorum*"), выдадзены ў 1701 г. у Вільні [18]. Ён мае наступныя інскрыпцыі: на тытульным аркушы "*Monast. Leszcze[nensis]"* і на першай старонцы "*Bibliothecae Leszczen[en]sis*". Па-за тым у кнізе знаходзілася картка з распіскай аб пазычанні з бібліятэкі базыльянінам Мацеем Валасевічам выдання жыццяпісаў святых: "*Roku 1796. Dnia 22 Augusta Biorę Żywoty SS. Oyców Zakonu Naszego z Bibliotyki Leszczynskiey do Czytania z Woli Jmci X. Komissarza Tokarzewskiego aby nie była Broniana na krórą [sic!] daie Rewe[r]s na Siebie. X. Mateusz Włosessewicz[?]*". Гэтая запіска паказвае нам, якім чынам у кляштарных бібліятэчках вёўся ўлік выдадзеных чытачам кніг у той час, калі яшчэ не было фармуляраў.

Такім чынам, умоўна гісторыю кнігазбораў у Лешчы можна падзяліць на тры этапы. На першым (XIII – сярэдзіна XVII ст.) збор складаўся з некалькіх дзесяткаў кніг, што выкарыстоўвалі, галоўным чынам, на багаслужбе і малітве. Камплектаваўся ён, відаць, за кошт закупкі і перапісвання кніг у самім манастыры.

Пачатак другога этапу, верагодна, можна звязаць з 1668 г., калі манастыр канчаткова далучыўся да уніі, а значыць увайшоў у склад чыну св. Базыля Вялікага і, згодна з ордэнскімі прадпісаннямі, мусіў распачаць збіранне бібліятэкі, неабходнай для пастырскай працы, адукацыі і духоўнага самадасканалення манахаў-базыльянцаў. Ад гэтага часу, відаць, кніжны фонд падзяляецца на літургічны збор пры цэрквах і ўласна манастырскую бібліятэку, якая тады разраслася да аб'ёму некалькі сотняў тамоў. Камплектаванне фондаў вялося праз закупку літаратуры, а таксама праз атрыманне ў падарунак і спадчыну. Заканчваецца перыяд з канцом XVIII ст., бо толькі лічаныя кнігі ў інвентарах можна суаднесці з выданнямі XIX ст. Падобная карціна назіраецца і ў іншых базыльянскіх манастырах.

Трэці этап характарызуецца пэўным застоем у развіцці лешчанскіх кнігазбораў, якія амаль не папаўняліся. З другога боку, заўважная тэндэнцыя да ўпарадкавання як саміх фондаў, так і іх вопісаў ды інвентароў, што набывалі больш сістэматызаваны выгляд. Заканчваецца гэты этап у 1839 г. са скасаваннем Грэка-каталіцкай царквы ў Расійскай імперыі, ліквідацыяй манастыра і вывазам яго кнігазбораў, якія часткова або цалкам уліліся ў Фундаментальную бібліятэку Мінскай духоўнай семінарыі. У тым годзе лешчанская бібліятэка перастала існаваць.

**Спіс літаратуры**

1. **Жалованная королевская грамота** Киевскому униятскому митрополиту Иосифу Рутскому и коадьютору его, Пинскому епископу Рафаилу Корсаку, о предоставление им в пожизненное владение Лещинского монастыря… // Акты, относящиеся к истории Западной России. – СПб., 1853. – Т. 5 : 1633 – 1699. – № 7.
2. **Radziszewski, F.** Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych / F. Radziszewski. – Kraków, 1875.
3. **Добрянский, Ф.** Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковно-славянских и русских / Ф. Добрянский. – Вильна, 1882. – № 242.
4. **Инвентарь Лещинского монастыря 28 декабря 1588 г.** : Актыковане Инвентару Монастыра Лещенского // Минские епархиальные ведомости. – 1909. – № 10 (часть неоффициальная).
5. **Довгялло, Д. И.** Пинский Лещинский монастырь в 1588 г. / Д. И. Довгялло. – Мінск, 1909.
6. **Миловидов А. И.** Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря / А. И. Миловидов. – [Без выход. дадзеных.] – 1909.
7. **НГАРБ.** – Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 42312.
8. **НГАРБ. –** Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 22239.
9. **НГАРБ.** – Ф. 3245. – Воп. 3. – Спр. 68.
10. **НГАРБ.** – Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 22312.
11. **Миловидов, А. И.** Судьба русской книги в Северо-Западном крае… / А. И. Миловидов // Христианское чтение. – 1903. – Т. 216 – Ч. 1.
12. **Нікалаеў, М.** Палата кнігапісная : рукапісная кніга на Беларусі ў X – XVIII стагоддзях / М. Нікалаеў. – Мінск : Маст. літ., 1993.
13. **НББ.** Шыфр 094 /4739.
14. **НББ.** Шыфр 094 /7031.
15. **Рощина, Т. И.** Белорусские исторические книжные коллекции в фондах Национальной библиотеки Белоруссии : проблемы изучения / Т. И. Рощина // Белорусский сборник : ст. и матер. по истории и культуре Белоруссии / РНБ; Санкт-Петербургская ассоциация белорусистов. – СПб., 2002.
16. **НББ.** Шыфр 094 /18503.
17**. НББ.** Шыфр 094 /7169.
18. **НББ.** Шыфр 094 /19467.

*Музейны квартал*

# ПОЛАЦКАМУ МУЗЕЮ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ – 20

У сучаснай культуры музей з'яўляецца шматфункцыянальным сацыякультурным інстытутам, адным з асноўных кампанентаў нацыянальнай спадчыны. Пашырэнне межаў музейнай дзейнасці сведчыць пра тое, што яна набывае ўсё большае сацыякультурнае значэнне. Музей стаў месцам развіцця культурнай разнастайнасці, якая ў сваю чаргу зрабілася характэрнай рысай сённяшняга жыцця, здольнай супрацьстаяць глабальнай культуры.

Старажытны Полацк захаваў шматгадовыя музейныя традыцыі, таму стварэнне буйнога музейнага аб'яднання на яго тэрыторыі стала відавочнай справай. Пастановы ўрада 1967 – 1985 гг. былі своечасовым працягам тэндэнцыі да захавання спадчыны ў новых умовах і на новай юрыдычнай базе.

Пасля распаду СССР і звядзення да мінімуму бюджэтных асігнаванняў на культуру ўскладнілася ўтрыманне культурна-гістарычных аб'ектаў. Незалежныя дзяржавы, у тым ліку і Рэспубліка Беларусь, былі пастаўлены перад праблемай прыняцця рашучых мер па захаванні спадчыны. Станоўчыя вынікі ў дасягненні належнага захавання і годнага выкарыстання гісторыка-культурных каштоўнасцей можна атрымаць толькі пры ўмовах усведамлення ўсіх асаблівасцей нацыянальнай культуры і выкарыстання назапашанага папярэднімі пакаленнямі вопыту ў гэтай справе. Адсюль вынікае неабходнасць вывучэння працэсаў інтэрпрэтацыі, рэстаўрацыі, кансервацыі, музеефікацыі і прэзентацыі культурнай спадчыны нашай краіны і яе асобных гістарычных тэрыторый. Сёння праблема захавання гісторыка-культурнай спадчыны стала вельмі актуальнай. Адным з найлепшых спосабаў яе захавання і выкарыстання з'яўляецца музеефікацыя.

У рамках дзейнасці Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, які на працягу многіх гадоў актыўна займаецца рознымі відамі музеефікацыі помнікаў, адбываецца аб'яднанне функцыі захавання і выкарыстання спадчыны шляхам уключэння музеефікаванага асяроддзя ў сучасную культуру. Адначасова самі музеі (у склад запаведніка ўваходзяць 11 устаноў) пад уплывам архітэктурных, археалагічных помнікаў і унікальнай гістарычнай тэрыторыі горада змяняюць свае традыцыйныя формы і, як вынік, становяцца поліфункцыянальнымі культурнымі цэнтрамі. Але, як і раней, яны застаюцца аднымі з найважнейшых сімвалаў дзяржаўнасці, інстытутамі фарміравання самасвядомасці і падтрымкі нацыянальнай самаідэнтычнасці.

Да музейнай справы мае адносіны не толькі экспазіцыя, але і наша ўнутраная патрэбнасць узнаўляць і трансфармаваць сувязі з мінулым, якое праходзіць і адначасова застаецца ў нашай памяці і адчуваннях. Розныя пакаленні не выцясняюць адно другое, а дапаўняюць. Функцыю фіксацыі працэсаў у культуры бярэ на сябе музей. Музейнасць характэрная для развіцця культуры ў пераломныя, крызісныя эпохі, калі культура ўжо не здольна ў поўнай меры ўсвядоміць сваю разнастайнасць. У такія перыяды музей, што збірае часткі страчанай цэласнасці, і павелічэнне яго ролі ў грамадстве выклікаюць асаблівую ўвагу крытыкі.

Аб'ектамі музейнага паказу ў запаведніку сталі не толькі артэфакты, але і археалагічныя, архітэктурныя помнікі, ансамблі гарадской забудовы і гістарычныя ландшафты. Кваліфікаваныя супрацоўнікі, прааналізаваўшы грамадскую думку і патрабаванні наведвальнікаў (у першую чаргу жыхароў Полацка), накіравалі сваю дзейнасць на музеефікацыю унікальнай гістарычнай тэрыторыі горада. У выніку з'явіліся новыя экспазіцыйныя ідэі, музейная педагогіка стала самастойным напрамкам работы, у музейнай практыцы пачалі выкарыстоўвацца камп'ютэрныя тэхналогіі і ін-



**Фрагмент экспазіцыі "У кабінеце вучонага XVIII ст.".** Выданне 1628 г.


Рэканструкцыя майстэрні перапісчыка кніг XVI ст.

шыя інавацыі. Развіццё мультымедыйных тэхналогій адкрыла новыя магчымасці для выхаду музеяў Полацка ў сусветную культурную прастору.

Даволі паказальнай у адносінах да ўсяго сказанага вышэй стала дзейнасць **Полацкага музея беларускага кнігадрукавання**, адкрытага ў 1990 г. на радзіме беларускага першадрукара Францыска Скарыны ў сувязі з яго 500-годдзем, што адзначалася па ініцыятыве ЮНЕСКА ўсім сусветным грамадствам.

Міністэрства культуры БССР яшчэ ў 1987 г. прыняло рашэнне аб стварэнні нашага музея. З гэтай нагоды быў даследаваны і адрэстаўраваны помнік архітэктуры канца XVIII ст. – былы жылы корпус Богаяўленскага манастыра (брацкая школа), пабудаваны паводле праекта знакамітага італьянскага архітэктара Джакома Кварэнгі. Археалагічныя даследаванні помніка праводзіліся пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук Генадзя Сагановіча. Аўтарам праекта рэстаўрацыі стаў Віктар Калечыц.

Археалагічнае і архітэктурнае вывучэнне будынка дало шмат цікавай інфармацыі і некалькі рарытэтных артэфактаў, сярод якіх шырокавядомы па публікацыях залаты пярсцёнак са шкляной устаўкай XII ст. і амфара вялікіх памераў XVII ст. (яна захавалася цалкам).

Стварэннем экспазіцыі музея займалася група навуковых супрацоўнікаў запаведніка (В. Траццякова, В. Краско, Т. Джумантаева) пад кіраўніцтвам Галіны Пятроўны Ладзісавай. Над мастацкім рашэннем экспазіцыі працавалі наваполацкія мастакі Сяргей Дзмітрыеў і Ігар Куржалаў.

Музей быў урачыста адкрыты 8 верасня 1990 г. У гэтыя дні ў Полацку святкавалася 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны. У горадзе праходзілі розныя мерапрыемствы, прысвечаныя памяці славутага палачаніна. Полацк сабраў мноства гасцей з Беларусі і розных гарадоў былога СССР. З Масквы завітаў Юрый Лабынцаў, з Санкт-Пецярбурга – Мікола Нікалаеў. Ганаровым госцем свята стаў вядомы беларускі навуковец Адам Мальдзіс, які, дарэчы, быў адным з ініцыятараў стварэння музея і адкрыцця яго менавіта ў Полацку. Дзякуючы А. Мальдзісу горад у тыя дні наведаў Стэнлі Скарына – нашчадак Францыска Скарыны ў чатырнаццатым пакаленні, доктар медыцыны і біялогіі, прафесар Манрэальскага ўніверсітэта ў Канадзе.

Полацкі музей беларускага кнігадрукавання – гэта ўстанова комплекснага тыпу, мае рысы гістарычнага, мастацкага, літаратурнага і тэхнічнага музеяў. Ён прызначаны паказаць кнігу як частку гісторыка-культурнага працэсу, як складаную з’яву, што належыць адначасова і матэрыяльнай, і духоўнай сферам дзейнасці чалавека. Экспазіцыя разлічана на ўсе катэгорыі наведвальнікаў, перш за ўсё навучэнцаў, і пабудавана па тэматычным прынцыпе. Экспазіцыйная плошча ў 928 $м^2$ займае 15 залаў.

Першыя залы знаёмяць з помнікамі дакніжнага пісьменства, гісторыяй алфавітаў, тэхналогіяй вырабу паперы і яе эвалюцыяй. Значнае месца належыць паказу рукапіснай кнігі на беларускіх землях, стыляў яе мастацкага аздаблення.

Аднак, безумоўна, галоўная частка экспазіцыі – адлюстраванне жыццёвага шляху і дзейнасці першадрукара Францыска Скарыны. Асвятляецца таксама дзейнасць рэфармацкіх і брацкіх друкарняў, найбольш выдатных асоб, звязаных з кнігадрукаваннем: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Пятра Мсціслаўца, Мялеція Сматрыцкага, братоў Зізаніяў.

Зала “Мастак і кніга” дэманструе развіццё беларускай кніжнай графікі. Прадстаўлена кнігадрукаванне XIX – пачатку XX стагоддзяў, у тым ліку выданні губернскіх друкарняў, выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша ваконца” і іншых беларускіх выдавецкіх таварыстваў. Паказаны розныя тыпы і віды савецкай друкаванай прадукцыі: газеты, часопісы, календары, альбомы. Завяршае экспазіцыю знаёмства з паліграфічнай базай рэспублікі і кнігамі – лаўрэатамі розных конкурсаў.

Для ўзмацнення эмацыянальнага ўздзеяння выставы ў яе ўведзены рэканструкцыі майстэрні перапісчыка кніг, друкарні XVI – XVII стст., майстэрні сучаснага мастака-графіка.

Экспазіцыя змяшчае толькі частку кніг і іншых прадметаў (дзве з паловай тысячы экспанатаў), агульны ж кніжны фонд запаведніка

ўключае больш за 10 тысяч адзінак. Зразумела, супрацоўнікі музея праводзяць актыўную выставачную дзейнасць. Выстаўкі даюць магчымасць не толькі прадэманстраваць багацце фондаў, але і пашырыць іх тэматыку. Напрыклад, традыцыйнымі для Полацкага музея беларускага кнігадрукавання з'яўляюцца выставы "Лепшыя кнігі Беларусі" (выданні – лаўрэаты Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі", якія паказваюць высокі паліграфічны ўзровень сучаснай беларускай кнігі), выставы да юбілеяў пісьменнікаў, славутых землякоў, выдавецтваў.

Стварэнне такога музея менавіта ў Полацку было заканамерным. Гэта не толькі радзіма Францыска Скарыны. Полацк – адзін з самых старажытных гарадоў усходніх славян, самая першая наша сталіца. Ён заўсёды быў важным цэнтрам духоўнай і матэрыяльнай культуры: дойлідства, іканапісу, прыкладнога мастацтва і, вядома ж, кніжнасці. Тут перапісвала кнігі Еўфрасіння Полацкая, якая стала святой апякункай Беларусі. Можна ўзгадаць бібліятэку Сафійскага сабора, што існавала ў XI – XVI стст., а таксама бібліятэку пры Полацкім езуіцкім калегіуме, якая на пачатку XIX стагоддзя налічвала больш за 23 тысячы тамоў. У Полацку таксама нарадзіўся і пачынаў сваю літаратурную дзейнасць выдатны беларускі і рускі паэт, драматург, педагог Сімяон Полацкі.

Праўда, на момант прыняцця рашэння пра стварэнне Полацкага музея беларускага кнігадрукавання горад ужо не меў тых кніжных багаццяў, якімі мог пахваліцца ў мінулым. Шматлікія пажары, войны, рэвалюцыі сталі прычынай гібелі або знікнення кніжных скарбаў. У фондах Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, філіялам якога станавіўся музей, мелася невялікая кніжная калекцыя, што складалася ў асноўным з лаціна-польскіх выданняў XVII – XIX стст. і даследаванняў краязнаўчага характару. З 1986 г. пачалося планавае камплектаванне калекцыі музея. Передаваліся кнігі з абменна-рэзервовых фондаў Расійскай Дзяржаўнай бібліятэкі (Масква), Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург), Навуковай бібліятэкі Эрмітажа, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, бібліятэкі Саюза мастакоў Беларусі, бібліятэкі выдавецтва БелСЭ і многіх іншых. Набываліся кнігі і ў букіністычных крамах, у прыватных асоб.

Сярод найбольш каштоўных экспанатаў – рукапісныя кнігі на пергаменце ("Тора") і на паперы ("Распевы", "Гадавы рымскі цырыманіял" і інш.), заходнееўрапейскія выданні XVI – XVIII стст. (сярод іх "12 прамоў" Іераніма Фалецкага; Венецыя, 1558), выданні XVII – XIX стст., надрукаваныя рускім грамадзянскім шрыфтам (працы М. Ламаносава, В. Тацішчава, В. Сопікава), беларускія стардрукі. Найбольш значнае ў кірылічным кнігазборы музея "Евангелле вучыцельнае" (Вільня, др-ня Мамонічаў) 1595 г.

Каштоўнымі з'яўляюцца выданні краязнаўчага характару XIX – пачатку XX ст., якія выйшлі ў друкарнях Полацка і Віцебска: "Полоцкий кадетский корпус" В. Вікенцьева (1910), "Путеводитель по городу Полоцку" (1910), "Белорусские народные рассказы" І. Арлоўскага (1908), "Полоцкий Спасо-Евфросиньевский девичий монастырь" і "Полоцкий Софийский собор" А. Сапунова (абедзве брашуры выйшлі ў 1888 г.), а таксама тры выпускі унікальнага выдання "Полоцко-Витебской старины" (1911 – 1916), дзе змешчаны працы вядомых даследчыкаў гісторыі Віцебшчыны і Полаччыны (А. Сапунова, Д. Леанардава, Д. Даўгялы, С. Сахарава, М. Кайгародава і інш.).

Вялікую цікавасць выклікаюць выданні твораў беларускіх пісьменнікаў (Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Журбы, З. Бядулі і інш.), падручнікі М. Гарэцкага, Б. Тарашкевіча, Я. Лёсіка, слоўнікі В. Ластоўскага, Я. Станкевіча, М. Байкова, календары пачатку XX ст., "Наша ніва", "Чырвоны сейбіт", газеты 1920 – 1930 гг., часопісы "Студэнцкая думка", "Наш край", "Маладняк", "Полымя", "Узвышша".

Сабрана нямала цікавых і каштоўных матэрыялаў, але праца працягваецца, і сёння яна застаецца адным з асноўных напрамкаў дзейнасці музея побач з не менш актуальнай праблемай іх вывучэння і ўключэння ў агульную інфармацыйную прастору шляхам стварэння каталогаў асобных калекцый.

Збіраюцца кнігі сучасных аўтараў з аўтографамі і дароўнымі надпісамі. У свой час вялікую калекцыю беларускіх выданняў перадаў у фонды музея Сяргей Панізнік. Сярод іх і кнігі самога пісьменніка, і іншыя беларускія выданні. Не раз дарылі свае кнігі з аўтографамі такія беларускія пісьменнікі, як Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Мікалай Чаргінец, Генадзь Бураўкін, Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк, Пятро Васючэнка і многія іншыя.

Даўнім і шчырым сябрам музея з'яўляецца Уладзімір Арлоў. Вядомы пісьменнік, які нарадзіўся ў Полацку, кожную сваю новую кнігу абавязкова перадае музею. Прэзентацыі многіх выданняў аўтара, дарэчы, праходзілі таксама тут.

З пісьменнікамі-землякамі музей супрацоўнічае вельмі цесна. Напрыклад, часты госць – Алесь Аркуш, паэт, старшыня Таварыства Вольных Літаратараў. Музей стаў традыцыйным месцам правядзення цырымоній уручэння прэміі ТВЛ "Гліняны Вялес". І, вядома ж, сябруем мы з літаратурнымі аб'яднаннямі "Наддзвінне" (утварылася яшчэ ў 1926 г. як філіял "Маладняка") і "Полоцкая ветвь" (заснавана ў 1989 г. і аб'ядноўвае рускамоўных аўтараў).

Не застаюцца па-за ўвагай музея і наваполацкія пісьменнікі. Напрыклад, мы заўсёды вельмі рады сустрэчы з Ірынай Жарнасек, кожная новая кніга якой – сапраўдная падзея ў літаратурным жыцці Беларусі.

Музей па-ранейшаму падтрымлівае сувязі з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, адкуль нам не раз передаваліся выданні 1920 – 1950-х гг.

Не менш каштоўнымі з'яўляюцца самыя новыя кнігі. Гэта перш за ўсё тыя выданні, якія сталі пераможцамі Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі". Такі конкурс праводзіцца ў Беларусі з 1964 г. Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Як вядома, узнагароджанне пераможцаў нацыянальнага конкурсу адбываецца падчас правядзення Дня беларускага пісьменства; найлепшыя кнігі дэманструюцца і на Міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы, што праходзіць звычайна ў пачатку года ў Мінску, а затым перадаюцца ў Музей беларускага кнігадрукавання на вечнае захоўванне. Асабліва ўдзячны супрацоўнікі нашай установы Валерыю Антонавічу Рагалевічу, кансультанту ўпраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі. Гэты творчы, адданы кніжнай справе чалавек з'яўляецца непасрэдным арганізатарам і актыўным удзельнікам конкурсаў і кніжных выстаў у Беларусі і даўнім сябрам музея. Яго клопатам кнігі-лаўрэаты трапляюць у Музей беларускага кнігадрукавання, адны з іх можна ўбачыць на выставах, іншыя ж уключаны ў пастаянную экспазіцыю.

Залы музея сталі сапраўднай лабараторыяй для ажыццяўлення шматлікіх праграм па музейнай педагогіцы. Мясцовым школьнікам мы прапануем некалькі цыклаў спецыяльна распрацаваных заняткаў*. Гэта і заняткі "З кнігай праз стагоддзі і краіны" для школьнікаў IV класаў (цыкл разлічаны на цэлы навучальны год, заняткі праводзяцца адзін раз на месяц), урокі для дзяцей V класаў у рамках курса "Полацказнаўства", што ўжо некалькі гадоў выкладаецца ў полацкіх школах, і мерапрыемствы для старэйшых класаў "У дапамогу настаўніку беларускай літаратуры". Спецыяльныя заняткі распрацаваны таксама для дзіцячых садкоў ("Свет дзіцячай кнігі"), для дзяцей III ("Як вучыліся ў Полацку раней") і IV класаў ("Рукапісная кніга. Еўфрасіння Полацкая"; "Францыск Скарына – беларускі першадрукар"; "Сімяон Полацкі. Жыццё і дзейнасць"). А з мінулага года ў супрацоўніцтве з "Клубам цікавых сустрэч" пачалі праводзіцца і заняткі рознай тэматыкі для дарослых – для тых, хто неабыякавы і хоча больш даведацца пра сваю гісторыю і культуру.



**У музейнай зале "Мастак і кніга".**

Полацкі музей беларускага кнігадрукавання на працягу дваццаці гадоў свайго існавання карыстаецца вялікай папулярнасцю ў наведвальнікаў. Размешчаны побач са славутым Сафійскім саборам, гэта самы наведвальны музей горада. І турысты-беларусы, і замежныя госці прыходзяць у захапленне ад экспазіцыі, ад высокага ўзроўню экскурсій, пра што сведчаць запісы ў кнізе водгукаў.

Адным з асноўных накірункаў дзейнасці музея з'яўляецца прапаганда роднага слова. Беларуская мова гучыць амаль на кожнай экскурсіі. Сімвалам нашай мовы, якую то забаранялі, то адраджалі і развівалі, стала скульптура Паўла Вайніцкага "Прысвячэнне роднаму слову". Жаночая постаць, якая нібы сышла з фрэсак XII ст., падзелена на дзве часткі: светлую, што ўвасабляе росквіт беларускай мовы, культуры і дзяржаўнасці, і цёмную – часы заняпаду і мэтанакіраванага знішчэння нацыянальнай спадчыны. Наша будучыня залежыць ад выбару кожнага з нас – такую выснову, спадзяемся, зробіць кожны наведвальнік нашага музея.

**Тамара ДЖУМАНТАЕВА,**
намеснік дырэктара Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка па навуковай рабоце,
**Вера АШУЕВА,**
старшы навуковы супрацоўнік Полацкага музея беларускага кнігадрукавання.

---

* У жнівеньскім нумары за 2006 г. "Роднае слова" змяшчала матэрыял "Захапляльнае падарожжа ў кніжны свет: Музейна-педагагічныя заняткі" супрацоўнікаў Полацкага музея беларускага кнігадрукавання **Ірыны Водневай** і **Ірыны Шупенькі**. – *Заўвага рэд.*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ЗАБЭЛЫ ГЕРБА "ТАПОР"

Мой прапрадзед Вікенцій Якаўлевіч Сацкевіч-Статкевіч 15 кастрычніка 1839 г. у Пясецкай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета вянчаўся з Марыяй Андрэеўнай Забэлай, рымскага веравызнання, якая, па сведчанні метрычнай кнігі, пры рэгістрацыі шлюбу была названа Ізабэлаўнай.

Забэлы – дваранскі род Вялікага княства Літоўскага герба "Тапор", які бярэ пачатак у XVI ст. і дзеліцца на чатыры галіны, унесеныя ў I і VI часткі радаводнай кнігі дваран Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў.

Герб роду Забэлаў уяўляе сабой белую сякеру на чырвоным фоне, вастрыём павернутую ў левы бок шчыта, над шлемам – такая ж сякера, нагнутая вастрыём да зямлі, быццам урэзаная ў яе.

Паводле легенды, у старажытныя часы жылі ў польскім каралеўстве тры браты – рыцары, якія за подзвігі ў бітвах атрымалі герб і прозвішча Тапорчыкавы. Адзін з іх, Зягота, якому захацелася пашукаць прыгод у чужых краях, вярнуўся пасля доўгіх блуканняў дадому, але браты яго не прызнавалі, і тады ён адправіўся да караля. Той, выслухаўшы пакрыўджанага, сказаў: «Дам я табе другі герб і назаву яго "Стары конь". А папярэдні герб, на якім змешчана выява сякеры з сярэбраным лязом і залатой рукаяткай, няхай застанецца тваім братам».

Адзін з найцікавейшых дакументаў канца XVI ст. – прывілей караля Жыгімонта III на пацвярджэнне шляхецтва Яна-Якуба Ізабелюса, які прыехаў з італьянскай Вероны на тэрыторыю Кароны Польскай і ВКЛ, і наданне яму ўсіх правоў тутэйшай шляхты – наводзіць на думку пра магчымае паходжанне нашага роду Забэлаў з Веронскай зямлі. Паходжанне Якуба пацвердзілі людзі вядомыя пры двары караля, а таксама паны, якія прыехалі з яго мясцовасці раней, ведалі яго продкаў і мелі ў ВКЛ пасады і павагу. Вось гэты дакумент:

*"Жикгимонт Третии, Божю м(и)л(о)стю корол польскии, Великии князь литовскии, рускии, прускии, жомоитъскии, мазовецкии, ифлянтскии и шведскии, кготскии, вандалскии, дедичныи корол, ознаимуемъ симъ н(а)шимъ листомъ нинешънимъ и на потомъ будучимъ, кому бы*

*"Роднае слова" працягвае друкаваць часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш" **Анатоля Статкевіча-Чабаганава**, першы том якой рыхтуецца да выдання. Ужо змешчаны матэрыялы з летапісу беларускай шляхты «Некрашэвічы герба "Любіч"» (2010, № 4), «Сацкевічы-Статкевічы герба "Касцеша"» (2010, № 5), «Карафа-Корбуты герба "Корчак"» (2010, № 6), «Татуры герба "Дамброва"» (2010, № 7)».*



**Герб роду Забэлаў.**

*о томъ ведати належало, иж маючимъ певную ведомост, же урожоныи Якуб Изабелюс, прыбывшы с Панства Влоског(о) Венецкого до Панствъ тутошних Короны Полское и Великог(о) Князьства Литовског(о) за щасливого панованя продка и вуя н(а)шого светобливое памети короля ег(о) м(и)л(о)сти Жыкгимонта Августа, з молодости ажъ до теперешних вжо зешълыхъ лет своих тут векъ свои тривал и по вес часъ валки з дедичнымъ неприятелемъ тыхъ Панствъ Великим Кн(я)земъ Московъскимъ такъ за короля его м(и)л(о)сти Жикгимонта Августа, яко и за короля ег(о) м(и)л(о)сти Стефана, жолнерскую служечи поручником в ротахъ ротмистров в он часъ на службе будучихъ Петра Радецкого и Александра Кгвакгнина, будучы в частыхъ и значъныхъ потребахъ бывал, кров неприятелскую разливал и все то, што доброму рыцерскому чоловеку чинить належало, он з милости свое ку ихъ королевъским маестатомъ и ку Речи Посполитои того Панства хутливе выконывал и так собе права, волности и свебоды тутошние уподобал, же до Отчизны и Панства того, в котором се с продковъ своихъ зродил и волне оттуль выехал, незворочаючы маетности, лежачое оселости шляхетское у воеводстве Витебъскомъ прыстоине набылъ и статномъ малженскимъ от П(а)на Б(о)га обдарован будучы, векъ житья своег(о) тамъ доконати умыслил. А догожаючи праву посполитому Великог(о) Князьства Литовского, которым кождому чужоземцу оселости шляхетское у Великом Князьстве Литовскомъ набывати позволено, тымъ способом же*

*повинен вывестися, естли естъ шляхтичъ, и прысягу тому Панству на верное подданство выконат, он тежъ, Якуб Изабелюсъ, варуючи целость права посполитог(о) не толко о собе, але и потомъству своему, утеклъсе до нас, г(о)с(по)д(а)ря, и положивши лист от врядников земскихъ и кгродскихъ и от всего рыцерства шляхты обывателев воеводства Витебъског(о) на соимик, до Витебска згроможоныхъ, под печатьми и с подписомъ рук ихъ ему данныи, которые о заслугахъ и о пристоиномъ черезъ него набытью оселость, так же и о томъ, же он ку высветченью шляхетства своего про далекость и одлегълость местъца на враде у Витебъску людеи уроженя его ведомых ставити не мог, сведецъство певное даючи прозбы свои за нимъ донесли. А пры томъ положеню листа ставил пред нами и у книг канцлярыи н(а)шое людеи добрыхъ шляхту с тамътого Панства Влоского на тепершънемъ соиме пры дворе н(а)шомъ будучыхъ, тоестъ урожоных Александра Кгвакгнина, грабю з Вероны, а Доминика Морого, ротъмистров н(а)шихъ, Миколая Букъцелю, доктора н(а)шого, которыие то под сумъненьем и присягами своими вызнали, же он естъ з уроженя своего старожитныи шляхтич такъ зъ отца, яко и з матки. Отца его звано Ленартусъ Изабелаюсъ зъ Изабел, геръбъ ихъ в жольтомъ полю оролъ, а матку звано Алжбета Де Сылванеис, гербъ в чирвономъ полю гартъ белыи. А при сознаню тыхъ особ он, будучи готовъ на томъ всемъ и на верность Великому Кн(я)зьству Литовскому прысегу выконати, бил намъ, г(о)с(по)д(а)ру, чоломъ, абысмо в том, до чого ему и само право посполитое дорогу вказало, щодробливое ласки н(а)шое не замыкаючи, листомъ н(а)шимъ его обваровали. За которымъ ихъ м(и)л(о)сть п(а)ны рада и въpадники н(а)ши, на томъ соиме при нас будучие, заслуги его ку продкомъ н(а)шимъ, ку нам самим и Речи Посполитои хутъливе отдаване залеваючи в прычине насъ жодали. Мы, г(о)с(по)д(а)ръ, видечи в том прозбу его быт слушъную и с правомъ посполитымъ згодную, с повинности и щодробливое ласки н(а)шое г(о)с(по)д(а)рское догажаючи в том не только чоломъ битю ег(о) причине панов рад и врядников н(а)шихъ, але тымъ досконалеи праву посполитому, ласкаве есмо на то все позволили, якожъ он и прысягу в канцлярыи нашои на том, яко повинен был, выконал. За которым таковымъ через него досыт учиненемъ праву посполитому, пры старожитном уроженю его шляхетском самого и потомъковъ его, зоставуемъ: маеть он, потомки и щадки его оселости, добръ, маетности лежачое шляхетское, тепер в держанью его будучое, и потомъ через него набытое, спокоине держати, часы воины сполне зъ иншою шляхтою обывателми Великог(о) Князьства Литовского под хоругвою земскою становить и всихъ прав волностеи, оздоб и свебод шляхетскихъ яко шляхтичъ с продков своихъ добре урожоныи заживати и з них веселити на вси прышълые, вечные и потомъные часы, ведь же сесь привилеи н(а)шъ не маеть ничог(о) уимовать, ани перешкажат правомъ и волностям места н(а)шего Витебского. Што все ему и потомъкомъ его утверъжаючи, сес н(а)шъ листъ рукою н(а)шою подписаныи ему есмо дали. До которого и печат н(а)шу Великого Князьства Литовского привесить есмо росказали.*

*Писанъ у Варшаве на соиме валномъ лета от нароженя Сына Божего тисеча пятсотъ деветдесят осмог(о) м(е)с(е)ца апреля трынадцатог(о) дня, королеваня Панствъ н(а)шихъ Коруны Полское и Великог(о) Князьства Литовского одинадцатог(о), а шведского пятог(о) року".*

Пра маіх далёкіх родзічаў пісаў польскі пісьменнік Курапатніцкі. Ён выказваў добрыя словы пра Забэлаў і сцвярджаў, што яны са старажытнасці карысталіся па законе дадзенымі дваранскаму саслоўю прывілеямі, а польскія каралі за заслугі перад Айчынай жалавалі ім маёнткі.

Родапачынальнікам нашай радаводнай галіны лічыцца Пётр Забэла. Вось што напісана пра яго ў адным з дакументаў: "Жыхар Навагрудскага ваяводства, які валодаў як дваранін земскі маёнткам, названым Душава Крывое Сяло, у час вайны з Расіяй, страціўшы ўсю нерухомасць, ледзьве выратаваў сваё жыццё, учыніў маніфест у земстве Навагрудскім, дзе, выкладаючы агульныя страты, гаворыць пра знішчэнне дакументаў роду яго, а менавіта: прывілей караля Жыгімонта I папярэдніку свайму Мацвею Забэлу на маёнтак Галіча дадзены, а таксама граматы каралевы Боны".

На жаль, многія дакументы былі сапраўды страчаны, але некаторыя захаваліся і дайшлі да нашых дзён. Нядаўна мне ўдалося адшукаць рэестр аб зборы падаткаў з жыхароў Навагрудскага ваяводства за 1685 г., дзе значыцца, што пан Пётр Забэла з Душава Крывога Сяла заплаціў 6 злотых за зямлю, за сябе з жонкай, маці, дачку і простую чэлядзь.

Прывяду з гродскіх кніг Навагрудскага ваяводства яшчэ адзін дакумент ад 27 верасня 1693 г.: "Я, зяменін Яго Каралеўскай міласці Крыштаф Міладоўскі, паведамляю сапраўдную маею добравольную вячыста купчаю здзелкаю, якая служыць спадарам бацьку Пятру і сынам яго Івану і Казіміру Забэлам у тым, што я, маючы вотчынны мой маёнтак Сакаляцічы называемы… вызначыў з пайменнага маёнтка чатыры двары прыгонных сялян з іх жонамі, дзецьмі, усёй маёмасцю за дамоўленую суму 15 000 тынфаў бацьку Пятру і яго сынам Івану і Казіміру Забэлам прадаць".

Гэтым дакументам Міладоўскі дазваляе выкупленых сялян перасяліць у маёнтак Душава Крывое Сяло, калі на тое будзе воля пакупнікоў.

А вось выпіс з актавай кнігі Навагрудскага павятовага суда з актыкацыяй духоўнага завяшчання Евы Адамаўны з Глебкаў Забэлы ад 29 жніўня 1693 г. Ухваляючы Госпада Бога і адным радком паведамляючы, дзе яна хацела быць пахаванай, усё наступнае пасланне Ева Адамаўна прысвяціла дарагому мужу і мілым дзецям. Увесь тэстамент прасякнуты клопатам пра іх: "…У Імя Айца і Сына і Духа Святога да збудзецца воля Яго Святая. Амінь. Я, Ева Адамаўна Глебавічаўна Пятрова Забэлава, зяменка Яго Каралеўскай Вялікасці Навагрудскага ваяводства будучы наведана цяжкай хваробай, але застаючыся пры цвярозым розуме і памяці вырашыла… апошняй воляй маёмасць маю, якую ад бацькоў давялося пасля Адама Сяргеевіча Глебкі, а таксама мамы маёй пані Марыяны Ліхадзіеўскай, названае Душава Крывое Сяло ў Навагрудскім ваяводстве размешчанае, размеркаваць: якую суму пакойны бацька адпісаў па духоўным завяшчанні і ўсе мае рухомыя рэчы нікому другому, як толькі мужу майму пану Пятру Забэлу, пажыццёва адпісваю, а пасля яго сынам маім Івану і Казіміру Забэлам на вечныя часы адпісваю. З такавой маёмасці маёй павінен любы муж мой, калі б пры жыцці яго Усявышні даў сябра дачцэ Еўфрасінні Забэлаўне, то муж мой дасць ёй пасаг, а ў выпадку смерці яго, чаго Божа ўпасі, то сыны мае забяспечаць сястру сваю пасагам, яны абавязаны даць ёй наяўнай сумы 100 злотых акрамя нерухомасці. Найбольш упрошваю, каб крыўды ёй не чынілі…" Душапрыказчыкамі Ева Адамаўна прызначыла сваіх найбліжэйшых родзічаў: дваюраднага брата князя Багуслава Глінскага-Ліхадзіеўскага і шурына Івана Іржыковіча.

Чытаць без хвалявання пасланне з мінулага маёй пра…прабабулі немагчыма. Дакумент гэты падказаў, што маці Евы – Марыяна паходзіла з княжацкага роду Глінскіх-Ліхадзіеўскіх і што Адам і Ева мелі трох сыноў, адзін з якіх – мой прамы продак Казімір, які затым валодаў часткаю маёнтка Сакаляцічы і спадчынным маёнткам Душава Крывое Сяло Навагрудскага ваяводства. Імя Казіміра згадваецца і ў квітанцыі ад 8 чэрвеня 1707 г.: "…высакароднаму Казімі-




**Біклага паходная з гербам "Тапор". 1784 г. На адваротным баку – выява святога Георгія Пераможца.**
З калекцыі Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

ру Забэлу ад камісараў па пастаўцы правіянту для імператарскіх расійскіх войскаў". Жонкаю Казіміра стала Кацярына, дачка рэчыцкага чашніка Валерыяна Кернажыцкага.

Неабходна адзначыць, што Душава Крывое Сяло знаходзілася за некалькі кіламетраў ад Капыля і мае родзічы Забэлы сталі прыхаджанамі Капыльскага касцёла. У архівах захаваліся, што здараецца вельмі рэдка, метрычныя кнігі гэтага касцёла ад канца XVII і да пачатку XIX ст., яны сталі крыніцай дакладных звестак пра гісторыю некалькіх пакаленняў майго роду. З гэтых кніг я даведаўся, што сын Казіміра Забэлы Уладзіслаў-Валяр'ян быў ахрышчаны 18 красавіка 1708 г. ксяндзом Янам-Восіпам Калакоўскім у Капыльскім касцёле, хроснымі бацькамі сталі Ян-Антоній Гардына, Андрэй Арціхоўскі, Пётр і Рэгіна Рагальскія, Апалонія Шулешуна Карловічава з Крывога Сяла.

З тых жа метрычных кніг вынікае, што сын Уладзіслава-Валяр'яна Марцін-Антон быў жанаты з Людвікай Іванаўнай Ушынскай і ў іх 15 сакавіка 1797 г. нарадзіўся сын Андрэй, які затым вянчаўся ў Грозаўскім касцёле з Ганнай Самуілаўнай Татур. У іх было дзевяць дзяцей. Абедзве дачкі Андрэя і Ганны выйшлі замуж за прадстаўнікоў роду Статкевічаў. Адна з іх – Марыя Андрэеўна Забэла – стала жонкай майго прапрадзеда Вікенція Якаўлевіча Сацкевіча-Статкевіча.



**Траюрадная сястра Фёдара Іванавіча Забэлы Соф'я Антонаўна і яе муж Іван Рыгоравіч Арцішэўскі ў дзень шлюбу.** 1923 г.



**Генрых Забэла – нашчадак генерал-маёра Міхаіла Забэлы, які атрымаў разам з бацькам і братамі графскі тытул за перамогу над туркамі каля Вены.** 1914 г. Полацкая гімназія.

Андрэй Забэла быў пацверджаны ў дваранстве Мінскім дваранскім дэпутацкім сходам 21 ліпеня 1804 г. і дадатковай рэзалюцыяй ад 10 верасня 1832 г. Некаторы час пасля жаніцьбы ён жыў у засценку Старына Слуцкага павета. Калі яго не стала, яго дзеці разам з маці Ганнаю пераехалі ў засценак Малінава на ўласную зямлю, якую купілі ў памешчыка Маліноўскага.

У цэлым лёс спрыяў прадстаўнікам гэтай галіны роду Забэлаў. Рашэннем Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу іх заўсёды адносілі да вышэйшага саслоўя і змяшчалі ў першую частку дваранскай радаслоўнай кнігі Мінскай губерні. Аднак з зацвярджэннем у Санкт-Пецярбургу ўзніклі праблемы з-за памылак у дакументах. У канцы XIX ст. пасаду сакратара Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу займаў Кузьма Феліксавіч Татур, магчыма, менавіта ён, як родзіч Ганны Татур, дапамог Забэлам і даў неабходныя звесткі, каб зацвердзіць іх род у дваранстве.

Адзін з яркіх прадстаўнікоў роду – Фёдар Іванавіч Забэла – траюрадны брат майго дзеда. Пра яго ў энцыклапедыі "Вялікае княства Літоўскае" напісана: «Нарадзіўся ў сакавіку 1896 года ў вёсцы Чабусы Бабруйскага павета. Зараз гэта Любанскі раён. Беларускі гісторык. Закончыў БДУ. З 1920-га года працаваў у сельскай школе. У 1925 –




**Караткевіч – муж Марыі Антонаўны Забэлы, траюраднай сястры Фёдара Іванавіча Забэлы.**

1928 гадах вучыўся ў аспірантуры БДУ пад навуковым кіраўніцтвам прафесара У. І. Пічэты.

З 1928 года навуковы супрацоўнік Інбелкульта і Беларускай акадэміі навук. З 1929 года працаваў у Магілёўскім дзяржаўным архіве. Даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі, жыццё гарадоў Беларусі ў XVI – XVIII стст. Першым з беларускіх гісторыкаў даследаваў феадальныя памесці і становішча прыгоннага сялянства. Паказаў ролю заканадаўства, у прыватнасці Статута ВКЛ 1588 года ў станаўленні і далейшым умацаванні прыгоннага права на Беларусі, падкрэсліваў, што эксплуатацыя сялянства ў XVIII ст. узрасла. Арыштаваны ў 1930-м годзе па справе “Саюза вызвалення Беларусі”. Сасланы ў Елабугу на пяць гадоў, дзе і памёр».

Да звестак у энцыклапедыі неабходна дадаць: нарадзіўся Фёдар Іванавіч у сям’і заможнага землеўладальніка. Пасля заканчэння гімназіі паступіў у Кіеўскі універсітэт на медыцынскі факультэт, потым вучыўся на гісторыка-філалагічным, закончыць які перашкодзілі рэвалюцыя і белапольская акупацыя. Даваў курсісткам урокі лацінскай мовы, служыў у Кіеўскім губернскім камітэце. Вярнуўшыся дадому, жыў у вёсцы і працаваў у школе. Яшчэ вядома, што малады вучоны быў старшынёй культурна-гістарычнай секцыі краязнаўчага таварыства ў Магілёве, арганізоўваў драматычныя і антырэлігійныя гурткі, нават браў удзел у стварэнні калгасаў – ад такіх даручэнняў бальшавікоў у той час адмовіцца было нельга. Але больш за ўсё ён вылучыўся ў даследчай працы, у пошуках забытых старонак нашага мінулага. Многія высновы навукоўцаў не падабаліся савецкай уладзе, і яна расправілася з Фёдарам Забэлам, які лічыў Статут Вялікага княства Літоўскага самым перадавым у Еўропе на той час і ганарыўся гісторыяй свайго народа.

Фёдару Іванавічу прыгадалі ўсё: і тое, што ён сын памешчыка і былы дваранін, і службу ў асабістым гетманскім канвоі ў Кіеве. Але самае галоўнае абвінавачванне заключалася ў арганізацыі Забэлам філіяла “Саюза вызвалення Беларусі” ў горадзе на Дняпры, што катэгарычна адмаўляў падсудны. Калі ў яго на допыце спыталі, што яму вядома пра нацыянал-дэмакратаў, Фёдар Іванавіч адказаў:

– Вядома мне наступнае: імкненне нацдэмакратаў нацыянальныя пытанні ставіць вышэй за класавыя, вывядзенне тэорыі самабытнасці, сцягванне аграрнай палітыкі партыі ў бок капіталізму, што адлюстравалася ў хутарызацыі і пасялкоўшчыне, ідэалізацыя мінулага Беларусі.

Фёдар Іванавіч Забэла падзяляў гэтыя погляды. За іх і паплаціўся.

Адна з галін роду Забэлаў валодала графскім тытулам. Вось сведчанне з кнігі Вілкамірскага гродскага суда ад 1 кастрычніка 1699 г. – грамата імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Леапольда I палкоўніку Саламону Забэлу на графскі тытул ад 13 верасня 1683 г., дзе гаворыцца: “Леапольд I Божаю міласцю рымскі імператар германскі, венгерскі, герцаг аўстрыйскі… аб’явіўшы сім,

АНКЕТА №

...ванных и задержанных с зачислением за О. Г. П. У.

...рные показания в анкете, будут подвергнуты строжайшей ответственности.

...СЫ: ОТВЕТЫ:

1-я часть (заполняется заключенным).

Забелло

Федор Иванович

...арства ... СССР

Белорусс

...происходит). Губ. Минская уезд Бобруйский

вол. Осовецкая

**Анкета Фёдара Іванавіча Забэлы з дакументаў АДПУ.** 1930 г.

што мы з вялікім задавальненнем узнагароджваем польскае воінства, якое ў такім небяспечным стане дзяржавы нашай у час асады шматлікім турэцкім войскам горада Вены, прыбыўшы пад кіраўніцтвам любага брата і саюзніка нашага караля польскага Іаана III, абаронцы веры і сталічнага горада нашага, і, з дапамогаю Бога, мужна змагаючыся, ушчэнт разбілі небяспечнага непрыяцеля хрысціянства. У памяць такой перамогі мы, падахвочаныя просьбаю нацыі, што ўдзельнічае ў гэтай вайне са згоды і па благаславенні главы царквы нашай пана Інацэнція IX, пастанавілі святкаваць той дзень, праявіўшы разам з сім нашу імператарскую ўдзячнасць многім воінам з польскіх войскаў, якія з мужным каралём сваім былі саўдзельнікамі ў гэтай справе, паміж якімі Вы, Саламон на Хршчоне Тапорчык са Збілютаў Забэла, палкоўнік, які першы з ліку бясстрашных гусар, сваімі Міхаілам, Мікалаем і Сямёнам, рушыў на войскі Карафы Мустафы, і ў асобе ўсіх хрысціянскіх войскаў, адабраўшы ў ворага сцягі, аддаў свайму каралю, за гэты подзвіг надзяляючы Вас графскай годнасцю нашай дзяржавы, ажно да заканчэння роду Вашага, і з сілай дадзенай ад Бога і Св. апостальскай сталіцы ўлады загадваем, каб у цэлым нашай дзяржаве сім тытулам Вас іменавалі і шанавалі, разам з тым просім любезнага брата нашага гасудара Вашага, каб дазволіў Вам называцца сім тытулам… роду Вашага. Грамату гэтую аб'яўленую, нашаю рукою падпісаную, дзяржаўную пячатку прылажыць загадалі. Дадзена ў Лінцы 1683 года верасня 13 кіравання ж нашага 26 года…" Трэба адзначыць, што мужны палкоўнік Саламон загінуў у той жа год у бітве пад Парканамі.

А вось пацвярджэнне графскага тытула, які атрымаў ад польскага караля Іаана III адзін з сыноў Саламона. Выклікае цікавасць той факт, што кароль з павагі да імператара Леапольда даў дазвол на карыстанне графскім тытулам Саламону і ўсім яго нашчадкам, нягледзячы на тое, што ўсе замежныя тытулы, як супраціўныя роўнасці і свабодзе дваранскай, былі ўжо знішчаны ў Рэчы Паспалітай да 1633 г.

Існуе шмат дакументаў, што сведчаць пра высокі статус гэтай графскай галіны роду Забэлаў і іх вялікія заслугі. Нашчадкі згаданага Саламона займалі высокія пасады на працягу двух стагоддзяў як у польскай, так і ў расійскай дзяржавах. У яго былі тры сыны: Міхаіл, генерал-маёр; Мікалай, ковенскі маршал і надворны літоўскі егермайстар; і Шымон, генерал-лейтэнант літоўскіх войскаў.

У наступным, шостым, пакаленні роду ад графа Міхаіла Саламонавіча Забэлы нарадзіліся: Шымон, ковенскі маршал генерал-лейтенант; Антон, генерал-лейтэнант і вялікі літоўскі егермайстар; і Восіп – генерал-маёр, кавалер ордэна Святога Станіслава; а ад Мікалая Саламонавіча – адзін сын Іван – генерал-ад'ютант літоўскай булавы і Мсціслаўскі кашталян.

У сёмым калене ад графа Антона Міхайлавіча Забэлы нарадзіліся чацвёра сыноў: Восіп, палкоўнік французскіх войскаў, а затым генерал-лейтэнант і літоўскі гетман, узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава, загінуў у Варшаве ў час паўстання 1797 г.; Міхаіл, палкоўнік французскага войска, вялікі егермайстар літоўскі; Шымон, генерал-лейтэнант, мінскі кашталян, сенатар і кавалер; Юрый, камергер двара польскага.

А вось прадстаўнікі восьмага калена гэтага роду. Граф Генрых Забэла, чый бацька Восіп загінуў у Варшаве, атрымаў разам з маці ў 1797 г. ад імператара Паўла І "в воздаяние усердия и приверженности к Российской империи" ў спадчыннае валоданне Цельшаўскае і Вількіскае староствы. Саксонскі кароль прызначыў Генрыха на пасаду камергера пры сваім двары, а імператар Аляксандр І – пасады камергера польскага двара і пасаду вялікага надворнага канюшага.

Міхаіл, сын графа Шымона Забэлы, атрымаў у 1812 г. крыж Ганаровага Легіёна за подпісам князя Ваграле і Невшатле Аляксандра Бярцье. Быў выбраны прадвадзіцелем Ігуменскага павета, што пацвярджала пасведчанне мінскага губернскага прадвадзіцеля дваранства ад 7 красавіка1834 г.

Восіп, сын графа Ігнація, атрымаў 3 кастрычніка 1825 г. ад імператара Аляксандра І ордэн Святой Ганны другой ступені з алмазнымі ўпрыгожваннямі, а 23 лістапада 1830 г. – знак за ўзорную 15-гадовую беззаганную службу. Як ганаровы наглядчык вучылішчаў Ковенскага павета быў узнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра трэцяй ступені.

У дзевятым калене роду Забэлаў таксама былі годныя прадстаўнікі. Ігнацій, сын графа Ануфрыя, ковенскі павятовы маршал, атрымаў у 1823 г. ад імператара Аляксандра І ордэн Святой Ганны другой ступені; ад імператара Мікалая І – ордэн Святога Уладзіміра і Святой Ганны другой ступені, упрыгожаны імператарскай каронай. Па ўказе генерала-ад'ютанта князя Далгарукава былы віленскі губернскі прадвадзіцель дваранства камергер граф Ігнацій Забэлаў быў пажалаваны ў стацкія саветнікі.

У сваім даследаванні мы разглядалі дзве галіны роду Забэлаў герба "Тапор", але неабходна зазначыць, што яшчэ два адгалінаванні гэтага роду карысталіся гербам "Мзура", або "Ліс".

Забэлы пакінулі на сваёй зямлі адметны след. Думаючы пра гэта, перачытваючы архіўныя матэрыялы, я яшчэ раз раблю выснову, што вывучаючы мінулае, мы лепш разумеем наша сучаснае і дбаем пра будучае.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# ШМАТГАЛОСАЕ ГУЧАННЕ СВЯТА

Імя Валянціны Маркавец-Бартлавай, выдатнай мастачкі, якая дасканала засвоіла майстэрства вырабу габеленаў, добра вядома ў мастакоўскім асяроддзі. Яна – таленавіты чалавек і вялікая працаўніца. Пасля таго як у 1989 г. Валянціна Пятроўна стала дацэнтам і загадчыкам наноў створанай у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў кафедры мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва, часу для творчасці паменшала. Адміністрацыйная праца і выкладанне забралі добрую частку душэўных сіл мастачкі. Затое ёсць і добры вынік. Сёння кафедра захоўвае традыцыі глыбіннага, сістэмнага вывучэння народнай і класічнай спадчыны, ганарыцца студэнтамі і выпускнікамі, якія ўражваюць сваімі творамі нават міжнародныя журы. Дзякуючы намаганням В. Маркавец-Бартлавай у Беларусі складваецца адметная школа нацыянальнага габелена.

А вось прытулкам ад працоўных і жыццёвых клопатаў і нягод Валянціна лічыць сваю майстэрню. Сюды яна імкнецца штодзень, хоць на гадзіну-дзве, каб спатоліць прагу да працы з ніткамі. Мастачка не толькі ўдзельнічае ў шматлікіх выставах са сваімі цікавымі камернымі аўтарскімі габеленамі. Ёй падуладны і “манументальныя” формы: тканымі карцінамі В. Маркавец-Бартлавай упрыгожана зала адміністрацыйнага корпуса БДУ, за аздабленне інтэр’ераў Палаца Рэспублікі мастачка ў складзе аўтарскага калектыву атрымала высокую ўзнагароду – стала лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Можна толькі пашкадаваць, што створаныя ёю манументальныя працы не адкрыты для шырокага агляду і азнаямлення.

Уласцівае Валянціне Маркавец-Бартлавай светабачанне яскрава праяўляецца ў яе творах – класічных і эксперыментальных габеленах мяккіх і стрыманых колераў, далікатных і някідкіх, прывабных жаноцкай пластыкай. Многія з іх народжаны ўражаннямі ад краявідаў Браслаўшчыны, куды яна штогод прыязджае ў “мастакоўскую” вёску Вайшкуны. І амаль першабытная цішыня некранутых месцаў становіцца асновай для яе новых твораў.

Сёння Валянціна Пятроўна – госць нашага часопіса.

**– Вы – адначасова мастак і настаўнік моладзі, ды не шараговы, а загадчык кафедры. Ці не даводзіцца пераадольваць унутраны дысананс паміж імкненнем да творчага самавыяўлення і прызнаннем у выкладчыцкай справе?**



**Валянціна Маркавец-Бартлава ў майстэрні.**

– Быў час, калі здавалася, што свабодная творчасць для мяне – адзіная і нязменная сцяжынка. Раніцай з лёгкім сэрцам ідзеш у майстэрню, штодня займаешся любімай справай, марыш, якой будзе твая персанальная выстава… Гэта шмат гадоў здавалася сутнасцю жыцця. Але выкладчыцкая праца змяніла многія мае погляды, прымусіла рашаць праблемы не толькі з пункту гледжання эгацэнтрызму творцы, але з агульначалавечых, філасофскіх, грамадскіх пазіцый.

Увогуле, найперш неабходна асэнсаваць самога сябе. Калі гэтага няма, чалавеку вельмі складана рэалізаваць закладзены ў ім патэнцыял. Ці не бывае ў вас амаль фізічнага адчування, што вы жывяце на памежжы матэрыяльнага і духоўнага свету? А кожны дзень нехта выпрабоўвае вас рознымі спакусамі, прымушае рабіць выбар. І гэта ёсць сутнасць чалавечага існавання: які крок ты зробіш, на які шлях урэшце станеш. А на творчую асобу ўвогуле ўскладваецца больш

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

адказнасці, бо яна абвострана адчувае навакольны свет. І адмовіцца ад такога жыццёвага шляху немагчыма: калі ў табе ад нараджэння існуе "бацыла" мастацтва, калі ты прыроджаны акцёр, мастак, рэжысёр, табе наканавана лёсам нараджаць думкі, кідаць у глебу будзённасці зярняткі духоўнасці.

Сёння я ўсё часцей задумваюся, якая гэта вялікая адказнасць – несці людзям свае думкі і пачуцці. Адчуваю: ёсць Боскі свет і цемра. Знешнія абставіны бываюць вельмі катэгарычнымі, моманты спакусы вельмі прывабнымі, каб не страціць унутранае святло, ты сапраўды павінен палюбіць бліжняга як самога сябе. Але такое жыццёвае крэда ў сённяшнім рацыянальным свеце вельмі рэдкае, і, што самае крыўднае, душэўная адкрытасць не заўсёды ўспрымаецца нават сябрамі як заклік да дабра і любові, а наадварот выклікае нейкую падазронасць.



***Валянціна Маркавец-Бартлава.* Адраджэнне.** 1988 г. Габелен.

**– Гэтыя філасофскія думкі прыйшлі да Вас, думаецца, з гадамі і вопытам. А калі ўсё пачыналася, калі рабіліся першыя крокі ў творчасці, мабыць, жыццё здавалася больш вясёлкавым і радасным, а шлях да мастацтва адкрытым і простым?**

– У той час я ўвогуле не задумвалася пра мастакоўскі шлях. Абапіралася на моцны падмурак, які дала мне мая сям'я. Праўда, бацькі не мелі прамога дачынення да мастацтва. Тата быў настаўнікам матэматыкі, мама спачатку працавала ў школе, потым загадвала дзіцячай бібліятэкай. Але яны былі з той кагорты людзей, якія верылі ў сілу дабрыні, ставіліся да ўсіх з любоўю. Вось гэта я добра адчувала з самага маленства. І калі прыехала вучыцца ў сталіцу з Докшыц, адаптавацца ў вялікім горадзе мне дапамагала любоў да людзей, закладзеная бацькамі, адчуванне сваіх каранёў.

**– Думаю, тут не апошнюю ролю адыгралі і цесныя сямейныя стасункі: мастакамі сталі Вашы брат і сястра?**

– Мы ўсе імкнуліся да стваральнай працы, да творчасці і вельмі натуральна абралі мастакоўскі шлях. А брат Віктар стаў яшчэ паэтам і філосафам з моцнымі пазітыўнымі імпульсамі. Магчыма, не заўсёды такім людзям лёгка ісці па жыцці. У грамадстве трэба быць дзёрзкім кар'ерыстам. А вось у мяне такой рысы характару ніколі не было. Затое я жыву пад Боскім наглядам.

**– Ваша захапленне габеленамі, праца менавіта з ніткамі, а не з фарбамі або пластылінам – гэта свядомы шлях або выпадковы выбар прафесіі?**

– Думаю, мой выбар быў натуральны. Грукат кроснаў я памятаю з дзяцінства, вышыўкай і ткацтвам займаліся ўсе мае продкі. Таму і кірунак будучай дзейнасці – мастацкае ткацтва – быў у пэўным сэнсе прадвызначаны. Я прыехала з раённага горада ў Мінск, здала іспыты ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Мне шанцавала, да таго ж я адчувала самую вялікую падтрымку – Боскую. Але ў той жа час ведала: талент, дадзены ад прыроды, трэба развіваць. Трэба многа працаваць, каб дасягнуць сапраўды прафесійнага ўзроўню. Увогуле, жыццё – гэта вялікая праца, і мы павінны аддавацца ёй кожны дзень.

**– Ці атрымліваецца кожны дзень зазірнуць у майстэрню, або праца са студэнтамі стала для Вас больш значнай часткай творчага жыцця?**

– Імкнуся знайсці суладдзе паміж выкладаннем і творчасцю. Бываюць перыяды, калі я вельмі занятая ў акадэміі: кафедра, дыпломнікі, размеркаванне, паседжанні… А ў майстэрні ў мяне заўжды нацягнута аснова на станок. Мінулае лета я аддала творчасці: разам з сяброўкамі-мастачкамі мы арганізавалі пленэр, паехалі на Блакітныя азёры, шукалі там свае карані. Наш пленэр так і называўся "Крыніцы". А цяпер кожная паасобку ў майстэрні асэнсоўвае напрацаванае за творча праведзеныя канікулы. Магчыма, праз нейкі час наладзім выставу.

Бываюць моманты, калі я "дарываюся" да майстэрні ў час заняткаў, і тады некаторы час працую прагна, спрабуючы навярстаць упушчанае. Але акадэмія і ў гэтым выпадку не можа быць на другім плане. Я нават у майстэрні не адключаю тэлефон: ці мала якія справы могуць раптоўна за-

патрабаваць маёй увагі. Зрэшты, іначай і не можа быць, бо на кафедры тэкстылю і мадэлявання адзення працую ўжо амаль дваццаць гадоў.

Шмат сіл патрабуе праца з дыпломнымі работамі – гэта ў пэўным сэнсе сааўтарства са студэнтам. Дапамагаеш яму адшукаць адпаведны інтэр'ер, прааналізаваць тэму, знайсці тэхніку выканання, дзе найбольш выявіўся б талент маладога мастака. Асабіста я ніколі не навязваю студэнту ўласныя ідэі. Проста імкнуся зазірнуць у яго душу і зразумець, на што ён гатовы дзеля творчасці. Свае магчымасці я ведаю, адчуваю, калі гатова для працы, і тады на мяне ўжо нішто не можа паўплываць. Я ведаю, што магу зрабіць, праўда, часу на гэта не заўсёды хапае.

**– Вы сцвердзілі сябе як майстар і камерных, і манументальных габеленаў. У якім творчым кірунку Вы на самай справе адчуваеце сябе больш упэўнена?**

– Манументальныя творы – звычайна заказныя. Яны даюцца мастаку вялікімі намаганнямі. Вывучаеш інтэр'ер, выходзіш на пластычныя і рытмічныя формы, таму гэта праца асаблівая і патрабуе вопыту, майстэрства. Многія буйныя заказы рабіла разам з мужам Леанідам Бартлавым, мастаком па інтэр'ерах. А вось невялікія дэкаратыўныя пано – гэта маё ўласнае захапленне. Яны робяцца на адным дыханні. У мяне была серыя "Птушкі". Аднойчы, калі я ішла ў майстэрню праз сквер опернага тэатра, раптоўна заўважыла жвавых, трохі нахабных, але вельмі прыгожых птушачак. Імгненнае ўражанне натхніла на працу. Невялікія габелены 40х60 *см* рабіла, прыбягаючы ў майстэрню паміж заняткамі. І сёння ў мяне стаіць нацягнутая аснова і чакае моманту майго натхнення.

Люблю працаваць з ніткамі. Бяру іх, раскідваю на аркушы белай паперы, як мастак на палітру выціскае фарбы. І тады можна абысціся эскізам без расфарбаванага кардону. Вуглём ці мяккім алоўкам праводжу асноўныя лініі малюнка, колер мадэлюю раскіданымі ніткамі, бо пакуль прамалюеш гуашшу, кардон хутка жухне і знікае настрой, а на ніткі глядзіш і адразу тчэш, лепш свой твор. Так нараджалася серыя "Дрэвы". Якая будзе наступнай, не ведаю. Магчыма, "Планеты"…

**– Атрымліваецца, манументальныя творы ствараюцца для станаўлення ў грамадстве, а маленькія – для ўласнага задавальнення?**

– Безумоўна, тут розніца ёсць. Ці сачыняць паэму, ці напісаць кароценькі квантэм…

**– Заказныя буйныя творы сёння становяцца рэдкасцю. У 1980-х у Беларусі паспяхова складвалася школа манументальнага габелена. Сёння, мне здаецца, Вашымі намаганнямі ў нас не менш удала фарміруецца школа камернага габелена.**

– Безумоўна, развіццё манументальнага габелена залежыць ад наяўнасці дзяржзаказу, бо тэхналагічна гэта вельмі затратны накірунак мастацтва. Але зірнем на праблему з іншага боку: ці ёсць сёння сэнс рабіць габелены-заслоны? Яны ж такія дарагія, такія цяжкія. Калі мы нядаўна паднімалі заслону ў Палацы Рэспублікі, убачылі, якія неабходны для яе складаныя і трывалыя мацаванні. Фінансаваць такую раскошу можа дазволіць сабе толькі дзяржава.

**– Вы як выкладчык, стваральнік школы мастакоў-габеленшчыкаў, штогод выпускаеце ў творчы асяродак 5 – 6 чалавек. Але колькі мастакоў можа прыняць наш рынак, як спрагназаваць сітуацыю?**

– На самай справе мы вельмі мала выпускаем спецыялістаў. У нашай краіне толькі адна акадэмія мастацтваў. Кожны з выпускнікоў сёння знаходзіць месца ў вытворчасці, на тэлебачанні, у тэатрах. Нашы былыя студэнты працуюць у фірмах па аздабленні інтэр'ераў: робяць свяцільнікі з тканіны, упрыгожваюць сцены, вокны. Касцюмы і тэкстыль заўсёды будуць запатрабаваныя ў грамадстве.

**– Але ці не ўзнікае ў Вас адчуванне, што на тэкстыль, як увогуле на ўсю дэкаратыўна-прыкладную творчасць, мастакі-станкавісты глядзяць як на нешта другаснае?**

– У мяне такога адчування ніколі не ўзнікала. Тут многа залежыць ад пазіцыі самога мастака. Наадварот, я заўсёды мела вельмі вялікую падтрымку ад выдатных нашых майстроў Гаўрылы Вашчанкі, Васіля Шаранговіча.

**– Мастацтва габелена ў многім залежыць ад матэрыяльнага становішча, ад тых грошай, якія ты маеш, каб укласці ў твор. Ці не шкодзіць гэта развіццю творчасці габеленшчыкаў?**

– Сёння з матэрыяламі праблемы няма. З'явілася шмат якасных нітак, гама каларыстычная цудоўная. Калі я заходжу ў крамы, вочы разбягаюцца. Іншая справа – фінансы. Раней было так: нам давалі рэшткі нітак з Барысаўскага камбіната дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва – у асноўным толькі охру, сіні або зялёны. Таму ў 1970-я гг., прыходзячы на выставу, глядач бачыў габелены адной гамы. Толькі прозвішчы аўтараў былі розныя. Затое сёння мы маем ужо іншую эканамічную сітуацыю. Калі ўкладваць сродкі, патрэбны рынак збыту. Не рабіць жа габелены, каб проста завесіць сцены ў Палацы мастацтва… Зрэшты, мы жывем не адзіным хлебам. Калі думаць толькі з матэрыяльных пазіцый, можна зачыніць дзверы майстэрні і не выходзіць на вуліцу. Трэба любіць жыццё, сустракацца з людзьмі, выхоўваць вучняў, радавацца душой перад нацягнутымі на аснову ніткамі.

*Свята народнай творчасці*

# УМАЦОЎВАЦЬ ЛЮБОЎ ДА СВАЙГО, РОДНАГА, КАРЭННАГА…

## VI РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ ФАЛЬКЛОРНАГА МАСТАЦТВА "БЕРАГІНЯ"

Напрыканцы чэрвеня завяршыўся VI Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва "Берагіня", які не першы год праходзіць у гарадскім пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці.

З кожным годам "Берагіня" збірае ўсё больш сяброў і прыхільнікаў. Напрыклад, сёлета ў фестывалі ўдзельнічалі больш за 800 "берагіньцаў", у той час як у першыя гады – каля 300. На гэты раз цудоўныя моманты яднання з чароўным светам народнай культуры гасцям фестывалю дарылі не толькі беларускія калектывы (з іх 21 дзіцячы), але і калектывы з Расіі, Украіны, Малдовы, Латвіі і Польшчы.



**Удзельнікаў VI Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня" вітае намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі.**
Фота Наталлі Купрэвіч.

Сваім талентам удзельнікаў радавалі госці фестывалю – Беларускі Дзяржаўны заслужаны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" і этна-трыо "Троіца", аўтэнтычныя гурты і фальклорныя калектывы, сярод якіх "Сунічкі" з Лепельскага раёна, "Нежачкі" з Расонаў, "Берагіня" з вёскі Мётча Барысаўскага раёна і "Талака" з БДУКіМ. Не абмінулі ўвагай "Берагіню" і замежныя сябры – латвійскія дзіцячыя фальклорныя калектывы Гайгалаўскай школы Рэзекненскага краю "Пурыненьш" і Вілянскага дома культуры "Бітэітэс", польскі фальклорны калектыў "Жэмэрва" Музея малой айчыны ў падляшскіх Студзіводах, малдаўскі народны ансамбль песні і танца "Лія" сяла Абаклія Бесарабскага раёна, ансамбль народнага танца "Вясёлы абцасік" Палаца піянераў і школьнікаў расійскага горада Курска, а таксама ўкраінскі народны фальклорны ансамбль "Любісток" з горада Шостка Сумскай вобласці і крымска-татарскі ансамбль танца "Кара-Даг" Феадасійскага гарадскога Дома культуры.

Начальнік упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама Дзмітрый Чумакоў у вітальным слове да гасцей і ўдзельнікаў свята адзначыў унікальнасць фестывалю: "*Ён будуецца на прынцыпах этнапедагогікі і з'яўляецца эталонам для захавання і трансляцыі розных відаў і праяў лакальнай культурнай спадчыны для маладога пакалення*".

У межах фестывалю былі праведзены майстар-класы "Рэгіянальныя традыцыі народных спеваў, музыкі, танцаў", падчас якіх кіраўнікі фальклорных калектываў Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі, Малдовы і Польшчы дэманстравалі прафесійнае майстэрства, дзяліліся вопытам, абмяркоўвалі надзённыя пытанні.

Завяршылася праца фестывалю круглым сталом "Традыцыйная культура і сучаснасць: Школа. Дзеці. Будучыня", вядучым якога выступаў прафесар, доктар філалагічных навук Аляксей Рагуля. Навуковец ад імя прысутных падзякаваў арганізатарам за прафесіяналізм і гасціннасць. Пасля абмеркавання праблемных пытанняў Аляксей Уладзіміравіч выказаў спадзяванне, што фестываль "Берагіня" працягне займаць годнае месца ў захаванні традыцый свайго народа. Удзельнікі міжнароднага круглага стала падзяліліся вопытам і зазначылі, што дзеці з розных краін з цікавасцю вывучаюць звычаі, святы, абрады, песні і танцы сваіх рэгіёнаў, імкнуцца захаваць і зберагчы спадчыну народа. Уменне прывіць дзецям любоў да роднага краю – галоўнае ў працы кіраўнікоў калектываў.

Шчырыя словы кіраўнікам, арганізатарам і ўдзельнікам "Берагіні" выказалі члены журы, эксперты і госці фестывалю: прэзідэнт Дабрачыннага фонду спрыяння развіццю творчасці і мастацтва "Вікторыя", дырэктар Міжнароднага

фестывалю вакальнага, харэаграфічнага і цыркавога мастацтва "Ад Сэрца да Сэрца – Спеўная Планета" і Маладзёжнага фестывалю "Дыямант Карпат", паэт-кампазітар Аляксандр Сарымсакаў; кіраўнік ансамбля крымска-татарскага танца "Кара-Даг" Феадасійскага гарадскога Дома культуры Ленара Ліберман; кіраўнік фальклорнага калектыву "Любісток" Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і моладзі горада Шостка Сумскай вобласці Таццяна Сцягайла і інш.

З хваляваннем удзельнікі фестывалю чакалі моманту ўзнагароджання пераможцаў у розных намінацыях.

У **праграме "Музычнае мастацтва"** ў ***намінацыі "Народныя спевы"*** дыпламам III ступені ўганараваны дзіцячы фальклорны калектыў "Журавінка" Гомельскай вобласці (кіраўнік Вера Самусева), дыпламамі II ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Дараносіца" Брэсцкай вобласці (кіраўнік Таццяна Грыцук) і дзіцячы фальклорны калектыў "Гарлачыкі" САШ № 3 г. Мінска (кіраўнік Святлана Яфімава), дыпламам I ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Знічка" Віцебскай вобласці (кіраўнік Лідзія Захарэўская). У ***намінацыі "Інструментальная музыка"*** дыпломы III ступені атрымалі дзіцячы фальклорны калектыў "Жэўжык" Мінскай вобласці (кіраўнік Сяргей Выскварка) і дзіцячы фальклорны калектыў "Знічка", дыпломы II ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Гарлачыкі", дыпломы I ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Смаргонскія гарэзы" Гродзенскай вобласці (кіраўнік Чэслаў Жых).

Дыпламам III ступені ў **праграме "Харэаграфічнае мастацтва"** ў ***намінацыі "Карагод"*** адзначаны дзіцячы фальклорны калектыў "Журавінка", дыпламам II ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Знічка", дыпламам I ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Гарлачыкі". У ***намінацыі "Кадрыля"*** дыплом III ступені атрымаў дзіцячы фальклорны калектыў "Гарлачыкі", дыплом II ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Знічка", дыплом I ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Жэўжык".

Дзіцячы фальклорны калектыў "Праменьчыкі" Гомельскай вобласці (кіраўнік Таццяна Беразоўская) і дзіцячы фальклорны калектыў "Знічка" ўзнагароджаны дыпломам III ступені ў **"Канцэртнай праграме"**, дыпломам II ступені – дзіцячы фальклорны калектыў "Смаргонскія гарэзы", дыпломамі I ступені – дзіцячыя фальклорныя калектывы "Жэўжык" і "Гарлачыкі".

***Намінацыя "Прэзентацыя хатняга задання"*** у **праграме "Дэкаратыўна-побытавае мастацтва"** дыпломы III ступені прынесла дзіцячаму фальклорнаму калектыву "Жэўжык", дыпломы II ступені – дзіцячаму фальклорнаму калектыву "Смаргонскія гарэзы", дыпломы I ступені – дзіцячаму фальклорнаму калектыву "Праменьчыкі". У ***намінацыі "Выраб з саломы"*** дыплом III ступені атрымала Наталля Стральчэня з дзіцячага фальклорнага калектыву "Праменьчыкі" (майстар Ірына Дабранская), дыплом II ступені – Марта Шчарбачэня з дзіцячага фальклорнага калектыву "Жэўжык" (майстар Марына Сярчэня), дыплом I ступені – Вера Сізова з дзіцячага фальклорнага калектыву "Дараносіца" (майстар Тамара Казлова). У ***намінацыі "Пляценне з прыродных матэрыялаў"*** дыплом III ступені атрымаў Яраслаў Малаковіч з дзіцячага фальклорнага калектыву "Праменьчыкі" (майстар Іван Вежнавец), дыплом II ступені – Максім Рабы з дзіцячага фальклорнага калектыву "Жэўжык" (майстар Алег Гурбо), дыплом I ступені – Аляксандр Баранаў з дзіцячага фальклорнага калектыву "Журавінка" (майстар




**Узорны фальклорны гурт "Берагіня" в. Мётча Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Кіраўнік Мікалай Козенка.**
Фота Наталлі Купрэвіч.



**Галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Зоя Падліпская з удзельнікамі крымска-татарскага ансамбля танца "Кара-Даг".**
Фота Наталлі Купрэвіч.

Валянціна Бярнацкая). У ***намінацыі "Традыцыйная вышыўка"*** дыплом ІІІ ступені атрымала Дар'я Дайнека з дзіцячага фальклорнага калектыву "Праменьчыкі" (майстар Тамара Станіслаўчык), дыплом ІІ ступені – Ліза Шарупіч з дзіцячага фальклорнага калектыву "Гарлачыкі" (майстар Валянціна Пазднякова), дыплом І ступені – Вікторыя Войтка з дзіцячага фальклорнага калектыву "Смаргонскія гарэзы" (майстар Зофія Войтка). У ***намінацыя "Выраб пояса"*** дыпломам ІІІ ступені ўзнагароджана Алена Войтка з дзіцячага фальклорнага калектыву "Смаргонскія гарэзы" (майстар Зофія Войтка), дыпломам ІІ ступені – Ганна Шкатула з дзіцячага фальклорнага калектыву "Гарлачыкі" (майстар Валянціна Пазднякова), дыпломам І ступені – Ганна Малаковіч з дзіцячага фальклорнага калектыву "Праменьчыкі" (майстар Марыя Сарнаўская).

У ***конкурсе на найлепшае выкананне "Лявоніхі" і "Ролькі"*** ў першай узроставай групе (V – VI класы) перамаглі Яна Васкевіч і Ягор Касцюкевіч (фальклорны калектыў "Расінка", Мінская вобласць, кіраўнік Надзея Крупянькова), Ангеліна Шаплыка і Арцём Выскварка (фальклорны калектыў "Жэўжык"). У другой узроставай групе (VII – VIII класы) найлепшымі сталі Вераніка Еўдакімава і Аляксандр Малчанаў (фальклорны калектыў "Крыніца", Гомельская вобласць, кіраўнік Ядвіга Суботка). У трэцяй узроставай групе (IX – XI класы) не было роўных Ганне Сільчанцы і Васілю Пузырыню (Лоеўскі раён, Гомельская вобласць, кіраўнік Алена Івахненка).

На працягу чатырох дзён свята ў Акцябрскім панавала атмасфера добразычлівасці і шчырасці, сяброўства і ўзаемапавагі. Асаблівы каларыт фестывалю надавалі не толькі самабытныя песні і танцы, але і адметныя касцюмы прадстаўнікоў Беларусі і гасцей краіны.

Незабыўнае ўражанне пакінула народнае свята "Рудабельскае Купалле", якое пачалося з пляцення вянкоў пад спевы купальскіх рэгіянальных песень і склікання грамады на Купалле. Запомніўся прысутным і "Палескі кірмаш" – свята народнай творчасці. Падчас гэтых мерапрыемстваў былі прадстаўлены асноўныя жанры традыцыйнай культуры: музыка, песні, танцы, гульнявы фальклор, народныя рамёствы і промыслы. А асабліва цікавыя і разнастайныя былі рэгіянальныя падворкі, выставы-продажы рамесніцкіх вырабаў і лабараторыі народных майстроў.

Не засталіся ў баку і гаспадары свята. Перад удзельнікамі фестывалю выступілі ўзорныя фальклорныя калектывы Акцябрскага раёна "Рудабельскія зорачкі" (мастацкі кіраўнік Вольга Дульская), "Некрашынка" (мастацкі кіраўнік Валянціна Кульбіцкая) і "Цярэшкавы шчодрыкі" (мастацкі кіраўнік Тамара Іскрыцкая).

Старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд культуры", галоўны рэдактар "Краязнаўчай газеты" Уладзімір Гілеп назваў "Берагіню" "*зберагацелькай, заступніцай і ўмацавацелькай у нашых душах народнага слоўнага, песеннага і танцавальнага хараства*". Да гэтых слоў цяжка нешта дадаць. Застаецца толькі ўмацоўваць любоў да свайго, роднага, карэннага…

…І чакаць наступнай сустрэчы з "Берагіняй", сябрамі-козенкаўцамі, як нехта трапна назваў удзельнікаў фестывалю, адрасуючы шчырыя словы кіраўніцтву і спецыялістам Акцябрскага райвыканкама, а таксама навуковаму і мастацкаму кіраўніку праекта Мікалаю Козенку.

**Зоя ПАДЛІПСКАЯ.**

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі: 1.** Народны артыст Беларусі, у 1963 – 1977 гг. – саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета. **4.** Горад на Магілёўшчыне, цэнтр беларускай сельскагаспадарчай навукі. **9.** Маладзёжнае гісторыка-культурнае аб'яднанне, існавала ў Мінску ў 1985 – 1991 гг. **11.** Заснавальнік эвалюцыйнага вучэння пра развіццё жывой прыроды. **13.** Рака ў Лідскім раёне, прыток Нёмана. **15.** Аздоба пераплёту царкоўных кніг ці паверхні абразоў. **16.** Адзін з відаў антычнай паэзіі, ставілася на сцэне ў суправаджэнні танцаў і музыкі. **19.** Мастацтва, заснавальнікамі якога на Беларусі былі Ю. Тарыч і У. Корш-Саблін. **21.** Этнограф і фалькларыст, аўтар дзевяцітомнага "Беларускага зборніка", выдадзенага ў 1885 – 1912 гг. **22.** Даўнейшы беларускі калядны абрад. **23.** Паэт-лацініст XVI ст., адзін з заснавальнікаў лірычна-эпічнай паэзіі на Беларусі. **24.** Чалавек, які ўпершыню пранік у недаследаваную краіну і пасяліўся там. **28.** Штотыднёвы ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс, што выдаваўся ў 1920 г. Я. Луцэвічам (Купалам). **30.** Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль. **31.** Сход сялян у колішняй Беларусі, які разглядаў судовыя справы і зямельныя спрэчкі. **35.** Мера даўжыні да ўвядзення метрычнай сістэмы. **36.** Фальклорны персанаж, з імем якога звязана ўзнікненне горада Магілёва. **37.** Пазалочаны і аздоблены рэлігійнымі эмблемамі галаўны ўбор вышэйшага духавенства ў праваслаўнай і каталіцкай царкве. **39.** Першае апавяданне М. Багдановіча, надрукаванае ў 1907 г. у газеце "Наша Ніва". **40.** Вясновае свята народнага календара ў Беларусі, на якое звычайна чакалі прылёту птушак. **41.** Старажытны цэнтр ганчарнага промыслу ў Валожынскім раёне. **42.** Купалаўскі мемарыяльны запаведнік.

**Па вертыкалі: 2.** Беларускі вучоны, даследчык расліннасці Палесся. **3.** Адзін з першых савецкіх гукавых фільмаў, зняты ў 1932 г. А. Даўжэнкам. **5.** Вядомы кампазітар, піяніст, мастак, помнік якому пастаўлены ў г. Іванава. **6.** Заснавальнік беларускага мовазнаўства. **7.** Меданосная расліна з белымі і жоўтымі кветкамі, выкарыстоўваецца ў медыцыне, тытунёвай і гарэлачнай вытворчасці. **8.** Селекцыянер-аматар з Шаркаўшчыны, паслядоўнік І. Мічурына, вывеў сотні гатункаў яблынь, груш, сліў і іншых культур. **10.** Рускі народны танец імправізацыйнага характару. **12.** Жанр народнай творчасці, які даследаваў беларускі фалькларыст А. Глінскі. **14.** Помнік архітэктуры XVI – пачатку XX ст. у г. п. Мір. **17.** Старадаўні народны вандроўны тэатр. **18.** Алфавіт, якім друкавалася нелегальная, першая на беларускай мове газета "Мужыцкая праўда" К. Каліноўскага. **20.** Гарадскі пасёлак у Шумілінскім раёне. **22.** Горад на Міншчыне, ля якога ў 1506 г. войскі князя М. Глінскага разбілі крымскіх татараў. **25.** Сістэма ўстаноўленых і забяспечаных дзяржавай агульнаабавязковых нормаў. **26.** Ручны дрэваапрацоўчы інструмент, вядомы са старажытных часоў. **27.** Самае вялікае на Беларусі возера, курортная жамчужына краіны. **29.** Асветнік, прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва ў Беларусі і Літве. **32.** Польская пісьменніца, аўтар рамана "Над Нёманам". **33.** Архітэктурны стыль Позняга Сярэднявечча. **34.** Сельскагаспадарчы рабочы-найміт. **37.** Балет Я. Глебава. **38.** Аповесць А. Адамовіча.

**Адказы**

**Па гарызанталі: 1.** Бабій. **4.** Горкі. **9.** "Талака". **11.** Дарвін. **13.** Нарва. **15.** Абклад. **16.** Эклога. **19.** Кіно. **21.** Раманаў. **22.** "Каза". **23.** Радван. **24.** Піянер. **28.** "Рунь". **30.** "Харошкі". **31.** Капа. **35.** Вяршок. **36.** Машэка. **37.** Мітра. **39.** "Музыка". **40.** Саракі. **41.** Ракаў. **42.** "Ляўкі".

**Па вертыкалі: 2.** Адамаў. **3.** "Іван". **5.** Орда. **6.** Карскі. **7.** Баркун. **8.** Сікора. **10.** Трапак. **12.** Казка. **14.** Замак. **17.** Балаган. **18.** Лацінка. **20.** Обаль. **22.** Клецк. **25.** Права. **26.** Долата. **27.** Нарач. **29.** Нарбут. **32.** Ажэшка. **33.** Готыка. **34.** Батрак. **37.** "Мара". **38.** "Асія".

Склаў **Іосіф КАРПЫЗА.**

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 05.08.2010. Фармат 60x84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 3292 экз. Зак. 1850.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.